


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**4** (978)

*КРАСАВІК*

**Выдаецца
са снежня 1922 года**



**РЭДАКЦЫЙНА-ВЫДАВЕЦКАЯ ЎСТАНОВА
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

**Мінск 2011**

## *ЗМЕСТ*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Літаратура і Мастацтва»

## Мікола МЯТЛІЦКІ



* * *

О, як вясна дажджом атрутным секла,
Узяўшы паўпланеты пад крыло.
Спазналі мы спаўна зямное пекла
І што такое ядзернае зло.

Рэактар бушаваў — раскуты кратар —
І ацякаў з вачэй накрапам слёз.
Як згубна ён сваім дыханнем кратаў
У тыя дні наш чалавечы лёс!

Гарэлі травы, і мярцвелі вёскі,
Знікалі з карты свету гарады.
І гэтай дзеі сумнай адгалоскі
Свет белы будзе памятаць заўжды.

Не толькі па акругла-хмурых датах
Абрыне памяць скуты часу тлен, —
Ўвайшло павечна ў мову — «ліквідатар»,
«Кюры», «плутоній», «цэзій» і «рэнтген».

І ўсё ж такі мы выстаялі ў скрусе
Пад навіссю свінцовай аблачын.
Не выпала трывучай Беларусі
У раз які падацца на спачын.

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002 годзе прызначаны галоўным рэдактарам часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыццё глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986) і Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998).*

* * *

Праз столькі год і я наведаў Вусце.
Над Свіслаччу вусцянскі мшэў грудок.
Тут Коласа шчэ даваенны крок
Пачуецца ў галля сухога хрусце,
Сляды яго шукае чэпкі зрок.

Цвітуць на доле дзікія гваздзікі,
Стаіць вячыста сосен медных раць.
Камлі на сонцы бронзава гараць.
Тут некалі блукаў паэт вялікі,
Каб скарб жыцця да каліва сабраць.

Барвяніцца мядзведжая маліна,
Бруіць ракі лагодлівая плынь.
І над зямлёй зіхоціцца святлынь.
Тут Колас чуе шчэ жывога сына,
Наперадзе яшчэ самоты стынь.

Ліецца час, як рэчка, беззваротна.
Трымціць-шапоча чуйна асака.
Вусцянскі груд… Павольная рака…
Здалося: крочыць дзесь пясняр народны
Так блізка ад каханага грудка.

Яму сягоння з клёвам шанцавала.
— Ну як рахуба? Што злавіў, Якуб?
Ці шмат язёў ты вудаўём наскуб? —
Цікавіцца з усмешкаю Купала,
Спіною абапёршыся аб дуб.

І цешацца знаёмыя разлогі,
Вітаюць хадака і рыбака.
Іх плынню часу развяла рака.
І лягуць лёсу сумныя дарогі
Далёка ў свет з вусцянскага грудка.

Вайны суровай лютая навала
І гэты кут спустошыць на гады.
Не прыйдуць з вечнай ростані сюды
Сын Юрка, жонка і сябрук Купала,
Пакінуўшы на грудзе тым сляды.

І вось стаіць паэт, падданнік лёсу,
Тут цераз пяць выгнальных скрушных год.
Самотных думак неадступны ход,
І у вачах накрапам стынуць слёзы,
І груд вусцянскі ўстаў паміж нягод.

Ды ўсё ж яму на ім хапіла сілы
Сабрацца з духам — і ступіць далей,

У віраток тваіх, жыццё, падзей,
У сэрцы сцяўшы боль сырой магілы,
Яго схаваць пад донны чэпкі глей.

На папялішча хаты і краіны,
Як на вусцянскі, сэрцу любы, груд,
Вярнуўся ён, каб бачыць родны кут,
Каб быць з ім у самотныя хвіліны,
Адужаць лёсу ўласнага руіны,
Пасобіць люду збыць цяжар пакут.

## МАЗЫР

Над Прыпяццю, на выспах крутабокіх,
З якіх відна усёй айчыны шыр,
Пад самыя пярэстыя аблокі
Ты ўзнёсся белым лебедзем, Мазыр.

З гадоў маленскіх позірку адкрыты,
Ў душы ты прапісаўся назаўжды.
Дзе б я ні быў, з якой глядзеў арбіты, —
Не грэюць так чужыя гарады.

На замчышча ўзыду — вякі пачую,
Яны вядуць здавён бязмоўны сказ.
У «Прыпяці» з сябрамі заначую,
Вандроўны госць, над Прыпяццю не раз.

Буяніць хмельна зелянінай лета,
Гудуць імклівых вулак галасы.
Мне бачныя твайго ўніверсітэта
На выспах вечных гмахі-карпусы.

Прыняць з гасціннай шчодрасцю ты ўмееш,
У гонцы веку думкі астудзіць.
Па вулачках тваіх калісьці Мележ
Любіў падоўгу ў роздуме хадзіць.

Тваіх паэтаў трапяткая песня
Праз вёрсты свету гучна мне чутна.
Паўнюткая, нібы рака Палесся,
Твая, мой любы горад, даўніна.

Адсюль нябёсаў вольных бачна яснасць
І бель бяроз зарэчных у гаях.
Паўнюткая, нібы рака, сучаснасць
Духоўнай пераемнасцю твая.

Мой горад-лебедзь… Крыллем лебядзіным
На выспах гонкіх здаўся ўчора мне.

Лічы свае шчаслівыя гадзіны,
Шапчы свае паданні і быліны
Чыёйсьці юнай залатой вясне.

* * *

За Глінішчам урочышча Сакава,
Наводдалі асушаных балот.
Якія там на ўгрэве млеюць травы,
На смак паветра, як гаючы мёд!

Бярэзнікі ў міжлессі — бель бярosты,
Парослыя шчаціністым сіўцом.
Сюды мяне занеслі лёсу вёрсты,
Каб хараства зямнога быць лаўцом.

Два адзінцы-дубы пры гонкім лесе,
Нібы вароты ў гэты знаны рай.
Віруе дух тут твой, маё Палессе,
Ліецца ў вышы неба цераз край.

Шчыруе сонца светла і ласкава
У самай мройна-сіняй вышыні.
За Глінішчам урочышча Сакава —
Таемны цуд прыроднай чысціні.

* * *

Няхай мяне перажыве
Рачулкі плыткая бруя,
Расісты россып на траве,
Вячэрні пошчак салаўя.

Надрэчных ліпаў чарада
І сценка-шчэрбіна ляска.
Бурліць імклівая вада,
Цячэ няспынная рака.

А з ёй цячэ няспынны час,
Блішчыць-залоціцца ў жарстве.
Хачу, каб там усход не згас,
Няхай мяне перажыве.

* * *

Гоні часу, шыры свету
З вышы траўнае відны.
Шчэ, пільнуючы край гэты,
Не аселі курганы.

У маім надрэчным краі
Іх, што вояў-змоўцаў, — рáць!
Доля ў кожнага святая —
Ў нас бяспамяцтва караць!

Што мы ведаем пра тыя,
Ў часе страчаныя, дні?
Скачуць вершнікі Батыя,
Звон сякер у цішыні.

Час згубіў з тых сечаў зводкі,
Саржавіў даўно мячы.
Ды сумелі нашы продкі
Нас ад згубы ўберагчы.

І світае наша ранне,
Шчодры, мірны супакой.
Старажытнае курганне
Над бруістаю ракой,

Не ўбярэшся гарыцветам
У прадонні даўніны…
Гоні часу, шыры свету
З вышы траўнае відны.

* * *

Мірготныя агні Ўладзівастока,
На сопках гмахі — вулачак разбег.
Па іх калісь мае гучалі крокі,
Каўтаў тугу гасцінічны начлег.

О, як далёка ты была, Радзіма,
І тут, у кантынента на краі,
Твае былі бярозы прад вачыма,
Твае ў душы звінелі ручаі.

Яшчэ выразней, да драбніцы, бачыў
Агністыя на ўзлеску верасы,
І меднаствольіх соснаў бляск гарачы,
І канюшыну ў кропельках расы.

Душой глядзеўся ў бруйныя крыніцы,
У сінізну прачыстую азёр.
У далях свету, з доляй чужаніцы,
Я ад тугі, напэўна б, і памёр.

І самалёт узнёсся ў неба высі,
І мне цябе вярнуў, радзімы край.
Якія ж сілы ў тых, скажы, знайшліся,
Што назаўжды прамовілі: «Бывай!»?

Іх бачыў я з маркотнымі вачыма,
Калі ўжо старасць клікала-вяла,
Ссамочанаю доляй пілігрыма
Зямлі радзімай жменька ім была.

Не дай мне Бог таго спазнаць ніколі, —
Аддаць такія скарбы задарма.
Шукаюць па-за светам шчасця-долі,
Забыўшыся: там лепш, дзе нас няма.

* * *

Над магілай Расула Гамзатава
Белы клін жураўліны крыляе,
Белы мармур для племя крылатага
Ў мастака зацяжкім не бывае.

Клін ляціць па-над пікамі горнымі,
Ў ім паэта шугае крыло.
І начамі каўказскімі зорнымі
Бачна, колькі джыгітаў лягло.

Клін расце жураўліны — за датамі
Цень крыляе няспыннай вайны.
Вырай множыцца юны салдатамі —
Жураўлямі пасталі яны.

Над Гунібам, Цада — над ауламі,
Як апошняя скарга зямлі,
Днём і ноччу курлычуць Расулавы
Ў развітальнай цішы жураўлі.

* * *

Душа расінкаю дрыжыць,
Віюцца лёсу каляіны.
Мне давялося перажыць
Сваю вялікую краіну.

Ды новай думкаю світаць
Прыйшлося ў часе — не шкадую:
Мне давялося прывітаць
Сваю дзяржаву маладую.

Няхай жыве, душой пяе,
Ў красе купаецца і ў шчасці.
У сцены новыя яе
Хачу радкі свае пакласці!

* * *

Мой лёткі век! Агульным касмадромам
Становіцца зямлі зялёнай шыр.
Ракеты ў выш стартуюць з гулкім громам,
Гудзе перанапружаны эфір.

Дужэюць нашы мускулы штохвілі
На цвердзі небам дадзенай зямлі,
Мы гэткія высоты пакарылі
І прыцягненне ўміг парваць змаглі.

На тое ж мы і ёсць тут, чалавекі,
Каб над усім падумаць галавой.
Але чамусь мутнеюць нашы рэкі,
Сыходзяць травы з выдмы лугавой.

І мы ў сваім бяссіллі і бяскрыллі —
Планета адпусціць нас не змагла —
Паўсюдна безаглядна натварылі
За побыт чалавечы процьму зла.

* * *

Што помню я з мінулага? Нямнога!
Часцей праявы толькі зла зямнога —
Распад імперый, гібель гарадоў,
Вулканаў звышмагутныя узрывы,
Пампеі попел — пошуг міргатлівы,
Што шмат пакінуў ад жыцця слядоў.

Ды пірамідаў маналіт шматтонны,
Дзе пачываюць з мірам фараоны —
Зямныя недасяжныя багі.
Куды ні глянь — паўсюд віруе пекла,
Паліла, драла, рушыла і секла.
Гісторыя — як Дантавы кругі.

Ды выстаўлю усё-ткі ў процівагу
Дням скрушным — чалавечую адвагу.
Багата ёй асветлена падзей.
І без яе парыўнага узлёту,
Закутая ў павечную самоту,
Ты б не была, зямля, зямлёй людзей!

* * *

Твае — пагоркі, і палі,
І ўзлесак верасовы.
Ды памятай, што на зямлі
Ўсяго — хадок часовы,

Што, як і ўчора, будзе хтось
Ісці расістым следам.
А ты — часовы, ды не госць:
Кіруеш белым светам.

Ты грозна атам расшчапіў,
Быў сейбітам, аратым.
Крыві напоўніцу адпіў,
Калі хадзіў салдатам.

І там, дзе шчодрацца палі,
Ступалі калісь продкі.
І тут, у спрацінах зямлі,
Ляжаць твае пагодкі.

Ім мала выпала ў жыцці,
Над імі згаслі зоры.
Табе — прайсці, табе — сысці,
Згубіцца ў зорным хоры.

Сысці, як многія сышлі,
Згарэць у зорным пыле,
Каб заўтра гэтак па зямлі
Нашчадкі ўслед ступілі.

## ПАЭТ

*Алесю Бараноўскаму*

Ты прыйшоў — вясновы подых,
Юні светлая акраса,
Каб жыцця жывыя воды
Забруілі новым часам.

Каб само жыццё зямное
Адказала на пытанні:
Дзе каўчэг прычаліў Ноеў
На чарнобыльскім світанні?

Дзе расой укрыты травы
Безбаязнага Палесся?
Я жадаю дужай славы
Маладой натхнёнай песні.

Хай яе пачуюць людзі
І душою прывітаюць,
Хай залішне ў ёй не будзе
Болю, смутку і адчаю.

## ЧАРНОБЫЛЬ

Чвэрць стагоддзя ужо ты палошыш нам сны
Смертаноснай раскутай пагрозай.
Вее подых і сёння — праз час — ледзяны
Ад жахотнае дзеі цвярозай.

Ты паўстаў над зямлёю, як ядзерны грыб,
І разнёс смертаносныя хвалі.
Зноў сцінаецца сэрца балесна: калі б
Мы пад ветрам тваім не ўстаялі?

Што ж, у зоне, акрэсленай скрухай і злом,
Пачувай сябе ціха павечна.
Мы змаглі цябе здужаць, аддаўшы на злом,
Толькі прагай жыцця чалавечнай.

Я іду па забытым жыццём пустыры,
І ўскіпае прыгадак так многа.
Ты ахвяраў сягоння з жывых не бяры,
Не кранай больш пад небам нікога.

Мне хапіла атруты смяротнай спаўна
На сустрэчах з радзімы пакутай.
Гэта, ведай, балесная просьба адна:
Больш нікога не кратай атрутай.

Я хачу, каб жыла праз вякі Беларусь
І гаркоту пазбыла Палессе.
Там сустрэне сваю залатую пару
І мая, болем сцятая, песня.

Будзе памяць нашчадкаў жывую будзіць,
Сілы духу парыўна прымножыць.
І пакуты, Чарнобыль, твае астудзіць
Чалавечай душы дапаможа.



Васіль ГІГЕВІЧ

# СТРАЧАНАЕ ШЧАСЦЕ

*Аповесць*

## 1

Калі вочы Таго ўсемагутнага, які жыў наверсе, заплюшчваліся, усё ўнізе — і зялёныя кусты, і вершаліны высокіх дрэў, і гнуткія травы, і нават белы вытаптаны нагамі пясок на стаянцы — усё станавілася мокрым ад цяжкой расы. Угары святлела. Толькі рог Месяца свяціў гэтак жа, як і ноччу — белым халаднаватым святлом. Неба ў тым баку, дзе кожны дзень паяўляўся памочнік Таго ўсемагутнага, які ўсю ноч азіраў міготкімі вачыма свае ўладанні, святлела і ружавела, — і рэдкія шэрыя слаістыя аблачыны, і чысты бясконцы блакіт. І чым болей ружавела неба, тым больш гусцеў туман, — хвалямі ўкрываў нізіны і пагоркі, агортваў кусты, слаіўся між сосен і елак і белай сцяною падымаўся над ціхай соннай Пры.

Яшчэ ціха было на зямлі, толькі дружнае дзумканне камароў парушала ціш. У будане людзі спалі. Адна скалечаная Вая сядзела ў цэнтры будана, дзе мелася ў зямлі ямка, абкладзеная знутры каменнем і ў якой па чырвоным вуголлі бегалі кволыя мітуслівыя чырвона-белая язычкі. Час ад часу Вая падкладвала язычкам высахлыя галінкі, невялічкія палкі, сухія сасновыя шышкі, і тады язычкі большалі і весялелі.

Агонь трэба было ўвесь час карміць. Калі яго не карміць, то ён памрэ і тады для ўсяго роду будзе гора, — людзі не змогуць сагрэцца сцюдзёнай парою, калі зямлю ўкрыюць белыя мятлікі, не змогуць засмажыць мяса. Нават ад куслівых камароў яны не змогуць пазбавіцца. І днём, і вечарам, і ноччу — заўсёды ля агню былі людзі, якія ўлагоджвалі яго і кармілі.

Ён бываў розным: мяккім і пяшчотным, пякучым, калі абпальваў скуру і рукі, а мог, калі раззлуецца, з’есці ўвесь будан разам з дзідамі і дубінамі.

Неяк у маленстве Вая бачыла, як Той, які жыў наверсе, раззлаваўся на людзей. Спачатку ён сярод дня прагнаў з неба свайго памочніка. Затым,

---

*__Гігевіч Васіль Сямёнавіч__ нарадзіўся 3 студзеня 1947 г. у вёсцы Жыцькава Барысаўскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў фізічны факультэт Харкаўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М. Горкага (1969), Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1979). Працаваў настаўнікам, інжынерам на заводзе, на кінастудыі «Беларусьфільм», у часопісах «Маладосць» і «Полымя».*

*Аўтар кніг прозы «Спелыя яблыкі» (1976), «Калі ласка, скажы» (1978), «Жывіца» (1980), «Астравы на далёкіх азёрах» (1984), «Доказ ад процілеглага» (1985) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1982).*

накрыўшы неба шэранню, пачаў незадаволена пагрукваць і пагрымліваць. «Гр-рруу, гр-руу», — грукацеў ён каменнем. Ён разышоўся зусім. Калі на зямлю паліліся кроплі вады, Той тут жа то ў адным, то ў другім баку пачаў паліць неба бялюткім агнём, ад якога ў людзей самі па сабе заплюшчваліся вочы. Невядома адкуль паявіўся моцны вецер, і спалоханыя дрэвы, кусты тут жа залапаталі лісцем, зашушукаліся, зашумелі: «Шшу-шу, шш-шу...» Нават Пры захвалявалася, — вялікімі пластамі вады яна біла і біла ў пясчаны бераг, вымываючы з пяску кусты і дрэвы. Неба зусім сцямнела, і жахлівыя белыя дзіды, праразаючы цемру, лёталі ўгары, асляпляючы вочы і напаўняючы людзей жахам. «Трэськ-трэськ», — так і чулася, як Той усемагутны ірваў на шматкі неба. Адна з тых дзідаў з магутным, аж у вушах закладала, трэскам упілася ў сухую елку, што высілася недалёка ад стаянкі на ўскрайку лесу. Агонь тут жа ахапіў елку, — ад камля і да вяршыні. І жахліва стала людзям, калі бачылі, што кроплі вады ніяк не зганяюць агонь з дрэва. Але і гэтага Таму, які жыў наверсе, было мала. Ён напусціў на зямлю Віхор. Апусціўшыся да зямлі, Віхор адразу ж завыў і засвістаў: «Гуу-ууу, ггууу-уу... Ффюссс-фюссс...» Затым, усмоктваючы ў сябе ўсё, што траплялася: пыл, апалае лісце, палкі, ломячы галлё на дрэвах, Віхор пачаў насіцца па ўскрайку лесу недалёка ад стаянкі. З карэннем ён лёгенька вывернуў сасну, якая сваёй вершалінаю ледзьве не пашкодзіла будан і, зноўку, завываючы і пасвістваючы, жахлівы Віхор панёсся ўглыб лесу, на хаду ламаючы і крышачы дрэвы. Тады старэйшына роду выбег з будана, упаў на калені і, падняўшы ўгору вочы, закрычаў:

— Ты, усемагутны, прабач нам... Мы не ведаем, чым цябе прагнявілі. Мы ніколі не прасілі ў цябе таго, што нам не патрэбна: не білі лішніх звяроў, не ламалі дарэмна дрэў — мы нікога і нічога не чапаем без твайго дазволу. Але ты за нешта прагневаўся на нас і таму прашу цябе, прабач нам...

Той, які жыў наверсе, пачуў словы старэйшыны роду і пачаў памалу супакойвацца, — перастаў кідацца белымі дзідамі, пакаціў каменне далей ад людзей, туды, на другі бераг Пры, дзе былі заліўныя шырокоя лугі. А затым ён выпусціў на свабоду свайго памочніка — белае яркае Сонца. Яно лёгенька выскачыла з-за хмар і тут жа, каб супакоіць людзей, намалявала ў небе прыгожую каляровую вясёлку.

Тая чорная абгарэлая елка і цяпер высіцца недалёка ад стаянкі, людзі ведаюць, што агонь хаваецца не толькі ў елцы, але і ў сухіх палачках. Калі палачкі церці адна аб адну, то можна вызваліць агонь з дрэва. Але не ўсе людзі маглі такое зрабіць, зрабіць гэта маглі толькі такія людзі, як Вая — захавальнікі агню.

Вая моўчкі глядзела на мітуслівыя чырвона-белыя язычкі. Яна любіла агонь. Бо, калі агонь грэў яе скалечаную руку, ён перадаваў Ваі сваю сілу, і боль у руцэ знікаў.

Даўно, калі Вая была падлеткам, яна пабегла ў лес па салодкія арэхі. Там на яе напала рысь: шэрай плямістай кошкаю яна кінулася з галіністай зялёнай елкі. Лапаю рысь цэлілася трапіць Ваі ў шыю. У апошні міг Вая падняла руку і гэтым зберагла сабе жыццё. На крык дзяўчыны прыбеглі людзі.

Акрываўленую Ваю завялі ў будан, палажылі на скуру мядзведзя. Старэйшына Рун спачатку прамыў рану вадою з Пры. Затым ён абклаў рану лістамі трыпутніку, што рос ля сцежак. Зверху туга абкруціў карою маладога дуба. Ухутаную руку Ваі ніхто не чапаў. Дзень і ноч у Ваі гарэлі шчокі, заплюшчыўшы вочы, яна шаптала: «Рысь, рысь...» Людзі думалі, што Вая пакіне гэты свет, але старэйшына Рун штодзень мяняў лісце трыпутніку, абкладваў рану новай карою — старэйшына Рун верыў, што трыпутнік і кара дуба перададуць Ваі сваю сілу[1].

Так і сталася. Кроў з раны перастала цячы, Вая перастала баяцца рысі і, калі рана загаілася, яна змагла падняцца з мядзведжай скуры.

Але рука Ваю больш не слухалася, — з таго часу яна не магла збіраць у лесе ягады, як гэта рабілі ўсе жанчыны і дзеці.

Мудры старэйшына Рун на сходзе роду аб'явіў Ваю захавальніцай агню, і цяпер яна не хадзіла ў лес, цяпер у яе быў іншы клопат.

Час ад часу Вая адводзіла позірк ад агню і азірала будан, дзе спалі людзі. У паўзмроку яна не магла ўсіх бачыць, але ведала, хто і дзе спіць. Ля ўвахода групаю ляжалі маладыя хлопцы, якія хутка стануць паляўнічымі, глыбей, дзе было зацішней і ўтульней, спалі сем'і і малыя дзеці, а яшчэ далей, таксама групкаю, спалі сарамлівыя дзяўчаты, якія неўзабаве павінны былі зноў мець свае сем'і. У кожнага чалавека роду ў будане мелася наваё месца, якое ён дагля-даў: штодня чысціў, усцілаў зямлю мяккім веццем, высахлай сухой травою, якая соладка пахла, скурамі...

Хоць вочы Рана былі заплюшчаны, але ён бачыў Маю, дачку старэйшыны роду. Яна разам з іншымі жанчынамі вярталася з лесу, — выходзіла на стаянку з гушчару. У адной руцэ Мая несла кошык, сплецены з ліпавага лыка, у ім горкаю высіліся чарніцы. У другім — грыбы. Мая набліжалася чамусьці не да таго будана, дзе было схавішча дароў лесу, а да яго, Рана.

Гледзячы на Рана бліскучымі вачыма, Мая чамусьці ўсміхалася і ўсмешкаю сваёю, як гэта часта бывае, без слоў на штосьці намякала. Яе чырвоныя з пухлінкаю вусны, невялічкі тонкі носік, загарэлы на Сонцы пругкі з ямачкаю ў цэнтры жывот, невялічкія грудкі, якіх — і гэта Ран ведаў — яшчэ не кранался мужчынская рука, яе маленькія лёгкія ногі, тонкія рукі, чорныя валасы, якія Мая, каб не заміналі, падвязала галінкаю вярбы — усё было такім блізкім, жаданым, што яго цела міжвольна поўнілася пякучым салодкім трымценнем. Здавалася яму цяпер, ува сне, што апроч яе нічога не існуе, — ні роду, ні буданоў, ні лесу...

З адчуваннем блізкага шчасця ён і прачынаецца.

Яшчэ з таго часу, калі зямлю ўкрывалі белыя мятлікі, Ран амаль штоночы бачыў Маю. Так атрымлівалася, што днём вочы ягоныя шукалі яе гнуткую лёгкую фігурку. Яму хацелася быць побач з Маяй, але чамусьці ён баяўся падысці да яе блізка. Чаго ён баяўся — гэтага Ран не ведаў, незразумелае пачуццё сораму апякала яго кожны раз, калі набліжаўся да Маі.

Як толькі Ран расплюшчыў вочы, яна тут жа знікла, і ён убачыў знаёмы з маленства будан: белыя біўні мамантаў угары, дзе мелася дзірка, цераз якую выходзіў дым ад агню, белыя без кары ствалы маладых бярозак — усё гэта, пераплеценае лазою, было ўкрыта ласінымі скурамі, якія не прапускалі вады. У цэнтры будана ля агню сядзела скалечаная Вая. Далей ад агню, у глыбіні будана, нічога не было бачна, але Ран ведаў, што недзе там сярод дзяўчат сцішана ляжыць Мая, і гэтае веданне, што яна недалёка, напаўняла яго радасцю.

Па-маладому хутка Ран адарваў ад зямлі пругкае цела і рукою дакрануўся да Му і Галу, якія спалі побач. Тыя, здаецца, толькі і чакалі гэтых дотыкаў.

Хлопцы тут жа падаліся да выхада з будана, туды, дзе ляжалі дзіды. Адну з іх Ран узяў, — тую, якую звычайна бралі з сабою паляўнічыя, калі ішлі паляваць на вялікага звера. Дзіды былі агульныя. Любой з іх мог карыстацца кожны паляўнічы. Толькі малыя дзеці не смелі чапаць дзідаў, бо, гуляючы, яны часта ламалі іх, а то яшчэ гублялі дарагі крэмень. І хоць Ран яшчэ не лічыўся паляўнічым, але з гэтай вясны старэйшына дазволіў яму карыстацца ўсімі дзідамі. Дзіды былі розныя, адны прызначаліся для палявання на вялікіх звяроў, — на ласёў, зуброў, мамантаў, другія — на драбнейшых, на тых жа

вёрткіх лісіц, зайцоў, барсукоў — і гэтыя дзіды можна было далёка кідаць моцнай рукою паляўнічага. А былі і зусім лёгкія дзіды, — тыя, якімі лавілі рыбу, выдру ці таго ж асцярожнага бабра.

Выбраўшыся з будана, Ран звыкла агледзеў стаянку, блізкі затуманены лес.

Ужо днелася. Вочы Таго ўсемагутнага заплюшчыліся. Рог Месяца, які дапамагаў усемагутнаму, стаў зусім бляклым. І першыя вароны з карканнем, па адной зыбаючыся ў паветры, ляцелі з лесу, дзе яны начавалі на вяршынях дрэў, у бок Пры, — на другі бераг, дзе былі заліўныя лугі.

Ран першым падаўся да ракі, — па вытаптанай людзьмі сцежцы, туды, дзе магутная шырокая Пры, падмываючы высокі абрывісты бераг, запавольваючы бег, рабіла паварот. Там была чорная завадзь, дзе беспераcтанку бегалі адзін за адным вёрткія віры, якія засмоктвалі ўглыб кару, лісце, галіны — усё, што плавала на вадзе. Перад заваддзю мелася водмель, на ёй днём дзеці любілі плаваць.

Раса студзіла целы, але холаду хлопцы не адчувалі, наадварот, ад халоднай расы, ад укусаў жыгучкі крапівы целы іх наліваліся бадзёрасцю, як гэта было кожную раніцу, калі яны купаліся ў рацэ.

Якраз такім раннем Ран неяк і пачуў, як у завадзі нешта гучна бабухнула: ба-бух, ба-бух... І тут жа ён убачыў — штосьці чорнае і доўгае пялёхнулася ў вадзе і знікла. Затаіўшыся ў траве, Ран узіраўся ў тое месца, дзе толькі што хтосьці гучна бабахнуў. Напачатку падумалася, што гэта бабёр сваім пляскатым хвастом нарабіў гэтулькі шуму. Але бабёр глыбокія вірыстыя завадзі не любіў, звычайна ён сяліўся ў ціхіх лясістых рэчках і затоках, дзе вострымі зубамі пілаваў дрэвы для сваіх хацін. Біць хвастом магла выдра, але гнуткая выдра залішне разумная і асцярожная, каб лішні раз палохаць рыбу. Мабыць, то быў шчупак. Вялізны агромністы шчупак, які ганяўся за плоткаю. Так думалася Рану, калі збіраўся адыходзіць ад берага.

І тут, азірнуўшыся напаследак на пясчаную водмель, Ран закамянеў — з глыбокай завадзі паволі высоўвалася нешта агромністае і доўгае, як камлісты абломак дрэва. Гэта быў той, які нядаўна бабахаў па вадзе хвастом, аглушаючы сонную рыбу.

Колькі разоў пасля гэтага Ран, Му і Галу прыходзілі раніцай да берага Пры. Затаіўшыся ў траве, трымаючы ў руках рыбацкія дзіды, яны глядзелі, як з чорнай бяздоннай завадзі на водмель высоўваецца тоўсты галавасты сом. Ля рота ў яго меліся доўгія гнуткія вусы, якімі ён вадзіў па пяску, у яго была шырачэнная пляскатая галава і гэткая ж шырачэнная пашча з вострымі зубамі, тлустае чорнае тулава і вузкі, як у гадзюкі, гнуткі хвост. Там, у вадзе, сом адчуваў сябе гэтак жа вольна, як адчуваў сябе зубр у навакольных лясах.

Але як толькі сябры падпаўзалі бліжэй да вады, сом тут жа адплываў ад берага, — лянівa і павольна, быццам бы дражнячыся.

Кідаць здаля дзідаю ў сома было нyварта. Нават калі б яны і патрапілі ёю ў рыбіну, то сом лёгка пацягнуў бы дзіду ў завадзь, і тады старэйшына роду сарамаціў бы прылюдна іх, няўмелых рыбакоў, за страчаны крэмень. І ўвесь род, гледзячы на іх, пасміхаўся б. І, самае балючае, пасміхалася б Мая.

Мінулым вечарам, калі Ран глядзеў у вочы Таму ўсемагутнаму, які жыў наверсе, ён прасіў парады, як злавіць сома. Ран шаптаў:

— Усемагутны, дазволь мне злавіць сома. Калі я злаўлю сома, род будзе паважаць мяне, як сапраўднага паляўнічага. Мяне будзе паважаць Мая. Я не ведаю, як злавіць сома. Бо ён, сом, усё бачыць і чуе, хоць і жыве ў іншым свеце. Усемагутны, падкажы мне, як злавіць сома...

І — дзіва! — Той усемагутны моўчкі падказаў Рану, як злавіць сома. Побач з водмеллю на беразе Пры расла тоўстая старая вярба са звешаным да

вады веццем. Пад гэтым веццем у спёку хавалася рыба. Тут па вадзе заўсёды шнырылі групкамі хуткія вадамеркі. Сваім цячэннем Пры падмывала карані вярбы, і таму яна была нахіленай якраз у тым месцы, дзе заканчвалася завадзь і пачыналася водмель.

Паверхня ракі, укрытая туманам, была роўнай і ціхай, але Ран ведаў, што пад паверхняю моцнае цячэнне запраста зносіць як чалавека, так і звера. Людзі гэта добра ведалі і таму, калі дзеці выпраўляліся да Пры вучыцца плаваць, з імі звычайна ішоў стары вопытны паляўнічы, бо не раз здаралася, што нехта з дзяцей незваротна знікаў...

Лёгка і хутка, бы кот, Ран ускараскаўся на пахіленую вярбу. Трымаючы ў руцэ дзіду, ён вострым крэменем накіраваў яе ў бок водмелі. Затым рукою паказаў сябрам, каб тыя схаваліся ў траве.

Усе закамянелі ў чаканні. Паволі на палаючым небасхіле паказаўся агромністы малінавы дыск. Ён яшчэ не наліваўся беллю і таму на яго можна было глядзець. І тут жа дружна зацвіўлінькалі дагэтуль нябачныя птушкі. Першыя берагавыя ластаўкі выпырхнулі са сваіх глыбокіх нораў, у якіх здаля чулася птушынае слабае папіскванне. Ластаўкі імклівымі дзідамі насіліся над вадою ля самай вярбы, не зважаючы на застылага Рана.

Нямела рука, але паварушыць ёю ён не мог. Здавалася, што Ран быў зліты з вярбою, і моцная дзіда з крэмневым наканечнікам была як звешаная да вады высахлая галіна.

Туман рассейваўся, цяпер ён толькі легкім дымком забельваў ціхую ваду, на паверхні якой то там, то сям разыходзіліся кругі. Пачынала гуляць рыба. Тыцкаліся знізу ў паверхню вады чародкі далікатных лёгкіх плотак. Гэткімі ж чародкамі ля берага, дзе быў аер і чарот, плавалі калючыя настырныя акуні, якія ганяліся за малькамі, — час ад часу тыя малькі з шуханнем, падымаючы хвалі, ратаваліся ці то ад акунёў, ці то ад шчупакоў. Гусцера і яльцы лавілі на паверхні ўсялякую жыўнасць: мух, жукоў, мятлікаў. Плоскія вялікія ляшчы таксама выплывалі да паверхні, каб зірнуць на гэты чужы і загадкавы для іх свет, а затым, пакрасаваўшыся, бліснуўшы на сонцы белай лускою, зноўку вярнуцца ўніз да сваіх цёмных багністых уладанняў, дзе, пускаючы бурбалкі, маглі шукаць корм.

Калі зусім дранцвела рука, якой Ран трымаў дзіду, калі яму здавалася, што сом неяк уведаў пра ягоны намер і сёння перадумаў выплываць на водмель, тады Ран зноў і зноў прасіў:

— Усемагутны, дазволь мне злавіць сома. І ты, магутная Пры, адпусці сома на водмель. Няхай ён выплыве на водмель, дзе пагрэецца на цёплым пяску, бо тут ён можа знайсці вялікага смачнага вужа, чорнага ўюна, п’яўку ці тую ж недарэку жабу. Выплыві, выплыві з завадзі, сом! Дай мне яшчэ раз зірнуць на цябе. Няўжо ты, сом, баішся мяне?..

І яны дазволілі, адпусцілі сома...

Вялізнай чорнай карчавежынай высунулася з бяздоннай завадзі шырачэнная пляскатая галава, наперадзе якой варушыліся і варушыліся доўгія вусы. Услед за галавою паказалася тулава, злітае з галавою. Яно было такім доўгім, што, здавалася, яму і канца не будзе...

Трэба было не спяшацца. Але і не спазняцца. На вялікай глыбіні Ран не даставаў дзідаю сома. Але і на водмелі, калі сом аддаляўся ад пахіленай вярбы, дзіда таксама не даставала рыбіну. Цэліць дзідаю ў яе пляскатую галаву Ран баяўся — дзіда магла саслізнуць з моцнай косткі. Трэба было біць толькі ў адно месца — туды, дзе заканчвалася тулава і пачыналіся жабры.

Штосілы Ран кінуў дзіду ў ваду. Разам з дрэўкам дзіды ён таксама кінуўся ўніз, — гэтак некалі кінулася на Ваю рысь, якая доўга нерухома сядзела над сцежкаю, высочваючы сваю ахвяру.

Дзіда тарганулася і застыла. Яе ўдар быў такі магутны, што крэменем наскрозь праціяла сома і яе завостраны канец увайшоў у пясчаную водмель.

Толькі гэта Рана і ўратавала. Калі б ён не здолеў працяць наскрозь сома, то рыбіна лёгка пацягнула б дзіду, а заадно і Рана ў свае ўладанні — у бяздонную цёмную завадзь.

— Ааа-ааа! — закрычаў узбуджаны Ран. Ягонае цела трэслася, як падчас хваробы. Калі б цяпер сом здолеў вырваць з пяску крэмень дзіды і пацягнуў бы яе ў завадзь, то і Ран, не выпускаючы з рук дрэўка, кінуўся б туды, дзе не было чым дыхаць, дзе жылі вялікія і малыя рыбы. Ніщто цяпер не магло раз'яднаць Рана і сома.

На крык Рана імгненна выскачылі з травы сябры. Вёрткі невысокі Му кінуўся яму дапамагаць — да дрэўка дзіды. Му разумеў, што цяпер самае важнае — не выпусціць з дзіды сома. Высокі Галу, заскочыўшы ў ваду, нават разгубіўся, угледзеўшы шырачэзную пашчу, якая пакручвалася перад ягонымі нагамі. А мо яго напалохалі вялізныя круглыя мутнаватыя вочы, якіх Галу ніколі не бачыў?

— Хапайце яго за вусы ці за жабры. Іначай мы яго не выцягнем, — зноўку закрычаў Ран.

Вады на водмелі было па плечы. Ля ног адчувалася магутнае хуткае цячэнне, якое вымывала і вымывала з-пад ног белы пясок. Трое рыбакоў і сом круціліся на водмелі, падымаючы пырскі, з шумам каламуцячы ваду. У любы міг сом мог саслізнуць з дзіды ці пацягнуць рыбакоў уніз па цячэнні, дзе была невымерная глыбіня. Му і Галу нарэшце ўхапілі рыбіну за жабры, але, пляснуўшы хвастом па вадзе, сом тут жа вылузнуўся з рук і толькі магутная дзіда стрымала яго — Ран чуў рытмічнае торганне дзіды ўнізе, дзе быў крэмень. І боязна было — а раптам дзіда зломіцца?..

Урэшце Му і Галу аберуч добра ўчапіліся ў рыбіны жабры, і тады ўжо, аслабіўшы дзіду, рыбакі павалаклі бярвеністага сома да берага.

Дзіўна, гаспадар глыбіняў пакуль надта і не трывожыўся. Але Ран ведаў: калі сом захоча, дык адным ударам моцнага хваста зваліць з ног любога з іх, таму трэба трымацца як мага бліжэй да пляскатай галавы. Але і там было не весялей — шырачэзная пашча з белымі вострымі зубамі ўвесь час пакручвалася ва ўсе бакі.

Не выцягваючы з цела дзіды, трымаючы сома за жабры, сябры вывалаклі яго на белы пясок. І толькі цяпер, на пясчаным беразе, рыбіна, мабыць, адчула, што трапляе ў чужы нямілы і жахлівы свет. Яна нечакана і рэзка выгнулася і ўдарам хваста зваліла Рана на пясок. Сом, можа, і валюхнуўся б у ваду, ды моцная дзіда ўсё яшчэ ўтрымлівала яго на беразе. Ран ускочыў на ногі, не адчуваючы болю.

Рыбакі штосілы валаклі цяжкога сома па пяску, — хутчэй, хутчэй і як мага далей ад Пры, блізкасць якой сом, як і ўсякая рыбіна, адчуваў падсвядомым чуццём і да якой жадаў дабрацца.

Рыбакоў калаціла. Трэсліся рукі. Трэсліся ногі.

Час ад часу сом выварочваўся, выгінаўся дугою, абапіраючыся хвастом аб белы пясок.

Адцягнуўшы рыбіну ад берага, — туды, дзе была лагчына, зарослая гнуткай лазой, крапівой і калючым дзядоўнікам, яны яе адпусцілі. Толькі цяпер, як гэта бывае ў рыбакоў, убачылі, які сом вялізны — большы за высокага Галу. Рукі ў хлопцаў былі акрываўленыя моцнымі вусамі сома, але болю, як і ўсякія пераможцы, яны не адчувалі. Ды і часу не заўважалі.

Сонца адарвалася ад вяршынь сосен, — падняўшыся ў чыстым блакіце, яно стала меншым, але белым і сляпучым настолькі, што на яго нельга было

глядзець. Туман рассеяўся, і ва ўсёй велічы паказалася чорная спіна Пры. Але раса на траве не спадала, яна ў гэтыя дні ляжала на ёй доўга, бо наступалі дні, калі на бярозах жаўцелі выпетраныя на ветры лёгенькія лісты і паволі па адным падалі ўніз, дзе ў траве хаваліся жоўтыя лісічкі. І першыя чароды маладых нявопытных птушак з шорханнем праносіліся над травамі ў чыстым блакіце.

Радасць змусіла рыбакоў абняцца і скакаць ля сома. Нават трэснутая дзіда не трывожыла Рана. Крэмень, дарагі крэмень яны не згубілі. «Го-о — о-о, го-о — го-о!» — крычалі хлопцы, і ў іх рытмічных воклічах праразалася тая мелодыя, якую яны з маленства чулі ў лесе, дзе спявалі, заліваліся птушкі і дзе гаманілі між сабою сосны, у чыстых лугах, калі вецер, рытмічна прыгінаючы травы, хвалямі казытаў іх маладыя лёгкія целы[2].

Потым Ран падняў угору руку і сказаў:

— Пойдзем дзякаваць Пры, якая падаравала нам сома.

Пакінуўшы рыбіну змагацца з небыццём, рыбакі пайшлі да Пры. Ля вады яны апусціліся на калені, і Ран сказаў:

— Дзякуй, Пры! Ты нас поіш чыстай гаючай вадою. Ты даеш нам рыбу, ракаў. У тваіх прыбярэжных кустах і чаратах жывуць чаплі, качкі, гусі — тут шмат птушак, на якіх ты дазваляеш нам паляваць. Ты, Пры, выгадавала нам сома. Некалі ён быў маленечкі, не большы за плотку. Але ты яго штодзень карміла, і ён урэшце стаў такі вялікі, што сам змог паляваць на рыбу, ён нават на качак мог паляваць. Ты, мудрая Пры, апякуеш нас, і мы кланяемся табе.

Яны пакланіліся Пры і, сцішаныя, пайшлі ад берага. На паверхні ракі пад мяккім ветрыкам паявілася бліскучая, як у рыбіны, луска.

Пры была рознай: затоена-сцішанай летнімі бязветранымі ранкамі, калі ўкрывала сябе белым туманам; сярдзітай, калі, раскатурханая ветрам, вялікімі пластамі вады біла і біла ў бераг і валіла ў ваду высокія прыбярэжныя дрэвы; наравістай, калі па вясне ні з таго ні з сяго мяняла рэчышча. Ахінуўшы сябе кустамі алешніку, вербалозам, рабінаю, ухутаная высокімі травамі, рака жыла сваім таямнічым жыццём, і ніхто з людзей не ведаў, дзе яна пачынаецца і куды сцякае.

Рыбакі вярнуліся да сома. Трэба было папрасіць у яго прабачэння за тое, што яны яго злавілі. І зноўку Ран апусціўся на калені. Ён сказаў:

— Прабач, сом, што мы цябе злавілі. Ты вялікі і дужы. І мы цябе паважаем. Мы цябе не чапалі б, але нам трэба есці. У нашым родзе ёсць бездапаможная скалечаная Вая, якая корміць агонь, і за гэта мы павінны клапаціцца пра яе. У нашым родзе ёсць малыя дзеці, ёсць Мая, без якой мне цяжка жыць і пра якую я таксама хачу клапаціцца. Сом, я хачу быць сапраўдным паляўнічым і я хачу клапаціцца пра ўвесь род. Мы чэсна з табою змагаліся, сом. У любы міг ты мог пацягнуць нас у свой свет. Але ты, сом, ленаваўся. Ты быў такі магутны, што не паверыў у нашу сілу, спрыт і лоўкасць. Барацьба наша была чэснай. Прабач, сом, што мы цябе злавілі!

Пасля гэтага яны панеслі рыбіну да стаянкі. Аднаму чалавеку сома было не падняць. Дрэўкам дзіды Ран працяў жабры сома, а затым ускінуў дрэўка на плячо. Другі канец дзіды ўскінуў на сваё плячо высокі Галу. Хвост рыбіны даставаў да зямлі, і таму Му, каб не абразіць сома, падчас хадзьбы прыпадымаў над зямлёю слізкі доўгі хвост.

## 2

Стаянка роду месцілася на чыстым пагорку, які з аднаго боку аточвалі высокія гонкія сосны, а з другога — пагорак межаваў з лагчынаю, зарослай лазняком і высокімі травамі. Кожны раз, калі з вандровак вярталіся птушкі,

гэта лагчына залівалася вадою гэтак жа, як заліваліся лугі на другім беразе Пры. За лагчынаю быў нізкі бераг ракі, — там, на мелкаводдзі, дзеці вучыліся плаваць, там людзі бралі ваду.

Некалі Пры бегла ля самага пагорка, падмываючы яго, але аднойчы вясною наравістая, яна наважылася ўзяць сабе іншае рэчышча — адступіла ад пагорка, пакінуўшы травяністую старыцу. Мінуў час, і старыца высахла, зарасла кустамі і травою, цяпер кваканне па вясне жаб ды вузкія балацяністыя пааброслыя травамі сцяжыны, што вялі цераз яе да новага рэчышча, нагадвалі тыя дні, калі тут, у лагчыне, некалі імчала Пры.

Недалёка ад стаянкі бераг ракі быў высокі і стромкі, на тым жа, супрацьлеглым, таксама раслі сосны, здавалася, што там месца было лепшым. Але там часта дзьмулі халодныя вятры з шырокіх зарэчных заліўных лугоў, якія бясконца прасціраліся за Пры. Там, з высокага берага, штодня трэба было спускацца да ракі і гэтак жа караскацца наверх, несучы з сабою ваду. Не, месца там было горшае.

Тут жа, між сосен, рос зялёны калючы ядловец, які сваім пахам праганяў машкару і камароў, тут вятроў не адчувалася, тут заўсёды было суха, ды і да Пры было недалёка.

На стаянцы горбіліся буданы, накрытыя скурамі звяроў. У адных — людзі начавалі, у другіх хавалі дары лесу. Збоку ад стаянкі, дзе пачыналася лагчына, меўся невысокі буданчык — лядоўня. Шмат дзён людзі капалі тут зямлю крэмневымі скрабкамі. Выкапаўшы яму, яны абклалі яе дно і сцены тоўстым пластом моху. Сцюдзёнай парою, калі зямлю ўкрывалі белыя мятлікі, людзі паклалі ў яму тоўсты празрысты лёд, прынесены з Пры. Па вясне той лёд укрылі мохам.

Цёплай парою, калі вярталіся з вандровак птушкі, калі знікалі белыя мятлікі, а мядзведзі, павылазіўшы з бярлогаў, качаліся па траве і пакутліва раўлі на ўвесь лес, людзі пачыналі хаваць мяса ў лядоўню. Скалелае, яно там не псавалася доўгі час.

Між буданоў у цэнтры стаянкі мелася выкапаная ў зямлі ямка, абкладзеная знутры чорным абгарэлым каменнем — там часта смажылася мяса вялікага звера.

На стаянцы было чыста, нідзе не валялася ні смецця, ні костак. Штодзень дзеці, прывучаючыся да парадку, павінны былі прыбіраць яе. За імі звычайна назіралі старыя паляўнічыя.

Але дзеці — ёсць дзеці. Апошні час яны зусім распусціліся, не слухаліся старых паляўнічых, прыбіраць стаянку ім было некалі — беглі на бераг Пры, дзе лямантавалі і крычалі, пялёскаліся ў вадзе, ганяліся ў лесе за птушкамі. Нарэшце старэйшына Рун на сходзе роду рашуча заявіў:

— Вы паглядзіце, як мы забрудзілі стаянку: косткі валяюцца, смецце вакол буданоў. І — усім няма часу яе прыбіраць. Паляўнічыя ў лесе за зверам палююць, жанчыны — грыбы, ягады і травы збіраюць. А чым занятыя ў нас дзеці? Чаму мы іх не можам навучыць парадку і чысціні? Каравыя, выпацканыя ў гразь, носяцца па стаянцы, бы тыя маленькія вяпраткі, якія толькі што з балота вылезлі...

— Бабун, — звярнуўся Рун да старога вопытнага загоншчыка, які нядаўна падвярнуў на паляванні нагу і цяпер шмат часу праводзіў на стаянцы, дапамагаючы жанчынам. — Бярыся вучыць дзяцей.

— Заўтра вы не пазнаеце ні дзяцей, ні стаянкі, — ціха сказаў вопытны Бабун.

Людзі здзіўлена глядзелі на яго — за ноч, усяго за адну ноч, дзеці стануць іншымі?

— Бабун, — тут жа не вытрымала Хлюндра, у якой было адно дзіцятка. Жанчына звярнулася да загоншчыка і замоўкла. Яна была высокая і худая, бы асіна на ўзлеску. Як і многія балбатлівыя жанчыны, Хлюндра спачатку гаварыла, а потым думала. Хлюндру мужчыны роду недалюблівалі. Калі яе муж, маўчун і добры чалавек, знік у вадзе Пры, то многія мужчыны казалі, што знік ён не проста так, а таму, што сваімі доўгімі размовамі Хлюндра давяла яго да Бяды, — падвяла і кінула аднаго каля яе... А калі чалавек адзін на адзін застаецца з Бядою, то яна тут жа і прыдушвае яго. Таму людзі і стараюцца ніколі не пакідаць чалавека адзін на адзін з Бядою...

Не сказаць, каб Хлюндра была зусім бесталковая, не... Бывала, што яна і парады давала людзям разумныя, але ж усюды ёй надта хацелася ўмяшацца, усюды хацелася ўсунуць свой даўгаваты дзюбасты нос, — падказаць маладым дзяўчаткам, як лепей выбіраць патрэбнага хлопца, жанчынам раіла не спускаць з мужоў вачэй, бо тыя, толькі дай ім волю, тут жа адаб'юцца ад рук. Калі дзяўчаты і жанчыны прыбіралі і даглядалі свае валасы: часта мылі ў Пры, падразалі іх вострымі крэмневымі скрабкамі, падвязвалі травою, лазовай карою, а то яшчэ ўтыкалі ў тыя валасы пахкія кветкі, то Хлюндры было не да гэтай прыгажосці. З распушчаным доўгім пакамечаным валоссем, лапочучы, яна днямі лётала як па стаянцы, так і па лесе, і нідзе ёй не было ніякага ўходдзя: адных яна ганіла, а другіх хваліла, і заўсёды завадатаркаю ўсіх сварак між жанчын была яна, Хлюндра. Як гэта часта бывае, такіх гаманкіх людзей, як яна, людзі не надта слухалі, звычайна пра іх казалі: «Ат, Хлюндра — яна і ёсць Хлюндра, што ты з яе возьмеш... Хай бы вунь дзіцёнка глядзела, дык жа не — расце неслухам».

А дзіцёнак яе і сапраўды рос неслухам, — без строгага бацькі ён зусім адбіўся ад рук: крыўдзіў ні за што дзяцей, не слухаўся старых паляўнічых. Калі ж хто са старэйшых сварыўся на неслуха, то на яго тут жа каршуном налятала Хлюндра і лямантавала тое, што часта лямантуюць многія маці: «Ты спачатку свайго выгадуй і выхавай, а тады ўжо за майго бярыся...» Адчуваючы ахову маці, неслух вырастаў звераватым і злым. Старэйшыя людзі, якія спрабавалі прывучыць яго да парадку, учуўшы лямант Хлюндры, махалі рукамі і адступаліся ад хлапчука.

І вось цяпер, пачуўшы ад Бабуна, што дзеці заўтра стануць іншымі, Хлюндра ўстрывожылася. Найперш яна падумала пра сваё адзінае дзіцятка. Яна пакутліва думала, што ж сказаць такое загоншчыку, каб адбіць у яго ахвоту чапаць яе пестуна.

— Бабун, — праз нейкі час паўтарыла тоненькім пісклявым галаском Хлюндра, — ты ж толькі не ўздумай біць нашых дзетак... Калі табе Рун даў над імі ўладу, дык гэта не значыць, што табе дазволена іх калечыць, як тых звяроў на паляванні. Табе гэта зрабіць нядоўга — вопыт маеш, кулакі вунь, як тыя дубовыя балдавешкі...

Хлюндра на гэты раз праўдачку казала: кулакі ў Бабуна былі, як тыя балдавешкі...

Бабун моўчкі паглядзеў у вочы гаваркой жанчыны, ад чаго той стала непамысна, і больш да самага заканчэння сходу ні слоўца не сказаў.

Сход скончыўся. Бабун тут жа сабраў крыклівых разбэшчаных дзетак і павёў іх на ўскраек лесу, дзе не было людзей. Але дзе там — следам за ім Хлюндра павяла ўстрывожаных жанчын роду, каб пачуць і паглядзець, што ж будзе вытвараць з іх дзетачкамі Бабун. Хлюндра ішла наперадзе і, як заўсёды, махаючы ва ўсе бакі рукамі, лапатала: «Паглядзім, паглядзім, што гэты Бабун надумаў рабіць з нашымі дзетачкамі... Я не ведаю, што вы пра сваіх думаеце, але калі гэты Бабунішча хоць пальцам кране майго, я яму вось

гэтымі во рукамі вочы выдзеру...» І тут жа яна паказвала жанчынам свае каравыя, доўгія, з чорнымі пазногцямі, пальцы. Жанчыны глядзелі на тыя пальцы і не сумняваліся: быць сягоння Бабуну бязвокім...

Але сядзець жанчынам побач з малымі Бабун не дазволіў — прагнаў іх, сказаўшы: «Глядзець за дзецьмі — глядзіце, хай твае вочкі, Хлюндра, хоць павылазяць. А слухаць нашы гаворкі з імі — нечага. Я таямніцы ім буду казаць, якія вам нельга ведаць...»

Што можа быць саладзейшым для дзяцей, чым таямніцы? Яны самі адагналі жанчын ад Бабуна, каб тыя меней ведалі, пра што будзе гаворка. Бо таямніцы на тое і таямніцы, каб іх ніхто са староньніх не ведаў.

Акружыўшы Бабуна, дзеці слухалі кожнае ягонае слоўца.

— Дзеці, — так пачаў гаварыць Бабун, — паглядзіце, як чысцяць і мыюць сябе ў Пры птушкі, — і качкі, і гусі, і лебедзі. Паглядзіце, звяры таксама даглядаюць як сябе, так і адно аднаго, — выскубваюць бруд са скуры, мыюцца ў гаючай Пры. Вы штодня бачыце, як старанна чысцяць і мыюць сябе ў рацэ выдры. І бабры тое ж самае робяць. І няўжо мы, людзі, горшыя?[3] Паслухайце, як жывуць барсукі і лісы, як яны чысцяць свае норы...

Супакоеныя разумнай гаворкай Бабуна, жанчыны, якія сцішана сядзелі воддаль, але ўсё чулі да слоўца, памалу пакінулі яго і дзяцей, — разышліся па стаянцы і заняліся сваімі справамі, балазе іх было шмат. Засталася адна Хлюндра, — сядзела, як каменная, і старалася пачуць кожнае слова Бабуна. Але нічога таямнічага ён не гаварыў. Расказаўшы дзецям пра жыццё ліс і барсукоў, загоншчык пачаў гаварыць пра вужоў і гадзюк, якія па вясне, імкнучыся быць чысценькімі, аж вылузваліся з каравай бруднай скуры, пакідаючы яе ашмоткі на калючках і кустах, шаптаў пра злых мядзведзяў і вяпроў у балотах — і усе яны, як гаварыў Бабун, не брудзілі тыя мясціны, дзе жылі і харчаваліся. І чым болей ён гаварыў, тым цішэй. Урэшце ён перайшоў на шэпт, — нават Хлюндра, як ні прыслухоўвалася, не змагла пачуць ягоных апошніх слоў.

— Калі мы, людзі, — шаптаў Бабун ціхім голасам, — не будзем прыбіраць стаянку, то да нас тут жа прылятуць чорныя брыдкія мухі. Яны прынясуць на лапах смярдзючых белых чарвякоў. Паветра тады стане смуродлівым, і хваробы пасыплюцца на ўвесь род. На гэты смурод прыбягуць з лесу мышы і пачнуць есці арэхі, грыбы, ягады — усё тое смакоцце, якое вы так любіце і якое цяпер нечапаным ляжыць у будане. Галоднымі вы тады будзеце, галодным будзе ўвесь род. Услед за мышамі прыбягуць ненажэрныя з доўгімі чорнымі хвастамі пацукі, якія яшчэ болей, чым мышы, любяць смурод і бруд. Цёмнымі начамі, калі будзеце спаць, яны пачнуць рыць у зямлі норы і, прабраўшыся цераз іх у будан, будуць абгрызаць вашы каравыя нямытыя ў Пры пяты...

Каму хочацца, каб у яго ноччу пацукі абгрызалі пяты, хай сабе і нямытыя?..

Маніць Бабун не мог, бо ён быў вопытны загоншчык, які добра ведаў звычкі звяроў і птушак, дзеці пра гэтыя звычкі толькі што чулі. На ўсякі выпадак ён пачаў паказваць ім, як цёмнай ноччу пацукі, у якіх чорныя доўгія і гладкія хвасты, пачнуць абгрызаць іх каравыя пяты — амаль што заплюшчыў вочы, над якімі кусціліся шырачэзныя чорныя бровы і ашчэрыў шырокі рот, аброслы такімі ж чорнымі вусамі. Выставіўшы напаказ зубы, Бабун спачатку злосна зашыпеў, а затым, падсунуўшы пад дзіцячыя вочкі свае кручкаватыя сагнутыя пальцы, пачаў імі варушыць і часта-часта зацокаў белымі зубамі: цок-цок-цок.... Ён быў цяпер надта падобны на вялізнага жахлівага пацука. Калі б яму яшчэ хвост прыляпіць...

Хоць і быў ужо надвячорак, — тая пара, калі распальвалася ў цэнтры стаянкі вогнішча і дзяцей ад таго вогнішча ніхто ніякай сілаю не мог адагнаць, на

гэты раз малыя, забыўшыся пра агонь і будучае смакоцце, без ніякай каманды пырснулі ад Бабуна і панесліся да Пры, дзе старанна мыліся і белым рачным пяском шаравалі свае чорныя пяты. Болей за ўсіх дзяцей стараўся прыціхлы Хлюндрын сын...

Людзі толькі дзівіліся таму парадку і чысціні, якія назаўтра былі на стаянцы. Вечарамі дзеці чамусьці старанна аглядалі адно ў аднаго пяты, а днём пільнымі хуткімі вочкамі так і шнырылі па стаянцы, шукаючы ўсялякае смецце...

Сямейка вожыкаў, якая доўгі час жыла на стаянцы, бо тут ёй хапала і мышэй, і чарвякоў, і казюрак, якая спадзявалася тут выгадаваць сваіх дзетак, схуднелая ў трэсачку, пасунулася ў лес, ледзьве перастаўляючы аслабелыя тонкія ножкі...

Сонца адарвалася ад вяршынь сосен і белым яркім святлом заліло стаянку. З буданоў выходзілі людзі. Жанчыны ішлі да будана, дзе хаваліся грыбы, ягады, ядомыя карэнні — усё, што трэба было высушыць і што рыхтавалася на халодную пару. Там жа, у будане, хавалася высушынае лісце кустоў, розныя травы, лушчаныя арэхі, гронкі чырвонай рабіны, каліны, маленькія яблыкі.... Там заўсёды востра пахла нечым смачным, але ўсе пахі перабіваў гаркаваты пах палыну, якога надта не любілі мышы і іншая шкодная драбяза.

Паляўнічыя аглядалі дзіды і дубіны. Сёння яны збіраліся ісці ў лес, — у той бок, дзе з вечара чуўся рык мядзведзя. Усе ведалі, чаго роў мядзведзь, нават малыя дзеці, яны торкалі пальчыкамі ў свае галоўкі і казалі: «Дурны мядзведзь робіць сабе тум-тум...» І смяяліся весела.

Там, у лесе, на высокай сасне мелася дупло, у якім жылі працаўніцы пчолкі. Людзі даўно агледзелі яго і берaглі як зрэнку вока, бо пчолкі давалі ім мёд, белы воск, які хаваў у сабе бяздымны агонь, і людзі берaглі пчолак ад настырнага мядзведзя, — той, апроч маліны, надта любіў салодкія соты.

На тую высокую сасну даўным-даўно лазовымі моцнымі лыкамі людзі ўсцягнулі таўшчэзную дубовую балдавешку. Яе яны падвесілі перад самым дуплом, — якраз у тым месцы, дзе з раніцы да вечара гудзелі і лёталі пчолкі, прыносячы на лапках у дупло кветкавую слодыч. І вось з таго часу ў лесе калі-нікалі чуўся роў мядзведзя.

Ускараскаўшыся па гладкім ствале сасны да самага дупла, мядзведзь лапаю спрабаваў залезці ўсярэдзіну, дзе былі жаданыя пахкія соты. Ды тут незразумела адкуль перад мордаю мядзведзя паяўлялася балдавешка. Лапаю мядзведзь адкідваў яе ўбок. Зыбнуўшыся ў паветры, балдавешка вярталася назад і стукала звера па мордзе. Ён зноў адпіхваў ад сябе балдавешку, але ўсё паўтаралася: палена балюча біла па мордзе.

Забыўшыся на салодкія соты, мядзведзь распачынаў бойку з настырнай балдавешкаю. Бойка кожны раз заканчвалася адным і тым жа: збіты да крыві, абкусаны злымі пчолкамі, так і не паспытаўшы мёду, касалапы з грукатам падаў з высокай сасны і пачынаў раўсці ад болю і роспачы.

Паляўнічыя, пачуўшы яго роў, збіраліся ісці да дупла, бо ведалі — мядзведзь проста так ад дупла не адступіцца, і дубінамі, дзідамі ў яго трэба надоўга адбіць ахвоту ласавацца мёдам.

Між людзей круціўся ваўчок — любімец Маі. Неяк паляўнічыя прынеслі з лесу маленечкага, з далоньку, ваўчка. Мая пачала яго карміць. Як ні дзіўна, ён прывык да людзей і цяпер не думаў уцякаць у лес, ягонае звонкае екатанне часта разносілася па стаянцы, весяліла не толькі дзяцей, але і дарослых. Асабліва звонкім яно было, калі ваўчок бачыў калючага вожыка ці шумных вераб'ёў — кідаўся за імі і нікога не мог злавіць: вераб'і з шумам пырхалі ўгору, а калючык выстаўляў вострыя іголкі і злосна чмыхаў. Пару разоў ваў-

чок тыцнуўся носам у тыя іголкі, і болей у яго не паяўлялася ахвоты чапаць вожыка. Ён быў яшчэ нявопытны.

Убачыўшы, што ў будане няма трох маладых паляўнічых, што разам з імі знікла моцная дзіда, старэйшына Рун раззлаваўся. Ён усё зразумеў. Мабыць, маладыя супляменнікі агледзелі ў балоце лежбішча вяпроў і вырашылі доказаць роду, што яны ўжо — сапраўдныя паляўнічыя.

Маладосць, нявопытная маладосць!..

Яны не думаюць, што могуць скалечыцца, што могуць зламаць дзіду і згубіць дарагі крэмень.

А ва ўсім вінаваты Ран. Ён хоча як мага хутчэй стаць паляўнічым. І на тое ў яго мелася прычына. Бачыў вопытны Рун, як часта пазірае Ран на Маю, як чырванее, калі яна праходзіць ля яго.

Мімаволі старэйшына ўспамінаў сваю маладосць, — тады ён гэтаксама саромеўся сваёй цяперашняй жонкі, сваёй мудрай дарадцы, слова якой было важным для ўсяго роду.

Жанчына давала жыццё, і таму яна кіравала родам: вырашала, калі мяняць стаянку, мірыла сварлівых маладых жанчын, яна нават магла выбраць сабе мужа. І хоць падчас палявання людзьмі камандаваў вопытны паляўнічы, але на стаянцы звычайна верхаводзіла жанчына.

Калісьці на сходзе роду жонка Руна сама адмовілася ад старшынства. Тады ж яна і папрасіла, каб старэйшынай абралі яе мужа, умелага, дужага паляўнічага. Людзі паслухаліся яе, і з таго часу не шкадавалі, што старэйшынаю роду стаў мужчына.

Мудрая жонка Руна ніколі на сходзе не падавала лішняга голасу, але мала хто ведаў, што кожны раз перад тым, як прымаць важнае рашэнне, старэйшына Рун раіўся з ёю і, як ведаў род, рашэнне тое было мудрым і справядлівым.

І на гэты раз Рун вывеў з будана жонку і, адвёўшы яе ўбок, дзе людзі не маглі пачуць іх гаворкі, сказаў:

— Нам трэба штосьці рабіць з Ранам. Вось ужо каторы раз ён самавольна бярэ дзіду і ідзе на паляванне. Ён становіцца непасляхмяным. Гледзячы на яго, гэткімі ж непаслухмянымі становяцца ягоныя сябры. Ён забывае, што ў адзіночку ніхто з нас не выжыве. І таму паляваць на звера мы павінны ўсе разам.

— Рун, няўжо ты не разумееш, што Ран становіцца сапраўдным паляўнічым? Яму шмат зім, — адказала жонка. — Ён такога ж узросту, як і наша Мая. Ран марыць мець сваю сям'ю. Мы ўжо старыя, Рун, і часта не адчуваем таго, што адчуваюць нашы дзеці. Мы думаем, што яны, нашы дзеці, увесь час павінны заставацца дзецьмі. А гэта няпраўда, у іх павінна быць сваё жыццё, і калі мы будзем да старасці апекаваць іх, то скалечым, яны так і не стануць дарослымі. Ты нават не думаеш, што Мая павінна мець сваю сям'ю.

— Ты хочаш сказаць, што наша Мая гэтай зімою будзе мець сям'ю?

— Так, — сказала жонка Руна. — І я нават зараз скажу табе, хто будзе яе мужам — асілак Сын мядзведзя. Я бачу, як ён настырна пазірае на Маю. Пасля таго, як у лесе ваўкі загрызлі ягоную жонку, Сын мядзведзя не зводзіць вачэй з Маі.

— Але ж з яе не зводзіць вачэй і Ран.

—Так. І гэта я таксама бачу. Але ён яшчэ наіўны малады паляўнічы, па сіле не раўня асілку Сыну мядзведзя. Я прадчуваю, што ў любы міг можа здарыцца бяда: Ран і Сын мядзведзя сутыкнуцца між сабою ў лесе адзін на адзін і тады ў родзе не стане аднаго паляўнічага. Нам трэба як мага хутчэй на сходзе прымаць рашэнне. Як самы дужы паляўнічы, Сын мядзведзя захоча ўзяць у жонкі нашу Маю, адмовіць яму мы ніяк не можам.

— Але што нам сказаць Рану? Я не ведаю, што ён можа зрабіць, калі мы аддадзім сваю дачку Сыну мядзведзя. Перад тым, як выправіцца на Той свет, бацька Рана прасіў мяне, каб я апекаваў ягонага сына. І я апякую яго, — бараню ад Сына мядзведзя, вучу на паляванні кідаць дзіды. Хоць ён яшчэ і малады паляўнічы, але ўжо цяпер удала палюе на звера, і гэткі ж адважны, як і старыя паляўнічыя. Мне здаецца, што Ран і Мая кахаюць адно аднаго. Калі мы аддадзім яе Сыну мядзведзя, то зробім гора абоім, — і Маі, і Рану.

— Іх каханне бачыш не толькі ты. Яго бачыць увесь род, — сказала жонка Руна. — Каханне не схаваеш ад вачэй людскіх...

У час гэтай размовы ваўчок, які, павільваючы хвастом, круціўся ля ног Маі, заекатаў і кінуўся па сцежцы між кустоў туды, дзе цякла Пры. Па тым, як екатаў ваўчок, людзі здагадаліся, што якоча ён не са злосці.

Так і сталася.

Першым з кустоў выбег ваўчок. Ён радасна павільваў хвосцікам. Ваўчок, адчуваў сябе ўладаром, бо вёў за сабою маладых паляўнічых. Першымі паказаліся Ран і Галу. Між імі на дрэўку дзіды вісела шырачэнная пляскатая галава сома. Му ішоў апошні — прыпадымаючы над травою чорны хвост.

Такой вялікай рыбы ў Пры ніхто дагэтуль не лавіў. Лавілі шырокіх пляскатых, з ружаватымі бакамі, ляшчоў. Лавілі па вясне ахмялелых ад кахання шчупакоў — білі іх рыбацкімі дзідамі. Халоднай парою, калі на рацэ паяўляўся першы празрысты лёд, ля берага білі па лёдзе драўлянымі балдавешкамі, аглушаючы рыбу і, праламаўшы лёд, рукамі вымалі яе з вады, ільдзіністахалодную. Цёплай сонечнай парою ў старыцах, каламуцячы ваду, плеценымі без донца кошыкамі накрывалі лянівых карасёў, лінёў, плотак з чырвонымі плаўнікамі — плоткі надта любілі смактаць сок травы, ад чаго тая ўвесь час варушылася. У карчах, пад карэннем прыбярэжных кустоў, у глыбокіх берагавых норах падчас спёкі рукамі выцягвалі сонную разамлелую рыбу, не зважаючы на нечаканыя і балючыя ўкусы кляшністых ракаў. Шмат рыбы лавілі людзі, але такога вялікага сома яшчэ ніхто не мог злавіць, нават многія старыя паляўнічыя. Што да дзяцей — тыя проста закамянелі, не зводзячы нерухомых вочак з дзіўнага відовішча.

На тварах рыбакоў свяціліся ўсмешкі. Яны былі яшчэ юнакі і не навучыліся хаваць ад людзей сваіх пачуццяў. Як толькі рыбакі апынуліся на стаянцы, падалося, што яны сталі вышэйшымі і страйнейшымі.

Так атрымалася, што Ран, прайшоўшы па вытаптанай траве, падышоў да Маі і толькі тады зняў з плячэй дрэўка дзіды. Тое ж самае зрабіў і высокі Галу. Асцярожна рыбакі палажылі на траву сома — якраз ля ног Маі.

Ран быў малады. Хоць ён і ведаў, што цяпер сом, як і ўсякая здабыча, належыць не яму і нават не Маі, а ўсяму роду, але не змог стрымаць палкіх пачуццяў, якія бурлілі ў ім, і таму гэтым жэстам хацеў паказаць Маі сваю адданасць. Ран і Мая абмяняліся хуткімі агністымі бліскучымі позіркамі. Здаецца, яны зусім забыліся, што за імі назірае род. У гэты час ад Рана і Маі зыходзіла лёгкае чыстае блакітнаватае ззянне, якое ўсе бачылі і якім звычайна свецяцца закаханыя.

Старыя людзі, гледзячы на іх, чамусьці ўсміхаліся. Яны добра ведалі, што Той, які жыў наверсе, нікога не пакрыўдзіў, кожнага надзяліў пароўну: у маладосці ён дае людзям палкія салодкія жаданні, якімі пакутліва спапяляецца цела, але не дае мудрасці, у старасці дае мудрасць, ды забірае немаведама куды салодкія жаданні. Таму толькі і застаецца чалавеку, што ўсклікваць час ад часу: «Калі б маладосць ведала, а старасць магла!..»

Толькі малыя дзеці не бачылі таго, што бачылі старыя людзі. Ачомаўшыся, малыя з крыкамі, падскокваючы ад узбуджанасці, акружылі рыбіну. Адны

зазіралі ў агромністую шырачэзную пашчу, дзе блішчэлі жахлівыя вострыя зубы, другія мералі яе крокамі, каб на ўсё жыццё запамятаць, якія ж агромністыя калісьці, у маленстве, вадзіліся ў Пры рыбы, трэція паказвалі рукамі на рыбакоў і крычалі ў захапленні: «Го-о-о-о, вы — сапраўдныя паляўнічыя!»

Толькі адзін чалавек у гэты час быў хмурны і чымсьці незадаволены. Магутны асілак, які некалі рагацінай адолеў у лесе касалапага і якога з таго часу называлі Сынам мядзведзя, быў цяпер злы. Ён не падышоў ні да рыбіны, ні да шчаслівых паляўнічых, ні да гурту ўзбуджаных людзей. Стоячы воддаль, Сын мядзведзя хмурыў нізкі пляскаты лоб, над якім кучаравіліся чорныя густыя валасы, пакусваў час ад часу вузкія тонкія палоскі вуснаў, якія часта бываюць у злых і помслівых людзей. Не зводзячы маленькіх, блізка пасаджаных ад шырокага пераносся, вочак з Рана і Маі, Сын мядзведзя штосьці абдумваў.

Ён даўно ненавідзеў гэтага настырнага юнака Рана і, калі б не старэйшына Рун, то, знайшоў бы зачэпку, мог бы скалечыць ці забіць Рана. Але Ран увесь час быў акружаны аднагодкамі, якія, бы малькі на мелкаводдзі Пры, жылі сваім шумным вясёлым жыццём, а за спінаю Рана — і гэта Сын мядзведзя ведаў — маячыў старэйшына роду.

Рун з’яўляўся сябрам бацькі Рана. Бацька Рана лічыўся лепшым паляўнічым роду, але мінулай зімою ён быў моцна паранены.

Тады быў вялікі загон. Бацька Рана першым агледзеў у лесе статак прышлых зуброў. Сабраўшы паляўнічых, ён прапанаваў зрабіць вялікае паляванне.

Паляўнічыя атачылі статак зуброў і, хаваючыся за дрэвамі, пагрукваючы па іх палкамі і дзідамі, пачалі памалу падганяць зуброў да высокага абрывістага берага Пры. Там жа, сярод паляўнічых, знаходзіўся і Ран. То быў ягоны першы загон і таму яшчэ нявопытны Ран бег не ўслед за бацькам, а ўсярэдзіне гурту паляўнічых. І ён, Ран, таксама пагрукваў дзідаю па дрэвах.

Напачатку зубры, не надта ўстрывожаныя незразумелым перастукваннем, што неслася да іх здаля, пасунуліся ў той бок, куды іх падганялі. Затым, калі да абрывістага берага было не так ужо і далёка, паляўнічыя загрукацелі мацней. Яны пачалі крычаць, галёкаць і ўсё бліжэй і бліжэй падыходзіць да ўстрывожанага статку.

І зубры пабеглі. Наперадзе — зубрыхі, усярэдзіне статка, як і звычайна, хаваўся маладняк, апошнім бег Галоўны зубр — высачэнны, з магутным гарбатым каркам, з невялікай, але шырокай галавою, над якой тырчалі кароткія вострыя рогі, а ўнізе пад пысаю звешвалася доўгая барада. Галоўны зубр быў стары і вопытны. Як і ўсе зубры, ён бег скокамі, — перавальваючыся з задніх ног на пярэднія, лёгка, без ніякіх намаганняў, нёс над зямлёю сваё грузнае тулава.

Паляўнічыя ведалі — прышлых зуброў трэба як мага болей напалохаць, тады яны і не заўважаць высокага абрыву. Таму цяпер людзі ўжо зусім не хаваліся, беглі ўслед за зубрамі і махалі над галовамі дзідамі. Бацька Рана бег адразу ж за Галоўным зубрам. Як і ўсе, ён гэтаксама крычаў і размахваў дзідай.

Раптам Галоўны зубр запаволіў скокі. Мабыць, калісьці ён бываў у гэтых мясцінах і ведаў, што наперадзе небяспека. Мыкнуўшы, спыніўся і пачаў паварочвацца галавою да паляўнічых. Тут жа, пачуўшы яго мыканне, спыніўся ўвесь статак. Гэтаксама, як і Галоўны зубр, звяры пачалі паварочвацца мордамі да паляўнічых.

Спыніліся і паляўнічыя, не ведаючы, што рабіць.

Толькі бацька Рана не спыніў пагоні, ён ведаў — калі заваліць Галоўнага зубра, тады статак разгубіцца і пад крыкі паляўнічых пабяжыць да абрыву.

Наблізіўшыся да галавы Галоўнага зубра, бацька Рана з усяе сілы кінуў дзіду ў магутнае тулава. Ён цэліў трапіць дзідаю пад пярэднюю лапатку, туды, дзе пульсавала вялікае сэрца, ганяючы кроў па тулаве звера. Магчыма, бацька Рана і параніў бы моцна зубра, ды той у апошняе імгненне апусціў уніз галаву са злямчанай сівой барадою і магутным чэрапам захаваў сабе жыццё. Крэмень дзіды трапіў не ў тулава, а між рагоў, у тоўстую моцную костку. Слізгануўшы па ёй, не нарабіўшы зубру асаблівай шкоды, дзіда зламалася і ўпала на зямлю, дзе ляжалі белыя мятлікі.

Бацька Рана застаўся адзін на адзін з раз'ятраным Галоўным зубрам. Усе паляўнічыя ведаюць, што няма ў лесе больш страшнага звера, чым паранены зубр. Мыкнуўшы, успароўшы пярэднімі нагамі белых мятлікаў, Галоўны зубр кінуўся на бацьку Рана.

У апошняе імгненне бацька Рана не разгубіўся, схаваўся за бліжэйшую маладую танкастволую елку. Раз'ятраны зубр, падчапіўшы рагамі елку, з карэннем вырваў яе з падмерзлай зямлі і разам з бацькам Рана перакінуў цераз спіну. Затым звер, не азірнуўшыся на скалечанае цела чалавека, тут жа панёсся на астатніх паляўнічых. Следам за Галоўным зубрам з грукатам, аж дрыжала скалелая зямля, кінуўся ўвесь статак.

Паляўнічыя пачалі хавацца за тоўстымі камлістымі дрэвамі, і толькі гэта іх ўратавала.

Праз імгненне, калі яны апамяталіся, зубры ўжо зніклі, пакінуўшы пасля сябе белы дым ад мятлікаў. Людзі падбеглі да бацькі Рана. Туды ж, да нерухомага бацькі, падбег і Ран. Угледзеўшы акрываўленыя рэбры, белыя косткі, што выторкваліся з чырвонага мяса, Ран закамянеў і нічога не мог сказаць. Нерухомымі вачыма ён глядзеў на бацьку. Рану стала чагосьці боязна, — так боязна, як яму ніколі яшчэ не было. Рукі і ногі, усё цела прабіралі дрыжыкі. Толькі што, зусім нядаўна, бацька быў побач, мог крычаць і сварыцца на яго, свайго сына, і вось цяпер ён нерухомы...

Вопытны Рун, адразу ж усё зразумеўшы, нахіліўся да галавы бацькі Рана, каб пачуць ягоныя словы.

І ён пачуў:

— Рун, мы з табою разам вучыліся ў Пры плаваць, разам палявалі на звера, у адно лета мы сустрэлі сваіх жонак, у адно лета ў нас паявіліся дзеці. Цяпер, калі я пакідаю гэты свет, прашу цябе — памажы Рану стаць сапраўдным паляўнічым, глядзі, каб яго не крыўдзілі старыя паляўнічыя. Бо несправядлівая крыўда калечыць чалавека болей за ўсё, і, калі боль ад несправядлівых удараў паляўнічых забудзецца, то крыўда ад несправядлівасці застаецца на ўсё жыццё, скалечаным тады становіцца чалавек, сам таго не разумеючы. Прашу цябе, як старэйшыну роду, якому дадзена ўлада — як ні цяжка табе будзе, але не крыўдзі нявінных: ні Рана, ні іншых людзей... Запамятай, Рун, кроў і слёзы нявінных заўсягды адпомсцяць за сябе...

— Абяцаю табе — ён будзе сапраўдным паляўнічым, — прашаптаў Рун. — Я запомню твае словы...

Тады бацька Рана, уцягнуўшы ў апошні раз халаднаватае, настоенае на жыцці паветра, назусім заплюшчыў вочы.

Пахавалі яго на высокім абрывістым беразе Пры, адкуль далёка ўсё бачылася, — і гнуткая шырокая спіна ракі, прыхаваная з берагоў кустамі і дрэвамі, пакрытая зверху льдамі і белым і мятлікамі, і бялюткія ад мятлікаў зарэчныя ціхія лугі, і далёкія, у палец, палоскі блакітных лясоў, якія сутыкаліся з шэрым захмараным небам, дзе вісела чырвонае халоднае Сонца.

У магілу, выкапаную крэмневымі скрабкамі, палажылі ўсё неабходнае, каб Там бацька Рана мог жыць: дзіду, каменную сякеру, крэмневыя скрабкі

і нават невялічкі кубачак з бяросты — для таго, каб ён змог напіцца з падземных гаючых водаў Пры. Затым у зямлю асцярожна палажылі бацьку Рана, — укрылі яго скураю аленя, бо Там было холадна.

І хоць сын ведаў, што калісьці сустрэне бацьку, але дзіўна: у апошні міг, калі паляўнічыя пачалі закідваць яго цела мерзлай зямлёю, Ран нечакана для сябе заплакаў. Дагэтуль ён ні разу не плакаў. Пачуццё страты было такім моцным, што ў яго задрыжалі вусны. І тут жа першыя ў жыцці пачуцці адзіноты і безабароннасці апяклі яго. Дагэтуль, калі бацька быў жывы, Ран адчуваў, што ў любы міг, і днём і ноччу, ён схаваны ад усялякіх бед і непрыемнасцей, бо ў яго ёсць БАЦЬКА, які самы дужэйшы, які ўсё ведае і ўсё ўмее. Ён, БАЦЬКА, быў як тая нябачная сцяна, за якой Рану было спакойна і лёгка жыць. І вось цяпер тая нябачная сцяна абвалілася, і сын разгубіўся перад тым, што яму адкрылася, бо цяпер усё, што ён бачыў, чуў, успрымалася іначай...

Ран ведаў, што паляўнічыя не плачуць, не павінны плакаць, ды не мог стрымаць слёз.

Да яго тады падышоў Рун, палажыў цяжкую руку на галаву і сказаў:

— Не трэба, не трэба... Твой бацька ўсё бачыць і чуе. Ён цябе будзе апекаваць. Свой дух адважнага паляўнічага ён перадасць табе. Перадасць і сваю сілу.

Вось і ўсё...

Колькі разоў, калі ніхто не бачыў, прыбягаў Ран на высокі бераг Пры. Там ён садзіўся ля курганка зямлі і пачынаў шаптаць:

— Ты бачыш, як магутная Пры лёгка разрывае белыя ільды і разносіць іх па заліўных лугах? Ты бачыш, як чародамі вяртаюцца птушкі з далёкіх вандровак, — лапатлівыя качкі, гагатлівыя гусі, як жураўы нясуць нам свае курлыканні, як белыя буслы доўга-доўга, не махаючы крыламі, кружаць у высокім блакіце, выглядаючы месцы для гнёздаў? Ты чуеш, як соладка пахнуць першыя пралескі, як соладка пахнуць бэз і чаромха, як соладка пахне ўсё на зямлі: і лісце на дрэвах, і травы, і кветкі, над якімі з дзумканнем лётаюць пчолкі, як чароўным пахам поўніцца лес, што звініць ад птушыных спеваў, у якім чуецца рытмічнае чамусьці балючае сэрцу ку-ку, ку-ку... Ты чуеш усё гэта? Ты бачыш?..

І тады, калі Ран шаптаў, ён адчуваў, што бацька і сапраўды ўсё бачыць і чуе, ён, бацька, пачуўшы сынаў шэпт, тут жа пачынаў перадаваць яму свой дух, сваю смеласць... І палёгкаю поўніўся Ран, калі з прасветленымі вачыма пакідаў высокі бераг ракі.

Цяпер жа, калі Ран злавіў сома, упэўніўся — бацька не пакінуў яго, перадаў яму свой дух адважнага паляўнічага, і з гэтага часу ён зусім іншымі вачыма глядзеў на людзей, на таго ж Сына мядзведзя. Цяпер Ран нікога не баяўся.

Нечаканая здабыча маладых паляўнічых абрадавала род. Не трэба было ісці на паляванне, людзі заняліся іншым.

Захавальніца агню Вая павінна была асцярожна перанесці агонь з будана ў тое заглыбленне ў цэнтры стаянкі, дзе было выкладзена каменне і дзе звычайна смажылася мяса вялікага звера. Паклаўшы на чорнае каменне белы высахлы мох, ігліцу, галіны, Вая прынесла з будана на палцы агонь і тут жа пачала прыкормліваць яго. Для таго, каб агонь пачаў хутчэй есці новую ежу, Вая, нагнуўшыся да камення, перадавала агню свой дух — лёгенька дзьмухала і дзьмухала на яго.

Нарэшце язычок полымя перабег на мох, ухапіўся за сухую ігліцу і тады ўжо Вая пачала падсоўваць агню большыя палкі і галіны.

Жанчыны пайшлі ў лес збіраць травы і дубовае лісце. Знайшоўся занятак і дзецям — пабеглі па вялікія палкі.

Урачыста сома аблажылі травою, крапівою, лістамі маліны, шчаўем — усім, што звычайна елі і што магло напоўніць сома смакатою. Нават грыбы паклалі людзі ў траву.

Цяпер, калі перад вачыма людзей ляжала вялікая рыбіна, здаецца, яны зусім забыліся пра голад, нават пра паляванне на мядзведзя забыліся. Усе, здаецца, толькі тым і былі занятыя, што пазіралі на кемлівых адважных рыбакоў. Між людзей, павільваючы хвастом, круціўся ваўчок, ведаючы, што хутка і яму перападзе спажыва. І нават шэры кот, унюхаўшы пах рыбы, раз за разам мільгаў у кустах. Праўда, да людзей пакуль не падыходзіў, але далёка ад стаянкі таксама не адбрыдаў. Тут яму заўсёды штосьці перападала: тут бегалі вёрткія мышы, тут у пяску, калі нікога не было, купаліся шумныя дурнаватыя вераб'і, ды і пасля яды людзі спецыяльна штосьці пакідалі для ката. З лесу на бліжэйшую ад стаянкі сасну шухнула трашчотка-сарока. Звесіўшы ўніз дзюбастую галаву, круцячы ёю, то адным, то другім вокам пазіраючы на сома, яна дзелавіта распытвала ў людзей, дзе ж яны знайшлі такую смачную спажыву: «Чачэ-чачэ... Чачэ-чачэ...»

Так атрымалася, што побач з Ранам была пачырванелая, нечым узбуджаная Мая. Знарок ці незнарок, хто ведае, але яе рука дакраналася да яго рукі. Тады Ран уздрыгваў, як ад агню, і гэтаксама чырванеў.

Хто ведае, хто можа сказаць, чаму закаханыя гэтак хочуць дакрануцца адно аднаго рукамі? Не зважаючы ні на людзей, ні на час, цалюткімі днямі, не расплятаючы рук, яны сонна блэндаюць па зямлі, — як нешта адзінае, суцэльнае, непадуладнае ні людзям, ні свету... І глядзяць вакол сябе дзіўнымі замглёнымі вачыма, бо, мабыць, чуюць і бачаць тады штосьці іншае, — што іх яднае і чаго ў звычайным жыцці людзі не бачаць і не чуюць.

О-о, што ёсць каханне?..

Яно, каханне, усіх яднае: і вуркатлівых гуллівых галубоў, якія, галава да галавы, штодня гугукаюцца між сабою, і белых гордых лебедзяў, што аднойчы паруюцца на ўсё жыццё ў нястрымнай радасці, і гордых магутных ласёў, якія дзеля кахання калечаць сябе і сабе падобных, і рыб, якія па вясне, ломячы прыбярэжныя травы, клупцяцца і клупцяцца адна ля адной... Не толькі звяры і птушкі, мурашы і казюркі, але і травы і кусты напоўнены каханнем, — салодкімі пахкімі кветкамі яны вымольваюць пчол і мятлікаў, каб тыя паядналі іх... Усё, усё пранізана каханнем, без якога ніхто жыць не можа...

І хто асмеліцца расказаць пра гэту таямніцу?..

Асілак Сын мядзведзя ўсё гэтак, як і дагэтуль, злосна касавурыўся на шчаслівых рыбакоў, на ўзбуджаную Маю. Ён пакусваў вусны. Штосьці задумаў, гэта людзі разумелі, але што?

Сына мядзведзя ў родзе не надта любілі. Ні з таго ні з сяго ён мог зазлаваць і тады ніхто, апроч Руна і ягонай жонкі, не мог яго суцішыць. Яго аббягаў нават бязвінны ваўчок — неяк людзі бачылі, як Сын мядзведзя без прычыны нечакана нагою шпурнуў ваўчка ад сябе. Той ударыўся аб сасну і пакутліва заскуголіў. Пасля гэтага ваўчок аббягаў Сына мядзведзя і, як толькі яго бачыў, шчэрыў зубкі, шыпеў злосна, а то і гыркаў, не зводзячы вочак з яго. Сын мядзведзя тут жа хапаўся за палку, каб прыбіць ці змусіць ваўчка замоўкнуць, але той, адбегшы, шчэрыў зубкі. Людзі глядзелі на сутычкі ваўчка і Сына мядзведзя і пасміхаліся. Пасміхаліся, канечне ж, з гэтага асілка, які нічога не мог парабіць з маленькім ваўчком.

Урэшце Сын мядзведзя штосьці надумаў — пайшоў у будан, дзе ляжалі дзіды і сякеры, узяў каменную сякеру і знік у гушчары лесу.

Людзі моўчкі глядзелі яму ўслед — на ягоную магутную валасатую спіну, на тоўстыя калодзістыя рукі і ногі, на калматыя немаведама калі мытыя вала-

сы, што грываю спадалі на шырокія, трохі сутулыя, плечы. Пасля таго, як Сын мядзведзя знік у гушчары, людзі неяк разам вальней уздыхнулі, як гэта бывае, калі ад іх сыходзіць нечым нялюбы па духу чалавек. Сын мядзведзя не любіў і не разумеў жартаў, а гэта для людзей роду многае азначала, бо калі чалавек не любіць жартаў, то яго трэба асцерагацца.

Хутка з лесу пачуўся стук каменнай сякеры, трэск ламачча.

— Рун, навошта Сын мядзведзя без прычыны палохае звяроў і птушак? Чаму ты, Рун, не спыніў яго? — спытаў хтосьці з паляўнічых.

Рун нічога не адказаў. Ён толькі моўчкі глядзеў у той бок, адкуль чуўся ляскат каменнай сякеры. Рун быў заклапочаны, ён штосьці абдумваў — гэта ўсе бачылі.

Людзі ведалі, што Рун — стары паляўнічы, ведалі, калі ён скалечыцца на паляванні, то Сын мядзведзя тут жа на сходзе роду запатрабуе, каб яго абралі старэйшынаю. І гэта адных палохала, другіх насцярожвала, некаторыя — былі і такія — ужо цяпер лісліва заглядвалі ў вочкі Сыну мядзведзя.

У апошні час нешта нядобрае тварылася ў родзе. Паляўнічыя хадзілі на паляванне, лавілі ў Пры рыбу, жанчыны збіралі ў лесе грыбы, ягады, травы і карэнне, якія патрэбны былі сцюдзёнай парою — усё, здавалася, ішло звыклым парадкам, а між тым нядобрая трывога пранізвала, здавалася, што гэтая трывога лунае ў паветры. І зыходзіла яна ад Сына мядзведзя. Настырна і надта пільна ён глядзеў у вочы кожнаму чалавеку. Ад ягонага бліскучага чорнага позірку людзі адчувалі сябе ніякавата — і вінаватымі невядома за што. Усё часцей, не пытаючыся дазволу ў Руна, ні з кім не раячыся, Сын мядзведзя сыходзіў у лес, а то яшчэ, як гэта часта робяць некаторыя людзі, рабіў выгляд, што не чуе, калі да яго хтосьці звяртаецца з просьбаю. «Аа — аа, што ты кажаш? Паўтары, я не чую», — казаў ён і яшчэ далонь прыкладваў да вуха. І прыніжаны чалавек, ведаючы, што Сын мядзведзя ўсё добра чуе, змушаны быў ці замаўкаць, ці паўтараць сваю просьбу...

Го-о-о-о, як лёгка можна скалечыць і прынізіць чалавека! Не трэба біць яго, не трэба голадам марыць, не трэба... Можна ўсяго толькі сказаць адно адзінае слоўца, можна зрабіць выгляд, што не заўважаеш позірку змучаных стомленых вачэй, можна проста адвярнуцца ад яго і — усё, ты — уладар, а ён — прыніжаны...

Але ці доўга ты будзеш цешыцца шчасцем сваім? Бо тут жа хваля крыўды пакрыўджанага пачне захліставаць цябе і, калі не адразу, дык потым адчуеш сябе прыніжаным перад нечым грозным і непазбежным, што некалі абавязкова спасцігне цябе і што зыходзіць не ад чалавека, — яно, тое грознае і непазбежнае, нікому з жывых непадуладнае і аточвае душу пакутлівым маўклівым колам адзіноты. І тады ўжо — жах непазбежнай расплаты ахоплівае чалавека...

Нарэшце, калі агонь нагрэў каменне, Вая перастала яго карміць. На гарачае каменне паляўнічыя палажылі дубовае сырое лісце, а на яго абкладзенага травамі і грыбамі сома. Зверху, каб ён лепей засмажыўся, яго ўкрылі дубовым лісцем.

Хутка па стаянцы разнёсся салодкі пах. Тады паляўнічыя дзідамі асцярожна перавярнулі рыбіну на другі бок. Навокал соладка пахла, што асцярожны шэры кот не вытрымаў, высунуўся з кустоў і, аблізваючы маленькім чырвоным язычком доўгія вусы, намякнуў людзям: «Мяя-ааў!..» Людзі, гледзячы на ката, усміхаліся.

У гэты час з гушчару высунуўся Сын мядзведзя. У адной руцэ ён трымаў каменную сякеру, а ў другой вялізную дубовую дубіну. Ён падышоў да Руна і глуха прабубнеў:

— Я зрабіў новую дубіну.

Мабыць, Сын мядзведзя чакаў воклічаў захаплення, якія тут нядаўна чуліся. Але маўчалі людзі. Дубіна была такая вялікая і цяжкая, што толькі Сын мядзведзя мог цягаць яе з сабою. Рун агледзеў дубіну. Ён нават аберуч патрымаў яе. А затым, каб супакоіць Сына мядзведзя, сказаў:

— Добрая дубіна. Я скажу паляўнічым, каб яны яе не чапалі. Яна будзе тваёй. Толькі трэба, каб дубіну апаліла Сонца. Тады яна стане лёгкай. І яшчэ трэба, каб агонь даў ёй сваю сілу.

Сын Мядзведзя палажыў дубіну навідавоку перад уваходам у будан і горда агледзеў род, чакаючы слоў калі не захаплення, то хоць бы ўдзячнасці. Але зноўку — ніхто ні слова не сказаў, нават малыя дзеці і тыя блізка не падыходзілі да Сына мядзведзя. А яны — і гэта ўсім вядома — без слоў ведаюць, хто перад імі; добры чалавек ці злы. І ўвогуле любоў людскую, як і каханне, ніякай сілаю, а тым больш дубінаю, не заслужыш, тут штосьці іншае патрэбна...

Нарэшце паляўнічыя дасталі з ямкі засмажанага сома і паклалі яго на чыстую траву, куды звычайна клалі смажаніну.

Крэмневым скрабком Рун адломваў кавалкі смажанай рыбіны і раздаваў супляменнікам. Першыя кавалкі сома ён даў дзецям, пасля — жанчынам, прадаўжальніцам роду. За імі елі старыя паляўнічыя, скалечаная Вая. Апошнімі — тыя, хто здабыў і сам Рун.

Людзі елі смакату і час ад часу пазіралі то на Руна, то на Сына мядзведзя. Яны ведалі, — калі той стане старэйшынаю, то напачатку ля спажывы будзе ён, за ім — паляўнічыя, а потым ужо — жанчыны, дзеці, старыя і ўсе тыя нямоглыя, хто не можа пастаяць за сябе.

Мабыць, людзі якраз і адрозніваліся ад ваўкоў тым, што спазналі закон Таго ўсемагутнага, які жыў наверсе: памажы слабейшаму — і табе ўсё вернецца...

Сом быў з’едзены. Людзі, канечне ж, не забыліся на ката, Мая аднесла яму ў кусты частку плаўніка. Калі косткі рыбіны былі перанесены ў будан, а навокал усё чыста прыбрана, Рун сказаў:

— Сягоння ў нас будзе сход. І на гэтым сходзе мы будзем гаварыць...

Нечакана для ўсіх падняўся з травы Сын мядзведзя і, перабіваючы Руна — чаго дагэтуль ніхто ніколі не рабіў — прагудзеў:

— Сягоння будзе гаварыць Сын мядзведзя. Сын мядзведзя хоча сказаць, што яму патрэбна жонка. І жонкаю ягонай будзе Мая.

Людзі прыціхлі. Усе глядзелі то на натапыранага Сына мядзведзя, то на Руна.

Словы Сына мядзведзя былі настолькі нечаканымі для Руна, што ў яго перахапіла дыханне... Ён цяпер нічога не мог вымавіць перасохлымі вуснамі. Рун не мог адмовіць Сыну мядзведзя ў ягоным жаданні мець за жонку Маю — адзіную пястуху дачку.

Ран збялеў. Сам не заўважыў, як падняўся з травы, на якой дагэтуль сядзеў побач з Маяй. Хуткім позіркам ён акінуў стаянку, шукаючы паляўнічую дзіду. Але дзіда, якой палявалі нядаўна на сома, цяпер ляжала ў будане. Тады яму кінулася ў вочы таўшчэзная толькі што выламаная ў лесе сырая дубіна, што грэлася на Сонцы перад уваходам у будан. Да той дубіны — гэта Ран ведаў — ён мог дамчаць першым і тады ўжо, ухапіўшы дубіну... Пальцы Рана міжвольна сціснуліся ў кулакі. Нерухомым позіркам ён упіўся ў чорныя маленькія вочкі Сына мядзведзя. Цяпер яны былі паяднаныя нябачнай, але рэальнай сілаю ўзаемнай нянавісці.

Не толькі каханне, але і нянавісць уладарыць над людзьмі. І як часта людзі, паяднаныя нянавісцю, не могуць адступіцца адно ад аднаго, — гадамі

пакутуюць, наліваючыся злосцю і адчаем і ўсё ж, як ні дзіўна, яны ніяк не могуць парваць няўлоўную повязь, назва якой — нянавісць. Яна можа быць моцнай, можа быць слабейшай, і многім людзям надта ўжо неабходная, бо без яе яны тут жа чахнуць, як часта чахне чалавек без кахання.

І каханне, і нянавісць увесь час існуюць на зямлі, яны жывуць сярод людзей па сваіх нікому невядомых, невытлумачальных законах, прыносячы ім як шчасце, так і гора. І шкада тых людзей, якія трапляюць пад уладу гэтых пачуццяў, — усясільныя, каханне і нянавісць штурхаюць іх на здраду, на забойства і самазабойства. Тым, хто ні разу не адчуваў кахання, нянавісці, здаецца дзіўным усё тое невытлумачальнае, што творыцца сярод людзей.

Гаротныя, неразумныя, яны не ведаюць, часта нават і не здагадваюцца, хто ж імі ўладарыць...

Побач з Ранам стаяла пабялелая спалоханая Мая — ведала, што зараз, праз імгненне, вырашыцца яе лёс, і тады ўжо ўсе далейшыя дні будуць напоўнены ці радасцю, ці глухім адчаем.

Усё вырашалі імгненні. Нават дзеці прыціхлі...

Дзеці першымі адчулі, што над родам пачала навісаць Бяда. Яна, Бяда, гэтаксама, як каханне, як нянавісць увесь час кружыць над людзьмі, шукаючы спажыву. Нябачная, яна высочвае людскія крыўды, людскую зайздрасць і, насыціўшыся імі, неспадзявана, калі людзі радуюцца і весяляцца, абрыньваецца на ўсіх скопам, вінаватых і невінаватых. Разгубленыя, напалоханыя яе грознаю сілаю, яны тут жа пачынаюць шукаць прычыны свайго гора. Напачатку ім здаецца, што яны справяцца са сваім горам... Але потым людзі са здзіўленнем разумеюць, што прычын гэтых — безліч, урэшце ім толькі і застаецца — змірыцца, што ва ўсім вінавата нябачная, але рэальная Бяда. І ўладарыць тады яна над разгубленымі людзьмі, гаротныя, яны плачуць, забіваюць і калечаць адно аднаго і, самі не ведаючы — чаму, мітусліва кідаюцца па зямлі, імкнучыся спасцігнуць, адкуль і чаму сярод іх паявілася гэтулькі гора. І ўрэшце, адкінуўшы ўсе прычыны і ўсе тлумачэнні, людзі пачынаюць разумець, што Бяда ім непадуладная, і тады з іх вуснаў са стогнам вырываецца: «Бяда, Бяда прыйшла...»

А Бяда, як вядома, адна не прыходзіць, з сабою дзвюх ці трох прыводзіць…

Потым ужо, наздзекаваўшыся ўдосталь над людзьмі, насмакаваўшыся слёз і крыві, яна адступаецца ад слабых і зноўку пачынае чакаць свайго часу, калі ж *ягонае* кодла пакліча яе...

У цішыні пачулася туктуканне дзятла. Яно даносілася з лесу: тук-тук, тук-тук-тук... Рану падалося, што сваім туктуканнем дзяцел выразна гаварыў: «Так-так, так-так... Так і будзе, Сын мядзведзя стане мужам Маі. Так і будзе, як ён захацеў. І нічога ты не зробіш. Так-так, так-так...»

Гледзячы на Рана і на Сына мядзведзя людзі адчувалі — зараз на стаянцы праліецца кроў. Ні Ран, ні Сын мядзведзя не маглі адмовіцца ад свайго шчасця. І якое Рун цяпер ні прыме рашэнне, яно не магло супакоіць і прымірыць Рана і Сына мядзведзя. А між тым Рун павінен быў сказаць сваё Слова.

Ці ведаюць, ці здагадваюцца людзі пра сапраўдную сілу Слова? Мо і праўда, што напачатку было Слова? Яно мірыць людзей, яно суцяшае іх, з-за яго пачынаюцца бойкі і ліецца кроў. Слова мае сваю моц, бо, зыходзячы з чалавека, яно насычаецца яго духам. Слова і дух чалавека паяднаны між сабою і асцярожна, ой, як асцярожна, трэба ім карыстацца!..

Нечакана для людзей, паднялася з травы жонка Руна. Стоячы побач з мужам, спакойна гледзячы ў бліскучыя вочы Сына мядзведзя, яна загаварыла роўным ціхім голасам:

— Сёння я хачу гаварыць. Калісьці род хацеў абраць мяне старэйшынай, але я адмовілася ад гэтага і папрасіла, каб старэйшынай роду абралі майго мужа. Сёння, калі вырашаецца лёс маёй дачкі, я хачу гаварыць. Я скажу так: ты, Сын мядзведзя, можаш забраць за жонку маю адзіную дачку. Мы не можам парушаць закон роду.

Жонка Руна на нейкі час заціхла. Пачуўшы гэтыя словы, Сын мядзведзя падняў угору рукі і ад шчасця радасна засмяяўся. Ён тут жа ўявіў, што ўжо сёння вечарам ляжа спаць у будане побач з Маяй. Сын мядзведзя быў шчаслівы. Пачуўшы словы жонкі старэйшыны роду, ён адчуў, што ў ім немаведама куды падзеліся злосць і нянавісць.

Ран не верыў пачутаму. Ён закамянеў. Міжвольна да ягонай рукі пацягнуліся халодныя льдзіністыя пальцы Маі. Адчуўшы гэты холад, Ран зразумеў: ніхто і нішто не разлучыць яго з каханай, адзінае, што магло іх раз’яднаць — халоднае забыццё і доўгі шлях Туды, адкуль ніхто не вяртаецца.

Памаўчаўшы, па-ранейшаму спакойна гледзячы ў вочы Сына мядзведзя, жонка Руна гаварыла зноў:

— Я не закончыла, Сын мядзведзя. Апроч цябе маю дачку кахае малады паляўнічы Ран. Яны разам выраслі, разам некалі бегалі да Пры, дзе вучыліся плаваць, разам хадзілі ў лес. Іхняе чыстае каханне бачыць увесь род. Сёння, калі Ран з сябрамі злавіў вялікага сома, ён даказаў нам, што стаў сапраўдным паляўнічым. Па лоўкасці ён цяпер нічым не саступае табе, Сын мядзведзя. І таму скажу так: Ран таксама можа стаць мужам Маі.

— Тады будзем біцца! — імгненна выгукнуў Сын мядзведзя і сціснуў кулакі. Цела ягонае зноўку напоўнілася злосцю і нянавісцю.

— Не, Сын мядзведзя, мы — не звяры, мы — людзі, у нас ёсць закон роду, які аберагае нас ад боек і забойстваў. Мы павінны яго выконваць. Ніхто не можа парушаць закон роду, ні я, ні ты, ні старэйшына Рун. Усе мы роўныя перад гэтым законам. Нам не трэба, каб у родзе загінуў адзін паляўнічы. Сёння на сходзе Рун хацеў сказаць пра іншае, не пра лёс Маі, не пра твой лёс, Сын мядзведзя. Рун хацеў сказаць, што ў нас заканчваецца крэмень. Хутка дрэвы паснуць, травы пахаваюцца ў зямлю, і Той, які жыве наверсе, напусціць на зямлю белых мятлікаў. Тады нам вельмі спатрэбіцца крэмень. Без яго паляўнічыя не могуць здабываць мяса.

— Я пайду і прынясу крэмень, — зноўку выгукнуў Сын мядзведзя. — І тады Мая стане маёй жонкаю.

— Не, Сын мядзведзя, ты не пойдзеш па крэмень. І я зараз скажу, чаму ты не зможаш пайсці па крэмень. Ты дужы паляўнічы, і мы цябе паважаем. Ты аберагаеш нас ад звяроў, разам з іншымі ты прыносіш нам ежу. Без цябе паляўнічым будзе цяжка здабываць звера. Ты, Сын мядзведзя, не ведаеш, дзе ляжыць крэмень. Дарогу туды ведае Ран, які некалі разам з бацькам хадзіў па крэмень. І таму я закончу так. Калі Ран зможа прынесці гэты камень, тады Мая сама будзе выбіраць сабе мужа. Бо вы абодва роўныя. Калі ж Ран не прынясе крэмень, то яе мужам станеш ты, дужы Сын мядзведзя. Так і будзе. І род гэтаму сведка. Ран, ты зможаш пайсці па крэмень?

— Так, — ледзь чутна прашаптаў Ран адзеравянелымі вуснамі. Яму не верылася ў пачутае.

Толькі цяпер, як гэта часта бывае ў жыцці, Сын мядзведзя зразумеў — ён размінуўся са сваім шчасцем. Толькі што ён быў шчаслівы, толькі што... Жонка Руна ўсё зрабіла, каб адабраць у яго Маю. Ён яшчэ не ведаў, як гэта ёй удалося, ён толькі адчуваў боль і крыўду. Але на каго яму было крыўдаваць? Закон роду ніхто не парушыў. Яго, як дужага паляўнічага, ніхто не пакрыўдзіў, яго нават пахвалілі прылюдна... Яму нават паабяцалі шчасце, і ён змушаны

чакаць яго. Праўда, была надзея, што нявопытны Рун загіне ў дарозе і не прынясе крэмень. Але надзея — усяго толькі надзея, а рэальная жывая Мая пакуль недасяжная.

Ад бяссілля перад нечым яму неадольным Сын мядзведзя застагнаў. Ён тут жа павярнуўся да людзей спінаю і, паказаўшы ім чорнае валоссе, падаўся ў лес...

Людзі маўчалі. Людзі яшчэ не верылі, што жонка Руна Словам адагнала ад роду Бяду. А потым яны загаварылі, перабіваючы адзін аднаго:

— Яна мудрая, маці Маі.

— Нам не трэба, каб Ран і Сын мядзведзя біліся між сабою.

— Хай і Мая скажа сваё слова. Яна — прадаўжальніца роду.

— Ран, з кім ты пойдзеш па крэмень? — аднекуль зверху, дзе жыў Той, які назіраў за парадкам, данёсся да Рана голас старэйшыны роду.

Моўчкі побач з Ранам паявіліся Му і Галу. Яны былі розныя. Галу — высокі плячысты падлетак. У яго былі яшчэ па-юначы тонкія рукі і ногі, але вопытныя паляўнічыя, гледзячы на яго спрактыкаваным вокам, ведалі, што пасля зімы цела Галу наліецца мужчынскай сілаю, і тады ўжо ён нічым не будзе саступаць Сыну мядзведзя. Му быў ніжэйшы за Рана, але сваёй вёрткасцю ён нікому з паляўнычых не саступаў ужо цяпер. Ягонае невялічкае цела было мяккім, як у ката. І гэткім жа, як у ката, яно было хуткім і вёрткім.

Трое паляўнічых стаялі перад людзьмі, і ўвесь род, гледзячы на іх, усміхаўся. Людзі разумелі — род не загіне, бо старым паляўнічым падрасла добрая змена.

**3**

Старэйшына роду падышоў да Рана і сказаў:

— Я некалі знарок адправіў цябе з бацькам. Я хацеў, каб і ты, будучы паляўнічы, ведаў, дзе ляжыць крэмень. Цяпер жа пойдзем да будана. Вам трэба ўзяць зброю і ўсё неабходнае, каб выжыць падчас вандроўкі. Бо дарога доўгая і цяжкая.

У будане старэйшына выбраў каменную сякеру, дзіду і дубіну, — не тую цяжкую, якую нядаўна прывалок з лесу Сын мядзведзя, а лёгкую, ёмкую, ручка якой была адшліфавана вострым крэменем і рукамі паляўнічых. На заканчэнні ручкі мелася пашырэнне, пры ўдары яно ўтрымлівала дубіну ў руцэ, і тады яна не выслізгвала з пальцаў.

— Гэтай дубінаю часта карыстаўся твой бацька, — сказаў Рун, — беражы яе.

Род ведаў, што здабыча крэменю — вялікая рызыка, таму цяпер усе хацелі хоць чым, ды памагчы маладым паляўнічым.

Захавальніца агню Вая адвяла Рана ад людзей і паказала, як трэба церці палачкі адна аб адну, каб перадаваць агню свой дух. Пад націскам дужых рук Рана палачкі крышыліся, і агонь не хацеў паказвацца людзям. Яны, Ран і Вая, па чарзе перадавалі свой дух сухому пачарнеламу дрэву і, нарэшце першыя жарынкі ўспыхнулі, — яны нечым нагадвалі вочы Таго ўсемагутнага, які жыў наверсе. Ран і Вая радасна ўсміхнуліся, зірнуўшы адно аднаму ў вочы. І тут ён нечакана са здзіўленнем убачыў, што Вая — яшчэ маладая дзяўчына, яна, можа, усяго на некалькі зім старэйшая за Маю. Вая па-свойму была прыгожая, бо на яе твары была разліта дабрыня, якая выспела ў яе душы пакутлівымі начамі, тая дабрыня, якой ніколі не ўбачыш на тварах спешчаных людзей. Калі б не злая рысь, то цяпер у Ваі быў бы муж, дзеці, якія сваім крыклівым цяплом кожны вечар саграваlі б яе. І што цяпер думала Вая, калі начамі глядзела на агонь? Што яна адчувала?..

Яны без слоў зразумелі адно аднаго. Штосьці бліскучае, як раса, паявілася ў Ваіных вачах, і яна тут жа, чагосьці саромеючыся, пачала выціраць скалечанай рукою тое бліскучае. Затым неяк надта спяшаючыся, Вая паклала ў лазовы кошык высахлы мох, абвугленыя чорныя палачкі, якія хавалі агонь.

Непрыкметна да Рана падышла Мая з кошыкам у руках. У ім горкаю ляжалі лушчаныя арэхі.

— Я сама збірала, — шапнула Мая, перадаючы кошык Рану. І зноўку, як і раней, салодкае пачуццё еднасці з Маяй апякло яго, падалося, што ён і Мая — адно цэлае...

Нарэшце настаў час развітання. Людзі чамусьці журыліся, бо ўсе яны, а не толькі заплаканая Мая, ведалі, што паляўнічыя могуць вярнуцца, а могуць і не вярнуцца.

Што ёсць развітанне? Мо ўсё жыццё наша, кожны пражыты міг не што іншае, як яно?.. Ці не таму ў юныя гады, калі востра адчуваецца смак жыцця, калі цела поўніцца няпэўнымі жаданнямі, маладыя людзі часта беспрычынна плачуць і сумуюць, адчуваючы, як з кожным мігам і ў свеце, і ў іх саміх штосьці адмірае, навечна адыходзіць?

Што адмірае?..

Куды сыходзяць палкія пякучыя жаданні?..

Паляўнічыя пайшлі супроць цячэння Пры. Ран памятаў, што бацька вёў яго па беразе ў той бок, адкуль кожную раніцу паказвалася Сонца.

Бераг ракі быў розны. Траплялiся мясціны нізкія, зараслы лазовымі кустамі, чаротам, вострай асакою, пад нагамі хлюпала чорная вада, і ногі вязлі ў чорнай твані. А былі мясціны з высокімі пагоркамі, узабраўшыся на якія, паляўнічыя, бы на далоні, бачылі далёкія хвалістыя лясы, зарэчныя лугі, на якіх пасвіліся маманты, прабягалі з узлеску да ўзлеску ласі, горда несучы на галовах галіністыя рогі, пасвіліся коні з доўгімі хвастамі і гэткімі ж доўгімі грывамі. І над усімі звярамі віліся птушкі, якія збіралі з іх машкару, чарвякоў — птушкі чысцілі звяроў... Ран ведаў, што недзе там, у лугах і лясах, насіліся зграямі ваўкі, блэндалі магутныя мядзведзі, па дрэвах бегалі ўніз-угору вёрткія вавёркі, за імі палявалі гнуткія і доўгія куніцы, птушкі там жылі і пладзіліся. І тады, калі Ран звысоку глядзеў на наваколле, цела ягонае поўнілася сцішанасцю, яму хацелася спазнаць штосьці...

Агледзеўшы далейшую дарогу, паляўнічыя спускаліся з пагорка і сцежкамі, пратаптанымі звярамі, ішлі далей, узбоч берага Пры. Час ад часу яны скарачалі дарогу — у тых мясцінах, дзе рака рабіла вялікі паварот.

Сонца стамілася і пачало хіліцца да лесу, за якім яно кожны раз адпачывала. Той, у якога было мноства вачэй, рыхтаваўся аглядаць свае ўладанні.

Начаваць паляўнічыя вырашылі пад высокім маладым дубам, які стаяў на лузе недалёка ад лесу. Як і многія дубы, гэты таксама любіў прыволле і адзіноту. Месца тут, пад ім, было добрым яшчэ і таму, што слабым ветрыкам зносіла куслівых камароў да лесу. Ды і зверу дабрацца сюды непрыкметным было цяжка.

Пасля сытнага абеду на стаянцы есці паляўнічыя пакуль не хацелі, балазе дарогаю, калі ішлі па лесе, яны на хаду збіралі кіславатыя чарніцы, маліну на ўзлеску, шчаўе, якое расло ў балацяністых мясцінах. Нават арэхі траплялiся ім, але арэхі былі яшчэ няспелымі.

Набраўшы ў лесе зялёных мяккіх галінак, уклаўшы іх на зямлю пад дубам, паляўнічыя ўлегліся. Му і Галу хутка засаплі, а Ран ніяк не мог заснуць. Пакуль што ён не адчуваў стомы. За адзін дзень было столькі ўражанняў і змен: сом, які ледзьве не зацягнуў іх у свой свет, сход, словы Сына

мядзведзя, і вось цяпер ён, Ран, як сапраўдны паляўнічы, павінен адказваць за жыццё сяброў...

Сонца схавалася. Перагарэлі лёгкія малінавыя аблокі ў тым баку, дзе яно пайшло на адпачынак. Угары спачатку ўсё налілося сінечаю, а потым там пачалі паказвацца вочы Таго ўсемагутнага, які жыў наверсе і які назіраў за парадкам на зямлі.

Гледзячы ў ягоныя міготкія вочы, Ран спрабаваў уявіць Таго ўсемагутнага. Мабыць, ён быў вялікі-вялікі, бо мог грукацець угары каменнем. Мог, раззлаваўшыся, ірваць неба і кідаць на зямлю белыя жахлівыя дзіды. Таксама мог паліваць яе кроплямі вады. Ён валодаў вятрамі, якія то саграваЛі зямлю, то сцюдзёнелі — ён многае што мог... Днём, калі Той усемагутны заплюшчваў вочы, ён ператвараўся ў розных звяроў, якія адно за адным плылі і плылі ў чыстым блакіце. Ягоны памочнік Сонца паказвала, якім ён мог быць: і вялізным, на паўнеба, мядзведзем, і мамантам, і зубрам... Адно за адным плылі звяры ў чыстым блакіце, ім не было ні канца ні краю, мядзведзі станавіліся мамантамі, зубры рагацістымі аленямі. Там трапляліся і такія звяры, якіх Ран ніколі не сустракаў, мабыць, яны жылі далёка-далёка за лесам, у тым баку, куды адыходзіла штодня Сонца.

Ён, Той, які цяпер аглядаў свае ўладанні, быў не толькі магутны, але і мудры.

Ён уладарыў дрэвамі, якія цяпер сцішана спалі, а днём, раскатурханыя вятрамі, гаварылі між сабою. Найбольш балбатлівыя з іх палахлівыя асіны і бярозы з доўгім веццем. Гамоняць стромкія высокія сосны ў лесе, — ківаючы вяршынямі, шушукаюцца і шушукаюцца між сабою, бывае, што, захварэўшы, жаляцца скрыпучымі галасамі, і тады, пачуўшы жальбу, да іх прылятаюць дзятлы і вострымі дзюбамі дастаюць з-пад кары жукоў-караедаў. Гамоняць нават маўчуны дубы.

У дрэў маецца кроў, якую людзі называюць сокам. Як і травы, кусты, той сок дрэвы бяруць з зямлі. У бяроз і клёнаў ён салодкі, па вясне ўвесь род збірае яго ў гліняныя збанкі. У сосен і елак сок густы і ліпкі. Дрэвам, як і людзям, і звярам, і птушкам баляць раны. Калі параніцца дрэва, то сокам яно загойвае сваю рану. У сосен і елак сок жаўтаваты і ліпкі, зацягваючы рану, ён тут жа цвярдзее. Людзі ведаюць пра гаючую сілу соку — збіраюць яго і, прыкладаючы да хворага цела, лечацца.

Ён, Той усемагутны, уладарыў травамі. Сцюдзёнай пароюю, калі зямлю ўкрываюць белыя мятлікі, травы хаваюцца ў зямлю, дзе спяць да самай вясны, як спяць у бярлогах мядзведзі і барсукі. Потым травы прачынаюцца і, сагрэтыя Сонцам, красуюць адна перад адной. Упрыгожыўшы сябе пахкімі кветкамі, яны адразу ж пачынаюць частаваць салодкім сокам птушак, пчолак, чмялёў, мятлікаў, без якіх ніяк не могуць абысціся, бо тыя разносяць іх насенне.

Які ж ён мудры Той, хто жыве наверсе!

Усе яны — і травы, і дрэвы, і ледзь бачныя казюркі, і птушкі, і звяры адно аднаго ведаюць...

І як жа Яму ўдаецца ўсіх паяднаць і ўсіх прымірыць?..

Непрыкметна Ран заснуў. Снілася стаянка. Ён бачыў безабаронную Маю і побач, недалёка ад яе, высіўся Сын мядзведзя. Чамусьці ён трымаў у руцэ дубовую дубіну. Рану стала боязна, што Сын мядзведзя, парушыўшы закон роду, не паслухаўшыся ні старэйшыны, ні ягонай жонкі, сілаю забярэ Маю.

З гэтым пачуццём трывогі Ран і прачнуўся.

Сонца вісела над мокрымі задымленымі кустамі — у тым баку, дзе цякла Пры. Высокая густая трава з высахлымі сцяблінамі таксама была мокрай ад расы.

Пачыналася тая пара, калі днём на гэтых сцяблінах маленькія павучкі вывешвалі бязважкія белыя павуцінкі, а затым, трымаючыся за іх, падхопленыя мяккім ветрыкам, выпраўляліся ў свае вандроўкі. Ран ведаў, што хутка сцюдзёныя вятры пачнуць абрываць лісце на кустах і дрэвах, зверху пасыпяцца частыя кропелькі вады, і тады, прамытая імі Пры, нечакана стане празрыстай. У нізкім захмараным небе чародамі паляцяць у адзін і той жа бок птушкі, — першымі нябачна знікнуць імклівыя ластаўкі, за імі з шумам паляцяць шпакі і іншая драбяза, затым панясуцца шумлівыя гагатлівыя гусі, услед за імі пачнуць клініцца ў высокім небе буслы, лебедзі і апошнімі закурлыкаюць свае сумныя песні жураўы: курлы-курлы, курлы-курлы... Мабыць, ім надта цяжка развітвацца з гэтым някідкім утульным краем, дзе яны маглі спакойна гадаваць сваіх дзетак... Дзень за днём вятры будуць станавіцца ўсё халаднейшымі, і тады ўжо, калі зямля закамянее, аднойчы ноччу, каб ніхто не бачыў, Той, які жыве наверсе, выпусціць белых мятлікаў. Паволі, па адным, яны будуць кружыць і кружыць у халаднаватым, вымытым паветры і ўсё ніяк не асмеляцца падаць на шэрую стылую зямлю, некаторыя нават і ўгору паспрабуюць падняцца...

А раніцай, калі людзі выйдуць з буданоў, яны ўбачаць новую зямлю. І дзеці, нацягнуўшы на ногі лапці з мяккімі цёплымі скурамі, тут жа выскачаць з будана, закрычаць, загалёкаюць, коўзаючыся па белых мятліках. І ніякай сілаю малых нельга будзе утрымаць ля буданоў, — панясуцца да Пры, дзе ля берага будзе блішчэць гладкі лёд. І ўслед за імі да ракі пасунуцца паляўнічыя з даўбешкамі, каб злавіць першую рыбіну.

Яны пачнуць ставіць петлі на сцежках, — цяпер ім стане лягчэй паляваць на звера, па слядах яго будзе лёгка высачыць.

А вечарам настылыя на холадзе паляўнічыя вернуцца да буданоў. Там Вая будзе смажыць на агні смачнае мяса. Утульна будзе паляўнічым ля агню, дзе яны змогуць сушыць скуры і лапці. Да іх стануць лашчыцца дзеці, і жанчыны ўвесь час будуць пільна пазіраць на сваіх абаронцаў. І тады, ля агню, людзі адчуюць салодкую нябачную еднасць, якую ўвесь час адчуваюць мурашы, пчолкі, назва якой — род. Зноўку і зноўку людзі зразумеюць, што без гэтага пачуцця еднасці ім ніколі, ні цяпер, ні ў будучым, не выжыць...

Але ўсё гэта будзе наперадзе. А цяпер?..

Нечакана ў лесе пачуўся незразумелы трэск. Нехта вялікі і дужы ламаў кусты. Яны трашчалі ўсё мацней і мацней. Ран, раскатурхаўшы сяброў, ускочыў на ногі і пачаў узірацца ў той бок, адкуль даносіўся трэск.

З ламачча высунулася агромністая галава, пакрытая бурай доўгай поўсцю. Вялізны гнуткі нос, які целяпаўся ля самай зямлі паміж пярэдніх ног, невялічкія лапчастыя вушы, якія ўвесь час варушыліся, агромністае, большае за зубра, тулава — усё было пакрыта поўсцю. Наперадзе з-пад носа выторкваліся загнутыя ўгору белыя біўні.

Гэта быў мамант.

Імгненне звер стаяў на ўскрайку лесу і вадзіў у паветры гнуткім носам. Ён нюхаў паветра. Нешта яго трывожыла. Затым, падняўшы ўгору гнуткі нос, мамант гучна-гучна затрубіў. «Рр-гру-ууу, рр-груууу!..» — разнеслася над ціхай травою. З бліжэйшага кустоўя выпырхнулі дзве дагэтуль нябачныя качкі. Лапочучы крыламі, яны зрабілі круг над ім і, угледзеўшы маманта, панесліся ў бок Пры. Пачулася, як за кустамі сарваліся з месца спалоханыя коні, якія пасвіліся побач усю ноч.

Зноўку рыкнуўшы, мамант выправіўся да дуба. На хаду ён памахваў доўгім носам.

Імгненні ўсё вырашалі. Ран ведаў, што адолець маманта яны не змогуць: гнуткім носам ён лёгка зламае дзіду, адной жа дубінаю яго не заб’еш. Уцякаць

ад маманта... Ён хутка бегае, у гнуткай густой траве проста дагоніць іх і затопча тоўстымі нагамі.

Гледзячы на маманта, Ран зразумеў, чаму ён злы. На лбе між біўняў меўся белы шрам, не зарослы поўсцю. Гэта быў той мамант, на якога яны некалі, калі бацька быў жывы, рабілі вялікі загон.

Яны тады пагналі маманта ў балота. Крычалі, білі палкамі і дзідамі па дрэвах, — акружаны паляўнічымі, ён нетаропка бег да багны. Тады ўжо, калі ягоныя ногі пачалі вязнуць у чорнай мяккай твані, мамант зразумеў, што яго чакае наперадзе.

І ён гучна-чучна затрубіў. Ягоны роў рэхам азваўся ў лесе. На гэты роў аднекуль здаля адказаў ровам другі мамант.

«Хутчэй, хутчэй, — падганяў паляўнічых бацька, — зараз паявіцца другі мамант. Тады мы ўжо нічога не зробім».

Бацька падбег да маманта, які паспеў павярнуцца гнуткім носам да паляўнічых, вялікай дзідаю стукнуў звера ў чэрап і садраў са скуры бурую поўсць. Адтуль, з-пад поўсці, паказалася чырвоная кроў. Гнуткім носам мамант лёгенька, як былінку, абхапіў дрэўка дзіды і пераламаў яе.

«Дубіну. Дайце мне дубіну!» — закрычаў тады штомоцы бацька.

Ды было позна. За спінаю паляўнічых трашчала галлё, кусты — сюды бег другі мамант. Здавалася, пад ягонымі тоўстымі нагамі дрыжала зямля.

Не гледзячы на людзей, ён падбег да таго месца, дзе ў багне завяз першы звер. Паляўнічым нічога не заставалася, як спадзявацца, што мамант не выберацца з багны, і гэта іх выратуе.

Маманты абмяняліся рыкамі. А затым пачалося неверагоднае: звер, які прыбег, працягнуў нос таму, што быў у багне. Яны счапіліся гнуткімі насамі. Сагнуўшы пярэднія ногі, мамант пачаў памалу выбірацца з твані на сухі пагорак. Адчуваючы падтрымку, ён вылез з балота і пачаў атрэсваць з сябе гразь, якая з пырскамі паляцела ва ўсе бакі. Затым, памахваючы насамі, звяры нетаропка пайшлі ў гушчар лесу. Паляўнічым нічога не заставалася, як вяртацца да стаянкі ні з чым.

Ран зразумеў, чаму гэты мамант так ненавідзіць людзей. Маманты помслівыя. Яны не толькі злыя, але і помслівыя.

— Хутчэй залазьце на дуб, — крыкнуў Ран сябрам. Галлё дуба вісела высока над зямлёю, таму Ран прыставіў да ствала дзіду, і сябры, трымаючыся і абапіраючыся аб яе дрэўка, ускараскаліся наверх, дзе пачыналіся тоўстыя галіны.

Усё рабілася хутка. Мамант, падбегшы да дуба, падняў угору доўгі нос, спрабуючы дастаць паляўнічых. Ён нават прыўзняўся, абапіраючыся на заднія ногі. Але цяпер, калі Ран быў на дрэве, ён, схапіўшы дзіду, магутным ударам стукнуў звера па паднятым угору носе. Паказалася кроў.

Ад нечаканага болю мамант апусціў нос да зямлі і зароў.

— Мала табе, мала, што цябе біў бацька... — закрычаў узбуджаны Ран. — Паспрабуй яшчэ раз падняць угору свой нос, паспрабуй!..

Але другі раз мамант угору нос не падымаў. Ад злосці ён стукнуў дуб магутнымі белымі біўнямі. Ад удараў дрэва задрыжала. Але яно было моцным.

Тады мамант пачаў хадзіць вакол дуба кругамі. Раз-пораз ён біў па ім біўнямі, спадзеючыся заваліць яго ці стрэсці паляўнічых на зямлю. Цяпер ён і не глядзеў на людзей.

Ран спусціўся на ніжэйшую галіну, узяўшы ў рукі дубіну, у той міг, калі мамант праходзіў пад ім, з усяе сілы ўдарыў ёю па чэрапе звера, — якраз у тым месцы, дзе быў белы шрам. Удар быў такі моцны, што мамант спыніўся і захістаўся. Здавалася, што ён вось-вось упадзе. Але звер выстаяў. Ачуняўшы

ад удару, хістаючыся, ён паволі пабрыў па прымятай траве да гушчару лесу, адкуль нядаўна выйшаў.

Мамант зразумеў, што гэтыя слабыя істоты, якіх ён мог задушыць гнуткім носам, затаптаць тоўстымі нагамі, аказаліся дужэйшымі за яго, і цяпер, калі сустрэне іх на сцяжыне, ім трэба саступаць дарогу.

— Хутчэй злазім з дуба і ідзем адсюль, — скамандаваў Ран. — Пакуль ён не ачуняў, нам трэба як мага далей адысці ад дуба. Ён вернецца. Як толькі суцішыцца боль, звер абавязкова вернецца. Маманты помслівыя.

Але, як бы яны ні спяшаліся, падзякаваць дубу трэба было.

Узяўшыся за рукі, паляўнічыя пачалі хадзіць вакол камля. Ран гаварыў:

— Дуб, ты самы магутны ў лесе. Няма дрэва, дужэйшага за цябе. Сваімі глыбокімі каранямі ты сілкуешся з падземных чысцюткіх гаючых вод, таму ты такі дужы. Мы збіраем твае салодкія жалуды, тваёю карою лечым свае раны, лісцем тваім усцілаем зямлю ў будане, з тваіх галін робім моцныя дзіды, дубіны, каменныя сякеры. Дзякуй табе, дубе, што ты клапоцішся пра нас. І сягоння ты, мудры магутны дуб, уратаваў нас ад злога маманта. Дзякуй, дубе...

Пакланіўшыся дубу, паляўнічыя пайшлі, ведаючы, што мудрае дрэва чула ўсё і тут жа напоўніла іх сваёй сілаю, стрыманасцю і мудрасцю.

## 4

Сонца стамілася і хілілася да лесу, за якім кожны раз адпачывала.

Гледзячы на змарнелыя стомленыя твары Му і Галу, Ран разумеў — час здабываць ежу. І не тую, якую яны збіралі па дарозе, калі ішлі па лесе, не, цяпер ім патрабавалася іншая. Арэхі, падораныя Маяй, Ран даўно падзяліў з сябрамі, а больш ежы не было. Тыя ж арэхі, якія ім траплялся, былі яшчэ няспелымі.

Можна было вярнуцца назад да берага Пры і там на мелкаводдзі, дзе рос салодкі аер і гнулася да вады трава, рукамі пашукаць рыбу, але цяпер рака была далёка, цяпер вакол іх на ўзвышку высіліся сосны, кара якіх пад вячэрнім святлом Сонца была чырвона-жоўтай. Ад кожнай сасны на чарнічніку, прыкрытым зялёным лапчатым верасам, ляжаў доўгі цень — дух сасны...

Вузкія сцяжыны, пратаптаныя звярамі, вялі ў лагчыну. Там сосен ужо не было, а ўсё часцей траплялся галіністыя шырокія елкі — пачыналася балацявіна, дзе зямля была мяккай і чорнай. Тут рос пахкі, аж у галаве кружыла, багун. Вольха, кусты арэшніку, тонкія бярозкі ўзвышаліся на высокіх купах, пакрытых мохам. Наперадзе было балота. Паветра стала вільготным, настоеным на паху крапівы, багуну — нечага глухога, куды не хацелася ісці.

Трэба было ці вяртацца назад, да берага Пры, ці рушыць наперад цераз балота, за якім віднеўся высокі пагорак.

Пры аббягала балота, тут яна рабіла вялікі паварот і, калі б паляўнічыя ішлі ўвесь час берагам, то страцілі б цэлы дзень, каб дабрацца да цяпер недалёкага пагорка.

У балацявіне сцежкі разбягаліся, знікалі зусім. Ран угледзеў сляды, дзенідзе пад кустамі і ля дрэў былі выкапаны неглыбокія ямкі. Тут хадзілі вепры. Ран ведаў, што вепры надта любяць балоцістыя мясціны, тут яны маглі знайсці арэхі, карэнне, розных жукоў і чарвякоў, тут было шмат смачнай травы, і яшчэ дзікі маглі ўдосталь паваляцца ў чорнай мяккай зямлі, дзе былі іх лежбішчы і дзе іх ніхто не чапаў.

Жэстам рукі Ран паказаў сябрам, каб ішлі як мага цішэй, — не трашчалі голлем, не ламалі галіны кустоў. Ран ведаў ад старых паляўнічых, што ў такіх

глухіх мясцінах можа блэндаць шарсцісты злы насарог. Хоць гэты звер дрэнна бачыў, але ў яго добры нюх. Калі насарог чуў чужы пах, то, выставіўшы перад сабою жахлівы востры, як крэмень, рог, ломячы кусты як траву, не зважаючы ні на што, нёсся наперад. У тыя імгненні яму было абыякава, хто перад ім, вепр ці мядзведзь, сваім вострым рогам ён мог парваць любога звера.

Нечакана Ран наткнуўся на чорную ямку і ў ёй убачыў сям'ю вепраў: з хібам на спіне шэрага вепра, вяпрыху і маленькіх паласатых жвавых вепручкоў. Мабыць, дзікі не чакалі, што іх нехта асмеліцца патрывожыць.

Учуўшы чужы пах, вепр з рохканнем вылез з лежбішча. Следам за ім падалася і вяпрыха з вывадкам.

Дзік і не думаў уцякаць. Тут ён нікога не баяўся, — моцным лычом, вострымі ікламі ён не толькі рыў зямлю пад дрэвамі, ён мог парваць каго заўгодна, нават мядзведзь саступаў яму дарогу.

Рохкаючы, вепр нацэліў лыч на Рана. «Рух-рух, рух-рух!» — папярэдзіў ён, каб людзі ўцякалі. Нерухомымі злымі вочкамі дзік упіўся ў Рана. І яшчэ, чаго хлопец дагэтуль не бачыў зблізку — белыя іклы, якія надта ўразілі сваёй вастрынёй.

Трэба было ці ўцякаць, як хлопцы нядаўна ўцякалі ад маманта, ці ўступаць у бойку, якая невядома чым магла скончыцца. Але як было заваліць гэтага злога звера?

Ран успомніў, як некалі Сын мядзведзя хваліўся перад паляўнічымі. Мядзведзь, стаўшы на заднія лапы, аказаўся вышэйшы за яго. Перавальваючыся з нагі на нагу, звер пайшоў на чалавека. І тады, калі здавалася, што не было ніякага паратунку, убачыўшы перад сабою чырвоную шырока разяўленую зяпу з вострымі зубамі, адчуўшы смярдзючы пах, угледзеўшы блізка ад сябе пярэднія лапішчы, што цягнуліся да галавы паляўнічага, — а мядзведзь, як усім паляўнічым вядома, найперш імкнецца вырваць у чалавека вочы, позірку якіх ён чамусьці баіцца — Сын мядзведзя ўпаў на зямлю. У апошняе імгненне ён выставіў перад сабою вострую дубовую рагаціну. Ачмурэлы ад злосці звер кінуўся на чалавека і адразу ж, наткнуўшыся на рагаціну, сам сябе і загубіў. Некаторыя паляўнічыя, якія бачылі яго сутычку са зверам, казалі, што падаў на зямлю Сын мядзведзя найперш ад жаху і адчаю, і рагаціну ён выставіў выпадкова... Так гэта, ці не, — цяпер было няважна...

Прысеўшы на зямлю, паклаўшы на траву побач з сабою вострую дзіду, Ран чакаў, калі ж вепр кінецца на яго.

Рохнуўшы апошні раз, дзік панёсся на Рана. Калі ўжо, здавалася, адно імгненне, і вепр вострымі ікламі лёгка перакіне цераз спіну белую слабую двухногую істоту, Ран хутка падняў з травы схаваную дзіду і крэмневым канцом нацэліў яе пад лапатку звера, — туды, дзе было сэрца... Другі канец дзіды Ран уваткнуў у зямлю, бо ведаў — сам ніяк не здолее ўтрымаць дзіду, калі на яе наткнецца магутны вепр. З разбегу, нічога не ўцяміўшы, вепр наляцеў на крэмневы канец дзіды. Раз'юшаны, гатовы вось-вось разарваць на шматкі белую істоту, вепр нават прыўзняўся на заднія ногі і гэтым самым яшчэ глыбей загнаў у цела крэмневы канец дзіды. І толькі адчуўшы пякучы боль, які пранізаў цела, вепр пра ўсё здагадаўся, ды, як гэта часта бывае, здагадка ягоная была позняй... Ён заваліўся на бок і, спрабуючы вызваліцца ад пякучага болю, заторгаў нагамі...

— Біце яго... Біце па галаве! — закрычаў Ран сябрам.

Тыя падскочылі да вепра. Удары пасыпаліся на яго — дубінаю, каменнай сякерай.

Вяпрыха, угледзеўшы пабоішча, тут жа павярнулася і панеслася ўглыб балота. Следам за ёю шухнулі паласатыя вепручкі.

Ран выцягнуў дзіду з цела звера і зноўку ўваткнуў яе ў тое ж самае месца. Ад бывалых паляўнічых Ран ведаў, што вепр надта жывучы, здараліся выпадкі, калі, здавалася, забіты звер нечакана ўскокваў на ногі і, скалечыўшы паляўнічых, уцякаў ад іх.

Як і звычайна падчас палявання людзей прабіралі дрыжыкі, бо яны кожны міг адчувалі тую няўлоўную жахлівую мяжу, апынуўшыся за якой, не маглі вярнуцца назад...

Папрасіўшы ў вепра прабачэння за тое, што яны забілі яго, паляўнічыя пачалі рыхтавацца да вячэры.

Усяго вепра яны не маглі падняць і аднесці на сухое месца. Але заставацца ў балоце паляўнічыя таксама не маглі, — куслівыя камары ўжо цяпер з дзумканнем віліся над іх мокрымі ад поту целамі.

Сонца схавалася.

Узяўшы лепшыя і смачнейшыя кавалкі мяса, паляўнічыя пайшлі назад, на ўзвышша, дзе раслі сосны і елкі.

Яны не шкадавалі пакінутага мяса, — ведалі, што яно не прападзе. Ужо ноччу, бліскаючы белымі агністымі вачыма, да мяса прыбягуць згаладалыя ваўкі, якія тонкім нюхам учуюць спажыву. Следам за імі паявяцца рыжыя хітрыя лісіцы, якія, кружачы ля ваўкоў, будуць цярпліва чакаць пачастунку. Але ўсіх можа адагнаць мядзведзь, — валюхаючыся з задніх ног на пярэднія, ён, унюхаўшы салодкі пах свежага мяса, прыбяжыць здалёку і рашуча адгоніць ад ежы і ваўкоў, і лісіц. Толькі ён ніяк не зможа адагнаць ад спажывы мурашоў і казюрак, якім гэтаксама захочацца паласавацца. А раніцаю да белых костак з хрыплаватым карканнем злятуцца шэрыя вароны. Яны тут жа пачнуць выдзёўбваць кавалачкі мяса з костак і, падскокваючы, налятаючы адна на адну, будуць крыкліва сварыцца між сабою. І трашчотка-сарока заявіцца тут, — гаротніца, засакоча, зачачэкае, што спазнілася: «Чачэ-чачэ.... Чачэ-чачэ...»

І ўсе яны — і звяры, і птушкі, і мурашы — будуць удзячныя адважным паляўнічым за салодкую спажыву. Нічога тут, на зямлі, не знікала і не прападала, бо Той, які жыў наверсе і які назіраў за парадкам, пра ўсіх аднолькава клапаціўся і ўсіх пароўну апекаваў.

Яшчэ нядаўна чыстае неба, усеянае рэдкімі аблачынамі, цяпер усё больш і больш гусцела, наліваючыся сінечаю. Вось-вось павінны былі паказацца вочы Таго ўсемагутнага, які жыў наверсе. Унізе між дрэвамі было ўжо зусім змрочна, і таму Ран наважыўся вызваліць з палачак агонь, які, як і заўсёды, мог суцішыць, абагрэць, абсушыць і развесяліць людзей.

Пад высокай разлапістай елкаю было суха, як у будане. Тут паляўнічыя вырашылі начаваць.

Ран усё зрабіў, як вучыла Вая: цёр палачкі адна аб адну, асцярожна перадаваў жарынкам свой дух. Нарэшце агонь ухапіўся за сухі мох, перараскочыў наігліцу і, паядаючы яе, адразу ж пачаў радасна патрэскваць: трэсь-трэсь, трэсь-трэсь...

Крэмневым скрабком паляўнічыя нарэзалі невялікія кавалачкі мяса і, насадзіўшы іх на бярозавыя пруткі, падсунулі агню новую спажыву. Агонь сквапна аблізваў мяса. Калі ж яно пачынала шыпець і сквірчэць, паляўнічыя хавалі яго ад агню.

Яны елі мяккае салодкае мяса і, як гэта часта бывае пасля перажытых прыгод, гучна смяяліся. Цяпер многае з таго, што нядаўна было жахлівым, здавалася смешным. І той жа мамант, які нядаўна ледзьве не раздушыў іх сваім гнуткім носам, цяпер быў смешны — чамусьці паляўнічых смяшыў кароткі валасаты хвост, яны часта ўспаміналі тыя імгненні, калі звер, падцяўшы яго, хістаючыся, ішоў ад іх да лесу. І той жа вепр здаваўся смешным, калі

ні пра што не думаючы, у злосці сваёй спадзяваўся лёгка загубіць чалавека і зусім не заўважыў дзіды...

Кожны паляўнічы, калі весела смяяўся, адчуваў сябе ўладаром нечага. І не навакольнага свету, не ўладаром звяроў, — не, людзі цяпер уладарылі над нечым іншым, імі да канца не спазнаным і не асэнсаваным...

Удосталь насмяяўшыся, Му і Галу хутка заснулі. Ран пачаў глядзець у вочы Таго, які жыў наверсе.

Зусім сцямнела. Як часта бывае з людзьмі ў цемені, цела Рана поўнілася незразумелай сцішанасцю.

Кугукнула ўдалечыні нябачная сава. Асветлены агнём, блізка ля елкі матлянуў у паветры кажан, і дзіўна было, як мог ён у цемры ўсё бачыць. У траве ля елкі хтосьці з шамаценнем прабег.

Мо гэта быў вожык?

А мо — мыш уцякала ад задушлівай гадзюкі?

А мо гэта *ён* паявіўся, — выскачыў з любімага топкага балота і з шорганнем, ломячы вецце на кустах і дрэвах, прымчаўся і цяпер пільнымі круглымі чырвонымі вочкамі ўзіраўся, хто ж гэта асмеліўся паявіцца ля *ягоных* уладанняў? У цемры *яго* цяжка разгледзець, але Ран, як і людзі ўсяго роду, ведаў, які *ён*: сярэдняга росту, увесь пакрыты чорнай густой поўсцю, *ён* бегае па зямлі на тонкіх, як у казы, ножках, у *яго* ёсць калматы доўгі хвост, невялічкія, але затое чэпкія кіпцюрастыя пальцы на тонкіх ручках. Галава *ягоная* як у казы, з вострымі белымі рожкамі над вушкамі, а нос — як у вепра.

І ўсё ў *яго* да ладу: махаючы хвастом, *ён* можа падымацца над зямлёю і лётаць між сосен і елак. Сваімі капыткамі *ён* грукоча і палохае дзяцей. Вострымі рожкамі і хвастом ува сне казыча маладых дзяўчат, ад чаго яны ўскрыкваюць, саромеючыся *ягоных* брыдкіх настырных дамаганняў…

*Ён* і ад дарослых не адступаецца, — глухімі начамі кругамі водзіць чалавека па лесе ці па лузе і непрыкметна заводзіць няшчаснага ў свае ўладанні, адкуль чалавеку не выбрацца. *Ён* заўсёды паспявае і ўсюды, як тая Хлюндра, усоўвае свой вяпрачы нос: там пасварыць людзей, якія самі не ведаючы чаму, пачынаюць налівацца злосцю і крычаць адно аднаму крыўдныя словы; тут раскідае ў будане смецце, недзе схавае касцяную іголку, а дзесьці ні з таго ні з сяго падставіць старому чалавеку сваю ножку, і той, спатыкнуўшыся аб яе, падае і калечыцца. Начамі ў лесе *ён* надта любіць екатаць і рагатаць, а ў чалавека, які пачуе тыя екатанні, на целе паяўляюцца дрыжыкі і ляскочуць зубы.

*Ён* і днём гойсае між людзей. Але днём *ён* нябачны, хаця ўсе людзі добра ведаюць, што *ён* ёсць, і таму асцерагаюцца яго, часта кажуць: «Ідзі, што ты да мяне чэпішся? Ідзі ў сваё балота...»

Але ж — такая натура — у балоце *яму* сумна і адзінока, таму адзін, а калі з кодлай гэткіх жа, як і сам, *ён* неадчэпна ідзе за людзьмі. Нябачны, *ён* нашэптвае ім на вуха, каб яны нікога не слухаліся, каб кожны жыў сваім розумам. Даводзіць, што кожны сабе гаспадар, і ніхто над чалавекам уладарыць не смее, і таму, ні пра што не думаючы, трэба найперш займацца салодкімі гулі-вулямі... І калі чалавек прыслухоўваецца да *ягоных* салодкіх нашэптванняў, калі перастае адганяць *яго* ад сябе, то *ён* тут як тут — коле яго рожкамі ў рэбры і цяпер ужо нашмат мацней і смялей шэпча ў самае вушка ласкавыя слоўцы: «Пойдзем, пойдзем на гулі-вулі, бо жыццё, як дым, кароткае...» Развесіўшы вушы, чалавек не бачыць і не чуе, як жа і калі *ён* ускоквае на яго і вядзе на тыя гулі-вулі.

А на гулях-вулях «гулівудзіць» хеўра, на якую *ягонае* кодла даўно ўселася. І яна якоча і крыўляецца, і не разабраць, хто ж перад табою выпендрываецца — жанчына ці мужчына ў жаночым абліччы. Тая хеўра выдурняецца перад

людцамі. Ёй усё смешненька, над усім і ўсімі яна хі-хі ды ха-ха, пасмейваецца над быццём і небыццём. Яна нікому не дае спуску — ні скалечанаму нямоглаlarму чалавеку, ні праведніку, і заўсёды радая свежаму чалавеку, крычыць, ад шчасця заліваецца: «Хутчэй валі да нас, мы цябе даўно чакаем. У нас усё можна, так што давай гулівудзіць разам...»

І чалавек, на ўсё забыўшыся, аддаецца ў чэпкія кіпцюрастыя лапкі ягонаму кодлу. А яно носіць, водзіць і поіць няшчаснага — «гулівудзіць» пачынае чалавек...

А між тым *ягонае* кодла не спіць у шапку — насядае і насядае на людзей, як на старых, так і на малых, і кліча сабе ў помач Бяду і Нянавісць. Тыя ж гэтага клічу толькі і чакаюць — навальваюцца на людзей скопам. І тады ўжо — гора як чалавеку, так і ўсяму роду: беспрычынна брат кідаецца на брата, сын матку рэжа і душыць...

О-о, *ён* хітранькі!..

Яшчэ болей, чым гулямі-вулямі, *ён* спакушае чалавека шчасцем, якое той атрымае, калі даб’ецца таго-сяго. І вось чалавек, убіўшы сабе ў галаву «тоесёе», з дня на дзень, з рання да змяркання піцуе, недасыпае, недаядае, каб нечага дабіцца. І калі здаецца чалавеку, што шчасце ў ягоных руках, *ён* зноўку — тут! Ён ці падстаўляе яму ножку, каб той падаў вобзем і выпраўляўся на Той свет, ці з рогатам адступаецца ад няшчаснага, і тады спакушаны, абдураны чалавек з жахам разумее, што шчасце ягонае — не ў «тым-сім», а ў нечым іншым… Але ж зноў — не вярнуць, не адкруціць назад марна патрачаныя гады... І дранцвее тады чалавеча. А *ён* ужо зноўку тут як тут — пельку падсоўвае, супакойвае няшчаснага: «Не бойся, я цябе не пакіну...»

Спустошаны, азіраецца вакол сябе чалавек, шукаючы падтрымкі і помачы. Камянее перад бясплатнай пелькаю. «Гулі-вулі» абрыдлі, уяўнае шчасце, як дым, развеяна... Што рабіць, чым заняцца?

О-о, як балюча яму тады!..

Надыходзіць ноч і, чалавек, схаваўшыся ад людзей, саромеючыся сябе, пачынае ліць слёзы з задымленых былым едкім шчасцем вачэй. Ён пачынае шаптаць, хоць каму шэпча, каго кліча, каб дапамог, чалавек пакуль і сам не ведае. Ён шэпча, што нічога не ведае ні пра сябе, ні пра навакольны свет. Ён шэпча, што хацеў радасці і шчасця... Ён шэпча, што яму страшна ў гэтым свеце...

Пачуўшы гэты шэпт, ля чалавека паяўляецца Адзінота. Мудрая Адзінота напачатку нічога не гаворыць, нават і не спрабуе суцішваць яго, яна і паяўляецца толькі дзеля таго, каб падказаць яму, што няшчасны не толькі ён адзін, што кожны з людзей хоць аднойчы ды павінен спазнацца з ёю. «Супакойся, суцішся, — нарэшце ціха вымавіць Адзінота, — вы ўсе адзінокія...»

«Я вінен... Я з імі валэндаўся... Я радасць і шчасце шукаў...» — будзе каяцца і апраўдвацца шэптам растрывожаны чалавек.

«А гэта ты ўжо не мне гавары, — будзе казаць Адзінота. — Цяпер, калі мяне спазнаў, я пакіну цябе. Цяпер Жальбе спавядайся».

І тут жа Адзінота адступіцца, Жальбу падпусціць...

І пачне чалавеча знаёміцца з Жальбою, пра якую дагэтуль, можа, і не ведаў нічога — часу спазнаць не знаходзілася, бо надта сваім шчасцем быў заклапочаны...

Усё, што цяпер Ран чуў і бачыў, поўнілася няясным невядомым сэнсам, як быццам Той, які жыў наверсе, прыадкрываў таямніцу, якую чалавеку было боязна разгадваць, і таму пачуццё жаху міжвольна ахоплівае яго ў такія імгненні. Кажуць, што ў ціхія чорныя ночы немаўляты часта беспрычынна плачуць, а старэйшыя дзеці шчэмяцца да дарослых. Мо ўсё гэта таму, што *ён* неадчэпна блэндае за спінамі людскімі?..

Ран задрамаў. Ён ведаў, што не спіць, ведаў, што сядзіць ля агню і між тым поўніўся дзіўным трызненнем.

Ён адчуў, што здольны лётаць. Паяўлялася такое адчуванне ў яго і дагэтуль, але цяпер адчуванне палёту было надта вострым і салодкім. Падняўшыся ў палёце над елкаю, Ран убачыў сваіх сонных сяброў, якія соладка і сцішана спалі ля агню, ён нават і сябе ўбачыў, і агонь... Лёгкім намаганнем Ран мог пералятаць з дрэва на дрэва, — гэтак робяць птушкі. Але птушкаю ён не быў, нават рук не расстаўляў, каб падняцца над зямлёю.

Падняўшыся ўгору, ён бачыў унізе сцішаныя дрэвы, травы, кусты, нават саму шырокую Пры, прыхаваную кустамі — усё было асветлена вачыма Таго, які жыў наверсе. Мякка і соладка зыбаючыся ў паветры, Ран пралятаў над травамі, а потым падымаўся ўгору. І чым вышэй падымаўся, тым меншымі станавіліся дрэвы, кусты, і нават Пры зусім хавалася ў кустах — усё злівалася ў суцэльныя чорныя плямы. І вось ён ужо не мог разгледзець тую елку, пад якой спалі сябры. І яшчэ вышэй падымаўся Ран, і вочы Таго ўсемагутнага станавіліся яркімі, бясконцай іскрыстай беллю разгараліся яны. І чым вышэй ён падымаўся, тым вастрэй адчуваў трывогу. Вось ужо аблокі грувасціліся пад ім, і зямля ўжо за тымі аблокамі не бачылася. І адно і тое ж білася, пульсавала ў Рана: дзе ж знаходзіцца Той усемагутны, які качае каменне па небе, які кідае на зямлю белыя жахлівыя дзіды?[4]

І от жа дзіўна — Ран не збаяўся іскрыстых белістых вачэй Таго ўсемагутнага. Бы кропелькі расы пад ранішнім Сонцам вочы Таго ўсемагутнага разгараліся, яны пачыналі пераліванца то чырвонымі, то жаўтавата-белымі агнямі, іх станавілася ўсё больш і больш, і акружалі гэтыя вочы Рана паўсюль.

Цела сваё Ран перастаў адчуваць; як гэта часта бывае ў снах, ён поўніўся аднымі адчуваннямі. Цяпер у яго з’явілася адчуванне, што стаў ён бязважкім і пульсуючым, і адносіла яго немаведама якой сілаю далёка-далёка ад звыклага вядомага свету. Нібы на Той свет адносіла яго і ўжо адтуль, з далечы недасяжнай, ён пачынаў са здзіўленнем глядзець на ўсё, што яму адкрывалася і чаго дагэтуль ніколі не бачыў.

Нешта падобнае Ран адчуваў у маленстве, калі, застудзіўшыся на холадзе, палаючы ад гарачкі, ён у трызненні кідаўся на мядзведжай скуры і адчуваў, як невядомая сіла насіла яго ў чорнай бездані, падымаючы над мядзведжай скураю, над буданом, над усёй зямлёю — то агромністым пульсуючым шарам, то малюпасенькай кропелькаю.

Але гэта было ў маленстве. Цяпер жа Ран не быў хворы, але між тым, як і калісьці, ён адчуваў сябе пульсуючай кропелькаю, якая насілася ў чорнай бездані.

І вось бачыў Ран, як аддаляўся ён ад зямлі і як яна мянялася, — станавілася выпуклаю і круглаю, бы агромністая-агромністая кропля пералівалася ў святле Сонца. І гэтая кропля, ахутаная воблакамі, усё аддалялася і аддалялася ад яго. І Сонца, напачатку вогненнае і сляпучае, пачало аддаляцца і змяншацца, — круглае, задымленае, яно пыхкала гарачымі даўжэзнымі языкамі... І тут Ран нечакана ўбачыў, што вакол Сонца кружаць гэткія ж, як і зямля, задымленыя шары...

Дзіўна, усё было дзіўна!

І ніякай цемры не было, усё вакол стала светлым ад бляску бясконцых вачэй Таго ўсемагутнага.

Далей і хутчэй панесла Рана невядомая сіла ад звыклых мясцін. Сонца зменшылася, сталі зусім маленечкімі шары, што кружылі вакол яго; асветленыя цяпер ім невялічкім і негарачым, яны блішчэлі халодным белым святлом і нагадвалі вочы Таго ўсемагутнага. А потым Ран убачыў, што вочы Таго ўсемагутнага пачалі злівацца ў суцэльныя плямы, згушчаліся.

Бачыў ён, што бясконцыя вочы Таго ўсемагутнага раскіданы ў пэўным парадку, — то бліжэй між сабою, то далей... Нечакана Ран здагадаўся, што яны ствараюць нейкія знаёмыя лініі.

І яшчэ далей у бездань апраметную адносіла Рана немаведамая сіла, і там, як на Тым свеце, ён пачаў упэўнівацца, што вочы Таго ўсемагутнага нагадваюць ліст. ...Кляновы ліст, у якім выразна бачыліся пражылкі, злепленыя з бліскучых ліній-вачэй, з маленькімі ледзь бачнымі кропелькамі-вочкамі на яго гнуткіх краях. І яшчэ адзін ліст убачыў Ран, і яшчэ...

Далей аднесла хлопца немаведамая сіла.

І тады ён угледзеў, што гэтыя бліскучыя кляновыя лісты знаходзяцца на агромністым дрэве, якое ўсё выразней і выразней вымалёўвалася ў бяздоннай чарнечы. Як быццам Той усемагутны, які жыў наверсе, і быў гэтым дрэвам, запоўненым бясконцымі бліскучымі вачыма: з доўгімі каранямі, апушчанымі ў бясконцую і жахлівую чарнечу, з пышнай галіністай кронаю, дзе вымалёўвалася лісце. На тым дрэве сярод лісця ўгледзеў Ран згушчэнні вачэй Таго ўсемагутнага, — яны былі раскіданы паўсюль у агромністай кроне, тыя згушчэнні ўвесь час віравалі, як вірue вада ў Пры, пераліваліся яркімі вясёлкавымі фарбамі, нагадвалі кветкі, якія то распускаліся, то згортваліся...

Як гэта часта бывае ў снах, Ран чамусьці ведаў, што з тых карэнняў, апушчаных у чарнечу, па ствале дрэва да лісця і кветак увесь час струменіць штосьці нябачнае, але жывое і гаючае, як сок у дрэвах. Толькі тое жывое і гаючае не было сокам, а чымсьці іншым, назвы чаму Ран не ведаў, ведаў толькі, што яно нябачнае жывое і гаючае ўвесь час жывіла лісце на дрэве, кветкі, само карэністае дрэва...

Бачыў Ран, як час ад часу з дрэва ападалі асобныя лісты. Яны, пакалыхваючыся, з агністым бляскам апускаліся ўсё ніжэй і ніжэй да каранёў і там, на зямлі, распадаліся, знікалі ў загадкавай чарнечы. Гэтаксама, як і лісты, падалі ўніз кветкі, распырскваючы вакол сябе каляровае ззянне.

Як яны распадаліся, куды бясследна знікалі загадкавыя бліскучыя вочы Таго ўсемагутнага?..

А ў гэты ж час на дрэве паяўляліся новыя лісты, распускаліся новыя кветкі...

І само квяцістае дрэва, і лісце, што ўвесь час варушылася пад нябачнымі вятрамі, і кветкі — было такім агромністым і бяздонна-прыгожым, што Рану захацелася закрычаць ад радасці і захаплення, як гэта часта бывае з чалавекам, калі ён страчаецца з нечым надта ўражлівым і прыгожым. Гледзячы на дрэва, Ран пачуў мелодыю, — яна гучала паўсюль, хвалямі пранізвала яго. І ён чамусьці ведаў, што зыходзіць гэта мелодыя адтуль, ад дрэва, ад бясконцых вачэй Таго ўсемагутнага.

...Быццам род Рана сядзеў ля начнога вогнішча і напяваў штосьці, — розныя галасы пачуў Ран — і прыглушаныя глухаватыя мужчынскія, і званчэйшыя жаночыя, і нават дзіцячыя — і ўсе яны былі напоўнены і смуткам і радасцю, спалучаліся ў дзіўную нячутую прыгожую рытмічную мелодыю, ад якой Рану хацелася плакаць і плакаць. Ён быццам бы страціў штосьці надта дарагое, гэткае дарагое, як Мая, і вось толькі цяпер, пачуўшы дзіўную мелодыю, зразумеў, што страціў...[5]

Ад убачанага і пачутага веяла суладдзем, спакоем і веліччу. Ран адчуў сваю мізэрнасць перад галіністым дрэвам і ў той жа час ведаў, што праз гэтую мелодыю навек зніталены з дрэвам.

Яму захацелася ўведаць таямніцу вечназялёнага дрэва, якое напаўнялася тым цёмным і загадкавым, што ўвесь час падымалася ад каранёў да лісця.

І яшчэ, як гэта часта бывае ў снах, Ран чамусьці ведаў, што гэтае дрэва не ёсць Той усемагутны, — ён якраз і стварыў гэтае дзіўнае дрэва...[6]

З заплаканымі вачыма Ран і ачомаўся. Азірнуўся вакол. Адчуў, як часта-часта тахкае сэрца. Дзіўная мелодыя ўсё яшчэ гучала і гучала ў ім, — бы вершаліны сосен шумелі пад парывамі мяккага ветру: шш-шууу, шш-шшу... І час ад часу сярод гэтага рытмічнага шуму звонка і радасна, як птушыныя посвісты, прабіваліся дзіцячыя галасы, а ўслед чуліся тужлівыя і працяжныя жаночыя... Гэтая мелодыя была такая магутная і ўсясільная, што, здавалася, гайдала ўсяго Рана.

Агонь амаль схаваўся ў чорным вуголлі. Му і Галу спалі.

Трызненне было такім яркім, што Ран рукою працёр вочы. Адчуваннямі поўнілася цела, — і захапленне, і слодыч перапаўнялі Рана.

Бываюць яркія сны, якія чалавеку доўга помняцца. Здараецца, у сне ён бачыць штосьці незвычайнае, што надта ўражвае: ці то — дзіўныя агромністыя, як воблакі, збудаванні ціха плывуць і плывуць над ягонай галавою, і ў тых збудаваннях бачыць людзей, якія звысоку махаюць рукамі, ці то — зялёныя лугі, усеяныя агромністымі яркімі кветкамі. Пры гэтым ён нават чуе, як пахнуць кветкі, там ён страчаецца з прыгожымі людзьмі, якія гавораць яму ласкавыя словы і тады, прачнуўшыся, чалавек днямі ходзіць суцішаны, усміхаецца сам сабе, баіцца распляскаць у сабе пачуццё шчасця, недаступнае яму белым днём.

А бываюць такія сны, пра якія чалавек саромецца гаварыць, пра якія нікому ніколі не раскажа. Штосьці брыдкае, няправільнае, пра што белым днём не думаецца, рэальна напаўняе цела незвычайнымі адчуваннямі. Пасля такіх сноў чалавек ходзіць, як з завязанымі вачыма.

Здаецца, што ў снах да чалавека прыходзяць людзі, якіх ён даўно не бачыў, якіх і не ўбачыць ніколі, але якіх добра ведае. І тыя людзі гавораць з ім, раяць яму нешта ці папярэджваюць аб нечым...

І часта думаецца чалавеку, што ў снах ён сустракаецца з іншым светам, дзе іншае жыццё...

Што ёсць сон?[7]

Намёкі на шчасце, да якога чалавеку трэба імкнуцца?

Папярэджанні бедаў будучых?..

Раніцаю трэба было ісці далей. Але пакідаць вялікую спажыву было няварта. Таму Ран, узяўшы вялікі кавалак мяса, абвязаўшы лазовым лыкам, падвесіў яго да дзіды, як некалі падвесіў да яе галаву сома. Цяпер ім не трэба было думаць пра ежу. Удвух з Галу яны неслі на плячах дзіду з мясам, а Му нёс усё астатняе: сякеру, дубіну, скрабок, палачкі ў кошыку, у якіх хаваўся агонь.

Мінуўшы топкую балацявіну, паляўнічыя выбраліся на ўскраек лесу, за якім зелянела лугавіна. За ёю высіўся жаданы бераг ракі. Гледзячы на той бераг, Ран успомніў, што там трэба будзе ісці ўбок ад ракі, — туды, дзе высілася белая гара, з якой можна здабыць крэмень.

Нечакана здарылася тое, чаго ніхто не чакаў.

Недалёка ад іх з лесу выйшлі людзі. І тыя людзі ўбачылі паляўнічых.

Людзей было столькі, колькі пальцаў на руцэ Рана. Мабыць, яны выбраліся на паляванне. У іх гэтаксама меліся дзіды і дубіны. І яшчэ, што Ран адразу ж заўважыў, за іх плячыма матляліся доўгія сагнутыя палкі. Канцы тых палак былі сцягнуты жыламі.

Людзі былі нізкарослыя, цёмнатварыя ад праменняў Сонца. Такіх людзей Ран ніколі не бачыў.

Ён чуў ад бацькі і старых паляўнічых, што недзе далёка-далёка ў тым баку, куды бяжыць Пры, ёсць дзіўныя мясціны, дзе на дрэвах жывуць людзі.

Тыя людзі бегаюць па зямлі на чатырох лапах, як бегаюць усе звяры, яны аброслыя поўсцю і крычаць гэтак жа, як крычаць птушкі.

Але гэтыя людзі, якіх цяпер бачыў Ран, нічым не адрозніваліся ад людзей ягонага роду. Наперадзе чужынцаў стаяў нізкарослы паляўнічы, на твары якога меўся вялізны шрам, — амаль гэткі ж, які застаўся на целе Ваі пасля нападзення рысі. Шрам паласаваў не толькі твар, але і грудзі, — мабыць, той звер, які нападаў на чужынца, быў большы за рысь...

Групы паляўнічых застылі. А потым чужынцы імгненна выхапілі з-за спін сагнутыя палкі і, прыклаўшы да жылаў маленькія лёгкія дзіды, нацэліліся на Рана і ягоных сяброў. Ран і Галу паклалі дзіду з мясам на зямлю. Галу тут жа схапіў у рукі каменную сякеру. Му трымаў у руках дубіну.

Бойка невядома чым магла скончыцца — гэта Ран зразумеў адразу. Хоць чужынцаў было болей, але яны былі нізкарослымі. Ды не гэта трывожыла Рана. Яго трывожылі сагнутыя палкі з лёгенькімі дзідамі.

Чалавек са шрамам на твары падняў угору руку, — гэтым жэстам ён, мабыць, папярэджваў сваіх паляўнічых, каб яны без дазволу не пачыналі бойку.

Яшчэ міг, імгненне — і праліецца кроў... Адно — калі палюеш на звера, павадкі якога добра ведаеш, але як паляваць на людзей, якіх бачыш упершыню?

Хто яны? Як тут паявіліся?

І зноўку, як звычайна падчас палявання, паляўнічых прабіралі дрыжыкі, бо кожны адчуў — праз імгненне яго можа не быць тут, дзе травы, дзе Сонца...

Нечакана Му і Галу ўбачылі, як Ран асцярожна паклаў на траву сваю дзіду. Пільна гледзячы ў вочы чалавеку са шрамам на твары, ён узяў у рукі кавалак мяса і падняў яго над галавою. Затым, трымаючы на руках перад сабою мяса, паволі пайшоў да чужынцаў.

Прыгнуўшыся да зямлі, Му застыў з каменнай сякерай. Галу трымаў аберуч дубіну. У любы міг чужынцы маглі схапіць безабароннага Рана.

Пэўны час чужынцы цэліліся ў Рана маленькімі дзідамі, якія ляжалі на жылах, што ядналі сагнутыя канцы палак, а потым, калі Ран падышоў да іх зусім блізка, апусцілі сагнутыя палкі з дзідамі.

Ран моўчкі аддаў мяса чалавеку са шрамам на твары, — ён неяк адчуў, што гэты чалавек сярод чужынцаў самы галоўны. Той узяў мяса.

Чужынцы тут жа абступілі Рана і гучна загаварылі. Му і Галу чулі невядомыя словы, бачылі ўзмахванні рук, — разумелі, што зараз вырашаецца лёс Рана. Ды і іх лёс таксама...

Нарэшце з групы чужынцаў выйшаў чалавек са шрамам на твары і махнуў рукой — запрашаў Му і Галу. Усё не верачы, што сутычкі не будзе, апусціўшы зброю, Му і Галу павольна пайшлі да чужынцаў.

Пакуль яшчэ нічога не было вядома.

Акружаныя чужынцамі, паляўнічыя накіраваліся да высокага берага ракі. Чым бліжэй чужынцы набліжаліся да яго, тым гучней гаварылі. Некаторыя нават смяяліся, паказваючы на высокага Галу. Мабыць, ён іх надта ж здзіўляў сваім ростам. Але Рану было не да смеху — было невядома, куды і навошта іх вядуць...

Падняўшыся на высокі бераг, Ран здзівіўся: на некалі пустой зямлі мелася стаянка. Была яна амаль гэткая ж, як і ў родзе Рана, толькі большая. І яшчэ, што здзівіла Рана — вакол стаянкі шчыльна былі ўкапаны ў зямлю тоўстыя палкі, што цераз іх не маглі прайсці ні звер, ні чалавек. Толькі ў адным месцы меўся вузкі праход, цераз які людзі прайшлі на стаянку.

Як толькі паляўнічыя апынуліся на стаянцы, з буданоў высыпалі людзі. І дзеці, і жанчыны, і мужчыны — усе шчыльна абступілі Рана і сяброў. Дзеці

нават дакраналіся да іх пальцамі. І ўсе штосьці гучна гаварылі. Па тым, як чужынцы гаварылі, як смяяліся дзеці, Ран зразумеў, што самае жахлівае — у мінулым...

## 5

Мяса вепра палажылі на траву, і жанчыны крэмневымі скрабкамі адразу ж пачалі разразаць яго на дробныя кавалкі. Усё сведчыла, што зараз будзе рыхтавацца ежа.

З будана выбегла лёгенькая чарнявенькая дзяўчына, — мабыць, то была захавальніца агню. Яна вынесла каменьчык. Прысеўшы ля высахлага моху, дзяўчына пачала стукаць каменьчыкамі адзін аб адзін. І раптам здзіўлены Ран ледзьве не падскочыў. З аднаго каменьчыка выскачыў агонь, выскачыў і тут жа схаваўся. Дзяўчына зноўку стукнула каменьчыкамі, — зноўку выскачыў белы агонь і ўхапіўся за высахлы белы мох. Як і Вая, дзяўчына, нахіліўшыся да моху, пачала перадаваць агню свой дух.

Калі б у гэты ясны дзень зверху нечакана пачуўся грукат камення, калі б у гэты час Той, які жыве наверсе, ні з таго ні з сяго пачаў кідаць у людзей белыя дзіды, то і тады Ран здзівіўся б меней..

Адкрытымі неміготкімі вачыма глядзеў ён на дзіўнае відовішча. Гэткімі ж здзіўленымі былі Му і Галу.

Агонь хаваўся не толькі ў дрэве. Агонь хаваўся ў камянях. І гэтыя чужынцы навучыліся вызваляць агонь з каменю.

Вёрткі Му тут жа падскочыў да дзяўчыны і, абмяняўшыся з ёю бліскучым позіркам, упіўся вачыма ў каменьчыкі. Дзяўчына ўсё зразумела — аддала каменьчыкі Му. Му узяў іх у рукі і пачаў пільна разглядаць, верцячы іх з усіх бакоў — шукаў тую маленечкую шчылінку, праз якую выбягаў агонь.

Але такой шчылінкі ён нідзе не знайшоў. Каменьчыкі былі халоднымі. І тады Му са здзіўленнем зноў зірнуў дзяўчыне ў вочы.

О-о, гэтыя маладыя агністыя позіркі! Не трэба ні слоў, ні жэстаў, каб адчуць той агонь нябачны, што прабягае між людзьмі ў маладосці і які яднае іх мацней за ўсякія словы і павучанні. Навошта, навошта лішнія словы маладым людзям?

Дзяўчына ўзяла ў рукі каменьчыкі і зноўку стукнула імі адзін аб адзін. І зноўку паказаўся агонь. Тады Му, прыняўшы з яе рук каменьчыкі, сам асцярожна стукнуў імі. Але ў яго нічога не атрымалася — агонь не паказваўся. Тады Му яшчэ раз, толькі ўжо мацней, стукнуў каменьчыкамі.

Заняты справай, ён так і не заўважыў, як яго шчыльна акружылі людзі. Гледзячы на намаганні Му, яны чамусьці ўсміхаліся.

Нечакана пасля моцнага ўдару з аднаго каменьчыка выскачыў агонь. Выбег і адразу ж схаваўся. Спалоханы Му кінуў на траву каменьчыкі, баючыся, што агонь абпаліць ягоныя пальцы. Тады дзяўчына спакойна падняла з травы каменьчыкі і перадала іх у пальцы Му. І зноўку, знарок ці незнарок, але пальцы іх спляліся, і абое палыхнулі ад таго нябачнага агню, які іх паяднаў.

Упэўніўшыся, што каменьчыкі не гарачыя, Му на гэты раз моцна стукнуў імі — і зноўку паказаўся агонь. І тады Му ад радасці падскочыў. Ён засмяяўся. Ён навучыўся вызваляць з каменьчыкаў агонь. Ён стаў уладаром агню. Цяпер сцюдзёнай парою, калі зямлю накрыюць белыя мятлікі, на паляванні ён у любы міг зможа вызваліць з каменьчыкаў агонь, цяпер яму не трэба будзе насіць з сабою драўляныя палачкі, якія на холадзе ці ў макрэчы не выпускаюць агонь...

Між тым у чорнай ямцы агонь наеўся тоўстых палак, пакінуўшы на ўспамін чырвона-белае вуголле. Дзяўчына вынесла з будана вялікі гліняны збан з вострым донцам. Збан яна паставіла на вуголле і наліла ў яго вады, якую прынесла з будана ў бяроставым кубачку. Пасля гэтага яна паклала ў збан парэзаныя кавалкі мяса. Туды ж палажыла карэньчыкі, сушаныя грыбы, травы. Невялічкімі язычкамі агонь аблізваў гліняны збан. Нечакана са збана паявіўся белы пахкі салодкі парок.

І Ран, і Му, І Галу пакуль нічога не маглі зразумець. У іх родзе ўмелі плясці кошыкі, але такіх збаноў з вострымі донцамі не ўмелі рабіць. Як гэтыя чужынцы навучыліся рабіць збанкі, якія не прапускалі ваду, якія не баяліся агню?..

Усё тая ж дзяўчына дастала з вуголля збан, уваткнуўшы яго ў зямлю вострым донцам і паставіла яго перад паляўнічымі. З будана яна прынесла маленькія гліняныя збаночкі і наліла ў іх варыва. Жэстам паказала, каб паляўнічыя спрабавалі яго.

Чужынцы, акружыўшы паляўнічых, з усмешкамі пазіралі, як будуць паводзіць сябе госці.

Ніколі Ран не еў такой смачнай ежы. Цёплая вада і салодкае мяккае мяса сагравалі цела знутры, напаўнялі яго сілаю і лёгкасцю.

Пасля абеду чужынцы павялі гасцей на паляванне. З сабою яны ўзялі дзіўныя сагнутыя палкі з моцнымі жыламі. Паклаўшы на жылы лёгенькія дзіды, новыя знаёмыя асцярожна ішлі па ўскрайку лесу. Нечакана з папаратніку між сосен з шумам падняўся ўгору вялікі глушэц. Тады паляўнічы са шрамам на твары, накіраваўшы маленькую дзіду на глушца, нацягнуў на сябе жылу і, сагнуўшы палку, выпусціў яе. Са свістам дзіда дагнала глушца, які падняўся ледзьве не да вяршыні елкі. Куляючыся ў паветры, глушэц гучна чмякнуўся на зямлю.

Гледзячы на нерухомую вялікую птушку, Ран падумаў, што вось гэтак жа нерухома маглі ляжаць і яны пасля ўдараў куслівых маленькіх дзідаў...

Шмат дзён правялі паляўнічыя сярод людзей, якія называлі сябе індамі. За гэты час Ран многаму ў іх навучыўся. Ён навучыўся вызваляць агонь з каменьчыкаў, ляпіць з чырвонай зямлі збанкі і асцярожна абпальваць іх на агні, які даваў збанкам сваю моц. І дзіўна было Рану — як гэта яны, ягоны род, не здагадаліся абмазваць лазовыя кошыкі чырвонай зямлёю, а затым абпальваць іх на агні. Ён зразумеў, што моц гліняным збанкам дае чырвоная зямля, якая маецца ля высокага берага Пры, — пераціраючы тую зямлю ў пальцах, старэйшына чужынцаў навучыў Рана, як яе выбіраць і расціраць... Ран навучыўся выбіраць палкі і, сагнуўшы іх, нацягваць на канцы жылы. Ран выпускаў у паветра маленькія вострыя дзіды, якія ўпіваліся ў звера, у птушку... Але яшчэ лепей, чым ён, выпускаў у птушак свае лёгкія дзіды Галу. Ран нават навучыўся размаўляць з чужынцамі, — ён гаварыў, пераплятаючы свае словы з іх словамі, калі ж слоў не хапала, тады выручалі жэсты.

Старэйшынаю індаў быў чалавек са шрамам на твары. Ён называў сябе Індарам. Вечарамі, калі людзі сядзелі ля агню, Ран распытваў Індара, адкуль яны прыйшлі. Дзе жэстамі, а дзе словамі Індар расказваў дзіўныя гісторыі.

Ён казаў, што прыйшлі яны з далёкіх земляў. На тых землях горы нашмат вышэйшыя, зарослыя кустамі і лесам. Там яны такія высокія, што, калі на іх падымешся, цяжка дыхаць. На вяршынях тых гор увесь час ляжаць белыя мятлікі, і птушкі, якія прылятаюць да іх, не заўсёды могуць пераляцець

цераз тыя горы. Там ёсць густыя лясы, спавітыя тоўстымі моцнымі травамі, і ў тых лясах жывуць агромністыя смяротныя павукі, гадзюкі, якія харчуюцца не толькі звярамі, а, бывае, што яны запраста душаць і глытаюць чалавека. У тамашніх вялікіх рэках з мутнымі водамі жывуць жахлівыя ні то звяры, ні то рыбіны, вострымі зубамі яны з берага зацягваюць у ваду як звера, так і чалавека і разрываюць яго... Там лясы такія густыя, што Сонца днём не асвятляе зямлю, і кроплі вады з шумам бягуць з неба днём і ноччу. Цяжка там жыць чалавеку, хваробы разносяць камары і машкара, сырасць раз’ядае цела, і таму яны пайшлі адтуль... Дарогаю яны абмінулі вялікую-вялікую ваду, якая была горкай і якую нельга піць. У той вадзе яны бачылі агромністых, большых за мамантаў, звяроў, якія час ад часу вынырвалі на паверхню і з шумам выпускалі ўгору пыркі... І яшчэ ў той вадзе жывуць агромністыя рыбы. У іх вялікія раты і вострыя зубы, і палююць тыя рыбы нават на чалавека.

Паляўнічым не верылася, што могуць быць такія дзівосы. Тады Індар паказваў на жахлівыя шрамы на сваім твары і целе — то былі драпіны вялізнай паласатай кошкі, якая палявала як на звера, так і на чалавека, гэтая кошка загубіла жонку Індара, яна і яго ледзьве не пазбавіла жыцця. І яшчэ Індар гаварыў, што Пры бяжыць да той вялікай-вялікай горкай вады, яны і змаглі дабрацца сюды, бо ўвесь час ішлі берагам ракі.

Мабыць, Індар казаў праўду, бо на шыях новых знаёмых на тонкіх жылах былі падвязаныя зубы і кіпцюры звяроў і птушак, якіх Ран і яго сябры ніколі не бачылі. Толькі ў Індара не было на шыі ні кіпцюроў, ні зубоў, замест іх на грудзях у яго матляўся лёгенькі скураны мяшэчак, і ў ім ён трымаў штосьці надта яму дарагое.

Але настаў дзень, калі Рану трэба было ісці далей, — да белай гары, дзе знаходзіўся крэмень. Слухаючы Рана, Індар заківаў галавою: так-так, ім таксама патрэбен гэты крэмень і, калі Ран згодзен, яны таксама пойдуць па крэмень, бо іх лёгкія дзіды з ім на канцы часта губляюцца ў густой траве. А іх трэба шмат.

Раніцаю Ран і Індар, акружаныя вялікай групаю паляўнічых, выправіліся да высокай белай гары.

Яшчэ на стаянцы, калі з берага Пры паляўнічыя глядзелі на яе, ім здавалася, што гара недалёка, у чыстым празрыстым паветры яна вытыркалася над травамі і дрэвамі невысокім белым пагоркам і думалася — трэба толькі мінаваць бліжэйшую траву, бліжэйшы куст і вось яна, белая гара... Але потым, калі паляўнічыя прабіраліся па густой высокай, вышэйшай за чалавека, траве, калі мінавалі бясконцыя кусты і дрэвы, бачылі, што гара ўсё гэткая ж, як і дагэтуль, недасяжная, адзінае, што мянялася — яна павялічвалася, як бы вырастала ўгору.

Ісці было цяжка… Асабліва цяжка было першаму чалавеку, які пракладаў сцяжыну, таму падарожнікі па чарзе выходзілі наперад. Лягчэй станавілася, калі траплялі на сцяжыны, пратаптаныя звярамі. Але ісці сцежкамі было небяспечна, — у любы міг перад людзьмі мог паявіцца статак драпежнікаў...

Надвячоркам, калі гара закрыла Сонца, а наперадзе перад стомленымі падарожнікамі дыбілася белая зямля, яны спыніліся.

Начаваць вырашылі ля падножжа гары, каб назаўтра з самага ранку пачаць здабываць крэмень. Перад тым, як укладвацца на начлег, Ран, як вопытны здабытчык крэменю, наказаў паляўнічым, каб яны з лазовага лыка спляліў доўгія моцныя вяроўкі. І яшчэ ён сказаў сплесці вялікі лазовы кошык, у які можна класці крэмень. Му і Галу, як і інды, не ведалі, як будуць здабываць крэмень, мо таму моўчкі паслухмяна рабілі ўсё, што ім гаварыў Ран.

Калі з-за лесу паказалася Сонца, людзі падняліся на гару. Тут са здзіўленнем яны ўбачылі глыбокія і шырокія норы, якія апускаліся ўглыб зямлі. Па ўсім было бачна, што норы гэтыя былі вырыты не звярамі, а людзьмі. У адну з такіх нор, трымаючыся за лыкавую вяроўку, апусціўся Ран. З сабою ён узяў лазовы кошык і вялікі шырокі крэмневы скрабок.

На дне ямы Ран пачаў капаць скрабком зямлю і ў ёй — дзіўна! — знаходзіць крэмень[8]. Крэмень быў розны, траплялiся вялікія кавалкі, з якіх можна было рабіць сякеру, былі і меншыя, прыгодныя для дзідаў, скрабкоў, а таксама для маленькіх вострых дзідаў, якімі карысталіся інды. Назбіраўшы кошык крэменю, Ран крыкнуў з глыбокага падзямелля, каб людзі цягнулі кошык наверх. Апроч крэменю з нораў трэба было выцягваць белую зямлю, у якой нічога не было...

Белая зямля дымілася, пяршыла ў горле, закладала дыханне. Паяўляўся няпрошаны кашаль...

Калі Ран знямогся, ён папрасіў, каб яго выцягнулі наверх. Замест яго ў глыбокую нару апусціўся вёрткі Му. Але і ён надта доўга не мог вытрымаць белага ліпкага дыму. Мяняючыся, людзі апускаліся ў нару і паціху здабывалі і здабывалі дарагі крэмень.

Пад вечар стомленыя, вымазаныя з галавы да пят белай зямлёю, паляўнічыя сядзелі ля груды крэменю. Каб не несці лішні камень, яны збольшага з буйных кавалкаў адбівалі лёгкія адшчэпы, з якіх атрымліваліся скрабкі, наканечнікі для дзідаў, нават сякеры розных памераў. Усе разумелі, што там, на стаянцы, яны будуць доўгі час апрацоўваць гэты крэмень.

Затрымлівацца тут доўга паляўнічым нельга было, бо ў любы момант сюды маглі прыйсці іншыя людзі, якім гэтаксама патрэбен крэмень, і невядома, колькі іх магло быць, і якія яны мелі намеры...

Потым Ран сказаў паляўнічым, каб яны высеклі сякерамі тонкія доўгія лёгкія палкі. Тыя палкі людзі перапляталі ўсярэдзіне лазовымі лыкамі. На лыкі палажылі крэмень. Двое паляўнічых, трымаючыся за канцы палак, маглі несці шмат здабытага каменю.

Напачатку цяжару крэменю паляўнічыя не адчувалі. Але хутка яны пачалі стамляцца.

Калі белая гара паменшылася і засталася далёка за іх спінамі, толькі тады яны вырашылі зрабіць адпачынак. Цяпер ім ужо не трэба было баяцца сутычкі з чужымі незнаёмымі людзьмі.

Узяўшы сагнутыя палкі і лёгенькія дзіды — Ран ужо ведаў, што гэты сагнутыя палкі называюцца лукамі, а лёгкія дзіды — стрэламі — Індар са сваімі паляўнічымі накіраваўся ў густыя кусты, каб упаляваць птушку. Ран з сябрамі тым часам пачаў вызваляць агонь з крэменю.

Хутка ля чырвонага агню было шумна і весела, — людзі радаваліся не столькі вячэры, як неспадзяванаму знаёмству. Але яно магло закончыцца смяртэльнай бойкаю, калі б Той, які жыў наверсе, зрабіў так, каб яе не было. І зрабіў ён гэта толькі таму, што, — як разумелі людзі — яны не парушалі законаў Таго, які жыў наверсе.

Потым, калі ўсе пaклаліся спаць, загорнутыя міготкімі вачыма Таго, які жыў наверсе, Ран, ведаючы, што гэты вечар можа быць апошнім перад развітаннем з індамі, пачаў асцярожна распытваць Індара пра тое, што яго трывожыла і не давала спакою.

— Індар, — спытаў Ран, — адкуль вы паявіліся? Вы, мабыць, некалі ў далёкіх лясах жылі на дрэвах і бегалі па зямлі на руках і нагах, як сёння бегаюць многія звяры?..

Індар маўчаў. Ён нешта адбумваў. Ён, мабыць, вагаўся — гаварыць ці не гаварыць Рану штосьці надта важнае, чаго дагэтуль не гаварыў.

Нарэшце Індар асцярожным і ціхімі словамі сказаў:

— Тыя звяры, надта падобныя на людзей, і цяпер жывуць на дрэвах. Яны і цяпер бегаюць па зямлі на руках і нагах. Яны так бегалі, бегаюць і будуць бегаць...[9]

— Тады адкуль жа вы паявіліся? — перапытаў Ран.

— Адтуль, — Індар кіўнуў галавою ўгору. Як упершыню ў жыцці, Ран зірнуў угору. Ён убачыў мноства вачэй Таго ўсемагутнага, які азіраў свае уладанні. Тыя вочы былі markerнымі, — і буйныя, і ледзь бачныя: адны гарэлі роўным белым святлом, другія пераліваліся халаднаватым бліскучым ззяннем... Яны былі раскіданы якраз над галовамі паляўнічых, яны ахіналі іх з усіх бакоў, і што б людзі ні рабілі, куды б ні пайшлі, але гэтыя вочы следавалі за імі...

Ран тут жа ўспомніў дзіўны ўражлівы сон-трызненне, пра які не забываў усе апошнія дні. І ведаў цяпер тое, чаго не ведаў Індар. Таму Ран сказаў:

— Але ж там нічога няма. Там усё не так, як нам думаецца, Там усё іначай... Там цемры няма. Там галасы гучаць, там мелодыя гучыць, ад якой плакаць хочацца...

— Чаму так гаворыш? — чамусьці, чым болей яны гаварылі, тым цішэй. Так было, мабыць, таму што адчувалі — вось-вось спазнаюць штосьці надта важнае для абодвух — тое, без чаго цяжка жыць.

Бо, мабыць, людзі і пачалі звацца людзьмі, калі пачалі цікавіцца, хто яны і адкуль яны?..

— Ведаю, — ціха варухнуў вуснамі Ран. —Я быў там...

І Ран зноўку кіўнуў галавою ўгору, дзе бесперастанку мігцелі вочы ўсемагутнага.

— Глядзі, — прашаптаў Індар і зняў з шыі скураны мяшэчак. Ён асцярожна развязаў яго і выняў дзіўную бліскучую птушку. Яна ззяла, як агонь. У птушкі меліся шчыльна прыціснутыя да тулава крылы, але дзюбы не было. І хвост у птушкі быў дзіўны,— загнуты вострым канцом угору. Такой птушкі Ран ніколі не бачыў. Яна гэтак ярка пералівалася чырвона-жоўтымі плямамі, што яе было боязна ўзяць у рукі[10].

— Нашы продкі лёталі ў гэтай птушцы. Яны падымаліся вышэй тых гор, на якіх заўсёды ляжаць белыя мятлікі, яны зверху ўсё-ўсе бачылі.. Яны бачылі, што за вялікай-вялікай горкай вадою ёсць зямля і на ёй жывуць людзі гэткія ж, як і мы....

— Што ж здарылася? — шаптаў ледзь чутна Ран.

— Нашы продкі пачалі мерацца сілаю з Тым, які жыве наверсе. Яны захацелі, каб Той, які жыве наверсе, служыў ім... Яны пачалі парушаць законы Таго, які жыве наверсе...[11]

Індар замоўк. І цяпер Ран зразумеў — болей Індар нічога не скажа і не растлумачыць...

Калі паляўнічыя падышлі да стаянкі індаў, першай выбегла ім насустрач тая чарнявенькая маладая дзяўчына, якая некалі вучыла Му вызваляць агонь з каменьчыкаў.

Дзіўна, як хутка і лёгка сыходзяцца маладыя людзі! І Му, і тая дзяўчына, цяпер ужо не саромеючыся свайго шчасця, тут жа сплялі рукі. Вочы іх радасна блішчэлі. Пакуль Ран вучыўся кідаць з лука маленькія дзіды і ляпіць моцныя збанкі, Му і дзяўчына таксама не марнавалі часу, таксама многаму вучыліся, і ў лесе днямі чуўся іх вясёлы радасны смех.

І зноў быў вечар. І была ноч развітання. Была агульная вячэра. І чамусьці — смуткавалі людзі, як звычайна яны смуткуюць падчас развітання.

Ран думаў пра доўгі шлях да свайго роду. Крэмень сваім цяжарам абрываў рукі нават тады, калі двое людзей неслі яго на доўгіх палках. Але і пакідаць надта патрэбны роду крэмень ён не мог... Седзячы ля агню, Ран успамінаў тыя сцяжыны, па якіх ён ішоў сюды, па якіх яму цяпер трэба было вяртацца. Ён засумаваў не толькі па Маі. Ён засумаваў па сваім родзе, па тых людзях, якіх ведаў з маленства. Ён нават па Хлюндры засумаваў — разумеў, што без яе ляманту і бесталковасці людзям будзе сумна жыць. Цяпер ён неяк іначай думаў пра тую ж няшчасную Хлюндру... Сваімі парадамі і павучаннямі яна як магла і ўмела імкнулася памагчы людзям. І ці вінавата яна ў тым, што яе намаганні часта былі марнымі? І той жа Сын мядзведзя быў няшчасны, бо аднойчы паверыў, што сілаю можна ўсяго дабіцца, нават шчасця...

Ён, Ран, пачынаў шкадаваць не толькі скалечаную Ваю, не толькі Хлюндру, але і ўсіх людзей роду...

...Жальба апусціцца да чалавека і пачне шкадаваць яго. Толькі цяпер чалавек здагадаецца, каму жаліцца. Мо таму яшчэ болей у яго, адзінокага, пачнуць ліцца слёзы, і ўсё шаптаць ён будзе, спавядацца перад Жальбою будзе. І ў рэшце рэшт чалавек разумець пачне, што радасць і шчасце ён не там і не ў тым шукаў, пачне разумець, што яна, Жальба, усіх яднае і ўсіх супакойвае. І тады яму стане шкада не сябе, не свайго страчанага шчасця, а ўсіх адзінокіх людзей. Пачуццё шкадобы пачне саграваць ягонае закамянелае цела, і тады ўжо без пелькі перад вачыма зусім па-новаму пачне глядзець выплаканы чалавек на новы свет.

…Раніцаю Індар, разбудзіўшы Рана, павеў яго да абрывістага берага Пры. Яшчэ туман віўся ля кустоў і сосен, слаіўся над травою, і Сонца толькі-толькі падымалася з-за лесу. Над паверхняю ракі ўсё яшчэ вісела суцэльная сівізна. Але першы ранішні ветрык памалу пачынаў зносіць туман на далёкія заліўныя лугі, — ашмоццем яго сцягвала з паверхні Пры і несла над прыцішанай травою да зарэчных зялёных кустоў і яшчэ далей, дзе туман закрываў не толькі кусты, а і край небасхілу.

Гледзячы з абрыву ўніз, Ран нечакана ўбачыў на вадзе сплеценыя лазовымі лыкамі ствалы дрэў. То былі плыты. Мабыць, на гэтых плытах інды і прыплылі сюды. На адзін з плытоў жанчыны ўкладвалі ежу, моцныя гліняныя абпаленыя на агні збанкі, лукі з дзідамі, крэмень яны паклалі на разасланыя тоўстыя скуры — усё яны ўладкоўвалі, без чаго паляўнічыя не маглі абысціся.

Моўчкі Ран і Індар стаялі на высокім беразе Пры. Зірнуўшы на плыты, якія пагойдваліся на вадзе, на жанчын, Ран нечакана адчуў незразумелае хваляванне, — аж задрыжалі вусны. Ён, нічога не сказаўшы, абняў Індара за плечы і ўсё ніяк не мог стрымаць няпрошанае трымценне.

Гледзячы звысоку на наваколле, — на цяпер маленькую, з кулачок, белую гару, дзе яны нядаўна здабывалі крэмень, на задымленыя туманам заліўныя лугі, усеяныя кустамі, на нізкаватае неба, пад хмарамі якога днём чародзіліся птушкі, Ран усё думаў пра штосьці, што трэба было спасцігнуць. Усё, што перажыў ён за апошнія дні, было надта важным, і хацелася яму паяднаць у сабе перажытае ў штосьці адзінае, суцэльнае. І птушкі, і звяры, і дрэвы, і Пры, і той жа дзіўны сон-трызненне, і бліскучая птушка, паказаная Індарам — усё штосьці нагадвала, напамінала.

Што?..

Што яму трэба было спасцігнуць?..

І раптам Ран усё зразумеў. Ад сваёй здагадкі ён аж ўздрыгнуў. Ён зірнуў Індару ў вочы і ціха шапнуў:

— А яна — жывая...

Індар імгненна ўсё зразумеў. Ён кіўнуў згодна галавою: так-так, яна — жывая...

Яны глянулі пад ногі, дзе бялеў пясок, дзе зелянела трава, на дрэвы, дзе пад слабым ветрам варушылася лісце, на малінавы агромністы дыск, што высіўся над вяршынямі сосен, на чорную спіну Пры, з паверхні якой зносіла апошняе ашмоцце туману — усё нечакана, што бачылі, стала іншым. Новае дагэтуль нязнанае пачуццё напаўняла іх. Яны глядзелі на воблакі, што несліся адно за адным і — вусцішна ім станавілася ад гэтага новага пачуцця... Усё стала зразумелым, — чаму ўсе яны, і травы, і звяры, і птушкі — чаму яны так добра ведаюць адно аднаго...

Бо яна — жывая, і ўсіх яна яднае і ўсіх даглядае...

— Яна — жывая, жывая... — усё паўтараў і паўтараў Ран. І, чым часцей паўтараў: «Жывая», — тым больш мацнела ў ім новае нязнанае дагэтуль пачуццё еднасці з усім, што яго акружала. І трывожна станавілася час ад часу — а раптам, раптам ён страціць гэтае пачуццё, без якога яму цяпер нельга жыць, як нельга жыць без пачуцця роду[12].

Магутная Пры лёгка адарвала плыт ад берага і пачала выносіць яго на сярэдзіну цячэння, — туды, дзе з абодвух бакоў бачыліся сплеценыя густыя кусты, за якімі пачыналіся лясы, лугі, нізкія балацявіны... Азірнуўшыся назад, Ран бачыў, што на высокім беразе Пры стаяць людзі і махаюць рукамі. Здалеку-здалёку ён пачуў, як штосьці гучна крыкнула заплаканая чарнявенькая дзяўчына, — мабыць, яна хацела сказаць напаследак Му нешта недагаворанае і надта важнае — тое, што вечна трывожыць закаханых.

Пачуўшы той далёкі голас, Му ўздрыгнуў і ўпіўся нерухомымі вачыма туды, дзе стаялі цяпер маленькія, ледзь бачныя людзі. Зірнуўшы на Му, Ран зразумеў, што ніякай сілаю ніхто не ўтрымае таго ў родзе, — хутка ён знікне і зноўку паявіцца на тым высокім беразе, дзе яго чакаюць заплаканыя чорныя вочы.

## Заўвагі аўтара

[1] Спецыялісты па неаліце падчас археалагічных даследаванняў знайшлі шкілеты краманьёнскага чалавека са слядамі ўдала зробленай чэрапна-мазгавой аперацыі. Пасля такой аперацыі краманьёнцы жылі доўгія гады. Сучасным нейрахірургам не заўсёды ўдаецца дабіцца станоўчых вынікаў пры падобных аперацыях.

[2] З археалагічных знаходак. У адным з неандэртальскіх паселішчаў знойдзена флейта, выраблeная з галёнкі мядзведзя. Яна па строі не адрозніваецца ад звычайнай флейты (танальнасць сі-бемоль). (F. Ivanhoe. Nature. Augest 8.1970).

[3] Паходжанне чалавека ад малпы — тэма асобнага даследавання.

Пітэкантрап (яванскі чалавек), косці якога ў 1891 годзе на востраве Ява знайшоў галандскі доктар Эжэн Дзюбуа. Што ж ён знайшоў? Вядомую нам са школьных падручнікаў чалавечую галёначную костку і чарапную каробку, падобную на малпавую. Адзначым, што галёначная костка ляжала ў пятнаццаці метрах ад чэрапа. У 1895 годзе, вывучыўшы знойдзенную Дзубуа чарапную каробку, аўтарытэт у вобласці параўнальнай і паталагічнай анатоміі Р. Віхроў заявіў, указаўшы на глыбіню швоў чэрапа, што гэта чэрап жывёліны, хутчэй за ўсё гігінцкага гібона, а галёначная костка ніякіх адносін да яго не мае. Толькі ў 1920 годзе высветлілася, што разам з так званым пітэкантрапам Дзюбуа знайшоў яшчэ два чалавечыя чэрапы і галёначныя косткі.

Эоантрап (пілтдаунскі чалавек), знойдзены археолагам-аматарам у 1912 годзе. Грамадскасць атрымала доўгачаканую сенсацыю — шчэлепы ў чэрапе былі як у сучасных арангутанаў, але паверхня зубоў больш плоская, як у чалавека. Хутка астанкі былі схаваны ў Брытанскім музеі, а даследчыкам выдаваліся толькі гіпсавыя копіі, па іх сотні спецыялістаў пісалі дысертацыі пра тое, як адбываліся працэсы ператварэння малпы ў чалавека і чаму спачатку развіваўся чалавечы мозг, а потым усё астатняе. І толькі ў 1953 годзе косткі ўдалося дастаць са сховішча і зрабіць хімічны аналіз. Вынік — звыклы свету эоантрап аказаўся падробкай! Чэрап сапраўды быў старажытны, шчэлепы — амаль сучасныя, былі яны не надта закамянелымі шчэлепамі арангутана, падфарбаваныя спецыяльным хімічным рэчывам. Для прыдання зубам малпы чалавечай формы, іх падпілілі.

Гесперапітэк (небраскі чалавек). У 1992 годзе у штаце Небраска археолагі знайшлі акамянелы зуб. Форма ягоная была такой, што ён не мог належаць ні чалавеку, ні малпе. Быў зроблены вывад: гэта зуб малпачалавека! Тут жа ў буйнейшых часопісах надрукавалі «ўзноўлены» (па адным зубе!) жывапісны выраз продка. Праз пяць гадоў удалося знайсці і поўны шкілет істоты з такім зубам: ім аказалася дзікая свіння, якая і цяпер цудоўна пражывае ў Парагваі.

Сінантрап (пекінскі чалавек). У 1929 годзе ў пячоры недалёка ад Пекіна археолагі знайшлі шкілеты жывёлін і чэрапы малпавага тыпу. Сінантрап аказаўся малпай, забітай людзьмі.

Рамапітэк. У 1934 годзе каля Дэлі знайшлі два дзясяткі зубоў і некалькі кавалачкаў шчэлепаў. У сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя былі знойдзены больш поўныя астанкі шчэлепаў рамапітэка, яны амаль нічым не адрозніваліся ад шчэлепаў сучаснага арангутана.

Можна лічыць, што гесперапітэк, сінантрап, пітэкантрап, ад якіх як быццам бы паходзіць сучасны чалавек — памылкі вучоных, эоантрап, як мы бачылі вышэй — падробка...

Неандэрталец... Ён лічыцца недачалавекам. Аднак па аб'ёме мозга ён амаль нічым не адрозніваецца ад сучаснага чалавека. Мікраскапічныя даследаванні рэбраў быка, знойдзеных на месцы стаянкі неандэртальцаў, пакрытыя разьбою ў выглядзе сімвалаў, сведчаць, што неандэрталец, верагодней за ўсё, меў даволі высокі інтэлектуальны узровень.

Пакуль няма ніводнага доказнага і адназначнага факта, які сведчыў бы пра існаванне нейкага пераходнага віду паміж малпай і чалавекам.

Генетыкі даказалі, што геномы (індывідуальныя комплексы генаў) двух людзей з розных канцоў свету адрозніваюцца нашмат менш, чым у дзвюх гарыл з аднаго лесу.

Даследаванні будовы Y-храмасомы чалавека паказалі, што ва ўсіх людзей верагодна быў адзін продак па мужчынскай лініі. У выніку вывучэння мітахондрый высветлілася, што ўсе мы маглі паявіцца ад адной жанчыны. Хоць генетыкі пакуль не могуць сказаць, ці жылі «адкрытыя» продкі адначасова, вучоныя назвалі іх Адамам і Евай...

[4] Як пабудаваны сусвет?

На працягу чалавечай гісторыі (гісторый?) светапогляд чалавека мяняўся і будзе мяняцца. Па гэтай жа прычыне сусвет у чалавечым успрыманні на розным гістарычным адрэзку бачыцца па-рознаму. Праз пэўны час сённяшнія ўяўленні пра сусвет нашым нашчадкам пакажуцца дзіўнымі, а то і смешнымі, як многім сённяшнім адукаваным людзям дзіўнымі і смешнымі здаюцца ўяўленні першабытных людзей пра навакольны свет, а значыць, і пра сусвет...

У сучаснай навуцы самай папулярнай лічыцца мадэль пульсуючага сусвету. Яе сутнасць — пад уздзеяннем сіл прыцяжэння рэчыва будзе моцна сціскацца. Нарэшце адбудзецца Вялікі Выбух, і сусвет зноў пачне расшырацца, утвараючы галактыкі, зорныя сістэмы і планеты. Астрафізіку Хокінгу ўдалося скласці формулы, якімі тлумачацца паводзіны такой мадэлі

сусвету. Але ўся грандыёзная тэорыя Вялікага Выбуху — фантазія на тэму: «Як бы развіваўся сусвет, калі б ён існаваў заўсёды».

Навуковыя адкрыцці апошніх гадоў прымушаюць усур'ёз сумнявацца як у існаванні чорных дзірак, так і Вялікага Выбуху (Н. Н. Попов. Новые представления о структуре пространства-времени и проблема геометризации материи. М.: Издательство научной и учебной литературы УРСС. 2002).

Для апісання чорных дзірак выкарыстоўваецца метрыка Шварцшыльда. Пры ўмове, калі Сонца будзе мець радыус 8 км, паявіцца бясконцае ўзрастанне сілы гравітацыйнага прыцягнення. Такія аб'екты становяцца чорнымі дзіркамі, нават святло з іх не можа выйсці. Так званая сфера Шварцшыльда становіцца «гарызонтам падзей». Аб'ект, які трапляе ў чорную дзірку, перасякаючы гарызонт падзей, правальваецца ў «іншы свет» — ніхто ніколі пра гэты аб'ект нічога не будзе ведаць. Чорныя дзіркі маюць яшчэ парадаксальныя ўласцівасці, разабрацца ў якіх не могуць і самі «астрафізікі-чарнадзірачнікі»...

Апошнія даследаванні паказалі, што метрыка Шварцшыльда — прыватны выпадак больш агульнай метрыкі. На малых адлегласцях радыуса Шварцшыльда трэба карыстацца новай метрыкай. Згодна гэтай тэорыі новая метрыка нідзе не ператвараецца ў бясконцасць, яна «ўсюды гладкая», не паяўляецца ні гарызонту падзей, ні бясконцага ўзрастання гравітацыйнай сілы паблізу кропкавых аб'ектаў.

Існаванне чорных дзірак і Вялікага Выбуху ў сусвеце, якія характарызуюцца новай метрыкай, прынцыпова немагчыма...

Амаль што ўсе «карты» блытаюць цёмная матэрыя і цёмная энергія...

Па некаторых дадзеных звычайнае рэчыва, якое маем у сваіх адчуваннях, у тым ліку зоркі, планеты, складае не больш як 10 працэнтаў ад рэальна існуючай матэрыі, якую немагчыма назіраць у тэлескоп, якая не адбівае промні святла, не выпраменьвае фатоны ні ў якім дыяпазоне электрамагнітнага спектра. Фактычна атрымліваецца, што мы нічога не ведаем пра тое рэчыва, з якога пабудаваны сусвет...

[5] Парадак сусвету ёсць музыкальная гармонія ў вялікай шматвобразнасці праяў, якія падпарадкоўваюцца пэўнаму ладу і рытму, прыведзеная ў сугучча сама з сабою, сабе сугучная.

Святы Грыгорый Ніскі, праваслаўны
багаслоў IV стагоддзя.

[6] Арыстоцель: «Мы павінны думаць пра іх (зоркі), як пра жывых істот...»

[7] У першабытных людзей сон атаясамліваўся з рэальнасцю, з якой час ад часу сутыкаўся чалавек.

[8] Першабытныя людзі здабывалі крэмень у крэйдавых радовішчах. Яны капалі глыбокія шахты і гэтаксама, як сучасныя шахцёры выцягваюць наверх вугаль, выцягвалі наверх крэмень.

[9] Матэрыялістычная эвалюцыйная тэорыя Дарвіна, якая тлумачыць паходжанне чалавека ад малпаў, якой сёння прытрымліваюцца многія вучоныя, ніяк не стыкуецца з рэлігійнымі пастулатамі аб паходжанні чалавека (хрысціянства, іслам, іудаізм). Гэтая нестыкоўка прыводзіць да блытаніны як у светапоглядзе сучаснага чалавека, так і ў пошуках ісціны. Больш таго, чым далей, тым вастрэй адчуваецца тупіковасць такой сітуацыі. Як вынік — шматлікія трагедыі, уключаючы наркаманію ў рознай форме, асацыяльнасць паводзін людзей, рэлігійныя войны. Замоўчванне гэтых супярэчнасцей звязана з тым фактам, што чыста навуковыя і філасофскія пошукі ісціны часта закранаюць інтарэсы ўплывовых груп грамадства. Яскравы прыклад — трагічны лёс Джардана Бруна, які быў спалены інквізіцыяй у Рыме, бо сваімі вучэннямі аб мностве і бясконцасці Сусветаў ён закрануў інтарэсы царквы — на той час самай уплывовай у Еўропе арганізацыі.

[10] У сярэдзіне мінулага стагоддзя археолагі на месцах паселішча інкаў знайшлі знакамітую залатую птушку. Доўгі час гэта знаходка была засакрэчана. Формаю сваёй яна нагадвае самалёт. Амерыканскія авіяканструктары, якім трапіла ў рукі залатая птушка, правялі яе выпрабаванні ў аэратрубе. Вынікі былі ашаламляльныя — пры звышгукавых хуткасцях яе форма была ідэальнай, бо мела найменшае супраціўленне. На аснове мадэлі залатой птушкі створаны звышгукавыя самалёты з прынцыпова новай формай крыла.

[11] Св. Аўгусцін, які жыў у чацвёртым веку нашай эры на роспыты, што рабіў Усявышні напярэдадні першага дня тварэння, адказваў: «Ён рыхтаваў у пекле месца для залішне дапытлівых людзей».

[12] Сярод жывых арганізмаў(відаў) праглядваецца ланцуг падзей, якія адбываюцца не па ўнутрывідавых законах. Як прыклад — існаванне некаторых так званых паразітаў, у якіх жыццёвы цыкл адбываецца за кошт перасялення ў розныя віды-носьбіты (да шасці відаўносьбітаў). Англійскі даследчык Д. Е. Лаўлюк: «Калі задумка запісана «па-за відамі», то мы зноўку прыходзім да канцэпцыі Розуму Зямлі — Геі. Гея кіруе не толькі экасістэмамі, відамі, але і індывідуальнымі паводзінамі відаў». Гэткіх жа поглядаў на Зямлю, як на жывы і разумны арганізм прытрымліваўся астраном Іаган Кеплер (400 гадоў назад), таксама прытрымліваюцца многія сучасныя біёлагі, у прыватнасці Д. Н. Собалеў, В. Н. Беклямішаў.



Віктар ГАРДЗЕЙ

# ПАДАННІ

## АДКУЛЬ БЯРЭСЦЕ

Калісьці на фэст ці на нейкае шэсце
Над Бугам святочна і светла было.
Дзядзінец тады называўся — Бярэсце,
І звестак пра тое нямала дайшло.

Нібыта купец прабіраўся на возе,
І шуснуў у багну загружаны воз.
Бядак азірнуўся: наўсцяж пры дарозе
Аж цесна ад белых і статных бяроз.

Кару дзёр купец і цягаў без спачыну,
Ды вымасціў грэблю і вывез тавар.
Спякотаю вецер высушваў лагчыну
І кідаў бяростаю людзям у твар.

Купец той вярнуўся, паставіў каплічку
На месцы, адкуль мог пайсці жабраком.
Наведваць каплічку зрабілася ў звычку.
— Пайду «на Бярэсце», — казалі кругом.

З'явіўся дзядзінец ля рэк у сутоку,
Дзе выбраўся з багны шчаслівы купец.

---

***Гардзей Віктар Канстанцінавіч*** *нарадзіўся 19 жніўня 1946 года ў вёсцы Малыя Круговічы Ганцавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1984). Працаваў у часопісах «Беларусь», «Родная прырода», «Маладосць», «Полымя», «Вожык», у выдавецтве «Мастацкая літаратура». Цяпер — у газеце «Літаратура і мастацтва».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Касавіца» (1975), «Верасное палясоўе» (1978), «Засевак Радзімы» (1983), «Незабудкі азёр» (1985), «Узрушэнне» (1988), «Дзікая пчала» (1994), «Зялёныя дажджы» (1997), «Межань» (1999), «Трыадзінства» (2010), кніг прозы «Дом з блакітнымі аканіцамі» (1984), «Карані вечнага дрэва» (1988), «Уратуй ад нячыстага» (1992), трылогіі «Аселіца ў басейне Чорнага мора» (2000), рамана «Бедна басота» (2003), шматлікіх паэтычных кніжак для дзяцей.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Івана Мележа (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2008).*

Быў горад заслонены Бугам, а збоку
Жыллё ад нападу прыкрыў Мухавец.

Вякі, што сплылі, быццам качары, цугам,
Назовы мянялі, як слова на жэст, —
Ад Брэста-Літоўска да Брэста-над-Бугам,
А сёння — то мужны і велічны Брэст.

Захопнікі лезлі сюды апантана,
І ледзь адбівалі напад ваяры.
Таму вось і крэпасць была збудавана
На месцы, дзе высіўся горад стары.

З фашысцкай навалай адважна салдаты
У бітву ўступілі світальнай парой,
Стралялі байніцы, фарты, казематы —
Навекі праслаўлена крэпасць-герой.

Міні цытадэль — там, дзе Холмская брама,
І мост над вадой перайдзі, а далей
Кіруйся направа і трошачкі прама —
Убачыш не меней славуты музей.

Пад небам, дакладней, пад шклом на раскопе,
Увагу прывабіць глыбокі абрыў.
«Бярэсце» — музей, што вядомы ў Еўропе, —
Знаходку такую сам лёс падарыў.

Маленькія хаткі з астанкамі тыну
Ды іншых збудоў паўгнілыя вянцы.
Тут знойдзены розныя рэчы з бурштыну,
З жалеза — прылады, з касцей — грабянцы.

Відаць, у той век і купец у знямозе
Вымошчваў бяростаю летнік глухі,
Пазней праз Бярэсце, па цвёрдай дарозе
Гандлёвыя ўсюды пралеглі шляхі.

## АДКУЛЬ КАЖАН-ГАРАДОК

Да ранку кажан аніяк не спачыне —
Лятае, пакуль не адступіцца змрок,
Ды толькі зусім не па гэтай прычыне
Мястэчка назвалі Кажан-Гарадок.

Хто быў на Палессі, пацвердзіць усякі,
Што ў краі, дзе з небам гамоняць бары,
Славутыя ў свеце жылі кажамякі,
Калі ж па-сучаснаму, дык — гарбары.

Па Цне плытагоны сплаўлялі драўніну,
Здаўна рыбалоўства квітнела на Цне,

Высока цанілі лясную пушніну
І свойскую жыўнасць трымалі ў цане.

Баран танкарунны і бык таўстаскуры,
Трапляў тут у мяліцу нават і тур.
Спакон кажамякі не зналі халтуры
У слыннай майстэрні па вырабе шкур.

Майстры вызначаліся працай стараннай,
Прыгожыя шылі з аўчын кажухі.
Фарсілі, як пеўні, знарок перад паннай
У хромавых ботах яе жаніхі.

Ні дня не стаяла гарбарня пустая,
Бо слава майстроў абляцела зямлю.
Французы на выраб вязлі гарнастая,
Ды мантыю шылі свайму каралю.

З хацін, што туліліся ў цесных завулках,
Сышлі кажамякі, краўцы і шаўцы.
Ці помніць іх Цна? — бо змялела рачулка
І ўжо не плывуць чужаземцы-купцы.

Цяпер гэта вёска, і толькі паданні
Хвалююць нашчадкаў, не ўводзячы ў зман.
Хто скажа, чаму на глухім скрыжаванні
Ёсць месца, якое завецца Майдан?

Магчыма, вось гэтак мясцовасць названа,
Таму што яшчэ з незапомных вякоў
Тут продкі ў распаленых ямах — майданах —
Смалу здабывалі з карчоў-смалякоў.

Магчыма, таму, што калісьці татары
Дапялі ў мястэчка праз багну і гразь —
Расклалі кастрышчы ўкруга кашавары
І побач на ўзвышшы была канавязь.

Майдан — проста пляц, дзе з эпохі суровай,
Як птушкі стагоддзяў, паданні жывуць.
Гарою Відушавай невыпадкова
Узвышша паблізу і сёння завуць.

Авідзій-паэт Рым аднойчы пакінуў
І выплыў ад мора далёка ўбаку.
Як лічаць, ён дзесь на Палессі загінуў
І быў пахаваны ў Кажан-Гарадку.

Душа не адна ў пакаленняў сагрэта
Стасункамі краю з легендай сівой,
Ды болей, чым імем чужога паэта,
Народ ганарыцца сваёю царквой.

Драўлянага дойлідства помнік славуты
Стаіць на Палессі стагоддзі ўжо два.
Угоднік Мікола ў літаннях пачуты,
І ў гонар святога названа царква.

Кажан-Гарадок з не ягонай віною
Звідна да малітвы паклічуць званы,
Калі паміж дахаў, над рэчкаю Цною,
Нястомна крыляюць яшчэ кажаны.

## АДКУЛЬ МІЛАВІДЫ

Як рэкрут вяртаўся з паходаў царовых —
Ішоў нацянькі праз лугі і дубровы.

Чвэрць веку цягнуў ён салдацкую лямку,
Ішоў у адным, што запомніў, напрамку.

Ішоў каля Шчары ды берагам Грыўды,
І сэрца яго захліпалася з крыўды.

Забралі хлапцом да цара ў абаронцы,
Вярнуўся старым пасля муштраў бясконцых.

— Ах, мілыя віды! Ах, мілыя віды!
Хіба я не варты быў лепшай планіды?

Яліны ды хвоі салдата віталі.
— Ах, мілыя віды! — зноў вусны шапталі.

Асеннімі барвамі долы гарэлі,
Бярозы нібыта сышлі з акварэлі.

Вось тут, на развілцы Варшаўскага шляху,
Спароў ён з адзення служывага бляху.

— Куды ўжо бадзяцца старому салдату?
Хмызняк раскарчую, зрублю сабе хату.

Сяліба, што вырасла працай і потам,
Да славы людзей прычынілася потым.

Кастусь Каліноўскі, паўстанцы-асілкі
Цару не здаліся ля гэтай развілкі.

Ішлі на падмогу з-пад Вільні і Ліды
У вёску, якую завуць Мілавіды.

Вось тут адбылася Хрыстовай малітвай
За лучнасць і волю славутая бітва.

У гонар паўстанцаў і іх перамогі
Капліца стаіць каля самай дарогі.

Ды, зноў жа, за Шчарай яшчэ і сягоння
Расчульваюць *мілыя віды* на ўлоннях.

Як рэкрута звалі — не помняць нашчадкі,
А скуль Мілавіды — няма тут загадкі.

## АДКУЛЬ РЭЧКА ЛАНЬ

Час, што ў нябёсах мільгнуўся, як знічка,
Мноства загадак пакінуў зняверцам:
Скуль і калі тут узнікла крынічка,
Што разлілася на ўлонні азерцам?

Раніцу пеўні яшчэ не будзілі,
На вадапой даніэлі хадзілі.

Княжы Нясвіж не стаяў бліз вытоку,
Як і не чулі пра Клецак-мястэчка.
Тое ж азерца бучнела — і збоку
Берагам нізкім прабілася рэчка.

Вось даніэлі, малыя алені,
Рушылі ўслед праз лугі і глухмені.

Рэчка дапяла разлогаў палескіх —
Край хоць прыгожы, але небагаты.
Зводдаль азерца, дзе скрозь пералескі,
Людзі аднойчы паставілі хаты.

Чулі цяпер даніэлі пад ранне
З вёскі вясёлае пеўняў гарланне.

Людзі былі пад няволяю панскай,
А сябравалі з прыродай жывою.
Тую ж крынічку завуць яны Ланскай —
Кажуць, што ў гонар жывёл з вадапою.

Тут даніэлі хадзілі спрадвеку.
Лані ж былі даражэй чалавеку.

Шчасціла мала ратаям на ловах:
Ляда расчысцілі, поле ўзаралі.
Ім спадабалася ёмкае слова —
Ланню і вёску, і рэчку назвалі.

Як даніэлі сцярпелі няславу?
Ім жа належала рэчка па праву!

Там, дзе і сёння бары верасныя,
Тайны разгадку нашчадкі сустрэлі,
Бо даніэлі — то лані лясныя,
Лані ж лясныя — і ёсць даніэлі.

«Лані» — гучала на мове халопа,
А «даніэлі» — казала Еўропа.

Лань абмялела, як стала каналам,
Хоць дзе-нідзе і цячэ ў глухамані.
Ланяў рабенькіх жыццё даканала:
Цалкам звяліся не толькі на Лані.

Як ні журыся і што ні даказвай —
Праўда ж, у Лані прыгожая назва!

## ХАМЯК

Вясною прачнуўся звычайны хамяк
І вылез на сонейка з норкі.
Абшар, дзе пасеяна жыта, размяк,
І ўжо зеленеюць пагоркі.

Ну, гэткі пацешны і мілы грызун!
Нявінна апушчаны лапкі.
На рыжым футэрку, што носіць таўстун,
Бялеюць дзе плямы, дзе крапкі.

Такія ж на шыі і збоку вушэй,
І шчокі дасталі ўжо рота.
Ён селіцца там, дзе вышэй і сушэй,
Не любіць лясоў і балота.

Убачыў суседзяў — ад шчасця засоп.
Як добра на свежым паветры!
Хамяк знакаміты, між тым, землякоп:
Жыллё ўглыбіню на два метры.

Не дзіўна, што чорны ў яго фартушок
Ад вечнага поўзання ў норах.
Удзень адсыпаецца слаўны звярок,
На полі шчыруе пры зорах.

Аж дзесяць малых — дзеля плоймы такой
Ён многа зямлі пераверне,
А злакі паспеюць — хамяк за шчакой
Разносіць па схованках зерне.

Калісьці сам Жыжаль спякоту прынёс
На землі Падляшша з Валыні:

Пасохла жытное, пшаніца, авёс,
І стаў краявід бы ў пустыні.

Хоць трохі сабралі, — зіму пражылі,
Ды толькі парою вясенняй
Сяўбу, як звычайна, пачаць не змаглі,
Бо свірны стаяць баз насення.

У Кобрын да князя прыйшлі хадакі:
— Карай, але выслухай, княжа!
Цяпер не пасеем — не будзе мукі,
І ганьба на сейбітаў ляжа.

Паморак з усіх пагражае канцоў,
Калі не спыніць заняпаду.
Спалохаўся князь і гукнуў мудрацоў:
Якую дадуць яны раду?

Прыйшлі чарадзеі, жрацы, вешчуны
Да надта нязвыклай высновы,
Што збожжа ёсць там, дзе жывуць грызуны, —
У норах найбольш хамяковых.

Вось так і адсеяўся збеднены край
Насеннем са знойдзенных злакаў,
А потым багаты шумеў ураджай,
І кожны ад радасці плакаў.

Пазбавіў хамяк ад вялікай бяды:
Запас яго роўны быў цуду.
Знаходзяць у сховах звярка сапраўды
Адборнага збожжа па пуду.

З далёкай эпохі ён селіцца тут,
Дзе Кобрын, Пружаны, Бяроза.
Ды сёння як быццам чужы гэты кут:
Жыццё грызуна пад пагрозай!

На жніўным засеўку паблізу нары
Збіраецца вораг усякі:
Драпежныя птушкі, лісіцы, тхары,
Вядома — каты і сабакі.

Трапляюць без меры ў раллю аміяк
Ды розныя там пестыцыды.
Знікае паўсюль легендарны хамяк,
Бяднеюць, дзе жыў, краявіды.

Ад веку шматлікім быў мірны звярок,
Цяпер — патрабуе аховы.
Прайдзіся паўз жыта, паўз яр ці лясок —
Не бачна слядоў хамяковых.



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# ШЛЯХІ І ВЯРТАННІ

## Наканаванае

Прачытаў, што піша ў «СБ» Валодзя Сцяпан пра радыё. І ўстрывожыўся светлым і чыстым хваляваннем.

У нашым прыгарадным пасёлку мы жылі ў звычайнай вясковай хаце. Чорная круглая талерка радыё не змаўкала ніколі. Мая баба Оля ведала па прозвішчах усіх дыктараў і акцёраў (вось бы яна парадавалася, слухаючы ўнука!).

— Гэта Бузук, — гаварыла яна, — а гэта Рахленка.

«Фішкай» было слуханне «Тэатра ля мікрафона». Сэрца замірала ад спектакля пра Брэсцкую крэпасць.

Я любіў дзіцячыя праграмы — «...забалелі ў вавёрачкі зубкі, не можа раскусіць яна арэхавай шкарлупкі...», «шукаем усюды Мічыка, шукаем усюды Флічыка, галодныя і сумныя ідзём...» Пра вавёрачку, я ведаў — гэта Віткі, пра Флічыка — не памятаю...

Калі я навучыўся чытаць, застаючыся дома адзін, я адкрываў кнігу і гучна, пераймаючы радыёдыктара, прамаўляў: «У Мінску 16 гадзін. Паслухайце, калі ласка, казку...»

І пачынаў чытаць.

Любіў «Жывое слова» з Уладзімірам Юрэвічам, і ніколі не мог уявіць, што праз шмат гадоў у Мінску паважаны мэтр мне скажа:

— Ніяк не зразумею, Навум, адкуль у вас такая дасканалая мова? Дзе вы маглі яе так вывучыць?

Не маю адказу і зараз. Магчыма, слухаючы радыё ў сваім пасёлку, на зямлі, што нам дадзена лёсам, сярод полацкіх беларусаў...

---

***Гальпяровіч Навум Якаўлевіч*** *нарадзіўся 14 студзеня 1948 года ў Полацку. Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў грузчыкам на заводзе шкловалакна, карэктарам, літсупрацоўнікам полацкай газеты «Сцяг камунізму», рэдактарам радыёвяшчання наваполацкага вытворчага аб'яднання «Палімір». Скончыў Віцебскі педагагічны інстытут імя С. М. Кірава (1979). Працаваў уласным карэспандэнтам Беларускага радыё ў Віцебскай вобласці, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Вожык», намеснікам старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, галоўным рэдактарам каардынацыйнай дырэкцыі Беларускага радыё. Цяпер — галоўны дырэктар замежнага вяшчання Беларускага радыё.*

*Аўтар паэтычных кніг «Сцяжына» (1983), «Брама» (1990), «Востраў душы» (1995), «Струна» (1997), «Шляхі і вяртанні» (2000), «Святло ў акне» (2002), «Голас і рэха» (2004), «Гэта ўсё для цябе» (2006), «Насцеж» (2008) і інш.*

Дык пра радыё. Магу пабажыцца, што ніколі не думаў, што буду працаваць на радыё. Марыў быць капітанам далёкага плавання, потым — перакладчыкам, пазней пацягнула пісаць...

У нашай полацкай газеце, дзе я пачынаў працаваць карэктарам, да радыёжурналістаў ставіліся крыху з іроніяй: маўляў, не валодаюць словам, бяруць толькі голасам. Я таксама стаў так думаць, і калі лёс вынес мяне з газеты на заводскае радыё, лічыў, што гэта часова і марыў вярнуцца працаваць у газету ці трапіць у часопіс.

Але ж, пэўна, мне было наканавана стаць уласным карэспандэнтам беларускага радыё, таго радыё, якое я слухаў з дзяцінства.

І я зразумеў, што гэта маё. Я рабіў на рэпартажы і слухаў іх потым з прыёмніка… Я ўставаў раніцой і, прыхапіўшы транзістар, бег на зарадку ў блізкі лес.

Калі пераехаў у Мінск, стаў працаваць у «Вожыку», потым у Саюзе пісьменнікаў, часта лавіў сябе на трывожнай думцы: «Няўжо ніколі не вярнуся ў свет студый, мікрафонаў, магнітафонных стужак, людзей з прыгожымі адметнымі галасамі?..»

Дзякуй богу, вярнуўся. Відаць, гэта было мне наканавана. Як наканаваны Полацк, радзіма, мова. Як наканавана мая Беларусь.

* * *

«Дужа ты трапяткі», — гаварыў мне часам Алесь Пісьмянкоў, калі я перажываў за нейкі свой учынак, у запале сказанае слова. Сам, між тым, ён быў такі ж. Бывала, прыходзячы дадому пасля нашых доўгіх размоў, Алесь тэлефанаваў мне і пытаўся:

— Я цябе часам не пакрыўдзіў?

— Ты што ? — казаў я, — чым ты мог мяне пакрыўдзіць?

Ён быў адзіны чалавек сярод маіх прыяцеляў-сяброў, з якім я мог гаварыць шчыра і без аглядкі, у нечым не згаджацца, горача даказваць сваё і пры гэтым не страціць сяброўства, узаемаразумення.

Памятаю, у час гэткіх нашых гарачых размоў Валодзя Марук, слухаючы нас (таксама, на жаль, ужо нябожчык) моўчкі жахаўся, бо выразаў мы не выбіралі. Але праз хвіліну-другую зноў між намі панавалі мір і згода.

Аднойчы мы вярталіся па праспекце з рэдакцыі дадому (жылі ў суседніх дамах). Разам з намі былі два шаноўныя пісьменнікі, Алесевы старэйшыя сябры. Як часам здаралася, дарога станавілася доўгай, бо на ёй траплялiся то адна кафэшка, то другая. Мне стала гэта надакучваць і я сказаў Алесю:

— Пайду ўжо.

Ён, захоплены размовай, толькі моўчкі махнуў рукой.

Прыйшоўшы дадому, я раптам расхваляваўся, аж потам праняло: «Я ж кінуў сябра. А калі што з ім здарыцца? Які ж я сабака!» (Традыцыйны выраз Пісьмянка).

Бягом пабег на праспект, і... знайшоў Алеся і яго сяброў на тым самым месцы, дзе пакінуў. Алесь, па-мойму, нават не заўважыў, што я сыходзіў...

«Дужа ты трапяткі», — сказаў ён, калі я павінаваціўся за мой сыход.

Няма Алеся. Пуставата без яго мне. Але што зробіш?

* * *

Аднойчы, яшчэ пры жыцці Івана Антонавіча Брыля я напісаў у «Ліме», што такія нашы пісьменнікі, як Брыль, Быкаў, Адамчык, Стральцоў, Каратке-

віч могуць упрыгожыць любую еўрапейскую літаратуру. Іван Антонавіч прыслаў мне тады дадому паштоўку, у якой напісаў прыблізна так: «Вы, Навум, перабольшваеце. Паколькі мы пішам па-беларуску, а перакладаў з нашай малавядомай мовы вельмі мала, то ніхто нас за межамі Беларусі не ведае».

Класік крыху какетнічаў, бо якраз у той час такія-сякія пераклады беларускіх пісьменнікаў усё ж былі. І кніжкі выходзілі, у тым ліку, у Маскве, і досыць вялікімі тыражамі.

Але, як ні парадаксальна, належнай увагі, піетэта да айчыннай літаратуры не хапала нам самім. Праўда, гэта не дасягала такіх памераў, як цяпер, калі, напрыклад, выпускнік аднаго з прэстыжных мінскіх ВНУ не мог мне адказаць, хто такі Іван Мележ.

А між тым той жа Міхась Стральцоў — гэта зусім не слабей, чым Пелевін, Уліцкая, Талстая і г. д., ці якія-небудзь яшчэ букераўцы, ад якіх «балдзее» «прасунутая» мінская калялітаратурная тусоўка. Пры тым, што Стральцова даўно няма на гэтым свеце.

Тонкі лірык у прозе і паэзіі, высокаадукаваны і таленавіты, ён у сваёй творчасці спалучаў і традыцыі «сярэбранага веку», і прозы модных тады Аксёнава, Гладзіліна, і народнасць Шукшына, Абрамава, і нават пэўныя рысы пастмадэрнізму. І ўсё гэта — на бліскучай літаратурнай беларускай мове.

Пра Стральцова трэба яшчэ пісаць і пісаць, яго трэба вяртаць у сучасны літпрацэс, бо гэта яркая і цікавая творчая асоба.

Мы часта гаварылі пра яго з Алесем Пісьмянковым, як і пра Віктара Карамазава — пісьменніка яркага, своеасаблівага, які спалучае ў сябе і стыхію, і тонкае разуменне прыроды выяўленчага мастацтва (Карамазаў і сам — цікавы мастак). А проза сучаснікаў — Федарэнкі, Сцяпана, Глобуса, Брава, Рублеўскай, Наварыча, Рублеўскага, вершы (тут пералік быў бы яшчэ большы)?

Няведанне, неразуменне сваёй культуры, у прыватнасці, літаратуры, недаацэнка ўласнага — прыкмета перш за ўсё правінцыйнасці, другаснасці.

І замест міжсабойчыкаў, часта дробных і настоеных на моцных традыцыях кухонных разборак, важней гаварыць пра тое вартае, што ёсць у нашай літаратуры, што трэба працягваць і памнажаць.

І памагаць людзям спазнаць тое, што яны часам проста не ведаюць, любіць і ганарыцца сваім...

## Сапажкоў

З Юрыем Міхайлавічам Сапажковым мы заўсёды гаворым па-беларуску, хоць ён родам з расійскай глыбінкі і піша на рускай мове. Прыехаў у Беларусь пасля службы ў войску і пасля таго, як яго вершы надрукавалі ў газеце «Знамя юности».

У свае семдзесят ён абсалютна малады і па-юначы няўрымслівы. Віцэ-кароль першага міжнароднага літаратурнага перакладу (Лондан, 2009), Юрый Міхайлавіч сапраўдны рыцар паэзіі. Я захапляўся яго інтэрв'ю з Яўгенам Еўтушэнкам, надрукаваным у «Нёмане». Дакладней, гэта не інтэрв'ю, а бліскучае эсэ, і дзеля яго Юрый Міхайлавіч ехаў ноччу на ўласным аўтамабілі з Мінска ў Віцебск, дзе меўся выступаць Еўтушэнка.

Мы высветлілі аднойчы, што абодва вельмі любім паэзію Максіма Танка і па чарзе цытавалі нашы любімыя вершы, якія ён стварыў.

Паэзія Ю. Сапажкова шчырая і глыбокая. Яго пераклады з беларускай на рускую дакладныя і пазначаныя любоўю і разуменнем. Ён паважае і любіць беларускае слова, больш шчыра і глыбока, чым некаторыя яго калегі, якія нарадзіліся тут і пішуць на рускай мове.

Мне пашчасціла пазнаёміцца з Юрыем Міхайлавічам не так даўно, у час, калі мы разам ездзілі на радзіму Алеся Пісьмянкова ў Касцюковіцкі раён. І з таго часу я рады, што сярод маіх добрых знаёмых ёсць Юрый Сапажкоў.

* * *

Часам чую пра сябе — «традыцыяналіст», «выхаваны на традыцыях савецкай літаратуры». Гэта гучыць цяпер як загана. А некалі ж такіх азначэнняў у свой адрас не было чуваць. Нават ушчувалі некаторыя, што дужа люблю сучасную літаратуру: Бродскага або Аксёнава, Разанава або Вярцінскага, Станкевіча або Брава... Але сёння і яны «традыцыяналісты».

Канешне ж, было б смешна, калі б заўтра я выйшоў на працу ў майцы з надпісам нешта накшталт «I kiss you», у драных джынсах і з рукзаком за плячыма...

Што ж да традыцый, то як нашым ультрасучаснікам ні здасца дзіўным, на іх улюбёным Захадзе больш, чым у нас. Што навідавоку, а што і ў музыцы, літаратуры, мастацтве. Гэта зусім не значыць, што я адвяргаю пошук. Проста за пошукам нечага новага нельга губляць сэнс, думку, розум, пачуццё.

Тым не менш, як бы хто ні іранізаваў, «савецкая літаратура» стварыла столькі шэдэўраў, з якімі сённяшнія творы пакуль параўнаць нельга. Бо ў той перыяд былі і Булгакаў, і Трыфанаў, і Айтматаў, і Думбадзе, і Адамовіч, і Еўтушэнка, і Бакланаў, і Таркоўскі, і Кузняцоў, і нават Венічка Ерафееў... І нашы Быкаў, Барадулін, Мележ, Брыль, Шамякін...

Нічога ў свеце не бывае без традыцый, хацелася б нам ці не хацелася.

## Літаратурны журналіст

Літаратурным журналістам па-праву можна лічыць Галіну Шаблінскую з Беларускага радыё. За доўгія гады работы яна падрыхтавала безліч цікавых літаратурных праграм, кампазіцый, спектакляў. Яе суразмоўцамі ў эфіры былі Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Міхась Мушынскі, Валянціна Коўтун, Таіса Бондар, Раіса Баравікова, Хрысціна Лялько, Ірына Багдановіч, Леанід Дранько-Майсюк, Пятро Васючэнка, Анатоль Бутэвіч, Сяргей Панізнік і многія іншыя.

Разам з Галінай Васільеўнай мы радаваліся дэбюту на радыё Ірыны Шаўляковай, Маргарыты Прохар, Вольгі Сямашка... Пры дзейсным удзеле Г. Шаблінскай у апошнія гады былі пастаўлены радыёспектаклі па творах Васіля Быкава, Аляксея Дударава, Пятра Васючэнкі.

Галіна Шаблінская стала ўкладальнікам кнігі ўспамінаў, інтэрв'ю, эсэ пра Уладзіміра Караткевіча, якая выйшла ў серыі ЖЗЛБ выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Галіну Васільеўну звязвала цёплае сяброўства з сястрой Уладзіміра Караткевіча Наталляй Сямёнаўнай, дзякуючы чаму ў друку з'явіліся яе цікавыя ўспаміны пра класіка айчыннай літаратуры.

Унёсак Галіны Шаблінскай у беларускае літаратуразнаўства, крытыку, жыццяпіс літаратурнага працэсу надзвычай прафесійна важкі.

Шкада, што мы часам недаацэньваем дзейнасць такіх выдатных людзей, сапраўдных падзвіжнікаў на ніве беларускага прыгожага пісьменства. Гэта ніякі не панігірык, а шчырая даніна павагі Галіне Васільеўне за яе працу, за высокі літаратурны густ, за сапраўдную беларускасць.

## Пятро Васючэнка

Пятро Васючэнка ў дзяцінстве жыў з бацькамі ў Полацку каля самага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра. Тады гэтая вуліца называлася вуліцай імя Фрунзе. Пятрова мама працавала бібліятэкарам у лясным тэхнікуме, які месціўся побач, у будынку XIX стагоддзя з чырвонай цэглы, бацька выкладаў у той жа навучальнай установе.

На нашай вуліцы (а я з бацькамі жыў метрах у ста ад Пятровай хаты ў садзе, які сёння належыць Полацкай епархіі), жыла, як лічылася, мясцовая арыстакратыя. Дзеці выкладчыкаў тэхнікума вылучаліся сярод мясцовай шпаны: яны добра вучыліся, хадзілі ў прэстыжныя школы ў цэнтры горада. І, трэба сказаць, шмат чаго дасягнулі ў жыцці. Браты Гугніны, да прыкладу. Старэйшы Аляксандр — доктар навук, загадчык кафедры Полацкага ўніверсітэта, малодшы Мікалай — кандыдат навук, мастак, дацэнт Віцебскага ўніверсітэта... Пеця Васючэнка таксама быў выдатнікам і вундэркіндам.

Памятаю, калі я працаваў карэктарам у полацкай газеце (а мне тады было крыху больш за дзевятнаццаць), Пеця завітаў са сваёй мамай у рэдакцыю і прынёс вершыкі на рускай мове. Яны былі настолькі дасканала, па-даросламу напісаны, асабліва «про дедушку Ленина», што Іван Стадольнік, які вёў у газеце літстаронку, засумняваўся: ці не спісаў у каго з прафесіяналаў Пеця гэтыя вершы... Таму Стадольнік даў яму заданне напісаць пра зайчыка, мядзведзіка або яшчэ што-небудзь дзіцячае.

Праз тыдзень Пеця ўжо без мамы прынёс вершы, якія ад яго патрабаваліся, якія затым былі апублікаваны ў літстаронцы.

Праз пэўны час мы зноў сустрэліся з Пятром у нашай роднай газеце «Сцяг камунізму», куды яго, студэнта журфака БДУ, накіравалі на практыку.

Васючэнка часта ўспамінае цяпер свой першы нарыс пра даярку Краснабаеву.

Так неўпрыкмет Пятро вырас у таго, кім ёсць: выдатнага навукоўца, пісьменніка, крытыка, драматурга...

Мы нямала ездзілі па нашай полацкай зямлі, сустракаліся з самымі рознымі людзьмі… У нас было шмат цікавага. У тым ліку, мы аднойчы разам каштавалі «поліўку з піндзюкамі»...

Поліўку гэту мы каштавалі ў хатцы бабкі Параскі гасціннага Сяргея Панізніка на Верхнядзвіншчыне. (У сябе на радзіме паэт набыў хату і стварыў у ёй своеасаблівы музей народнай культуры.) Была тая поліўка чамусьці гаркаватая, хоць Сяргей Сцяпанавіч запэўніваў, што піндзюкі — грыбы ядомыя, ды і поліўка зварана толькі пазаўчора. Елі моўчкі, засяроджана, хоць і пляшка на стале была.

Тады Пятро з жонкай Нінай гасцяваў у сваёй маці ў Полацку. Як засведчылі потым Пятровы родныя, першае, што ён зрабіў калі паехаў з Верхнядзвіншчыны, дзе паеў той поліўкі, палез у энцыклапедыю шукаць апісаннне грыбоў піндзюкоў. Нічога пра гэтыя грыбы ён там не знайшоў, але вычытаў, што, наогул, інкубацыйны перыяд атручвання грыбамі скдадае 48 гадзін.

Роўна праз 48 гадзін вясёлы Пятро патэлефанаваў мне і запрасіў да сябе. Мы сустрэліся. Я чытаў яму і Ніне першыя свае апавяданні, і практычна Пятро блаславіў іх на публікацыю ў «ЛіМе». Так што дзякуй Сяргею Сцяпанавічу за поліўку.

* * *

Беларуская літаратура мае ўнікальныя якасці. Яна жыве і развіваецца, нягледзячы на ўсе складанасці. І мова яе — у тым ліку. Можна скласці

вялізны спіс аўтараў, чые творы маглі б упрыгожыць любую з сусветных літаратур.

Бяда ў тым, што, як некалі сказаў Іван Антонавіч Брыль, па нашай сціпласці нашу літаратуру не так шырока ведаюць, як за мяжой, так і ў нас. Звычка не заўважаць, не цаніць сваё, відаць, ад атавізму правінцыйнасці. І ад нежадання чытаць. Колькі разоў мне даводзілася чуць «Никогда не думал(ла), что так здорово можно писать по-белорусски».

Нам не хапае самапавагі. Не пыхі правінцыйнай, а доказнага спакойнага разгляду таго, што маем. Пры самаіроніі (якасць моцных), пры той жа ўласнай крытыцы замшэласці, дробязнасці, графаманіі...

* * *

Ці не сучасныя Сартр, Камю, Кундэра, Павіч, Маркес, Даўлатаў, Пелевін, Стругацкія, Аксёнаў, Трыфанаў, Бакланаў, Быкаў, Стральцоў, Караткевіч, Федарэнка, Глобус, Станкевіч, Асташонак, Васючэнка, Сцяпан, Брава і яшчэ многія пісьменнікі, каго не назваў? Зрэшты каб пералічыць усіх цікавых і вартых творцаў толькі ў нашай літаратуры, спатрэбілася б больш часу. Адных полацкіх колькі!.. А паэты — Таркоўскі, Бродскі, Кузняцоў, Баравікова, Мятліцкі, Разанаў, Пісьмянкоў, Вадзім Спрынчан, Дранько-Майсюк, Бадак?.. Справа, відаць, не ва ўзросце і пакаленнях, а ў якасці літаратуры.

* * *

Часам, прачытаўшы даўнюю ўласную падборку вершаў, становіцца сорамна. За паспешнасць, неарыгінальнасць, неахайнасць вобразаў. Хоць, здаецца, ніколі не імкнуўся да «дацкіх вершаў», да жадання проста засведчыцца, што ёсць, тым больш, — да сціплай капейчыны...

Графаману ж ніколі не сорамна за напісанае: яму б толькі друкавацца і друкавацца... І яшчэ — гучна называць сябе паэтам, такім, як Купала, Багдановіч, Караткевіч...

* * *

Чытаю Уладзіміра Сцяпана і ўзгадваю свой прыгарадны полацкі пасёлак з дзіўнай назвай «Пітомнік», сяброў, суседзяў, равеснікаў, большасць з якіх у дзяцінстве былі хуліганамі.

Хуліганамі, праўда, былі не ўсе. Коля Голубеў ці Толя Галубнічы папросту маглі паўтарыць традыцыйны шлях «пітомніцкіх пацаноў» — другагодніцтва, калонія, турма… Абодва былі бязбацькавічамі, перабіваліся ў сем’ях з хлеба на ваду, але ж вывучыліся: адзін стаў доктарам, а Коля Голубеў, кажуць, — нават генералам.

«Пітомнік» быў не горадам і не вёскай, хаця жыццёвы ўклад большасці яго насельнікаў — абсалютна вясковы.

Там мае незабыўныя дзіцячыя гады, туды імкнуцца мае сны і шчымлівыя ўспаміны…

У мінулым годзе я быў там разам з шаноўным Алесем Ануфрыевічам Савіцкім. Ад былога «Пітомніка» засталося пару хат. Але цётка Геня Ардынец, з якой мы не бачыліся шмат гадоў, мяне пазнала. Па голасе.

Узгадалі з ёй маіх маці, бацьку сястру...

Дзякуй, Валодзя, што нагадаў мне сваёй прозай пра маё дзяцінства. Вельмі хочацца пісаць пра свой Полацк.

Дзякуй і за тое, што ты некалі, шмат гадоў таму, намаляваў вокладку маёй першай кнігі «Брама».

Выдатная вокладка атрымалася!

* * *

Старэйшыя пітомніцкія хлопцы вельмі любілі падбухторваць нас, малых, біцца між сабой. А паколькі нас было ўсяго трое аднагодкаў, біцца мусілі мы даволі часта, хоць ніхто гэтага не хацеў.

А пачыналася заўсёды прыблізна так:

— А ну, Васька, урэж Навуму па носе!

— Не хачу!

— А ты ведаеш, што ён пра цябе гаворыць?

— Што?

— Што ты па начах «рыбу ловіш» і ўвесь ложак раніцай мокры.

— Навум, праўда?

— Няпраўда!

— Праўда, праўда, гэта ён цяпер баіцца прызнацца. А яшчэ гаварыў, што ты з бабай старой у ложку спіш, таму ў цябе зубоў няма.

Гэта ўжо Васька вытрымліваць не мог, і між намі пачыналася бойка. А старэйшыя хлопцы стаялі і падбухторвалі:

— Давай, давай, пад дых яго, пад дых...

Аднойчы я ў нейкім шале не вытрымаў, і схапіўшы палку, урэзаў Ваську па галаве.

У таго з рота пацякла кроў. Я страшэнна перапалохаўся, уцёк да Палаты, і да позняга вечара не з’яўляўся дадому.

Дзякуй богу, з Васькам усё абышлося, але больш біцца пад чужым прымусам я наадрэз адмовіўся.

Узгадваю гэта цяпер, гледзячы на нашы літаратурныя норавы.

Вось адзін былы ціхенькі шпачок, які некалі начаваў у маёй кватэры, якому я не раз дапамагаў у розных справах, усё дробнымі паклёпчыкамі хоча пасварыць мяне з сябрамі маладосці…

Вось другі публічна збірае плёткі пра мяне...

Вось трэці пры сустрэчы спяшаецца мне «здаць» маіх нібыта таемных ворагаў…

І як гэта падобна на тыя падбухторванні: «Ты біся, а мы будзем глядзець і радавацца. І няважна, хто пераможа».

Але ж я даўно сабе слова даў не паддавацца на спакусы і цешыць дробных правакатараў не збіраюся.

* * *

Яшчэ прыязджаючы з Полацка ў сталіцу, быў уражаны колькасцю плётак у кампаніях, калі збіраліся літаратары, прычым, — незалежна ад таго, былі гэта мужчынскія, ці жаночыя кампаніі. Яшчэ больш сутыкнуўся з гэтым, калі сам пераехаў у Мінск.

Аднойчы падзяліўся сваім уражаннем з Алесем Пісьмянковым. Ён памаўчаў крыху, а потым прамовіў:

— І ўсё ж пагадзіся, што нашы пісьменнікі — далёка не самая горшая катэгорыя людзей.

Алесь з надзвычайным піетэтам ставіўся да літаратуры і да многіх калег-пісьменнікаў, асабліва старэйшых, такіх, як Чыгрынаў, Карамазаў, Кудравец, Брыль, Пысін...

Узгадалася, калі прачытаў пра недахоп піетэту да літаратуры і пісьменнікаў з боку маладых людзей, якія называюць сябе крытыкамі, пра што напісала некалі Ганна Кісліцына.

Таму, хоць і не люблю плётак, — піетэту да літаратуры і творцаў яшчэ не страціў.

## Дзядзька Том

Апошні раз ён быў у мяне ў Мінску гадоў сем таму. Каб я мог ведаць, што бачу яго ў апошні раз!..

Дзядзька Том, мой даўні полацкі сябрук і аднакласнік. Яшчэ ў дзявятым класе мы далі яму такую мянушку. Мы, гэта я, наш аднакласнік Саша, і ён сам, Валодзя.

Яму надзвычай падыходзіла гэтая мянушка. Высокі, шыракаплечы, загарэлы да чарнаты...

Ды і жыў Валодзя з маці і сястрой на стромым беразе Палаты ў маленькай хатцы, ну акурат — хаціне Дзядзькі Тома.

З Валодзем мы пасябравалі крыху раней, чым з Сашам. Разам гулялі ў футбол за зборную школы, ён — значна лепш за мяне. А з Сашам яны сябравалі яшчэ раней, бо жылі побач, ля Палаты.

Мой жа прыгарадны пасёлак месціўся далей, ля самага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.

Бацька Дзядзькі Тома то жыў дома, то на некаторы час некуды знікаў, адным словам, бадзяжнічаў, а маці працавала прыбіральшчыцай. Але Дзядзька Том выдзяляўся моднымі шмоткамі, якія прысылала яму з Чэхаславакіі старэйшая сястра, муж якой быў афіцэрам і служыў там.

Том з Сашам былі мастакі, хадзілі ў выяўленчую студыю, абодва захапляліся рыдыётэхнікай. Я ж і ў першым, і ў другім быў поўны прафан, але аб'яднала нас любоў да «Песняроў», «Чырвоных гітар», «Бітлоў» і іншых гуртоў, якія гралі фолк-рок, і... вершы.

Кніжку Вазнясенскага «Ахілесава сэрца» мы зачыталі літаральна да дзірак, ведалі яе ўсю на памяць і самі крэмзалі паперу рыфмаванымі і не дужа рыфмаванымі радкамі. А яшчэ Дзядзька Том, які ў восьмым класе па англійскай мове з цяжкасцю атрымаў «трояк», разам са мной захапіўся ёю, і мы штудзіравалі слоўнікі, адаптаваныя казкі пра Алісу ў краіне цудаў, і марылі паступіць у інстытут замежных моў.

Дарэчы, калі пасля адзінаццаці класаў мы гэтую мару ажыццявілялі, ён атрымаў па англійскай мове «чацвёрку», а я — «тройку», але абодва апынуліся за бортам жаданай навучальнай установы.

Я, праўда, пасля паступіў на факультэт журналістыкі, а Дзядзька Том гадоў пяць ездзіў паступаць то ў БДУ, то ў МДУ, нават ва Універсітэт дружбы народаў імя Патрыса Лумумбы.

Увесь гэты час Валодзя працаваў спачатку токарам на заводзе, ды такім, што ажно яго фотаздымак красаваўся на Дошцы гонару, а потым — мастакомафарміцелем у розных канторах.

Гэта работа «зацягнула» яго на доўгія гады, і неўзабаве ён стаў вечным абітурыентам у прамым і пераносным сэнсах, бо да высокага мастацтва ў яго рукі ніяк не даходзілі, хаця Валодзя ўвесь час марыў пра персанальныя выставы.

Гэтак жа складваліся ў яго адносіны з літаратурай…

Том выдатна бегаў на доўгія дыстанцыі, па-майстэрску вадзіў матацыкл, машыну, умеў чаканіць па медзі, рукі ў яго былі сапраўды залатыя.

Апошнія гады ён ужо не працаваў нідзе. Памёрла маці, якая яго даглядала, аднойчы згарэла родная хата, а ён усё жыў дзіцячымі марамі, і ў свае пяцьдзясят то збіраўся напісаць геніяльную карціну, то любоўны раман, то стаць радыёвядучым...

Яго любілі дзеці, сабакі і бабулькі. У бабулек ён цяпер жыў за тое, што пілаваў ім дровы, насіў ваду і рабіў іншую працу па доме.

У той раз ён прыехаў да мяне якраз на Вялікдзень. Усю ноч недзе блукаў па Мінску, а пад ранак прынёс свечку ў слоіку з рысавай кашай, бутэльку гарэлкі, і мы святкавалі Божае ўваскрэсенне.

Потым ён некуды пайшоў, пару разоў званіў мне, пасля чаго знік.

Я адшукаў па тэлефоне яго малодшую сястру, якая са слязамі мне паведаміла, што Валодзя стаў сапраўдным бамжом, што яна выцягвае яго з розных памыйніц, абмывае, абчышчае, а потым ён зноў знікае.

Так аднойчы Дзядзька Том і сканаў недзе ў полацкіх дварах, і я даведаўся пра гэта месяцы праз два. Да гэтага часу перажываю, што не праводзіў яго ў апошні шлях.

* * *

Больш за ўсё пакутую ад маны. Маны дробнай, гадзенькай. Яна, нібы дрэннае паветра, абвалаквае цябе задухай і вісіць, плыве за табою нябачным шлейфам, не даючы ўдыхнуць на поўныя грудзі.

Памятаю, як у другім класе дзяўчынка, з якой я сядзеў за адной партай, распусціла чуткі сярод сяброўак і паскардзілася маёй маці, што я ўзяў яе любімы аловак. Бяда была ў тым, што ў мяне быў такі ж самы аловак, і чужога я не браў.

Аловак той праз пару дзён знайшоўся (заваліўся ў шчыліну ў парце), але крыўда ад маны, гадкага падазрэння і нявер'я смылела ў маёй душы вельмі доўга.

Потым не раз сутыкаўся з плёткамі, нагаворамі ў свой адрас, і кожны раз крыўда і роспач доўга не праходзілі.

— Не звяртай увагі, — казалі мне сябры і блізкія. — Будзь вышэй. Не адказвай на правакацыю.

Я згаджаўся, але кожны раз мне вельмі ж карцела вывесці паскудніка на чыстую ваду, даказаць сваю праўду.

Гэта, пэўна, у мяне ад нябожчыка бацькі. Легендай у Полацку стала, як ён адной сваёй рукой (другую страціў на фронце) ганяў траіх здаровых дзецюкоў за іх брудную абразу, што, маўляў, ён, як і яго «супляменнікі», у вайну «ў Ташкенце з крывога ружжа страляў».

Як было гэта слухаць яму, франтавіку, які з першага дня вайны знаходзіўся на самай што ні ёсць перадавой у складзе асобага знішчальнага батальёна і ішоў разам са сваімі баявымі таварышамі пад варожыя кулі!..

На жаль, гадзенькіх шэптаў за спінамі ў нашым жыцці не становіцца менш, бо плеткару і зласліўцу не ісціна патрэбная, і задача ў яго зусім іншая.

Застаецца толькі верыць, што рана ці позна тайнае становіцца яўным, што галоўнае — верыць сабе, не паддавацца спакусам, а жыць так, каб не сорамна было перад уласным сумленнем.

## Браты

Бацькавага брата Рамана я заўсёды пабойваўся. Высокі, мажны, лысы, востры на язык, ён насміхаўся і іранічна кпіў з кожнага, хто трапляўся на яго шляху, у тым ліку і з майго бацькі, свайго старэйшага брата.

Дзядзька Раман быў дырэктарам школы, чым наша пралетарская сям'я вельмі ганарылася. Гальпяровічы, яшчэ б: уся бацькава радня, мужчынская яе галіна, былі мулярамі і печнікамі. Мой жа бацька, не давучыўшыся да вайны ў Магілёўскім будаўнічым тэхнікуме, які, вядома ж, павінен быў адкрыць яму дарогу ў начальнікі, калі б скончыў яго, вярнуўшыся з фронту без рукі, працаваў на розных дробных пасадах, завяршыўшы свой доўгі і нялёгкі працоўны шлях вартаўніком.

Раман таксама, быў на фронце, але служыў недзе ў штабе і праславіўся толькі тым, што ледзь не трапіў у штрафнікі, закруціўшы ваенна-палявы раман з каханкай свайго начальніка.

Пра гэта я даведаўся з вясёлых размоў майго бацькі з яго сябрамі, калі пасля лазні яны, былыя франтавікі, бралі свае традыцыйныя сто грамаў і куфаль піва.

Але часцей за ўсё бацька гэта рабіў з дзядзькам Раманам. Яны загадзя дамаўляліся, што пойдуць у лазню. Бацька прыходзіў першы, хоць нам з ускраіны дабірацца да лазні было значна далей, чым дзядзьку Раману. Займаў чаргу. Раман жа падыходзіў заўсёды ўпрытык, калі мы з бацькам, выстаяўшы ў чарзе, ужо набліжалася да запаветных дзвярэй.

— Ну што, Яша? — пытаўся дзядзька Раман, як заўсёды з ледзь прыхаванай іроніяй, — колькі табе на лазню сёння твая дала? На білеты хопіць?

Бацька відавочна злаваў, але Раман гучна рагатаў і паляпваў яго па плячы. — Не баіся, дабаўлю.

Як я не любіў гэтыя зборы ў лазню, калі маці, сунуўшы бацьку колькі рублёў, дадавала:

— Хай бы і Раман раскашэліўся. А то ўсё прап'яце з братам.

Відаць, усё ж Раман раскашэльваўся не часта, бо бацька амаль заўсёды, прыйшоўшы дамоў, вінаваціўся перад маці, калі яна пыталася пра рэшту з пяцёркі.

Раман быў маладзейшы за бацьку на два гады. За імі ў сям'і іх бацькоў адзін за адным з'яўляліся яшчэ браты і сёстры. Уяўляю, як у тыя часы ўсю гэтую басаногую араву маім бабулі і дзядулі было цяжка пракарміць, апрануць і абуць.

Дарэчы, наконт абутку. Бацька распавядаў мне, што ў іх з Раманам у дзяцінстве былі адны чаравікі на дваіх… Раман хадзіў у школу ў першую змену, бацька — у другую. Калі ж брат затрымліваўся пасля ўрокаў на піянерскі сход ці які гурток, бацька ў школу не ішоў.

Раман вучыўся добра, быў актывістам, і сям'я рашыла: хай ужо ён выходзіць у людзі. Той і «выходзіў». Скончыў інстытут, партшколу, працаваў у партыйных органах. Каб не шчырае захапленне пітвом і жанчынамі, мог стаць і большым начальнікам, чым быў.

Бацька Рамана любіў, і нягледзячы на тое, што той пастаянна пакепліваў з яго, з радасцю заўсёды з ім сустракаўся.

Як я тады зайздросціў бацьку і шкадаваў, што ў мяне няма брата!.. У нашым прыгарадным пасёлку дзяцей было няшмат, ды і тыя ў асноўным — так званыя цяжкія падлеткі. Пагаварыць, падзяліцца, даверыцца хацелася не проста сябру, а брату — чалавеку роднаму і адданаму.

Дзядька Раман мала звяртаў на мяне ўвагі. Хіба іншы раз папытаецца, як справы ў школе. У яго самога быў сын, на два гады старэйшы за мяне, але ён жыў у цэнтры горада, і мы з ім бачыліся даволі рэдка.

Аднойчы я ўсё-такі звярнуў на сябе дзядзькаву ўвагу. Лепей бы таго выпадку не было, але што здарылася, тое здарылася…

Мой сусед, дваццацігадовы Валодзя, сын дырэктара саўгаса, паклікаў аднойчы мяне на вуліцу.

— Слухай, Навум, у вас выпіць нічога няма? Тут хлопцы з работы прыйшлі, а я на нулі. Заўтра палучка, аддам.

Звычайна ён прасіў у бацькі. Але цяпер дома акрамя мяне нікога не было.

Я зазірнуў у буфет. Там стаяла бутэлька каньяку, якую бацька вельмі бярог, чакаючы ў госці Рамана.

— Не, гэта бацькава, не магу, — сказаў я Валодзю.

— Ды я пераллю, а ў бутэльку чаю налёем. Ніхто і не заўважыць. А заўтра адкуплю такую ж.

Сэрца прадказвала бяду, але адмовіць я не змог. На многа старэйшы за мяне Валодзя быў хлопцам сяброўскім, ён не раз браў мяне з сабой на рыбалку.

І як на тое ліха, літаральна праз гадзіну ў нашым двары паявіліся бацька з братам.

Я збялеў: «Зараз адкаркуюць бутэльку, а ў ёй чай! Што будзе!»

Я хуценька схапіў бутэльку з чаем з буфета, схаваў яе пад ложак, а сам пабег да суседа.

Валодзя з сябрамі дапівалі наш каньяк.

— Бацька з дзядзькам Раманам прыйшлі! — з парога закрычаў я.

— Бачыш, хлопец аж збялеў, — зарагатаў адзін з дзецюкоў. — Скажаш, выпілі, бацька, твой каньяк.

— Не дурыцеся з малога, — азваўся трэці. — Ён жа выручыць хацеў. Бяры во бутэльку цэлую, пакуль не выпілі. А мы сабе дзе-небудзь яшчэ дастанем. — І ён працягнуў мне неадкаркаваную бутэльку таннага «Вермуту».

Вагацца не было часу. Калі я ўскочыў у хату, бацька корпаўся ў буфеце і мармытаў «Недзе ж яна была...»

Я паставіў на стол «Вермут» і сказаў:

— Тут у мяне пазычыць прасілі...

— Хто прасіў? — строга спытаў бацька. — Ты што гэта прынёс?

Жылі мы небагата, і каньяк у хаце быў толькі для вельмі важных падзей, такіх, як сёння.

Я маўчаў.

— Кінь, Яша, дапытваць хлопца. Добра, што выдаваць нікога не хоча. Сапраўдным мужчынам расце. — На, схадзі, купі каньяку, — дзядзька Раман дастаў з кішэні грошы і падаў мне.

Пакуль я бегаў па каньяк, а яго ў бліжэйшай краме не было (тады пітво прадавалі дзецям, ведаючы, што паслаў бацька), браты дапілі віно і гаварылі пра нейкага Лёву.

— А ты ведаеш, хто такі Лёва? — раптам спытаў у мяне дзядзька Раман. — Гэта наш брат, твой родны дзядзька. Загінуў пад Венай.

Я ўспомніў, што бацька некалі гаварыў пра брата, але гэта было даўно, і я паспеў пра яго забыцца.

А бацька і дзядзька Раман пачалі ўспамінаць, які зухаваты быў Лёва, як ён добра гуляў у футбол і як яны з ім не баяліся ніякіх мясцовых хуліганаў...

Раптам іх твары зрабіліся лагоднымі, па-дзіцячы засвяціліся, і цяпер я не пазнаваў заўсёды важнага і іранічнага дзядзьку Рамана.

Крыху захмялелы бацька, а ён хмялеў хутка, лінуў у чаркі каньяку і сказаў:

— Давай за Лёву, за Барыса, за Лазара. — І заплакаў. Вынуў насоўку з кішэні і дзядзька Раман.

Дык пра што гэта я?.. Пра бацькавых братоў, маіх родных дзядзькоў. Пра наш род. Няма ўжо на свеце бацькі, памёр і дзядзька Раман…

Часам я адкрываю полацкую кнігу «Памяць» і пад загалоўкам «Воіны-землякі» чытаю:

«Гальпяровіч Б. П., гвардыі старшына, загінуў у 1945 годзе, пахаваны ў в. Вінерхерберг, Аўстрыя… Гальпяровіч Л. П., служыў на Балтыйскім флоце. Загінуў у чэрвені 1941 года… Гальпяровіч Л. П., радавы, прапаў без вестак у 1941 годзе…»

І кожны год мы з сынам на 9 мая падымаем традыцыйную чарку за бацьку і яго братоў, траіх з якіх я ніколі не бачыў. Не бачыў іх і мой сын. Але ведае пра іх з маіх расказаў…

* * *

Гутару па тэлефоне з зямлячкай. Размова зайшла пра аднаго агульнага знаёмага, які сёння ў горадзе — вялікі начальнік. Хадзілі чуткі, што яму пагражалі непрыемнасці: нешта занадта дачцэ паспрыяў у яе бізнесе, ды ў ахоўнай зоне катэдж пабудаваў...

— Усё абышлося, — кажа зямлячка. — Дзякуй богу, а я перажывала. Дужа ж чалавек харошы і столькі для людзей зрабіў. А што можа троху і пацягнуў, ну дык як тут не пацягнеш, калі такая магчымасць ёсць. Любы б на яго месцы не ўтрымаўся.

І столькі перакананасці было ў яе голасе, што я не стаў што-небудзь гаварыць у адказ.

Не ведаю, праўда, як у начальнікаў, а ў маёй радні было так…

Жыла ў нас цётка Вера, маміна старэйшая сястра. Забралі яе хворую з Гродна, і хоць самі жылі ўчацвярых у даволі сціплай саўгаснай кватэры, цётцы асобны кут выдзелілі.

Троху ачуняўшы, пайшла яна працаваць, стала ў чаргу на кватэру.

Прайшло дваццаць два гады, мама памёрла, я жыў сваёй сям’ёй, сястра — таксама, а ў бацькоўскай кватэры засталіся двое нямоглых старых — бацька і цётка.

І тут раптам прыходзіць ліст з гарвыканкама:

«Грамадзянцы N... Веры Навумаўне. Вам трэба атрымаць ордэр на кватэру па адрасе.., якую вам выдзелілі на пасяджэнні гарвыканкама ад.., так як падышоў ваш нумар чаргі...»

— А я ўжо і забылася на тую чаргу, — пачала гаварыць цётка. — І навошта мне цяпер гэтая кватэра? Каб раней... А то цяпер мне адной не па сіле там жыць.

Усё гэта адбывалася пры мне, і я паспрабаваў нясмела запярэчыць, што, маўляў, спачатку ордэр няблага атрымаць, а потым аддаць будзе.

— Іш ты які разумны! — раптам узняўся бацька, — нечага дзяржаву падманваць! Не будзе жыць там, дык навошта гэтая кватэра!

Я разумею, што ў гэта паверыць даволі цяжка, а сёння — дык і зусім немагчыма, але цётка напісала пісьмовую адмову ад кватэры.

Па іроніі лёсу свае апошнія дні яна правяла на сацыяльным ложку ў бальніцы, так і не займеўшы ўласнага жытла, а бацька памёр на руках сястры ў яе кватэры, куды яна яго, зусім ужо нямоглага, забрала дажываць з уласнай хаты.

— Так іх савецкая ўлада выхавала, — сказала мая знаёмая. — Якое дурноцце! Хіба ж вашай сям'і тая кватэра не спатрэбілася б?

Так то яно так. Але ўзгадваючы тую акалічнасць, чамусьці не надта злуюся і не надта перажываю. Што было, тое і было...

* * *

Колькі сябе памятаю, самай жаданай падзеяй у вольны час быў паход у бібліятэку. Як я любіў чытальныя залы, гэтую цішыню, паліцы з кнігамі, свежыя часопісы і газеты...

Гэта ў чытальнай зале Полацкай цэнтральнай бібліятэкі я «праглынуў» за раз «Чазенію» Уладзіміра Караткевіча, гадзінамі праседжваў над свежымі часопіснымі публікацыямі Быкава, Адамовіча, Бечыка, Бярозкіна, маладых тады Разанава, Янішчыц...

І калі стаў жыць у Мінску, угаварыў Алеся Пісьмянкова, і кожную нядзелю мы не на адну гадзіну выпраўляліся ў бліжэйшую бібліятэку, куды я перастаў хадзіць пасля яго смерці.

Цяпер у бібліятэцы бываю як чытач надзвычай рэдка. Можа таму, што з'явіўся Інтэрнэт, дзе можна знайсці ўсё або амаль усё.

А можа таму, што творы, якія з'яўляюцца апошнім часам, артыкулы крытыкаў і літаратуразнаўцаў за рэдкім выключэннем перасталі быць з'явамі, якія выклікаюць пачуцці суперыжывання, роздуму, хвалявання?

Але, якая б ні была прычына, у душы ад гэтага пустата і скруха, як ад страчанага кахання.



## Аркадзь НАФРАНОВІЧ

* * *

Шчыруе сейбіт днём вясновым
У полі з сонцам у саюзе.
А ты, паэт, шчыруй над словам,
Каб верш звінеў, як коска ў лузе.

А быць яму тады ў пашане
У нашых хатах і кватэрах,
Калі будзіць ён душы стане,
Як будзіць Нарач родны бераг.

* * *

Ці не напомніць вам, мае сябры:
Не праглядзіце светлай той пары,
Калі цвітуць чаромха, бэз і сад
І ладзіць май красы сваёй агляд.

І не праспіце рэдкіх вечароў,
Як льецца спеў нябесных салаўёў,
Празрыстае, магічнае цёх-цёх,
Якім заслухваецца нават Бог.

І не параіць не магу, сябры:
Устаньце росным ранкам на зары
І босымі ступіце на траву,
Дзівіцеся зямному хараству.

---

***Нафрановіч Аркадзь Іосіфавіч*** *нарадзіўся 26 красавіка 1936 года ў вёсцы Юшковічы Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Былы непаўналетні вязень фашызму. Скончыў Лепельскае педвучылішча (1956). Служыў у Савецкай Арміі. Потым скончыў геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1968). Працаваў настаўнікам у сельскіх школах.*

*Аўтар паэтычных кніг «Мядзельскі мерыдыян» (1995), «Мелодыі роднага краю (1995), «Святло Нарачы» (1998), «У пошуках ісціны» (2005), «Горад музыкі і сонца» (2009) і інш., аповесці «Мая адысея» (2001).*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Караткевіча (2001).*

Наведайце палетак, сенажаць,
Каб сонца там сустрэць і паказаць,
Што кожны з вас вясне бязмерна рад,
Як зноў цвітуць чаромха, бэз і сад.

* * *

Гады спяшаюцца, ляцяць,
Імклівыя — не аглядзецца.
Не сцерці з твару іх пячаць,
Ды не здаецца часу сэрца.

Хвалюецца й цяпер яно,
Калі квітнеючым язмінам
Загляне чэрвень у акно —
І я на крылах успамінаў

Лячу да мілых берагоў
Ракі юнацтва хуткаплыннай,
Дзе першая прыйшла любоў
Вясенняй светлаю часінай.

Імгненняў непаўторных тых
Не вернеш — будзь хоць чарадзеем.
У космасе глыбокі ўздых —
І там хтось сум мой разумее.

* * *

За годам — год, за класам — клас,
Настаўнік з вучнямі ўвесь час,
Работа тонкая, жывая.
…І вось той міг, калі алмаз
Усімі гранямі ўжо ззяе.

## АСАБІСТЫ РАХУНАК

Асабісты рахунак — на ім
Урачыстасці зім, радасць вёснаў.
Тчэцца лёсу стракаты кілім
З нітак часу на спадчынных кроснах.

* * *

Зноў Месяц выплыў з-за аблок —
З Венерай стрэцца ён жадае.
Ды толькі тая ні на крок
Яго к сабе не падпускае.
Зіхціць-гарыць, як вугалёк,
Успыхвае, нібы ўздыхае,
Нябогу падміргне здалёк
І ўсё кагосьці выглядае.

## РОДНАЯ МОВА

О родная святая мова! —
Мая і радасць, і любоў.
З ёй, бачыць Бог, невыпадкова
Сябе як чалавек знайшоў.

Я — беларус, і мову гэту
Да скону дзён мне берагчы.
У ёй жа для пазнання свету
Усе патрэбныя ключы.

Як лёгкім кісларод, заўсёды
Яна патрэбная так мне.
У ёй залог маёй свабоды,
З чаго і радасць удвайне.

А моў, як і народаў, многа,
І лепшых, горшых з іх няма.
І, знаць, гавораць нездарма,
Што мова дадзена нам Богам.

Будзь гараджанін ты, вясковец,
Ні ў свеце, ні ля родных стрэх —
Нідзе не грэбуй сваёй мовай,
Бо гэта найвялікшы грэх.

І, як парою ні жылося,
Жаданым быў яе палон.
У ёй спеў ветру, шэпт калосся,
І ручайка вясёлы звон,

І веснія раскаты грому,
Празрысты пошчак салаўя…
Яна заўжды заве дадому,
Дзе б ні блукаў па свеце я.

* * *

У радасці жывём ці ў скрусе —
За хлеб аддзячым роднай ніве
І пажадаем Беларусі
Праслыць старонкаю шчаслівай.

Сябе ад чорнага і злога
Малітвай шчыраю ачысцім
І ўзвысімся душой да Бога,
Да разумення вечных ісцін.

## Галіна ЗАГУРСКАЯ



* * *

Адусюль прылятаем мы ў родны свой кут,
А ён глухне, дзічэе, тут менее люду:
Усё болей пакінутых хатаў і хлуду —
І старэе жытло ад нуды і пакут.

А раней жа цяпло ў кожным доме жыло,
Раніцой праз туманы плыў статак на гоні.
Як прыгожа звінелі шумёлы на конях,
Што імчалі вяселлі! Было ўсё, было…

Хоць старэе мястэчка, а дух беражэ
І вяртае ў гняздо нас, як птахаў адлётных,
Як буслоў, чый на ліпіне чуецца клёкат, —
На якім ні былі б мы жыцця віражы.

### ЗА ДАЛЕЧЧУ ГАДОЎ…

Словы цяжка адшукаць —
Ды нашто яны?
Нам не йсці, не цалаваць
Зоры ў вышыні.
І не слухаць вечары,
Ночы — давідна,
І не піць ужо зары
Церпкага віна…

---

*__Загурская Галіна Пятроўна__ нарадзілася 5 студзеня 1945 года ў вёсцы Лявонпаль Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыла фізіка-матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава (1967). Настаўнічала ў Лявонпальскай сярэдняй школе, а таксама ў сярэдняй школе вёскі Жодзішкі Смаргонскага раёна. З 1973 года жыве ў Полацку. Працавала выкладчыкам і метадыстам у медвучылішчы, а потым у ГПТВ № 66 будаўнікоў.*

*Аўтар паэтычных кніг «З далоняў сэрца» (2007), «Да зямлі прытуліцца» (2009).*

Перагледзець я хачу
Ўсіх адценняў дні.
«Прывітанне», — зноў шапчу
Дням, што з даўніны,
Тым з чароўных вечароў,
Дзе зары віно, —
Бо за далеччу гадоў
Добра ўсё відно.

## ПЕСНЯ НЕ ЗМОЎКЛА…

*Максіму Багдановічу*

Ялта: ласкавае мора,
Мройны загадкавы свет,
Побач узносяцца горы —
Тут аджурыўся паэт.

Тут ён глядзеў на Венеру,
Творачы зорны раманс…
Жыў ён са светлаю верай,
Гэтак жа светла пагас.

Тут сумаваў і прарочыў
Долю краіне сваёй…
Песня не змоўкла і крочыць
Кожнай сцягой лугавой.

Кліча яна да вышыняў —
У неаглядны Сусвет.
Зорка паэта не стыне, —
Бо неўміручы паэт.

## ДОЛЯ

*З народнага*

— Доля мая, доля,
Дзе цябе насіла?
— Ўсё шукала волю,
Потым галасіла.

— Доля мая, доля,
Што цяпер прарочыш?
Адказала з болем:
— Ай, жыві як хочаш…

* * *

Жыве душа мая на строме
І прадчувае ўзмах крыла,
Удзячна ловіць кожны промень —
І дастаткова ёй святла.

Ну як жа можна ёй не помніць,
Шчыруючы ўначы і днём:
За кожнай навалаччу цёмнай
Заўжды святлее за вакном.

## З НЕБАМ САМ-НАСАМ

Варты жалю зямныя памкненні —
Так здараецца думаць нам часам.
Наплываюць павевы-сумненні,
Пакідаючы з Небам сам-насам.

А яно сапраўды пацвярджае,
Што для шчасця малога б хапіла,
І наш дух над зямным узвышае,
Даючы і надзею, і сілу.

## ВЕЧАРОВЫ СУПАКОЙ

Вечаровыя згадкі нясуць супакой,
Знітаваныя з цішай, зарой залацістай, —
Лагаднее на сэрцы хвілінай такой
І душа прасвятляецца, робіцца чыстай.

Вечаровыя згадкі нясуць супакой
Пасля клопатаў дзённых і дзённага тлуму.
Да Сусвету бліжэй нам такою парой,
Калі вечар аб вечным навейвае думу.

Пацямнелі ўжо лозы над самай вадой,
А на травы мурожныя выпалі росы,
І Гасподзь тут ступае ўрачысты і босы…
Вечаровыя згадкі нясуць супакой.

* * *

Напомніў дождж асенніх метэораў
Аб таямніцах нашага быцця,
І колькі б мудрых ні было тэорый —
Не меншае загадкавасць жыцця.



**Анэля ТУЛУПАВА**
***(1938—2001)***

# КАЛІ ПРАЧНЕЦЦА ЧАРАПАХА

*Апавяданне*

**1**

Вясновае сонца пераменлівае. То прыпячэ, аж разамлеюць гракі на дахах будынкаў, то нечакана схаваецца за вершаліны лесу. Тады над Чаромхавай касой ляніва забурчыць гром. Разбуджаны вецер спрасоння закруціцца на месцы, як апантаны, потым, нібы апамятаўшыся, пагоніць перад сабой на пасёлак дажджавую сцяну… А сонца зноў ужо плыве па небе, і сады на вачах займаюцца белацветам.

У Чаромхавай касе сапраўдныя белыя ночы. Салаў'і проста хрыпнуць, спаборнічаючы з Соняй. А яна — спявае, спявае…

* * *

Пазнаёміліся мы з Соняй у першы мой працоўны дзень. Мне добра запомнілася: на календары стаяла лічба — 28 чэрвеня 1955 года. Соня рабіла жанчыне перавязку.

— Добры дзень, — прывіталася я, і паставіла на табурэтку свой старэнькі чамадан.

— Нічога сабе дзень! — смяецца даволі таўстая, маладая жанчына ў белым халаце.

— Я ваша новая акушэрка.

— Цёпленькая? — не адрываючыся ад справы, зыркнула на мяне медсястра.

— Гарачанькая, — у тон ёй адказала я. — Маё прозвішча Вераб'ёва.

— Тады астудзіце свае крыльцы пад кранам, і — за перавязкі. Божачкі, ты і сапраўды, Верабейчык? — здзівілася мая субяседніца.

У сценку амбулаторыі грукнулі.

— Софа, малы прачнуўся!

— Сафа, — хмыкнула я. — Ледзьве не канапа.

— Верабейчык чырыкае? — удакладніла маладая жанчына і выйшла.

Так, з першай сустрэчы, без аб'яўлення, пачалася паміж намі «халодная вайна».

Мянушка «Верабейчык», з дапамогай Сонінага язычка, прыліпла да мяне, нібы смала. Назаўтра, знаёмячыся, урач бальніцы, высокі, худы мужчына хітравата падміргнуў мне пры ўсіх:

— Ну, дык што будзем рабіць, Верабейчык?

— Раджаць дзяцей, — буркнула я.

Ох і рагаталі ж яны ўсе — урач, фельчар, медсёстры, няні.

— Колькі табе год? — праз смех запытаўся ўрач.

— Сямнаццаты.

— Ёсць надзея пажыць ціха, — сказаў санітарны фельчар. — Бабы, як пабачаць нашага Верабейчыка, паразбягаюцца.

Чаго толькі за гэты час не было! Але бабы не паразбягаліся.

— Ведаеце, што ўчора адчырыкаў наш Верабейчык? — гучна, каб чула і я, расказвае ў суседнім пакоі Соня.

Канешне, як тут вытрымаеш? Падыходжу бліжэй да дзвярэй амбулаторыі. Дзверы шкляныя, на палову зафарбаваныя і мне добра бачна, і чутна. Соня падабрала вышэй каленяў халат, «уздыбіла» на галаве медыцынскую шапачку, начапіла маску.

— Дык вось, — гаворыць Соня. — Сядзім мы з Верабейчыкам на прыёме. А тут міліцыянер шафёра прыводзіць і звяртаецца да мяне: «Гэты герой, — кажа, — веласіпедыста зачапіў, праверце, можа, з раніцы прыклаўся». Самі ведаеце, Ігнат Пятровіч у такіх выпадках у раён адсылае, а я дзеля смеху кіўнула на Верабейчыка: «Вось доктар, з ім і вырашайце».

Слухачы рагочуць.

Адскокваю ад дзвярэй. Сапраўды, з тым шафёрам насмяшыла я людзей. Ну, не ведала, не вучылі. Папрасіла, каб хлопец у сухую парожнюю шклянку хукнуў. Метад маёй цёткі. Шафёр хукаў, хукаў — сіпець пачаў. І толькі тады я ўспомніла, што пасля абходу парадзіх маскі не зняла, таму паху не чую. Міліцыянер зазлаваў, вылаяўся, дагэтуль мае вушы гараць.

Смех у «зубной» не сціхае. Наперад ведаю, зараз Соню папросяць расказаць-паказаць, як я першыя роды прымала. Ім смешна…

У першы дзень майго прыезду і знаёмства з Соняй не паспела я выйсці з амбулаторыі, каб папрасіцца ў пасёлку на кватэру, як мяне затрымала кастэлянка.

— Вось акушэрка! — гукнула яна дзяўчынку з веласіпедам.

— Што здарылася? — спалохалася я.

— Суседка прасіла, каб акушэрка прыехала, — пачырванела дзяўчынка.

— А чаму яе ў бальніцу не прывезлі?

— Не хоча. Трымаюць тут доўга. А ў яе — малы.

Ува мне ўзбунтаваліся вучылішчная праграма, страх, «асэптыка і антысэптыка».

— Як жа я *там* прымаць?! — забегала я па калідоры. — У мяне ж нічога стэрыльнага.

— А вы акушэрскую сумку вазьміце, — параіла кастэлянка. — Надзея Фёдараўна так і рабіла. Прывучыла баб…

Мне вынеслі акушэрскую сумку. Сорамна прызнавацца, але падняць торбу я не змагла. Тады мы разам з дзяўчынкай усцягнулі яе на багажнік і рушылі ў дарогу. Дзяўчынка вяла «велік», а я ішла следам. Вёска была кіламетрах у пяці, і мне ўвесь час здавалася, што з жанчынай блага.

Пакуль я панура ішла да сваёй першай парадзіхі, уся мая «навука» выветрылася з галавы, быццам і не было чатырох год вучобы, экзаменаў, пяцёрак. У галаве круціўся толькі вясёлы студэнцкі жарт: «Перш, чым падступіцца да парадзіхі, успомні кодэкс: колькі табе дадуць, калі жанчына памрэ».

Каля весніц нас сустрэў малады, няголены мужчына. Стогны, пацяглыя стогны даносіліся з хаты. Я зайшла ў хату, мужчына ўнёс маю торбу. З высокага ложка прыўзнялася жанчына, зірнула на мяне і залілася слязамі:

— Дзіцё прыслалі, сорам!

Яна закрыла рукамі твар і адвярнулася да сцяны. Мужчына сарамліва патаптаўся каля мяне. Я моўчкі расшпіліла торбу, зазірнула ў яе. Два біксы.

Значыць, стэрыльны матэрыял (прасціны, падклады) павінен быць. Ёсць стэрылізатар з інструментамі. Але ні спірту, ні ёду. Нечым будзе апрацаваць рукі і, галоўнае, пупавіну. Разява! Чаму б не паглядзець там, у бальніцы, што ёсць, чаго няма.

— Самагонка ёсць? — папыталася я ў гаспадара.

— А як жа, — усміхнуўся мужчына.

— Нясіце.

— Зараз. Пачакайце крыху.

Парадзіха перастала енчыць і неяк падазрона агледзела мяне. Насупраць, на сцяне вісела люстра, і ў ім я таксама бачыла сама сябе ўсю: маленькая, танюткая, лабастая, з дзвюма даўгімі косамі.

— Як вас завуць? — папыталася я ў жанчыны.

— Маруся. А вас?

— Гэля.

— Вы прымалі калі?

— Сорак дзяцей прыняла, — схлусіла я.

На практыцы сталыя акушэркі нам і да жанчын падысці блізка не давалі, хаця, канешне, падпісалі дакумент аб прыёме сарака родаў, каб практыку залічылі. Мы, у асноўным, дапамагалі санітаркам.

— Якія ў вас роды?

— Другім я.

— Чаму ў бальніцу не захацелі?

— А што мне тая б*о*льніца? — прастагнала Маруся. — Я ж у калгасе раблю. Пакачаюся крыху, ды і ў поле бегчы.

— Вы што, не ведаеце пастановы? — абурылася я. — Зараз і калгасніцам даецца дародавы і пасляродавы адпачынак. Платны!

— Не можа быць, каб нізавошта, — засумнявалася Маруся.

— Як нізавошта? Вы дзіця носіце.Чалавека!

— Усё гатова! — паклікаў мяне гаспадар.

Я зазірнула ў пярэднюю і знерухомела. На стале стаяла патэльня, з яешняй і скваркамі. У місцы ляжалі салёныя агуркі. А завяршаў гэты «нацюрморт» вялікі пузаты графін, з мутнаватай вадкасцю.

— Шкляначку? — падскочыў да стала мужчына.

— Ага, — чырванеючы, згадзілася я.

Ён наліў да краёў.

— А зараз вазьміце і хадзіце са мной, — сказала я і падышла да рукамыйніка.

Добра памыўшы рукі з мылам, я павярнулася да мужчыны:

— Ліце памалу на рукі.

— На… *рукі?* — не паверыў ён.

Пасля высветлілася, што маю папярэдніцу, пяцідзесяцігадовую жанчыну, часта прывозілі пасля родаў дадому «цёпленькай». Усе падрабязнасці маіх паводзін на першых родах сталі вядомымі вёсцы, а хутка — і маім калегам. «Гісторыя» перадавалася з прыдумкамі, ад якіх мне месяцы два не давалі праходу.

Выдумалі, быццам я ад страху залезла пад ложак і парадзіха ледзь мяне адтуль выцягнула. Думаю, усе гэтыя «анекдоты» ішлі ад Соні. Як бы там ні было, а хлапчука я прыняла тады чатырохкілаграмовага. І сама дала яму імя: Віктар, пераможац.

Помню, вярталася з вёскі… З-за курганоў выплывала вялізнае, пунсовае сонца.

— Сонца! — узрадавалася я.

— Як чарапаха, — паддакнуў мне Марусін муж, Сямён. Ён нёс маю торбу.

А мне хацелася крычаць, куляцца, смяяцца. Я была шчаслівая, бо прыняла на рукі малога крыкуна.

«Чарапахай» за вочы клічуць і Соню. Ходзіць заўжды ці то сонная, ці то вялая, паніклая. Прачынаецца толькі, каб каго абсмяяць.

Ну, хопіць! Пахіхікалі і годзе.

— Таленты і паклоннікі! — крычу я з-за дзвярэй. — У сельмаг прывезлі штосьці!

Зубны кабінет умомант пусцее. Слухачоў няма, і «чарапаха» паўзе ў сваю бакоўку.

Сонін муж, фельчар Лапейка, зараз у адпачынку. Да трох гадзін, пакуль Соня на прыёме, ён прыглядае за сынам. Пасля трох ідзе на будоўлю — разам з бацькам ставіць хаціну.

Маглі б дачакацца кватэры, але Лапейка хоча мець сваю ўласную хату.

— Хата твая будзе пэўна па калена, — упікае зяця Соніна бабуля Хрысціна.

— Лепей бы сябе прыгледзелі.

Бабулі амаль дзевяноста, жыве яна асобна, яшчэ жвава бегае і, як мне падалося, не вельмі любіць свайго зяця.

## 2

Мая рабочая раніца пачынаецца з абходу. Праўда, калі ёсць парадзіхі. Апошні час іх няма. «Гарачая пара» — жанчынам хапае клапоту… Значыць, зноў будуць выклікі «на дом», за што мяне лаюць у раёне.

Пакуль няма парадзіх, я то на прыёме з фельчарамі, то абслугоўваю выклікі, калі іх бывае багата, то патраніруе дзяцей (патранажная сястра на курсах).

За нашай пасялковай бальніцай замацавана дванаццаць вёсак. Самая далёкая — за дванаццаць кіламетраў. Сёння мне сказалі, што ў гэтай вёсцы ёсць цяжарныя жанчыны. Трэба ісці, знаёміцца, браць на ўлік, напраўляць на аналізы. Цяжкая задача. Жанчыны не прывыклі да медыцынскай увагі, злуюць на мяне, хаваюцца. Што паробіш. Адразу ўсё не перайначыш.

— Жанчын на сваім участку, — жартавала на лекцыях наша акушэр-гінеколаг, — трэба, як і начальства, ведаць з усіх чатырох бакоў.

Бяру з сабой усё неабходнае, пакідаю начальству запіску. Каля пошты сустракаю Соню. Не паўзе, як звычайна, а проста ляціць па шашы, не звяртаючы ўвагі ні на машыны, якія жыхаюць побач, ні на здзіўленыя позіркі пасялкоўцаў, бо яны ўпершыню бачаць «чарапаху» ў нязвыклым выглядзе: бялявыя валасы, заўжды заплеценыя і закручаныя ў вузел на патыліцы, растрапаліся па плячах, зялёны сарафан вышэй каленяў.

— Канапка! — спыняю я яе. — Збіраешся здымацца ў ролі маладой вядзьмаркі?

— Ага! Вось толькі мне б тваю талію, Чык-Чырык! Хаця, не трэба. Касцьмі грымець буду. Куды ляціш?

— У Свіраны.

— Напрасткі бліжэй.

— Дзе гэта?

— Каля могілак, па жыце.

— Сварыцца не будуць?

— Хто? Пушкін?

— Старшыня.

— Ён жа не пудзіла, каб у жыце тырчаць. Трымайся на курган. За ім — Свіраны.

Соніна прапанова мне даспадобы. Каму ахвота ў спякотны летні дзень ісці пехатой лішнія пяць кіламетраў?

Але з чаго б такая добразычлівасць? Настрой, відаць, добры.

— Вольгу Панкратаву адведай! — крычыць мне ўслед Соня.

За могілкамі, колькі бачна воку, жытнёвае поле. Ні дрэўца, ні куста. Далёка, дзесьці каля стужкі лесу — курган. Азіраюся па баках і ныраю ў жыта.

Іду асцярожна, выбіраю, куды ступіць. Але хутка заўважаю, што гнуткая жытнёвая сцябліна адразу ж выпрамляецца, толькі ззаду за мной ручаёк разбуджаных каласоў. Яны асуджальна ківаюць мне ўслед сваімі вусамі. То там, то тут — сінія вачаняты валошак. У нізінах хаваюся ў жыце з галавой, і тады вусы каласоў чапляюцца за косы, казычуць твар.

Высока ў небе снуюць ластаўкі. Зусім, як чаўнок, якім бабуля выдумляе розныя ўзоры на саматканках. Зайздрошчу ластаўкам і хмарам. Мне б вось так раскінуць рукі і ляцець, ляцець.

Мая акушэрская сумка адцягвае плечы, не сумка, а рукзак турыста. А калі б яшчэ па інструкцыі біксы ў яе паставіла — кукаваць бы мне ў жыце да раніцы!

Здымаю сумку, падаю на цёплую зямлю. Знізу жытнёвыя сцябліны, напоўненыя сонцам, свецяцца, нібы неонавыя трубачкі гарадскіх рэклам.

Тут, унізе, свае клопаты, сваё жыццё. Сотні малявак пстрыкаюць каля вуха. Звон, цвырканне. А, можа, тут недзе паблізу кузня гномікаў? Ці злёт эльфікаў? А вось і прынцэса іх — Златавочка. Празрыстыя зялёныя крылцы і, вялікія, з макавінку — залатыя вочы.

— Дзякую за давер, Ваша Легкакрыласць, дазвольце дзьмухнуць на Вас, бо я хачу пагаварыць вунь з той бухматай хмарай.

— Гэй, вольная хмара, скінь пярыну, паляцім разам з табой над полем.

Хмара не вельмі ветліва бурчыць нешта ў адказ, але пярыну скідвае. Не простую, залатую. Усё бліжэй і бліжэй. Вось пярына ператварылася ў белую ластаўку. Птушка ўецца нада мной, і ў яе Соніны вочы, толькі не чорныя, а залатыя. Яны паляць мяне, абсыпаюць іскрамі. Я ўсхопліваюся і прачынаюся.

І спалохана ўцягваю галаву ў плечы.

Залаты яблык маланкі паплаваў нада мной і паляцеў далей. Імгненна пацямнела. Цяжкая цёплая кропля дажджу дзеўбанула мне лоб. Другая трапіла на вусны і пайшло-паехала. Гром, бліскавіца.

Здымаю басаножкі, узвальваю на плечы сумку. Наскрозь прамоклая, брыду да кургана. Дождж застаецца ззаду, за спінай. Набліжаецца, вырастае курган.

Густы зялёны арэшнік абрамляе яго з бакоў і знізу, і курган нагадвае вялізную лысую галаву з бакенбардамі і барадой. Мне карціць з яго вяршыні зірнуць на жытнёвае поле, але на гадзінніку пятнаццаць. Баюся, не паспею да цямна вярнуцца ў сваё Вясёлае.

Абыходжу курган і, сапраўды, бачу вёску. Да яе рукой падаць! Аднекуль з вербалозу выскачыла невялікая рачулка, кінулася пад ногі. Ні моста, ні кладкі. Лазінай мераю глыбіню рэчкі. Давядзецца пераходзіць уброд. Пакуль мацала босай нагою ваду, даследавала, ці ёсць п'яўкі, вяртаецца сонца і Сонінай усмешкай зіхаціць мне з вады. Вось чаму яна мяне сюды паслала!

Дно рэчкі глейкае, топкае; я з кожным крокам правальваюся ў нешта мяккае і слізкае. Пасярод рэчкі вада даходзіць да пояса. Ну і выгляд у мяне — каб хто пабачыў! Нарэшце, выходжу на бераг, шукаю сцежку праз лугавіну, але дождж пагаспадарыў, як след. Пэўна, калісьці тут пыхкала багна. Пераскокваючы з купіны на купіну, іду да вёскі. Купіны коўзаюцца пад нагамі, скідваючы мяне ў чорныя, тлустыя тарфяныя акенцы. Нарэшце, «каўзун» пройдзены.

Вёску Свіраны прыгрэў на самшэлых грудзях Партызанскі лес. З часін вайны так называюць яго. Вёска маленькая, двароў дваццаць. Лес у вёсцы адчувае сябе па-гаспадарску: разгульвае па вуліцы, зазірае ў вокны, гушкае на арэлях дзяцей.

У маім спісе тры прозвішчы: Вуцянкова, Пранузა і Панкратава, аб якой гаварыла Соня.

Першая стрэчная дзяўчынка ахвотна паказвае, дзе хто жыве. Бліжэй за ўсіх Вуцянкова.

У гародчыку каля хаты квітнеюць мальвы. Тут жа, у градах, корпаецца жанчына.

— Добры дзень!

— Добры, добры, — ахвотна адгукаецца жанчына і падыходзіць да агароджы.

— Тут жывуць Вуцянковы?

— Ага, Вуцянковы.

— Маладуха ваша дзе?

Жанчына высыпае з фартуха ў вядро сабраныя агуркі, няспешна адчыняе веснічкі.

— Тут недзе маладуха. А вы хто?

— Акушэрка.

— Колькі ж табе гадкоў?

— Усе мае!

— Сядай, адпачні. Агуркі з мёдам будзеш есці?

— Давайце паспытаю.

Пакуль я адважваюся абмакнуць агурок у мёд, у хату заходзіць маладуха.

— Маня, — называе яна сябе.

Мы ідзём на другую палавіну хаты — пагаварыць.

Маня, чырванеючы, адказвае на пытанні. Будучай маці ўсяго дзевятнаццаць. Глядзець сябе яна не далася.

— А ну вас! Мяне ўжо ў раёне глядзелі. І бюлетэнь выпісалі.

— Раён раёнам, а раптам вас прывязуць да нас. Трэба ж мне ведаць, як і што.

— Усё добра, не бойцеся. Я сама з Арахоў. І туды паеду, як прыпячэ.

Ад крыўды я не знаходзіла слоў. Але, стрымліваючыся, дзякую за пачастунак і развітваюся.

Панкратава Вольга сушыла каля хаты сена. Сустрэла мяне няветліва. Нават неяк злосна. Я і сама сумелася, калі разглядзела яе. Жанчыне было за пяцьдзясят.

— Я акушэрка, — замармытала я, — мне трэба вас на ўлік узяць.

— На які ўлік?

— Па цяжарнасці.

— Што?!

— Ну, гэта значыць вас, як будучую маці, трэба агледзець, каб роды добра прайшлі.

— Роды?..

І ў мяне паляцелі граблі. Балюча стукнулі па нагах. Я выскачыла на вуліцу. Крыўда і абурэнне сціснулі горла. Не пракаўтнуць горкі камяк. Да іх з дабром, а яны — граблямі. Замуж выскачыць не саромеюцца, недатыкі!

І мне ўяўляецца, як позняй ноччу за мной прыбягае санітарка, як у парадзісе я пазнаю Вольгу. Я ратую яе, яна са слязамі дзякуе мне, а я — нуль увагі.

У Кацярыны Пранузы — дзясятая цяжарнасць. Муж Кацярыны брыгадзірыць, сама Кацярына працуе на ферме даяркай. Вядомая ўсяму раёну працаўніца. Сям'я дружная, старэйшыя дзеці дапамагаюць па гаспадарцы, прыглядваюць за малодшымі. Мне гаварылі, апошнія роды ў Кацярыны былі цяжкімі. Пяцікілаграмовы хлапчук ішоў ягадзіцамі. Ледзь выратавалі і яго, і маці.

У Пранузавых мылі бялізну. Пральнай машынай кіравала дванаццацігадовая Воля. Ёй «дапамагалі» чатырохгадовы Ванька і двухгадовы Алег. Сама Кацярына завіхалася каля ночваў.

— Машына? — заўважыла я.

— Падарунак калгаса.

Я на ўсялякі выпадак назвалася патранажнай сястрой, папыталася пра дзяцей:

— Цяжка з імі?

— Нялёгка. Накарміць, апрануць, вывучыць. Старэйшы сын, васямнаццаты яму, закончыў аўтадарожны тэхнікум, паехаў працаваць на Міншчыну. Шаснаццацігадовая Галя зараз замест мяне на ферме. Васіліна паступіла ў сельскагаспадарчы. Так што пад рукамі ўецца толькі шасцёра.

— Будзе сямёра? — далікатна напомніла я. — Дзеці ў хаце — радасць маці.

Кацярына засмяялася:

— Добра, што мае не хварэюць. Здаровыя, без розных прысмакаў. Праўда, учора Волька зубамі екатала. Дык, гледзячы на яе, і ў мяне зубы занылі. Пупавіну перарэжуць, а яна ў матчыным сэрцы застаецца. Вы адкуль?

— З Гомельшчыны.

— А я з Магілёўшчыны. На Віцебшчыну замуж выйшла. Вёску нашу ў вайну спалілі. Людзей пастралялі, засталіся чатыры бабулі ды я. Жудасна. Цішыня. Ні дзіцячага голасу, ні смеху. Бабкі плачуць, мяне, сірaціну, шкадуюць. А я ім гавару: «Не плачце, вырасту, замуж выйду, дзяцей нараджаю багата-багата». Бачыце, трымаю слова.

— Паласкаць бялізну куды ходзіце?

— Копанка тут у нас побач.

— Давайце, дапамагу.

— Хадземце, калі не спяшаецеся. Вось, пранік вазьміце. Ніяк не адвыкну ад яго.

— У вас ногі ў пухлінах. Аналізы трэба зрабіць. Ды і адпачыць крыху.

— Самі бачыце, калі мне…

— Колькі засталося хадзіць?

— Па маіх падліках, у канцы месяца.

— Вы былі ў акушэркі?

— А навошта, калі яна сама да мяне прыйшла?

— Дык вы ведалі?

— Сказала суседка.

— У Панкратавых мяне граблямі пачаставалі.

— Да вяселля зажыве. Камусьці нявестка добрая будзеш, вунь як пранікам плешчаш! А на Вольгу не крыўдзіся. Састарылася яна ў дзеўках. Жаніха з вайны не дачакалася. Падкузьміў цябе хтось.

Вярталася я позна. Лявон, Кацярынін муж, давёз мяне на вазку да бальніцы і, развітваючыся, паабяцаў:

— Да вас Кацярыну прывязу. Паверыла яна вам.

Жнівень пачаўся прафсаюзным сходам. Я была на выкліку ў сардэчніцы і спазнілася на пачатак. Затое паспела на кульмінацыю — выступала патранажная сястра. Яна вярнулася з курсаў і прасілася ў адпачынак. Урач не адпускаў. Сход пастанавіў — галасаваць. Прагаласавала большасць адпусціць. Але Ігнат Пятровіч настойваў на сваім, гаворачы, што дзеці тры месяцы былі без медыцынскага догляду.

— Куды вам адпачываць? — усміхнуўся ўрач. — Вы і так, як пампушка.

Патранажная ўскочыла з месца, парываючыся нешта сказаць, але не змагла: эмоцыі так і захліствалі яе. Раптам яна нахілілася, схапіла з сумкі бохан хлеба, і запусціла ім у Ігната Пятровіча. Урач засланіўся рукою, бохан шмякнуўся на падлогу.

Мы прыціхлі. Санітарка Вольгачка спалохана войкнула, нахілілася, каб падняць хлеб, але патранажная адштурхнула яе, кінула ў твар урача брыдкае слова, схапіла бохан і выскачыла з амбулаторыі.

Збялелы Ігнат Пятровіч прымусіў сябе ўсміхнуцца: «Павысіла кваліфікацыю». Сход працягваўся. Слова ўзяла Алена Лявонаўна, паварыха бальніцы.

— Вы на Рыту Сяргееўну не крыўдуйце, — мяккім, ціхім голасам пачала яна. — Мужчыны ў доме няма. Усё самой прыходзіцца рабіць. Вось нервы і не ў парадку. Мне таксама ў адпачынак трэба. Сенакос падаспеў. Падмены ў мяне няма. Людзі хоць у нядзелю адпачываюць, а я нібы да пліты прыкавана.

— Кухонны Праметэй, — засмяялася сабе Соня.

— Вы што?! — узвілася Ася, бухгалтар. — Спачатку ад падмены адмаўляецеся, а потым мы ж вам за пераробкі плацім.

— То было зімой. А зараз лета, — знайшлася Алена Лявонаўна.

За паварыхай выступіў Лапейка. Ён напомніў Ігнату Пятровічу, што ў яго стале ляжыць заява патранажнай. Два месяцы назад яна прасілася ў раённую бальніцу, там было месца.

— Давайце, таварышы, адпусцім Рыту Сяргееўну, — звяртаючыся да сходу, прапанаваў Лапейка. — Спакайней будзе.

— *Вам* будзе спакайней, — пакпіла Соня, — а ўчастку? Хто лепей за яе ведае дзяцей?

— А хто лепей за яе лаецца? — павярнуўся Лапейка да жонкі.

— Ты! — не разгубілася Соня.

Хтосьці з прысутных услых пырснуў. Лапейка развёў рукамі і сеў. Зазваніў тэлефон. Урача выклікалі да хворага. Ён узяў свой чамаданчык, папрасіў прабачэння і пайшоў.

Пакуль урача не было, разышоўся Лапейка:

— Каб урач быў на месцы, хлебам бы не кідаліся. А шэф толькі і ведае — у машыну ды ў горад. Яно вядома, дзеці і жонка там, прапіску беражэ. А хворых на фельчараў пакінуў.

— Пачакай, пачакай, — пачаў супыняць яго старшыня сходу Марчанка. — Прыйдзе сам, яму і скажаш. Крытыка ў цябе завочная.

— А ты ў пратакол запішы, — смяяліся медыкі.

— Пайшлі вы са сваім пратаколам!

— Падвесці рысу!

— Закругляйся!

— А пастанова? — папытаў страшыня.

— Аб падмене на кухні не вырашылі, — напомніла я.

— Калі табе няма чаго рабіць — падмяняй, — асадзіў мяне Марчанка.

І тут паднялася Соня. Лагодна-лагодна ўсміхнулася прысутным:

— Вы забыліся пра павестку дня. Збіраліся выбраць часовага прафорга, пакуль абраны вернецца з дэкрэта. Арганізацыя без галавы засталася. Хаця галоў у нас маладых ды гарачых хапае. Вось, Верабейчык. Не замужам, дзеці не плачуць. Няхай папрацуе на карысць грамадства.

Хвілін праз дзесяць я стала прафоргам. «Вайна» працягвалася.

Грамадская дзейнасць мая пачалася са сценгазеты. Рамка ад яе знайшлася ў канюшні. Былая назва «Медык» мне не спадабалася, і я чырвонай фарбай напісала новую: «Шпрыц».

Вечарам, пасля прыёму, засела рабіць газету. У першай калонцы апісала сход і выступленні. Крытычныя выказванні падкрэсліла. У другой змясціла кароткія выпіскі з кнігі скаргаў. У трэцяй — намалявала ўрача каля машыны і падпісала: «Фігара тут, Фігара там». Крыху ніжэй змясціла карыкатуру на патранажную медсястру з подпісам: «Запрашаю на курсы павышэння кваліфікацыі лаянкі. Навучанне — бясплатнае». У чацвёртай калонцы намалявала бутэльку, у ёй конюха бальніцы. Ён штодзень напіваўся і, хаваючыся ад урача ці ад жонкі — санітаркі Вольгачкі, спаў на сене ў канюшні. У канцы газеты я выдумала тэкст тэлеграмы да Соні Лапейкі: «Соня, прывітанне табе ад тваіх сяброўак, свіранскіх сарок-белаболак — Вольга Панкратава».

Сценгазету павесіла ў калідоры на самае віднае месца каля кухні. Вечар быў суботні і, развітваючыся з Аленай Лявонаўнай, я ўспомніла яе скаргу, вярнулася ў амбулаторыю, саставіла графік падмены, першым паставіла сваё прозвішча. Алена Лявонаўна графік прачытала без асаблівага энтузіязму:

— Вы мне тут каструлі папаліце.

— Не пярэчце прафсаюзнаму богу, — падтрымала мяне кастэлянка.

Алена Лявонаўна неахвотна згадзілася, адамкнула кухню, паказала, дзе дровы для падтопу.

— Якія сталы прапісаны? — папыталася я.

— Сталы? — здзівілася паварыха.

— Ну, каму — дыета, каму — агульны…

— А! Усім дзясяты стол. Сумку маю з-за шафы падайце, пайду.

Я зазірнула за шафу, выцягнула сумку. Яна была даволі цяжкай.

— Камяні вы тут носіце, ці што? — пажартавала я, стаўляючы сумку каля паварыхі. Паварыха неяк паспешліва пацягнула сумку да сябе; сумка перавярнулася, упала. З яе пасыпалася грэчка, выпала пачка кісялю і пачка масла, мяса, загорнутае ў газету.

— Наша, бальнічнае! — заўважыла касталянка.

Нездарма скардзіліся хворыя, ды і медыкі пагаворвалі, што паварыха «нячыстая на руку». Ад сораму за жанчыну я не магла падняць галавы. Маўчала збянтэжана і паварыха.

— На працу можаце болей не выходзіць, — парушыла я маўчанне.

— А як жа? — паспрабавала штосьці сказаць жанчына.

— Сядайце і пішыце заяву.

Паварыха напісала заяву, кінула яе мне праз стол.

— Яшчэ прасіць будзеце, — апамяталася ад першага сполаху яна.

Каб не праспаць, тры ці чатыры разы прачыналася на начы, падбягала да гадзінніка. Гаспадыня аж злавацца пачала.

Роўна ў пяць выйшла з хаты. Памыла падлогу ў кухні, пяском «падраіла» патэльні і каструлі. Доўга не запальваліся дровы. Добра, што знайшла ў бу-

тэльцы крыху газы. Прадумала меню: на сняданак грэчневая каша з маслам, яйка ўкрутую, шклянка малака з батонам. На абед — суп, пюрэ з катлетай і кісель. На вячэру — манная запяканка з павідлам, чай.

Навыдумляць — навыдумляла, а дзе знайсці яйкі, цыбулю, смятану? Можа, пагаварыць з касталянкай? Жыве яна побач з бальніцай. Жанчына адзінокая, трымае карову, курэй.

— Цёця Ліза, — клічу жанчыну, пабачыўшы яе на двары.

— Што, Гэлька?

— Вы такая добрая, клапатлівая, хворыя вас любяць.

— А ты карацей, — смяецца цёця Ліза.

— Давайце дамовімся: кухня будзе вам аддаваць адыходы, а вы бальніцы — калі якое яйка, ці смятаны…

— Ну, што ж, выручыць шэф-повара магу, а адыходамі сама бальніца магла б якога подсвінка выкарміць.

— Хто яго даглядаць будзе?

— Каб па-людску, знайшліся б.

— Цёця Ліза, вы проста геній. Заўтра збяру прафбюро і ўсё абмяркуем.

Пасля абеду, хадзячыя хворыя сышлі з другога паверха паглядзець на новую павarыху. Напісалі калектыўную падзяку. З вясёлым сэрцам гатавала вячэру. Але настрой мне нечакана сапсавала ўрачова бабуля, Сямёнаўна, цёшча Ігната Пятровіча. А я і не ведала, што адыходы забірае яна.

— Начальніца знайшлася! — наляцела на мяне старая, калі я не пусціла яе на кухню.

— Даражэнькая Сямёнаўна! — супакойвала я яе. — Адыходы я аддала, навошта дарэмна хрыпнуць?

Але старая сварылася, пакуль сапраўды не ахрыпла…

Позна ноччу мяне разбудзіў стук у шыбу. Каля акна стаяла санітарка Вольгачка.

— Прывезлі каго?

— Ды не… Вас кліча Ігнат Пятровіч.

Апранаючыся, зірнула на гадзіннік — дзве гадзіны ночы. «Самы час» адміністрацыйных размоў.

Па дарозе ў бальніцу з «Верабейчыка» стала «Вожыкам» — усе калючкі тарчаком! Так, з натапыранымі іголкамі і зайшла ў кабінет урача.

Ігнат Пятровіч не павярнуўся, не зірнуў на мяне. Я моўчкі села на стул каля стала. Міжволі зірнула на стол і ўсё зразумела: на стале ляжала мая сценгазета.

За свой працоўны месяц бачыла я ўрача не болей як чатыры разы. Высокі, хударлявы, з маленькай галавой і вялікага памеру сандалямі, ён быў падобны на Гулівера, а я ў яго прысутнасці на ліліпута.

Згорбленыя плечы Ігната Пятровіча напомнілі мне, што ў яго туберкулёз лёгкіх, і мне стала шкада гэтага стомленага, прыціхлага чалавека. Пашкадавала, ды тут жа ўспомніла, як тыдзень назад у нас у амбулаторыі памёр хлопец ад траўмы. Ігнат Пятровіч быў дома, у горадзе. Хуткая не давезла да раённай бальніцы. Урач ёсць урач. Хвораму баліць свая балячка, а не ўрачова.

Маўчанне зацягвалася. Нарэшце, калі ўрач павярнуўся да мяне, я аж спалохалася, такі ён быў збялелы.

— Хто вам дазволіў такое ў сценгазеце?

— Высокая свядомасць.

Сказала і самой смешна стала. Гэта ў нас так пачынаў сходы ў медвучылішчы стараста Бараньчык: «Каб у вас была высокая свядомасць, сесію б вы здалі, як людзі».

— А пра пачуццё меры ведаеце што-небудзь?
— У школе гаварылі.
— Даўнавата.
— Ага.
— Вы падумалі аб маім узросце, пасадзе, аўтарытэце? Заўтра вашу пісаніну прачытаюць сёстры, санітаркі, хворыя.
— Гэта ж — крытыка. Са сходу. Я ж не выдумала.
У амбулаторыю зайшоў заспаны Лапейка. За руку паздароўкаўся з урачом, сеў за стол.
— На вашым месцы, Ігнат Пятровіч, газету б я ў адно месца, а пісацельніцу рамянём па тым месцы, на якім сядзяць.
— Рамянём можаце вучыць свайго сынка, каб на перавязачным стале не корпаўся, — абурылася я. — А газету толькі паспрабуйце. У «Праўду» напішу.
— Бач ты яе, праўдалюбка. Па цыбулю ў чужыя грады лазіць не саромеецца.
Мне здалося, што ў мяне пачырванелі не толькі вушы, шыя, твар, а і вочы. Аж слёзы выступілі. Сапраўды, адшчыкнула для катлет у нядзелю некалькі зялёных пёрак на градзе каля бальніцы. Думала, бальнічная. Аказалася, агарод Лапейкі.
— У вас жа дзесяць сотак зямлі. А вам усё мала. Замест кветак цыбулю садзіце, — павярнулася я да Лапейкі.
— Ігнат Пятровіч, яна ж нас са свету зжыве, — узвіўся фельчар.
У сцяну загрукалі. Лапейка чартыхнуўся і выйшаў. Урач таксама пачаў скідаць халат.
— Ідзіце, — сказаў ён мне. — Заўтра пагаворым.
«Заўтра — сягоння», — падумала я, гледзячы на прадранішнюю шэрань за вокнамі.
— Ну як? — прасунула галаву ў дзверы Вольгачка, калі я засталася адна.
— Ніяк.
Вольгачка шчыльна зачыніла дзверы, села на канапу насупраць мяне.
Невялікага росту, седзячы, яна наогул была падобна на спалоханага вераб'я. Чорныя вочкі туды-сюды бегалі, счарнелыя, зморшчаныя рукі пырхалі з месца на месца.
— Не бойся, — усміхнулася Вольгачка. — Які з цябе попыт. Ты зусім дзіцё. Неразумнае.
— Ніякае я не дзіцё! А вы і пры парадзіхах мяне Гэлькай клічаце! Хто ж мяне пасля гэтага паважаць будзе?
— Паслухай, Гэлька, смех! Мой пабачыў сябе намаляваным у бутэльцы — сам не свой ходзіць. І, нібы шкельца, цвярозы. Аддай ты мне гэты малюнак, дома на сцяне прыб'ю, каб кожны дзень сябе бачыў…

Раніца новага дня ў бальніцы пачалася нязвыкла — з «пяцімінуткі». Заікаючыся ад непрывычкі і хвалявання, дзяжурная сястра гаварыла аб становішчы хворых, аб тым, як прайшла ноч.
Слухалі медсястру ўважліва. Потым выслухалі кожнага з прысутных, хто чым плануе заняцца.
Санітарны фельчар Марчанка з дэзынфектарам збіраліся дэзынфіцыраваць студні ў адной з вёсак, дзе я яшчэ не пабыла. Папрасілася з імі і я. Але ўрач не адпусціў:
— Вы застанцеся, дакументацыю буду ў вас правяраць.
Прыём хворых Ігнат Пятровіч даручыў Лапейку. На пяцімінутцы я пазнаёмілася з зубным урачом — Тамарай Васільеўнай. Загарэлая, сінявокая,

з таўшчэннай касой вакол галавы. Зайшла ў яе кабінет. Акуратна, утульна, бялютка, чысціня.

— Вы з адпачынку? — пацікавілася я.

— Была. На Азоўскім.

— Чаму не на Чорным?

— У партызанскім атрадзе адзін чалавек гаварыў, што вочы мае падобны на Азоўскае мора. Хацела праверыць, ці так.

— А дзе той чалавек зараз?

— Няма.

— Як няма?

— Загінуў.

— Вы… замужам?

— А вы заўсёды такая цікаўная?

— Проста вы мне падабаецеся.

— Тады, відаць, вам усё роўна — замужам я ці не.

— Сапраўды.

— Газету вашу бачыла.

— На троечку.

— Уяўляю! Калі б на пяцёрку, туды б і я напісала.

— Вас бы я намалявала прыгожай.

— Дзякуй, дзякуй. Кажуць, сёння ў вас была рабінавая ноч?

— Ды не, толькі калінавая.

— Здзіўляюся Ігнату Пятровічу. Ён звычайна вельмі разважлівы. Непрыемнасці і тыя робіць далікатна, з усмешкай. А ўрэшце, мы мала яго ведаем. Канечне, газета ваша…

— Што газета?

— У ёй болей позы, чым сур’ёзнай крытыкі. Крытыка павінна быць абгрунтаванай і спакойнай.

— Я з вамі не згодна. У нас сценгазета, а не часопіс, каб пісаць доўга і грунтоўна. Трэба, каб адразу пальцам у вока.

— Крыўдзіцеся? У мяне ёсць вопыт выпуску сценгазет, калі хочаце, дапамагу.

— Ёсць вопыт і не выпускалі!

— Здаюся.

З нашай размовы мяне больш за ўсё пакрыўдзіла слова «поза». Узнімаючыся па лесвіцы на другі паверх, да сябе, зняла газету і схавала ў бакоўцы. І адразу ж пачала наводзіць парадак у дакументацыі. У дзверы зазірнула дзяжурная сястра:

— Дзе вы ходзіце? Вас урач шукае.

«Сам» гаварыў са мной праз плячо:

— Я прагледзеў, як вы афармляеце дакументы і, на першы раз, аб’яўляю вам вымову.

Моўчкі выслухала, моўчкі вярнулася ў радзільню. Расклала на падаконніку гісторыі родаў, уліковыя сшыткі, аналізы. Няма дзе прытуліцца. Радзільня — на чатыры ложкі. Пасярэдзіне — радзільны стол. Усё на вачах. На вачах тых, якія яшчэ не ведаюць, як і што. А яшчэ патрабуюць праводзіць псіхапрафілактыку. Тут жа, у палаце — грубка-галандка. Ацяпленне — торфам. Паспрабуй захаваць чысціню! Трэба будзе пагаварыць з урачом, можа якую бакоўку можна вызваліць ад смецця і аддаць мне.

У бальніцы было, на здзіўленне, ціха. Нават хворыя, чакаючы прыёму, перагаворваліся шэптам. Відаць, ім перадаўся настрой медперсаналу. Калегі

спачувальна глядзелі на мяне. Падаслалі Яніну, санітарку амбулаторыі. Дзяўчына шапнула мне:

— Сёння цябе будуць утаймоўваць. З раёна Ярмак прыехаў.

— Той, што з берага Іртыша?

—Зірні ў акно. Вунь яны з урачом стаяць каля школы — старшыня райкама прафсаюза медыкаў.

— Я думала — артыст…

— Хірург. Нашы на сход прыбраліся, як у тэатр.

Аб’ява пра сход і мая вымова віселі побач. Нехта над імі крэйдай намаляваў чэрап з перакрыжаванымі косткамі. Каб не падумалі на мяне, паперай сцёрла малюнак.

Сход пачаўся ў васямнаццаць гадзін. Выбралі прэзідыум. Прадстаўнік з раёна, Лапейка, Ігнат Пятровіч, Зіна-дэзынфектар.

Лапейка абвясціў павестку: «Пастаноўка медыцынскага абслугоўвання Вясёлкаўскага бальнічнага ўчастка на перыяд жніва. І — рознае». На слове «рознае» галовы прысутных павярнуліся да мяне. Слова прадаставілі Ігнату Пятровічу. Дзіўная з’ява, ледзь убачу ў дакладчыка стос паперы — тут жа адключаюся. Другая справа, калі чалавек выступае, вольна валодаючы словам, лічбамі, фактамі, «без шпаргалак». Тады з цікавасцю слухаеш, успрымаеш.

Вось і зараз… Загледзелася на маладзенькага, калматага клёніка за акном. А ён высокі, танклявы, ружова-залаты. Зацалавала яго лета.

Да мяне на шыбы
Зіхацінкі-росы
Сыпле клён кудлаты
Малады сусед…

Зноў рыфмуецца. Добра, што не ўслых. У медвучылішчы і не такое здаралася. На іспытах, помню, вучыла гісторыю. Пачала чытаць, а ў падручніку сказ са сказам рыфмуецца. Нібыта, які паэт гісторыю пісаў. Я ўзяла і вывучыла некалькі такіх сказаў на памяць. А потым прачытала выкладчыку, як верш. Дык ён мне, за пачуццё гумару, паставіў «пяцёрку», а веды мае ацаніў двума баламі. Прыйшлося пераздаваць з другой групай.

— Хто жадае дадаць? Хто будзе выступаць? — просіць старшыня прэзідыума Лапейка. Яго голас вяртае мяне да рэчаіснасці. Усе маўчаць. Цікава, хто ў нас самы смелы? Наўздзіў, паднімаецца Вольгачка:

— Тут Ігнат Пятровіч аб увазе да працаўнікоў вёскі гаварыў. Правільна. Але мы крыху спазніліся. Трэба было з вясны. Разам з сяўбой. Колькі таго жніўня засталося.

— Бульба пачнецца! — гаворыць з месца Яніна.

— Канечне, — працягвае Вольгачка, — работы хапае. Ды заўважаю я з году ў год, што вось у такія клапатлівыя дні хворых у нас амаль не бывае. Людзям некалі адседжвацца ў амбулаторыі.

— Рэгламент, — заёрзаў на табурэтцы Лапейка. — Якія прапановы ў вас? Ну!

— А ты не нукай, я табе не кабыла, — разышлася Вольгачка. — Прапановы такія. Прызначце дзяжурных фельчараў, папрасіце ў старшынь калгасаў «казёл», каб дзяжурства было на калёсах. А тым часам рамонт бальніцы зрабіць. Вырашыць пытанне аб пральні. Бялізну новую купіць. Вока гаспадарскае вам трэба мець, Ігнат Пятровіч, а не з дзецьмі ваяваць.

— У вас усё? — перапыніў санітарку Лапейка.

— Усё.

— Хто яшчэ выступіць?

Зноў няёмкае маўчанне. Слова папрасіла я.

— Два дні назад мяне выбралі часовым праторгам.

— Сабе на галаву, — усміхнуўся Марчанка.

— І хаця гэта не па статуце…

— Зроблена, дык зроблена, — не даў мне дагаварыць Лапейка.

— Што вы яе перапыняеце? — захвалявалася Вольгачка. — Гавары, Гэля!

— Проста я хацела параіць усе нашы сходы пачынаць з мінулых пастаноў. Каб бачна, выконваем ці не выконваем?

Хтосьці ўслых прысвіснуў. Марчанка бабахнуў кулаком па стале: «Ціха».

Я пачала чытаць: «Наладзіць працоўную дысцыпліну. Прапанаваць урачу бальніцы працаваць згодна з яго пасадай».

— Што ты мелеш!? — закрычаў Лапейка. —За спінай чалавека такія пастановы. Добра ведаеце, што Ігнат Пятровіч хворы чалавек.

— Пачакайце, Дзмітрый Фядосавіч, — папрасіў урач. — Хворы, не хворы. Мне сапраўды цяжка, жонка сюды пераязджаць не хоча, сям'я можа парушыцца. Ды і агульнай мовы не знайшоў я з калектывам. Мяне абражаюць, не думаючы аб аўтарытэце. У вас, Віктар Лявонавіч, ёсць ужо дзве мае заявы, — урач павярнуўся да Ермака, — вось трэцяя. Няхай маладзейшыя на сяле папрацуюць. Колькі можна? Ужо дзясяты год. Дзеці без бацькі растуць.

— Калі вы з-за мяне, — не вытрымала я яго слёзнага выступлення, — то — дарма, сценгазету я зняла.

— Прычым тут газета? — спакойна, разважліва пачаў сваё выступленне Марчанка. — Вось тут Ігнат Пятровіч пакрыўдзіўся. На ўсіх нас. На завочную крытыку. А калі ж нам яе ў вочы сказаць, калі бачым мы вас, як сонейка зімой. Працуем, як каму ўздумаецца. Гаварыць нават не ахвота. Вы ні ў бальніцы. Ні на прыёме. Людзі да фельчароў ісці не хочуць.

— Вядома, ім прафесара падавай! — буркнуў Лапейка.

Марчанка паглядзеў на Лапейку.

— Вось ты, Дзмітрый, сам жа распінаўся на тым сходзе, што колькі год на прыёме без урача, а зараз зусім іншае спяваеш.

— Прашу па пытанні дня, — не паднімаючы галавы, сказаў Ігнат Пятровіч.

— Можна і па пытанні. Лічу план, прапанаваны санітаркай Вольгай Андрэеўнай — больш рацыянальны і патрэбны, чым ваш.

Лапейка ледзь дачакаўся свайго моманту. Расшпіліў халат, выскачыў з-за стала, тэатральна ўскінуў руку:

— У сваёй Айчыне няма пракарокаў! — пачаў ён напышліва. — Калі збіраемся толькі свае, то, не выносячы смецце з хаты, можна і пакрытыкаваць адзін аднаго. Мне няёмка, што сягоння, пры паважаным прадстаўніку раёна, займаемся пустой балбатнёй.

— Вось і не займайцеся, — прапанаваў прадстаўнік.

— Яшчэ хвілінка, — заспяшаўся Лапейка. — Нечага здзіўляцца, што людзі перастаюць да нас прыходзіць. А ад некаторых нашых спецыялістаў нават уцякаюць. Прысылаюць нявопытную дзятву. Чаму іх толькі вучаць?

Мне стала горача. Апусціла галаву, каб ніхто не пабачыў маіх вачэй.

— А вы называйце, называйце! — сказала Тамара Васільеўна.

— Быццам, не ведаеце, — кіўнуў на мяне Лапейка. — працуе другі месяц, а колькі скаргаў! Вось сёння паступіла заява ад паварыхі. Не выходзіць жанчына на працу. Думаеце, з-за чаго?

— З-за чаго? — спалохалася за мяне Вольгачка.

— Папытайцеся! — тыцнуў пальцам у мой бок Лапейка, і сеў, выціраючы хусцінкай лоб.

— Гэля Пятроўна, — падбадзёрыў мяне Марчанка, — растлумачце.

— Я ёй параіла падаць заяву.

— Чуеце? — закрычаў Лапейка. — Хто яна такая, каб звальняць? Пакрыўдзіла чалавека, абазвала зладзейкай. За гэта ў суд падаюць!

— Ваш рэгламент даўно скончыўся, — пастукаў алоўкам па стале Марчанка. — Чаго гэта ты ў паварыхі за адваката?

— Карыта скончыцца, — напомніла аб сабе патранажная.

— Гэля, раскажы нам сама, — папрасіла Тамара Васільеўна.

— Што тут расказваць, — абурылася кастэлянка. — Быццам не ведаеце. Пачалося з падмены. Ніхто не згадзіўся ў нядзелю на кухні працаваць, дык Гэлька вырашыла сама. Ну і ў суботу, прымаючы ад паварыхі ключы, выпадкова зазірнула ў яе сумку. Дужа цяжкая сумка была. А — там бальнічныя прадукты.

— Ну і Верабейчык! — не то здзіўлена, не то асуджальна зазначыў Марчанка.

І тут у амбулаторыю ўплыла Соня. Умее ж зайсці! І таўшчыня ёй не перашкаджае.

Усе так і правялі яе вачамі. У бялюткім халаце, шапачка, нібы карона на галаве. Спынілася каля стала, апусціла на момант доўгія вейкі, і раптам так і апякла ўсіх нас бляскам вялікіх чорных вачэй:

— А мне дасцё слова?

— Калі ласка, — аж заспяваў Марчанка.

Вочы Соні сыпанулі смехам.

— У мяне вось тут у кошыку, — Соня паказала ўсім зграбны лазовы кош, — падарунак Верабейчыку. Ёй сёння — сямнаццаць год.

Соня заўсёды так. Спіць, спіць, а потым раптам, як піліп з канапель. Не ведаю, пакрыўдзіцца, ці расчуліцца? Адно скажу — з бояззю чакаю, што будзе далей.

А Соня пакорпалася ў кошыку, там штосьці заварушылася, і на маіх каленях апынуўся малы ружовенькі парсючок.

Смех і апладысменты заглушылі маё спалоханае «Вой!»

— Не палохайся, падарунак без намёкаў, — засмяялася Соня і павярнулася да Ігната Пятровіча. — Наш прафорг запланаваў адыходамі з кухні выкарміць некалькі свінак у бальнічнае меню. Дык гэта мой прафсаюзны ўзнос у вялікую справу. Віншую цябе, Верабейчык! Няхай твая сценгазета будзе такой жа пякучай, як цыбуля на нашых градках!

Праз агульны смех я прабіцца так і не змагла. Хацела сказаць што-небудзь Соні, але неспадзявана ў амбулаторыю зазірнуў перапалоханы мужчына:

— Памажыце, жонка памірае!

— Кацярынін муж, — пазнала я мужчыну.

Не помню, як узляцела на другі паверх за стэрыльным наборам. Схапіла яго і бягом на двор, да калёс.

Не даехалі… Наклала хуценька на пупавіну зажымы, перарэзала яе, перавязала шоўкам, змазала ёдам. Камусьці ў рукі аддала нованароджанага, накінулася на падляцеўшую Яніну:

— Дзе насілкі?

З насілкамі прыбег Марчанка. Кацярыну асцярожна перанеслі з воза на насілкі і панеслі ў радзільню. Пакуль укладвалі на радзільны стол, жанчына апрытомнела. Соня пачала адбіваць ампулку кафеіна. Я тым часам агледзела жанчыну. Роды ў Кацярыны пачаліся ў дарозе. Лявон так сцябаў з перапуду

каня, што вазок кідала з боку на бок, аж пакуль жанчына ад болю не страціла прытомнасць. Лявон спыніў каня і пачаў трэсці жонку. Жанчына прыйшла ў сябе, заенчыла. Так на дарозе і прыйшлося Лявону самому прымаць дзіця. Здаецца, ўсё было ў парадку, а Кацярыне зноў стала кепска. У стане непрытомнасці ён і прывёз нам яе.

Дыягназ я паставіла хутка. Жанчыне была патрэбна неадкладная хірургічная дапамога.

У радзільню зайшоў Ігнат Пятровіч з хірургам. Папыталіся, як справы. Я сказала.

— У вашай практыцы такое сустракалася? — папытаўся Ярмак.

— Не.

— Рыхтуйце сістэму, будзем пераліваць кроў.

Мы пераглянуліся з Соняй. Крыві ў бальніцы не было. Дзе яе трымаць, калі няма халадзільніка?

Ігнат Пятровіч хуценька выскачыў з радзільні.

— У мяне першая група, — сказала Соня, — і, галоўнае, свежанькая.

— Цудоўна! — падтрымаў Соню Ярмак.

Ад уколу ў вену Кацярына расплюшчыла вочы, вінавата ўсміхнулася мне:

— Галава круціцца.

— Нічога, родненькая, зараз мы вам паможам.

Хірург праверыў, як працуе сістэма, пяшчотна правёў рукой па Сонінай далоні:

— Дзякуй вам.

І тады я асмелілася:

— Віктар Лявонавіч, дазвольце, я сама…

— Рукі! — шэптам сказаў хірург.

— Што?

— Рукі, калега, вашы пасля кухні…

…Калі ўжо ўсё было зроблена, і мы адпачывалі ў кабінеце Ігната Пятровіча, я ад перажытага страху і хвалявання расплакалася. Ярмак зрабіў выгляд: не заўважае і не чуе. Сядзеў, курыў гледзячы міма мяне ў цёмнае акно. Рукі хірурга ледзь бачна ўздрыгвалі. Каб супакоіцца, я пачала запаўняць гісторыю родаў, раз пораз краем вока назіраючы за яго рукамі. Такія моцныя і такія далікатныя рукі!

Ігнат Пятровіч драмаў, седзячы на канапе. Хапіла і яму клопату. Соню мы адвялі дадому. Каля яе засталася Тамара Васільеўна. Скончыўшы пісаніну, я хацела ўстаць і не змагла, плюхнулася на стул, нібы прывязаная.

Хірург азірнуўся і ўголас засмяяўся:

— Крыльцы вам, Верабейчык, хтосьці прывязаў!

Ігнат Пятровіч расплюшчыў вочы і падтрымаў жарт:

— Каб Верабейчык не выпырхнуў.

Яны ўдвух адвязалі мае косы ад спінкі стула, аслабанілі мяне з «палону».

Ігнат Пятровіч павярнуўся да Ермака:

— А зараз запрашаем вас, Віктар Лявонавіч, на баль з нагоды нараджэння нашага Верабейчыка.

— Сонін почырк, — здагадалася я.

— Сапраўды,— адразу ж згадзіўся хірург, — самы час святкаваць. Я яшчэ не абедаў.

Імправізаваны баль, як пасля высветлілася, наладзіла цёця Ліза з Тамарай Васільеўнай. Спяклі нават пірог. Патранажная прынесла хатняга віна. Яніна з Вольгачкай падарылі мне сямнаццаць ружовых вяргінь. Марчанка прыхапіў з сабой баян.

Ігнат Пятровіч запрасіў мяне на вальс. Відаць, відовішча было такім смешным, што самая сур'ёзная сярод нас, цёця Ліза, і тая не вытрымала, пырснула ў кулак.

Ці то хатняе віно Рыты Сяргееўны, ці добры настрой за якую гадзіну аб'ядналі людзей. Знайшліся тэмы для размоў у самых маўклівых. Дэзынфектар Зіна, ад якой звычайна за дзень слова не пачуеш, даволі ахвотна дзялілася з Вольгачкай вопытам засолкі агуркоў.

Ігнат Пятровіч размаўляў з Рытай Сяргееўнай. Яна пры ўсіх папрасіла ў яго прабачэння, ён у сваю чаргу вінаваціўся перад ёй.

Тамара Васільеўна сядзела побач з Ермаком. Ён ёй штосьці ціхенька гаварыў, і яна пяшчотна яму ўсміхалася сваімі вачамі, падобнымі на Азоўскае мора. Я ўжо ведала, у Тамары сям'я не атрымалася. Пасля вайны яна выйшла замуж, жыла ў вялікім горадзе. Нарадзіла дачку. Але не вытрымала, збегла ад мужа ў вёску. Тамары трыццаць адзін год. А не скажаш, такая яна статная, маладая.

Сумаваў сярод усіх нас толькі конюх, муж Вольгачкі, аднавокі Пятрусь. Да віна ён не дакрануўся, больш моцнага на стале не было. Адсутнічалі Лапейкі. Соня пасля пералівання прылегла адпачыць, ды і заснула. Вольгачка пашкадавала яе будзіць. Лапейка быў на сваім будаўніцтве. Я збегала паглядзець, як адчувае сябе Кацярына. Жанчына спала. Малое — таксама…

* * *

…Замест бабінага лета наступілі халады. Ноччу маразы выціскалі з распаранай летам глебы цёплы зямны дух, які адразу ж на паверхні цяжэў, курчыўся і поўз белым туманом па лагчынах, вісеў над возерам, клубіўся ў соснах. Бляклы ветах боўтаўся ў тумане, нібыта дагараючая свечка. А потым пунсовая чарапаха-сонца павольна, праз туман выпаўзала са схovішча. Але не грэла. Чарапаха заснула. Новы дзень прыносіў новыя жыцці. І будзе новае лета. Калі? Будзем чакаць, калі прачнецца чарапаха...

**1955—1957**

***Публікацыя Алесі Саротнік.***



## Любоў ШАШКОВА

### ВАСІЛЁЎКА

**1**

Калі ў шаснаццаць год, са школьнай парты,
Я толькі атрымала першы пашпарт,
Было мне на Урале так няёмка
Назваць куточак родны **Васілёўкай.**
Я з беларускай мовы пераклала:
**Васильевка** — не родна загучала.

Я з васількамі сувязі шукала,
А ў родным краі, там яе нямала.
Напэўна, ў гонар дзеда Васіля
Шчаслівa называлася зямля?
Свяціліся зусім невыпадкова
Маёй бабулі вочы васількова.
Блакітны позірк маці, як вясна,
І той, са здымку, бацькаў, васільковы,
Засведчаны калісь пад Магілёвам, —
Тут сувязь васільковая адна.

Пасля сябе і лёс свой дакарала,
Што гэты дзіўны колер пагубляла,
Што ў вочы мне уральскія лясы
Дабавілі зялёнае красы.
А Казахстан абветранай рукою
Ім стэпавы дарыў кавыльны колер.

---

***Шашкова Любоў Канстанцінаўна*** *нарадзілася ў 1951 годзе ў вёсцы Васілёўка Светлагорскага раёна (колішні Парыцкі). У хуткім часе разам з бацькамі пераехала ў горад Таўды Свярдлоўскай вобласці (Расія). Вучылася ў Свярдлоўскім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту. З 1971 года жыве ў Казахстане. Скончыла будаўнічы тэхнікум у Тэміртау. Працавала на радыё, у выдавецтве «Жазушы», у газетах «Вечерняя Алма-Ата», «Казахстанская правда». З 2003 года — рэдактар аддзела паэзіі, крытыкі і літаратуразнаўства часопіса «Простор».*

*Аўтар некалькіх паэтычных кніг.*

Дачушка побач — светлае стварэнне —
Вачыма ловіць кожнае імгненне.
Свае ў яе жаданні і турботы:
Лятаць на самых хуткіх самалётах,
Прыспешваць бег кур’ерскіх цягнікоў,
Спыняць аўто наіўнаю рукой,
Пасля ісці, пасля вяртацца зноўку
І тут жа, каб пачулі ўсе, гукнуць:
— Ну вось твая нарэшце… Васілёўка!
І ў вочы васількова зазірнуць…

**2**

На Сенежы блакітам дні яснелі.
Чарнобыль!.. — мы пасля ўжо зразумелі.

І воблака, што вецер недзе гнаў,
Тады шчасліва абмінула нас.

Яно спаліла потым — жах які! —
Над Васілёўкай роднай васількі.

Яно мне сніцца часта па начах,
Яно дыміцца у маіх вачах.

Яно, я чую, у крыві бурліць
Як боль маёй пакутнае зямлі.

## ВЕСНАВЫЯ МАТЫВЫ

**1**

Дажджом размытыя пейзажы —
Імпрэсіён, імпрэсіён —
Пра сум мой нейкі даўні кажуць,
Трывожаць сон.
Камусьці проста немагчыма —
Ля сэрца самага наўзбоч…
Мне без вачэй тваіх, айчына,
І дзень — як ноч.

**2**

Гэты луг залаты, калі толькі світае, —
Што буяніць, п’яніць травастоем густым,
І куды ён бяжыць і мяне аддаляе,
Маё сэрца і крок — гэты луг залаты?

Гэты луг залаты, калі сонца заходзіць
І пылком залатым асыпае кусты…

І ні сэрца, ні позірку нават не хопіць,
Каб яго ахапіць — гэты луг залаты.

Гэты луг залаты! Гэты подых духмяны!
Ён пасля новай хваляй зямлю захлісне,
Ён успыхне яшчэ у агнях нечаканых,
Але ўсё гэта будзе, на жаль, без мяне…

**3**

Як наталіцца гэтым хараством,
Як песняю мне ў такт яму патрапіць?..
Нікчэмны і намер вялікі твой
Хоць нешта ў гэтым, правільным, паправіць.
Як сумна думаць: вось ты, чалавек,
Табе б укленчыць у прыроды храме,
А ты, прыродай выкляты навек,
За галаву хапаешся рукамі…

**4**

Божа! За кругам выводзіць свой круг,
Планерам бусел садзіцца на сонечны луг.
Дзетак ён шчодра прыносіў на крылах сваіх.
Можа б, з бяды гэтай выбавіў іх…

**5**

Выпырхне птушка раптоўна з-пад ног —
Срэбнай расой заіскрыцца адразу мурог.

Недзе зязюля ў бары, за ракой,
Лічыць гады… А на сэрцы — спакой!..

Толькі б у птушкі любімай быў лёт малады,
Толькі б зязюля шчасліва лічыла гады,
Толькі б краса гэта ў бляску святла
Стронцыем сэрца не апякла!..

* * *

Што ты лятаеш, дурная варона,
Што ты балюча скрыпіш, як пратэз?
Штосьці шчымлівае каркнеш пад кронай,
Аж здрыганецца зялёны мой лес.

Сосны смалой санцагоннаю плачуць.
Сумна мне гэту зямлю пакідаць.
Можа, таго на зямлі я не бачу,
Што табе там, каля неба, відаць.

Можа, таго я, што ты, не пачую.
Плач нейкі даўні засеў у вушах.
Дзе ты лятаеш, скажы, дзе начуеш?
Іншае ўсё адгадае душа.

* * *

…А ціш напята, як струна,
Нібыта ў свеце я адна.
Як свечка, сумна гаснуць дні
У гэтай мёртвай цішыні.
А вецер ледзь струну крануў —
І змоўк, і свет увесь заснуў.
Што ж, калі так, хай адпачне.
Яму цяпер не да мяне.

## ЕЛЬНІК

Не азірнуцца: адразу за мной
Ельнік узняўся дрымотнай сцяной.
Воку спыніцца аж страшна на ім —
Дзікі гушчэр сціснуў кроны, як дым.
Лепш ужо ў лузе лагоду шукаць,
Лепш хай пагляд наш лагодзіць рака.
Ельнік жа… Што там у цемры яго
Тоіцца, сам ён не знае таго.
Хто там у схронах глухіх увесь час
Вокам драпежным высочвае нас?
Вось і бяжым усе ночы і дні
Мы ад нябачнай шалёнай гайні.
Рэха гайнёю бяжыць наўздагон,
Сонца цураецца нават яго.
Вось і баімся яго мы таму…
Бог адзін ведае толькі, чаму!..

* * *

Светла ў сасновым бары, як у храме.
Птушка анёлам пяе.
Полымя знізу успыхне часамі —
Крылы апаліць яе.

Гэтак мне лёгка ў сасновым тым храме,
Светла малітва гучыць.
Боскі спакой тут, вы бачыце самі —
Трэба яго берагчы!..

Што ж у тым царстве святла і азону,
У меднастволым бары,
Цікае глумным дазіметрам Зона?
Што ж ты, мой брат, натварыў?

Боскія сосны, як свечкі, трымцелі,
Долу сцякала смала.
Можа, і праўда, мы пекла хацелі?
Смерць запяклася ў ствалах.

Знак мой і грэх узняліся над лёсам.
Як я той грэх замалю?..
Полымя вецер узнёс да нябёсаў,
Потым вярнуў на зямлю.

Грыб мой атрутны здалёк адгукаўся.
Бор мой маўчаў, як глухі.
Дык не марудзь жа, укленчы, пакайся.
Можа, даруюць грахі…

Хай жа ў тым царстве святла і азону,
Што чалавек не ўбярог,
З попелу ўскрэсне вясна твая, Зона —
Благаславі цябе Бог!..

## СПАС

*В. Міхайлаву*

Яблыкі, яблыкі рвіце ў запас!
Жнівень гукае: — Яблычны спас!..

Яблыкі… Вунь які светлы наліў!
Шчасце якое на роднай зямлі!

Вецер галінку нагнуў, страсянуў:
Падаюць яблыкі ў Беразіну.

Чуеш, рака? Не спяшайся цячы —
Хваля-зладзейка мой яблык імчыць.

Яблык таемны я рвала сама,
Ведаю добра зямны яго смак.

Пешчу ракі маёй родны глыток, —
Гэта жыцця майго першавыток.

А таямніцу Фаворскай гары
Час мой, мудрэц мой, дасюль не адкрыў.

Можа, нарэшце адкрые калі…
Гора вунь колькі на гэтай зямлі.

Збаўца нябесны! Парадуй жа нас!...
Яблыкі, яблыкі… Яблычны Спас.

* * *

Расце дрэва,
Шапоча лісцем.
Свішча, свіргоча птушыны дом.
— Дрэва, дрэва, як ты завешся?
— Ідзі куды йдзеш. Я не знаю цябе.
Шчыруюць птушкі. Час гнездавання,
За ім прыспешвае шлюбны час.
— Птушкі, птушкі, як завуць вас?
— Ідзі куды йдзеш. Мы не знаем цябе.
Шэпчуцца травы ў лузе мядовым,
Цвітуць жоўтым, белым, зялёным.
— Травы, травы, як вас завуць?
— Ідзі куды йшла. Мы не знаем цябе.
Бяжыць рэчка,
Завуць яе Іслач.
Сваё нешта шэпча…
— Рэчка, рэчка,
Я твая дачка,
Я твая любка.
Скажы травам,
Скажы птушкам
І дрэвам скажы,
Хай яны ведаюць…
Маўчыць рэчка
І далей бяжыць.

* * *

Якая елка — любата!
Яна адна на ўсю паляну,
Але расце, як сірата.
І хоць бы ў бок яе хто глянуў.
А навакол усё звініць,
Спявае радасна на ўзлёце.
А тут — ні песні, ні радні,
Маўчыць у гордай адзіноце.
А я гляджу — і мне няўцям,
За што яе так пакаралі.
У сосен — смак увесь жыцця.
Яна ж, як здань, у троннай зале.
Пад сёстраў позіркам нямым
Чакае сумнае зімы.

## НАЧЛЕГ

Дзе луг травастойны і поўня вісіць, як кавун,
Прыгналі пад вечар на пашу стамлёны табун.

Табун не табун, а дзясяткі мо тры капытоў,
Мужчына-пастух у куфайцы прысеў пад кустом.

Ён вогнішча тут жа наспех распаліў —
Не холад даймаў, хоць і цёпла было на зямлі.

Тут кожны, калі б паглядзеў на яго, зразумеў:
Патрэбен начлежніку іншы зусім падагрэў.

Сівушнаю гарай наскрозь той мужчына прапах.
Стрыножаны коні, і сам ледзь стаіць на нагах.

Агонь распаліў і плячом да сасонкі прынік,
Не верыць, што май навакол і мінуў красавік.

Не бачыць ракі, дзе сумуе задумліва плёс,
Не бачыць і луга з чародкай буслінай бяроз,

Не бачыць, як сеюцца ясныя зерні расы,
І бачыць не хоча зямной і нябеснай красы,

Не бачыць жаробак і ціхіх пры іх жарабят.
Няўжо ты, мужчына, начлегу такому не рад?..

*P. S.*

Па праўдзе сказаць, калі марна пражыты твой дзень,
На месцы б яго аніхто ні на што не глядзеў…

## АЛЁНІН РАЙ, ЦІ РАЗМОВА З ФІНІНСПЕКТАРАМ ПРА КАРЫСЦЬ ПАТЭНТАЎ НА ІНДЫВІДУАЛЬНУЮ ПРАЦОЎНУЮ ДЗЕЙНАСЦЬ

Ну што, інспектар, ты маўчыш?
Ты помніш пра Алёну Кіш?

Хоць ні стары тут, ні хлапчук
Такога прозвішча не чуў.

Алёна, мілая Алёна —
На маляванках рай зялёны.

Суровы, нетутэйшы край.
Сады, плады — Алёнін рай.

А на зямлі вайна, як пекла,
Бярозам ручанькі адсекла.

І босыя шукаюць ногі
Любімай Случчыны дарогі.

Акраец хлеба, фарбы ў торбе,
А плечы сумна старасць горбіць.

Ды свет, што ўслед за ёй ідзе,
Звяр'я, і птушак, і людзей,

Ды гэты ільняны дыван,
Што ля персідскіх — як падман,

Як і цырата Пірасмані,
Што самабранкаю не стане,

Яе наіўныя палотны —
Не, не ўратуюць свет самотны.

Бяжы, інспектар, дагані!
Яе жыццё ручэй спыніў…

Цячэ ля Грозава ручэй.
У ім — вясна яе вачэй.

А фінагенты ўсіх плямён
Рыхтуюць новы ўжо закон.

Ну што, інспектар, ты маўчыш?
Паслухай лепш Алёну Кіш!..

***Пераклад з рускай Казіміра Камейшы.***





Ліляна ХАБ'ЯНАВІЧ-ДЖУРАВІЧ

# ПАРАСКЕВА: КРЫЖ У ПУСТЫНІ

*Раман*

*Ліляна Хаб'янавіч-Джуравіч (1953 г. н., Крушавац, Сербія) — вядомая сербская пісьменніца, аўтар раманаў: «Вядомая птушка» (1991), «Ана Марыя не кахае мяне» (1991), «Вярба» (1994), «Жаночае радаслоўе» (1996), «Паўлінава пяро» (1999), «Петкана» (2001), «Гульня Ангелаў» (2003), «Усіх скрушных радасць» (2005), «Запіс душы» (2007), «Вада з каменя» (2009).*

*Паводле інфармацыі Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (Кэмбрыдж), за мінулае дзесяцігоддзе яе творы (разам з творамі Добрыцы Чосіча) увайшлі ў катэгорыю найбольш выдаваных і чытаных на радзіме аўтара, а таксама былі перакладзены на балгарскую, венгерскую, грэчаскую, італьянскую, македонскую, румынскую, рускую, украінскую, французскую, харвацкую, чэшскую мовы.*

*Іх выданні ў Сербіі шэсць разоў адзначаліся як «Залаты бестселер» і тры разы як «Спецыяльны залаты бестселер». Л. Хаб'янавіч-Джуравіч атрымала больш як дваццаць розных узнагарод, сярод якіх «Залатое звяно» Культурна-асветнага таварыства Бялграда за 2008 год, прэмія Вука (Караджыча) за 2009 год. Сінод Сербскай Праваслаўнай Царквы ў 2007 годзе ўзнагародзіў ордэнам святога Савы.*

*Такое прызнанне творчасці гэтай аўтаркі ніяк не можа лічыцца выпадковым ці залежным ад часовых, зменлівых крытэрыяў. Справа ў тым, што Л. Хаб'янавіч-Джуравіч свае творы апошняга часу прысвячае якраз вечнаму і нязменнаму: яна сама імкнецца і заклікае іншых рухацца насустрач Духу. Другая істотная акалічнасць — тое, што сербы і ў XX стагоддзі не проста захавалі, але і надзвычай плённа развівалі традыцыі духоўнай літаратуры — прычым такой, якая адрасуецца самым шырокім колам чытачоў. Дастаткова згадаць такіх сусветна вядомых пісьменнікаў, як свяціцель Нікалай (Веліміравіч) і прападобны Іусцін (Попавіч). Маючы іх спадчыну як узор і ўлічваючы запатрабаванні сваіх сучаснікаў, асабліва маладых, Л. Хаб'янавіч-Джуравіч знайшла сваю, як цяпер кажуць, парадыгму творчасці. Азначаючы коратка, шэраг яе твораў — у тым ліку і раман, які прапаноўваецца беларускім чытачам — можна было б назваць «белетрызаваная агіяграфія». Але ў гэтым азначэнні галоўным застаецца другі складнік: агіяграфія, г. зн. апісанне святасці.*

*Вось і перад намі не што іншае, як «Жыціе святой прападобнай Параскевы». Толькі напісана яно не ў II ці XII стагоддзях і не паводле даўнішніх канонаў, а з улікам свядомасці людзей стагоддзя XXI.*

*Хочацца верыць, што твор, які друкуе «Полымя», прынясе чытачам часопіса духоўную карысць і радасць.*

***Іван Чарота***

*Пісьмовыя крыніцы з жыццяпісам прападобнай маці Параскевы — святой Пятніцы — нешматлікія і сціслыя, таму асабліва каштоўныя.*

*Так што я шчыра ўдзячная*
*святому Яўфімію Тырнаўскаму, Балгарскаму Патрыярху,*
*святому Уладыку Нікалаю Сербскаму,*
*прападобнаму айцу Іусціну Чэлійскаму,*
*іераманаху Стэфану Джорджавічу —*
*гэта з іх запісаў чэрпаліся асноўныя звесткі пра жыццё самай любай для мяне праваслаўнай Святой.*

***Ад аўтара***

* * *

«Добра, калі тайны царскія захоўваюцца, і ўхвальна, калі справы Божыя абвяшчаюцца», — так сказаў Архангел Рафаіл. Бо калі тайны цара не захоўваць, гэта небяспечна і пагібельна; а калі велічныя справы Бога замоўчваць, гэта вельмі шкодна для душы. Таму і баюся я Боскае пакрываць маўчаннем. А так бы зрабіў я, каб не абнародаваў свяшчэнны аповед, які дайшоў да мяне. Калі не абнародую, то траплю пад тую ж пагрозу, што ў Евангеллі датычылася раба нядбайнага, які ад Госпада атрымаў талант, каб ім карыстацца, аднак закапаў яго ў зямлю.

Толькі няхай ніхто не сумняваецца ў тым, штó я перадаю, няхай не думае, што я асмельваюся пісаць няпраўду. Барані, Божа, каб я пасмеў гаварыць няпраўду пра святых. Ды калі будуць і такія чытачы, якім цяжка паверыць у цуды, мною апісаныя, няхай Гасподзь і да іх будзе міласцівы. Бо яны ж лічаць немагчымымі цуды, звязаныя з людзьмі, маючы на ўвазе немачнасць прыроды чалавечай.

Але трэба пачынаць ужо аповед пра цуд, які адбыўся ў нашым народзе. А Бог, творачы вялікія цуды і шчодра адорваючы тых, хто звяртаецца да Яго з вераю, няхай узнагародзіць усіх, хто ўдумліва прачытае гэты аповед, і ўсім, хто яго паслухае, і тых, хто парупіцца яго запісаць — няхай удастоіць іх долі гэтай Святой. І мы ўзнясём хвалу Богу, Цару Вечнаму, каб нас у дзень Суда спадобіў міласці ў Хрысце Іісусе, Госпадзе нашым, Якому належыць усякая слава, пашана і магутнасць з Айцом і Прасвятым і Беспачатным і Жыватворным Духам, цяпер і заўсёды і ў векі вякоў. Амінь.

***Святы Сафроній, Патрыярх Іерусалімскі***

## Маці Петканы

Яна з'явілася ў нас як радасць. Як здзейсненае абяцанне, як благаславенне, як дар Божы. Мы яе прынялі са слязьмі гарачай любові, якая напаўняла нашы сэрцы, са слязьмі найглыбейшай удзячнасці Богу. І гатовыя на любую ахвяру, якая была б угоднай Міласціваму Дабрадзецелю.

Успрынялі мы нараджэнне нашай дачушкі Петканы падобна да таго, як, паводле Пісання, Іаакім і Анна ўспрынялі нараджэнне Марыі. Так, як гэта заўжды ўспрымаецца ў сем'ях, якія доўга заставаліся бяздзетнымі.

«Бясплодная!» — гаварылі пра мяне сваякі і тыя, што называлі сябе прыяцелямі нашай сям'і. Мае служанкі таксама. Нават тыя, хто нас не ведаў, а толькі чуў пра нашу нядолю.

«Бясплодная!» — гаварылі яны. А думалі яшчэ горшае: маўляў, грэшніца, Богу зненавідная, праклятая. Калі ў іх пытацца, яны б не змаглі прыгадаць ніводнага граху, які ўчынілі мы і продкі нашы, аднак гэта зусім не ўплывала

на іхнія меркаванні. Яны проста лічылі, што бяздзетны шлюб з'яўляецца карай за ўчыненыя грахі. Таму пазбягалі нас, быццам бы наша нядоля — гэта брыдкая хвароба, якая можа перадацца ім, калі яны без перасцярог будуць у блізкіх стасунках з намі.

Неахвотна сустракалі нас людзі і на вяселлях, і на жалобных трапезах. Што праўда, знешне былі прыязнымі, а часам і занадта ласкавымі, аднак мяне гэта ў зман не ўводзіла. Я ведала, што яны думаюць. А таксама, аб чым шэпчуцца, убачыўшы мяне, і аб чым гавораць, калі ўпэўнены, што я не пачую.

Усюды, дзе б ні апынулася, я чула словы няшчырай спагады, а на тварах субяседнікаў чытала вядома што. Мне балюча было тыя словы слухаць, а разам з тым не верылася, што іх можа не быць.

Я ведала, што звычайна ў сябры і кумы набіваюцца да тых, каму спадарожнічае поспех. Бедных і няўдачлівых саромеюцца, а калек і гаротнікаў стараюцца пазбягаць, як увасаблення ліхой долі. Людзям здаецца, што гаротнікі не могуць быць шчырымі ні ў віншаваннях, ні ў спачуваннях, што ім чужое шчасце сыпле соль на раны. І што яны лягчэй праглынаюць свае непамыслоты, калі тыя падсалоджаны пакутамі іншых.

А я не шукала суцяшэння ў чужых бедах. Не. Гэта Бог ведае. Але Ён ведае і тое, што я не зусім чыстая. Таму што ў мяне зайздрасць была: я зайздросціла сваячкам і сваім служанкам, і чужаземкам, якія праходзілі пад вокнамі майго багатага ды пустога дома. Яны не пускалі сваіх дзяцей на мае вочы, нібыта сурочлівыя, не падпускалі да маіх рук, калі я працягвала ім ласункі. А мае рукі балюча шчымелі ад жадання абняць і прытуліць да грудзей сваё дзіцятка. Альбо нават чужое. Каб хоць на міг адчуць тую паўнату, з якой нішто не можа параўнацца.

Была ў мяне зайздрасць, была. Я зайздросціла ўсім жанчынам, якія зведалі мацярынства. А разам з тым баялася кары Божай. Ад страху сама вярэдзіла сваю грэшную душу і раскрываўленае сэрца. Ды інакш не магла, бо надта ж глыбокай была прорва майго няшчасця.

Муж мой таксама балюча перажываў гэта. І яму ўсё цяжэй станавілася несці цяжар свайго аўтарытэту і маёмаснага стану. Яго выхавалі ў тым духу, што мужчына павінен дабро нажываць не толькі для сябе, што нажытае бацькам належыць сыну. А ў яго не было сына. Не было і дачкі, каб з чужым сынам падзяліцца так, як са сваім.

Муж мой быў падобны да майго бацькі. Высакародны паходжаннем і высакародны сэрцам. Сумленны і справядлівы. Такія ўмеюць прымаць нядолю як волю Божую, не шукаючы вінаватага, каб дакорамі і спагнаннямі аблегчыць свае пакуты. І мяне ён не вінаваціў. Ні на словах, ні нават позіркамі. Я за гэта яго любіла яшчэ больш. Але з-за гэтага мне было яшчэ цяжэй. Таму што разам са сваім болем я насіла і яго боль.

Жылі мы ў Эпіваце, на беразе Мармуровага мора. Жылі паводле законаў Божых, упрыгожваючы сваё жыццё міласцінай і добрымі справамі. Ахвяравалі мы цэрквам, падавалі таксама людзям — і тым, хто прасіў дапамогі, і тым, каму самі лічылі дапамогу патрэбнай. Мы наведалі ўсе святыні паміж Сілімврыяй і Царградам. Маліліся перад цудатворнымі іконамі, пілі ваду з цудадзейных крыніц, просячы ў Бога толькі адной міласці.

Гэтак мы чвэрць стагоддзя пражылі, і надзея станавілася ўсё танчэйшай — як мае колішнія дзявочыя ўборы, як кілім, па якім ходзяць штодзённа, як коўдра, пад якой штоночы саграваюцца. І настаў дзень, калі я стала старэйшай за свайго мужа, хоць гадамі была маладзейшая за яго. Бо ён жа яшчэ мог мець дзяцей. А я ўжо не магла стаць маці. Мае сокі высахлі, і ўлонне маё скукужылася, нібы высушаная смоква. Я апынулася ва ўзросце, калі жанчына можа чакаць толькі дзяцей ад сваіх дзяцей. Сваякі пачалі ўжо між сабою сва-

рыцца, дзелячы нашу маёмасць, і не сароmeліся пра гэта мне гаварыць. Тыя, хто называў сябе прыяцелямі нашай сям’і, пачалі прапаноўваць мужу майму сваіх дачок, і гэтага не хавалі ад мяне. А мая наймалодшая служанка дзёрзка пыталася ў мяне, што яна атрымае, калі сваім жаночым уменнем затрымае майго мужа ў доме і ў шлюбе са мною.

Тады я зразумела, што самае горшае не адбылося яшчэ. Што кожны чарговы дзень можа прынесці новы боль. А гора, якое мне сёння здаецца нязносным, магчыма, — толькі напамін пра тое, якое давядзецца яшчэ цярпець заўтра. І таго часу, што надыходзіў, я пачала баяцца як лютага ворага. Страх адбіраў у мяне сілу і розум. Я адчувала, што правальваюся ў бездань цемры і сама ахвотна ляцела ў тую цемру, як да ратунку, каб у зацямненні розуму схавацца ад пагрозлівай рэальнасці.

У бяссіллі і адчаі качалася я па падлозе і кусала свае непатрэбныя рукі. Рвала на сабе валасы і біла сябе ў высахлыя грудзі. Я ненавідзела сваё бясплоднае ўлонне, гатова была разадраць яго сваімі пальцамі, як кіпцюрамі. Гэтым запаўняла я свае марныя дні і бяссонныя ночы, усё часцей думаючы пра смерць як ратунак.

Але тут адбылося вялікае знаменне. Толькі я тады пра яго не ведала.

Той ночы, якую ніколі не забуду, пасля доўгага малення я знайшла нейкі момант супакою. Удалося нават заснуць на хвіліну. І ў сне да мяне, быццам бы ў заліты сонцам пакой, прыйшла Прасвятая Багародзіца. Лагодная і сур’ёзная, яна асцярожненька паклала на мае калені толькі што народжанае дзіцятка.

Не, адразу я не ўспрыняла гэты сон як абяцанне. Проста не пасмела. Бо вельмі ж баялася яшчэ адной марнай надзеі. І толькі калі пры чарговай змене месяца адчула зародак жыцця ў сабе, адважылася расказаць усё мужу. Зрэшты, каб і самой паверыць, што яшчэ раз цудам пацвярджаецца міласць Божая.

Летам тысяча дзевяцьсот трыццаць чацвёртага нарадзіла я сына. О, якое гэта было шчасце для мяне! Праўду вам кажу, нішто з усяго, што мне давялося раней перажыць, не магло параўнацца з гэтай бязмежнай радасцю, ад якой кружылася галава. Ніводная мара мая, ніводная фантазія пра здзяйсненне мары не магла нават суадносіцца з гэтай дасканалай гармоніяй і цеплынёй незамутнёнае любові, якая звязвала мяне з маім сынам.

Наступныя дзевяць гадоў я пражыла ў захапленні сваім шчасцем. Я была ўжо не такой, як раней, і для сябе, і для іншых. Па-новаму стала адносіцца да мужа. І да ўсіх вакол нас.

А калі Яўфімію споўнілася дзевяць гадоў, я заўважыла, што стан мой круглее. «Што ж, гэта ўзроставае, — думала я. — Мне ўжо пяцьдзясят чатыры гады, і стан у мяне такім, як у маладзіц, быць не можа». Сапраўды, я лічыла, што ў гэтым справа: узрост мяняе формы цела, паколькі час мяняе ўсё існуючае. Нават не падумала, што можа быць нешта іншае. Да таго самага дня, калі выпадкам пачула размову дзвюх маіх служанак і зразумела, што яны гавораць пра мяне. Пасля гэтага зноў пачала прыслухоўвацца да сябе. А таксама да таго, пра што гаварылі нашы сваякі і ўсе тыя, хто называў сябе прыяцелямі нашай сям’і. О, якія гэта былі страшныя размовы! Кожнае слова іх, нібы атручанай дзідаю, працінала маё сэрца.

Яны гаварылі, што ўва мне збіраецца вадкасць і нарастае дзікае мяса, а я пры гэтым цешу сябе надзеяй, што выношваю дзіця. Маўляў, хто ж ведае, чаго я нарабіла, страціўшы розум ад палкага жадання стаць маткаю. Хто ведае, ці я нарадзіла Яўфімія, а ці знайшла яго каля гарадской сцяны. Казалі таксама, што мяне да згубы прывядзе гэтае дзікае мяса, бо яно — плод семені д’яблавага. Я, пэўна ж, лепшага і не заслужыла, бо каб вартая была, то Бог даў бы лепшае: Ён жа ўсё ведае і ўсё памятае. Так гаварылі многія, падзуджваючы

паганымі языкамі служанак маіх, а служанкі мяне даймалі, каб выведаць таямніцу, якой не было. Ці, дакладней, проста я не ведала, што таямніца ёсць.

Прызнаюся, мяне палохалі гэтыя плёткі, нядобразычлівасць і злоба, якімі яны былі насычаны. Палохала зларадласць тых людзей, што лічыліся нашымі блізкімі. Я баялася цемры ў іхніх сэрцах нават больш, чым цемры свайго лёсу. Ды хавала гэты страх і ад сябе самой, каб гэтым не нашкодзіць свайму сыну.

Якраз у той час наш імператар Раман Першы Лакапін стаў адчуваць, што хутка смерць пакліча яго ў апошні шлях. І, вырашыўшы нечым важным адзначыць сваё ўладарскае жыццё, сабраў войска і павёў, каб з рук язычнікаў забраць слыннае цудатворнае палатно цара Аўгара.

Вы ж, напэўна, таксама чулі, што калісьці хворы ўладар Месапатаміі кароль Аўгар пісьмова прасіў прарока з Назарэта, каб той прыйшоў у яго стольны горад Эдэсу і вылечыў яго. Шляхі, якімі павінен быў прайсці Ісус, вялі ў іншы бок. Але Ён не хацеў пазбавіць міласці чалавека, які верыў у Яго. Таму ўзяў кавалак чыстага палатна, прыклаў да свайго чала і твару, такім чынам перанёсшы на палатно Свой вобраз. І гэтую нерукатворную выяву паслаў хвораму каралю. Кароль вераваў, і сталася па веры яго: ён выздаравеў.

Дзевяць стагоддзяў тое палатно знаходзілася ў Эдэсе. Мяняліся ў горадзе ўладары і парадкі. Жылі там і верныя, і няверныя. Адны захоўвалі палатно як святыню. Ад другіх яго трэба было хаваць. Ажно да таго часу, пакуль яно, міласцю Божай, не апынулася ў сталіцы хрысціянскага свету, у Царградзе.

Гэта было велічнае свята, да якога далучыліся ўсе, хто веруе ў неперамножную, неспасціжную Боскую сілу святога і жыватворнага крыжа.

Я таксама пайшла з Эпівата ў Царград, каб быць з народам, які запоўніў сталічныя вуліцы. І тады сталася неймавернае! Калі міма мяне пранасілі нерукатворны вобраз Хрыста, я раптам зноў убачыла свой сон: пакой, заліты святлом, і Прасвятую Багародзіцу, якая асцярожненька кладзе на мае калені толькі што народжанае дзіцятка. Я разгледзела і дзіцятка. І ўсвядоміла тое, чаго не разумела раней: гэта была дзяўчынка!

«Дзяўчынка… — прашаптала я ў недаўменні. — І праўда, гэта ж дзяўчынка. А якая?.. »

«Я!» — пачуўся голас з глыбіні майго сэрца.

І тое, што расло ўва мне, варухнулася. Як бы дзеля пацвярджэння.

## Бацька Петканы

Шмат чаго наснілася мне перад нараджэннем дачкі. Але тыя сны і заставаліся ў ночы, а для дзён і для памяці маёй страчваліся. Усе, акрамя аднаго, які зачапіў памяць тым, што адрозніваўся ад іншых. А яшчэ ён паўтараўся. Уласна, гэта быў сон самы звычайны. Настолькі просты і настолькі рэальны, што мне часам здавалася, быццам бы гэта і не сон зусім.

Як толькі заплюшчу вочы, як ніадкуль з’яўляецца жанчына ў чорным адзенні і падыходзіць да майго ложка. Яна глядзіць на мяне, без слоў і не рухаючыся, а потым знікае, не сказаўшы, чаго прыходзіла. Цяпер я думаю: магчыма, нешта б яна сказала, каб я так не баяўся яе з’яўлення, каб быў гатовы яе выслухаць. Але я не быў гатовы. Мне вушы закладала страхам, а розум затуманьваўся пакутлівымі сумненнямі.

Гэта была з’ява надзвычайная. Ніхто яе не разумеў. Нават вучоныя, дасведчаныя слугі Божыя не маглі нічога мне растлумачыць, калі я пытаўся, ці знаходзяць у гэтым сэнс і значэнне.

Тое, што ім вядома і што не здольны спасцігнуць, людзі схільны тлумачыць праз вядомае. Яны нецярплівыя, і адказы нават на самыя важныя пытан-

ні шукаюць у сваім сціплым досведзе, у абмежаваных ведах, альбо ў віры сваіх жаданняў і страхаў. Так і я, змучаны таямніцаю незнаёмай жанчыны, палічыў, што яна з’явілася з прадоння майго страху. Я паверыў, што жанчына, якая прыходзіць у наш дом і ў мае сны, — гэта адна з трох ахоўніц майго лёсу. А прыходзіць яна з міласэрдным намерам душу маю падрыхтаваць да таго дня, калі ад мяне забяруць Яўфімія.

У паўсядзённым жыцці я таксама знаходзіў прычыны для страху.

Яўфімій рос бледным і задуменным. Яго больш цікавілі кнігі, а не дзіцячыя забавы. Да старога манаха Афенарыя ён бег часцей і ахвотней, чым у абдымкі да родных бацькоў. Яго захаплялі Евангелле і жыціі святых, тады як аповеды пра нашых продкаў і пра мае справы яму здаваліся занадта звычайнымі, нецікавымі. Калі я дзяліўся з ім сваімі марамі пра яго будучыню, як гэта бацькі ў захапленні часта робяць, сын слухаў мяне ветліва, але раўнадушна — як быццам упэўнены, што я марна трачу словы ў сувязі з тым, чаго не будзе і не павінна быць. Часам, калі я глядзеў на яго, мяне працінала думка, што мой сын ужо не належыць гэтаму свету.

І я пачаў непакоіцца за нашу вялікую любоў да яго, за нашу велізарную радасць. Горбячася пад цяжарам неспакою, думаў: «Магчыма, гэтая радасць — толькі дзеля таго, каб мы аддыхаліся перад чарговымі пакутамі».

«Не патрабуй, каб сапраўднасць сваёй любові да Цябе я даказваў ахвяраю Аўраамавай», — шторанку я маліў Усявышняга і штовечара. Ды і цэлымі днямі хадзіў з гэтым слёзным маленнем як найважнейшай думкай.

Жанчыну ў чорным я ўмольваў таксама. Як толькі яна падыходзіла да маёй пасцелі, я пачынаў сваё гарлівае маленне: каб знікла, і больш ніколі не з’яўлялася; а калі павінна ўжо некага адвесці з сабою, то няхай забярэ мяне.

Яна паслухалася. Ці то злітавалася з-за маіх слёз і маленняў, ці так ужо было пісана — не ведаю. Аднак перастала прыходзіць. І гэта, уяўляеце, з таго дня якраз, калі Гасподзь зноў благаславіў нас цудам сваёй магутнасці.

Як некалі даўно Ісаак, Самсон, Іаан і Марыя напоўнілі і аздобілі старэчыя рукі сваіх бацькоў, так і нам, у сталых ужо гадах, учыніла яшчэ адно дзіцятка. Мне таго, дзевяцьсот сорак чацвёртага, лета было ўжо пяцьдзясят дзевяць гадоў, а маёй жонцы — пяцьдзясят пяць.

Пятніца, Петкана — так мы назвалі нашу дачушку. Імя далі ёй па тым дні, калі нарадзілася яна. А па-грэчаску гэта Параскева.

## Петкана

«Бог нам у жыцці дае тыя выпрабаванні, пакуты і болі, якія дапамагаюць нам, каб мы зведалі і здзейснілі сваё наканаванне. Ставіць іх, як знакі паўз дарогу, каб нам працей было яе адольваць і на скрыжаваннях выбіраць самы лепшы напрамак», — казаў мой брат Яўфімій.

Ён быў на дзесяць гадоў старэйшы, шчыра мяне любіў, і я верыла яму. Адпаведна, з усім імпэтам дзіцячай душы старалася знайсці міласць Божую і ў тым, што мне здавалася няміласцю, пакараннем, стратаю.

Але гэта было пазней, пасля таго, як я перажыла першы моцны боль. І калі душу маю ахапіў страх.

Да той пары я была такой, як дзеці. Вылучалі мяне толькі размовы пра цуд майго нараджэння, якіх я не разумела, а яшчэ — трапяткая, ледзь не набожная, любоў маіх бацькі і маці да мяне.

«Ты — дар!» — казаў мне бацька.

«Будзеш васілісаю — прадстаўніцай Бога на зямлі! Дзеля гэтага ты народжана», — размотвала бліскучыя ніці мар сваіх маці.

Гаротніца, яна і не здагадвалася, наколькі гэтая пража тонкая, як хутка яна зблытаецца, і тканіны з яе мар не выйдзе. Проста разваліцца і будынак яе жыцця, які пасля майго нараджэння здаваўся трывалым, назаўжды ўладкаваным.

Спачатку памёр бацька. Раптоўна.

Потым я захварэла.

Ніколі не забуду той вечар, які пачынаўся звычайна, як усе іншыя. Цені сталі класціся на паверхню Мармуровага мора за нашым садам, і я папрасіла:

«Матуля, запалі свечкі».

«Свечкі ж запалены», — адказала маці.

«А я нічога не бачу».

«Як гэта не бачыш? Што з табою?!»

Я не ведала, што са мною. Глядзела, як быццам шырока адкрытымі вачамі, а бачыла толькі ледзь-ледзь падсвечаную цемень.

Устаўшы, я накіравалася да мамы, на яе голас. Ды спатыкнулася.

«Што з табою? Петкана, дачушка, што з табою?» — паўтарала мама. Страх ужо ламаў ёй мову, нібыта вымушаючы заікацца.

І я расплакалася:

«Не бачу... Не бачу свечак... Не бачу цябе... Нічога не бачу...»

Стаяла я пасярод свайго пакоя, а разгубілася, як у незнаёмым цёмным месцы, і па скуры ў мяне бегалі халодныя мурашы.

Адчула, што мама падыходзіць, уздымае руку, і смутна ўгледзела слабы водсвет агеньчыка. Гэта мама паднесла свечку да маіх вачэй і, нібыта заклінаючы, папыталася:

«А цяпер бачыш? Ну, бачыш?..»

Я толькі бездапаможна махала галавой — сведчыла, што не бачу. І маўчала. Так, як буду маўчаць гадамі потым, калі яна мне будзе задаваць тое самае пытанне, пакутуючы, што няма лекаў ні ад маёй хваробы, ні ад яе болю. А яна была яшчэ і быццам бы прысаромленай, што не можа знайсці мне суцяшэння ад страху, які зблізіў нас так, як не зблізіць ніякая радасць. Страх перад пагрозлівай невядомасцю быў для нас адзіным найменнем будучыні.

* * *

«Боль і страх — гэта рука, якой Гасподзь нас падводзіць да Сябе, пакуль мы не навучымся імкнуцца да Яго ўсім сэрцам», — казаў мне Яўфімій, калі памёр наш бацька. Тое самае паўтарыў ён і калі я захварэла.

Добры мой брат! Яму было шаснаццаць гадоў, і ён ужо выразна бачыў мэту свайго жыцця. І ў словах, якія падбіраў для мяне, ён шукаў пацвярджэння сваёй веры.

Тады яго словы я ўспрымала проста як суцяшэнне. А з часам усвядоміла, што гэта быў голас ісціны.

Хвароба змяніла маё паўсядзённае жыццё, мае думкі. І маміны жаданні, спадзяванні на мяне. Я ўжо была не той вясёлай і гаварлівай дзяўчынкай, якую ведаў бацька. Прывучылася быць спакойнай. Рухалася мала і асцярожна. Стала бледнай і крыху няўклюднай.

Каб зменшыць для мяне цяжар часу, зрабіць карацейшымі і лягчэйшымі дні, маці і Яўфімій рэдка пакідалі мяне адну. Выводзілі ў сад і на бераг Мармуровага мора. Вялі са мною размовы значна часцей і больш, чым тады, калі я была здаровай. Прычым размаўлялі інакш. Чыталі мне. Маці — казкі, а Яўфімій — жыціі мучанікаў за веру Хрыстову. Павінна сказаць, што казкі пра ўсялякіх паненак не цікавілі мяне. У казках звычайна сядзіць зняволеная прынцэса ў вежы, слёзы лье і чакае, каб з'явіўся рыцар ды яе вызваліў. Мне

больш падабаліся аповеды пра хрысціянскіх мучанікаў — Стэфана, Дзімітрыя, Георгія. Яны мне нагадвалі пачутую ад бацькі легенду пра юнака, які забіў змея, каб з яго сэрца і яшчэ з дзевяці клетак, схаваных у ім, вызваліць птушку. І той юнак, і вернікі Хрыстовы дакладна ведалі, чаго яны шукаюць і за што пакутуюць. Я сваім духоўным зрокам сачыла за ўсімі іх дзеяннямі, а пры гэтым бачыла і карціны, якіх кнігі не змяшчалі.

«Бачыш, які ясны дзень?» — пытаўся часам Яўфімій. Гэтае «бачыш?» не прычыняла мне болю. Бо брат ведаў, што я бачу па-свойму. Што з-за хваробы я стала бачыць усімі часткамі сваёй істоты.

Я лавіла кожны дотык сонца да маёй скуры і пазнавала яго. Па прыкметах цяпла я вызначала, неба чыстае і празрыстае, ці насупленае, у аблоках. Страціўшы зрок, я бачыла-такі і неба, і мора пад ім, і забавы белых чаек.

«Глядзі, як сагнуліся дрэвы», — казаў мне Яўфімій. І я глядзела. Сачыла за ветрам, які дакранаўся да маіх валасоў і ўбораў. Адзначала, куды ён скіраваны і якая сіла ў яго. Я памятала, як выглядае наш сад, дзе якое дрэва пасаджана, таму ўяўляла, як дрэвы пад ветрам згінаюцца. Так што, калі праходжвалася і размаўляла з Яўфіміем, трымаючыся за яго, дакладна ведала, гэта побач калышацца кіпарыс, а ці толькі лёгка трапеча лісцем вярба.

Падчас, перад сном, у змроку свайго пакоя і сваіх вачэй, я ўспамінала цудоўныя колеры кветак і роспісаў у цэрквах, а таксама стракатасць натоўпаў людзей на святкаваннях і кірмашах, дзе столькі разнастайнай садавіны і тканін, прывезеных з Усходу. Прыгадвала небасхіл, асыпаны зоркамі, якія ў светлыя ночы ззяюць падобна да каштоўных камянёў, і сонца пры заходзе, калі яно чырванню злучае неба з морам.

«Свет — гэта цуд Божы, а зрок — міласць Яго», — думала я. І паўтарала гэтую думку, як малітву.

У тыя ночы, хоць я доўга яшчэ не ўсведамляла гэтага, пачало вызначацца маё захапленне бязмежнымі здольнасцямі Таго, Хто стварыў усё гэтае хараство — такі шматколерны свет, і нас, людзей, даўшы нам зрок. Тады ж мне захацелася быць сапраўднай часцінкаю здзяйснення Яго задумы.

Так хвароба мяне набліжала да Бога. А шлях да Яго вёў праз царкву, праз малітвы. І хвароба мая спрыяла таму, каб мы разам з маці ішлі па гэтым шляху ў адным кірунку.

Бядотна мы выглядалі: ужо састарэлая жанчына, у немачы свайго цела, абапіраецца на гнуткую руку высокай бледнатварай дзяўчынкі, а тая і сама спатыкаецца, бо ў яе змрок на вачах.

Мы, шукаючы ацалення, хадзілі па розных месцах, дзе яго можна было знайсці. Паломнічалі да святых мошчаў і цудадзейных крыніц, наведвалі многія храмы. Шукалі ратунку ці хоць бы суцяшэння.

І пасля богаслужэнняў заставаліся ў храмах, калі ўсе разыдуцца, гадзінамі яшчэ ўдзвюх молячыся перад алтаром. Кленчылі, пакуль ужо зусім не ашаломіць боль у каленях і ў спіне. Маці малілася, уголас плачучы і ўздымаючы рукі да Багародзіцы, ад якой чакала міласці. Я таксама звярталася да Яе, моўчкі са слязьмі. Маліла, каб стаць відушчай. Каб нішто, размешчанае на далоні Госпада, не заставалася ад мяне схаваным. Я не ўсведамляла, чаго прашу. Нават не здагадвалася, што зрок — гэта яшчэ не відушчасць.

«Відаць, так горача моляцца толькі маці хворых дзяцей? Гэтак засяроджана звяртаюцца да сіл нябесных, бадай, адны гаротныя і ўбогія, якія ў бядотным стане і для якіх будучыня — пагроза? — разважала я. — Ды, відаць, астатнія моляцца таксама? За нешта іншае. Мабыць, за такі спакой, які час ад часу ўсталёўваецца ў маёй душы, калі праз заслону на вачах угледжу вобраз Маці Божай?»

* * *

«Будзь аднолькава ўдзячнай Богу за ўсё, што Ён табе дае. І за боль, і за радасць», — казаў мне Яўфімій.

Ён, прысеўшы на мой ложак, гладзіў мяне па галаве і па мокрых ад слёз шчоках.

У другім пакоі маці стаяла на каленях перад распяццем, малітоўна склаўшы свае аслабелыя рукі. Было чуваць, як яна рыдае — горка і сутаражна, быццам задыхаючыся.

У нас з маці яшчэ адзін боль: нас пакідаў Яўфімій. Ён адпраўляўся ў Царград, каб далучыцца да брацтва Студыцкага манастыра.

«Нашто, Яўфімій? — пыталася я, абедзвюма сваімі ладонямі трымаючы яго пяшчотную руку, павільгатнелую ад маіх роспачных пацiскаў. — Чаго ты сабраўся туды?»

«Бог ведае. Ён паказаў мне шлях, і я павінен па гэтым шляху ісці», — адказаў мой брат з упэўненасцю, што ён Божы наказ чуў дакладна і выразна, як чуе мяне.

«Нашто адыходзіш, Яўфімій?» — тым не менш пыталася я, хоць мы з маці ўжо даўно прадчувалі, што так будзе. Жаданне пакінуць мірское жыццё я чытала ў яго вачах і адчувала ў размовах, выяўляла ў паўсядзённых паводзінах, адкрывала ў тых словах, якімі ён вучыў мяне цярплівасці. Я ведала: толькі мая хвароба затрымлівае яго ў нашым доме.

Таму выздараўленне маё для яго стала радасцю ўдвая: нарэшце ён вольны! Цяпер ён мог адыходзіць без усялякага цяжару віны, і заспяшаўся да мэты, якую даўно абраў для сябе.

Я ж не паспела ні парадавацца цуду свайго ацалення, ні выказаць Богу падзяку за такую міласць нязмерную.

«Бог вярнуў мне ясны зрок, але забірае ў мяне брата», — разважала я, а сэрца маё курчылася, нібыта яго сціскала нейкая бязлітасна жорсткая рука. І душу маю запаўняла студзёная пустата.

«Няўжо чалавеку нішто не можа быць дадзена, калі пры гэтым не адабрана штосьці іншае?» — задавала я пытанне сабе. І Яўфімію таксама.

«Табе трэба навучыцца з аднолькавай радасцю прымаць усё, што Бог дае», — адказаў брат.

А я ж цалкам верыла яму. Ён многа ведаў і мне гаварыў тое, што думае. Таму хацелася паслухацца яго. Асабліва ў гэты час, перад расстаннем. Я хацела, ды не магла. Таму што была дзяўчынкаю з параненай душою. І ў мяне сапраўды не было сілы, застаючыся шчырай, дзякаваць Богу за гэтую рану

* * *

«Петкана! Петкана! — гукала маці, паспешліва накіроўваючыся па калідоры да майго пакоя. Яна рэзка і шырока расчыніла дзверы, увайшла задыханая і прамовіла: — Петкана! Ты будзеш васілісай! Бог міласцівы! Ты будзеш Яго намесніцай на зямлі!»

Маці праглынала склады слоў ад нецярпення, каб хутчэй выкласці мне важную вестку. А які быў яе твар! Ён ззяў, як адлюстраванне чыстай радасці і вернутай надзеі.

«Цар Канстанцін шукае нявесту для царэвіча Рамана. Прычым, уяўляеш, ён хоча выбраць дзяўчыну твайго ўзросту і тваёй стаці. Ды і памер нагі тваёй будзе адпавядаць той туфельцы, якую павінны прынесці царовы пасланцы. Ты станеш васілісай, Петкана! Для гэтага ты народжана!»

Я знала пра гэты звычай. Калі надыходзіць пара жаніцца наследніку прастола, тады пасланнікі цара адпраўляюцца ва ўсе канцы візантыйскай дзяржавы, каб знайсці дзяўчат, якія адораны прыгажосцю і ўмеюць гэты дар належным чынам несці, калі яны цікавыя і тым, як гавораць, і тым, што гавораць. Вылучаных дзяўчат адпраўляюць у Святы палац на агледзіны да царскай сям'і, а тады адна з іх становіцца нявесткай цара.

На такія перыяды надзея вызначала сэнс жыцця многіх дзяўчат, якія, у маленстве з казак прыняўшы да сэрца, захавалі рамантычную мару: сустрэць маладога царэвіча і з ім ісці ў шчаслівую будучыню. Бо кожная дзяўчына — сапраўды кожная — магла стаць візантыйскай царыцай. Была б толькі яна ў той меры прыгожай і здольнай, каб спадабацца выканаўцам царскай волі. А таксама, натуральна, царэвічу, калі апынецца побач з ім. У ліку нашых царыц апыналіся дочкі як высакародных богабаязных бацькоў, так і дочкі галетнікаў, якія не толькі з пустымі кашалькамі, але і з пустымі сэрцамі. Былі дочкі язычнікаў, самі сумніцельнай годнасці; адна з іх, між іншым, да гэтага зарабляла на жыццё як цыркавая танцорка.

Я, пэўна ж, не магла адпавядаць густам і жаданням нашага царэвіча — распешчанага і легкадумнага, схільнага да ўсялякіх задавальненняў. Але цуд майго нараджэння і міласць ацалення давалі маёй маці права цешыць сябе такой надзеяй. А я выбіраць не магла. Як паслухмяная дачка я скарылася матчынай волі і згадзілася рыхтавацца да сустрэчы з тымі, хто мог прадвызначыць мой далейшы лёс.

О, як моташна мне было ад той сумятні, якая раптам усчалася вакол мяне! Складвалася ўражанне, што ўсе людзі гавораць і думаюць толькі пра адно. Маці не магла, ды і не імкнулася, схаваць ліхаманку ад сваёй гарачкавай надзеі. Вакол мяне яна лётала як ачмураная матыліха. А што ўжо казаць пра жанчын, якіх маці прывяла ў наш дом дзеля падрыхтоўкі мяне, каб я перад царскімі слугамі з'явілася ў падманным выглядзе! Іх задача заключалася ў тым, каб прадставіць мяне больш прыгожай і вытанчанай, чым я была ў сапраўднасці. Таму яны не пакідалі мяне ў спакоі ні на хвіліну. Падбіралі сукенкі, упрыгожванні, аздобы для валасоў, абутак... І вучылі, як усё гэта насіць. Настаўлялі таксама, як усміхацца, размаўляць, садзіцца і ўставаць, хадзіць, есці, вітацца і адказваць на прывітанні — усё паводле строгіх правілаў незлічоных цырымоній візантыйскага двара.

Сама сабе я здавалася нафуфыранай лялькаю. Цяжка было зносіць муштраванне: паўтараць адно і тое ж безупынна, дзень за днём. Я ўвесь час рабіла памылкі. І тыя жанчыны, што са мною займаліся, ужо гатовы былі кінуць сваю справу як марную — вызваліць і сябе, і мяне ад заняткаў, якія не давалі плёну. Але маці не адступалася і прасіла: «Давайце яшчэ!» Яна лічыла, што волю Божую ніколі немагчыма выканаць без ахвяр. І была ўпэўнена, што заваяваць сэрца нашага царэвіча ды стаць васілісай — гэта воля Божая.

А я ведала: толькі Маці Божая здольна дапамагчы мне вырвацца з гэтага цырка. Толькі Яна можа мяне пазбавіць такіх выпрабаванняў і пакут, вярнуць у той час, які я лічыла сваім, запаўняючы яго чытаннем і маленнем. «Змілуйся!» — плачучы, прасіла я. І Багародзіца, якая нікога не абмінае сваёй ласкаю, пачула мяне.

«Падманваеш!» — адрэзала маці, калі я сказала ёй, што зноў нічога не бачу. Ёй не хацелася чуць праўду.

«Гасподзь мне сведка, і Маці Яго!» — паклялася я, хрысцячыся.

«Ты зрабіла гэтак сама, наўмысна!» — загаласіла няўцешна маці, каторы ўжо раз параненая тым, што ўспрымала як жорсткую несправядлівасць.

«Ты зрабіла гэтак сама, наўмысна, каб не быць васілісай!» — паўтарыла яна.

А ўжо праз міг усвядоміла, якім жа страшным словам яна дазволіла вырвацца. І хуценька далоняю прыкрыла рот, каб падобныя словы і ўсю сваю роспач не выпускаць з сябе. Яна даплялася да мяне і прытуліла сваю шчаку да маёй. Нашы слёзы перамяшаліся. Мы абедзве дрыжалі, і адна адной хацелі прынесці хоць нейкае суцяшэнне.

Цемра з маіх вачэй спала праз некалькі дзён пасля таго, як царскія пасланцы пранеслі праз Эпіват чырвоны туфлік. І больш ніколі нават цень слепаты не псаваў мне зроку.

Маці да канца жыцця так і не змагла нанова злучыць парваныя ніткі сваёй залатой пражы. Яна, пэўна, было ўжо занадта стомленая для яшчэ аднаго такога спадзявання. А магчыма, прадчувала іншае, што ёй таксама было непажаданым і што павінна было яе палохаць. Не ведаю, мне яна пра гэта нічога не казала. Аднак часта, калі думала, што я не бачу, назірала за мною падоўгу і ўважліва. З цікаўнасцю і заклапочанасцю адначасова. Як быццам хацела разгадаць таямнічыя Божыя намеры.

* * *

«Вырашай, Петкана! Час праходзіць. Наша васіліса ўсяго на тры гады старэйшая за цябе, а яна ўжо трыма дзеткамі сваё жыццё аздобіла!» — звярталася да мяне маці.

Вырашыць — азначала згадзіцца пайсці замуж за аднаго з тых хлопцаў, якія прапаноўвалі ўзяць мяне ў свой дом і дзяліць са мною жыццё. Гэта былі сыны годных бацькоў, а некаторыя з іх і самі вартыя дзявочага кахання. Але маё сэрца маўчала перад імі, і душа заставалася ў спакоі — без трымцення і без ваганняў. Я не разумела, чаго пачынаюць ружавець шчокі і блішчаць вочы ў іншых дзяўчат, калі яны сустрэнуць хлопцаў альбо калі пачнуць размову пра любоў.

«Ты гонар паказваеш, Петкана! Хочаш, відаць, нечага асаблівага», — казалі, бывала, мае сяброўкі. І мне сорамна станавілася не з-за сваіх пачуццяў, а з-за раўнадушнасці, якая ім здавалася ганарыстасцю.

Я ведала, што гардыня — грэх. Гэта зло, ад якога псуюцца нашы сэрцы. І каб гэты грэх адолець, пачала прымаць размовы сяброўак як належнае.

«Чакай, пакуль сустрэнеш сапраўднага!» — раілі мне, тлумачачы ціхамірнасць як сведчанне таго, што не прабудзілася яшчэ сэрца маё. І пасміхаліся даверліва, нібыта захоўваючы агульную таямніцу пра вялікае шчасце, якое павінна прыйсці.

Кожная з гэтых дзяўчат ведала, якім павінен быць той малады чалавек, якога яна б лічыла годным. Ведала, як ён павінен выглядаць, размаўляць, усміхацца і абдымаць. А я не мела свайго ўяўлення пра сапраўднага абранніка, нават пра агульныя абрысы яго ценю. Я пра гэта, уласна, зусім не думала.

Мае думкі плавалі па іншых водах, іншым бурам супрацьстаялі. І часта ўздымаліся да нябесных вышыняў — да Яго, Спасіцеля нашага.

«Як, пэўна ж, Яму цяжка было сярод людзей! — думала я. — Як было цесна! А натура ж Яго была рахманая. Сын Божы сціпла жыў у Назарэце да трыццаці гадоў. Ён сціпла прыйшоў на Іардан, невядомы для ўсіх, акрамя Іаана Хрысціцеля. Грэшных і адвержаных Ён успрымаў без асуджэння, спагадліва. Вымыў ногі вучням Сваім. Нават таму, пра якога ведаў, што здрадзіць Яму. Дык калі Ён такі, то хто з нас, грэшных, мае права быць ганарлівым! Ён ведаў, што тыя людзі, сярод якіх Ён жыве, якіх Ён прыйшоў навучыць пакоры і любові, Яго не разумеюць. І маліўся за іх з крыжа: «Прабач іх, Ойча, бо не ведаюць, што робяць!» То як жа тады мне скардзіцца, што я часта адчуваю сябе чужынкаю сярод сваіх?» — дакарала я сябе. Аднак не было з кім гаварыць пра гэта.

«А што ёсць большы грэх — гардыня ці падман?» — разважала я. Таму што, будучы чужою сярод людзей, старалася хаваць гэта, паколькі змяніць нічога не магла. А такая скрытнасць, як падман, мне самой не давала спакою.

«Вырашай, Петкана! — угаворвала маці, якая сваімі пакутамі жыла, а маіх і не заўважала. — Яўфімій, дай яму, Божа, здароўя, ужо не будзе мне суцяшэннем і надзеяй. Цяпер усе спадзяванні на цябе. Дзеля гэтага Бог даў цябе мне пад старасць!»

«Пачакаем яшчэ, мама!» — адказвала я.

Прыняць на сябе цяжар яе жаданняў я была не здольна, хоць дзень пры дні ўсё больш усведамляла, як цяжка быць адзінаю дачкою ў маці, апошнім парасткам.

Так праходзілі гады.

Маці пагружалася ў старасць, у немачы. Па́дала на руінах сваіх мар. Яна паступова страчвала надзею, што ў свае аслабелыя рукі аднойчы зможа ўзяць маё дзіцятка, што дзіцячая радасць сагрэе ўтомленае сэрца яе. І ўсё радзей, больш па звычцы, дакарала:

«Ну чаго ты, Петкана, чакаеш? Бач, твае равесніцы — даўно жонкі і маткі. А ты? Ці хоць ведаеш ты, чаго хочаш?»

Чаго я хацела?

Прызнаюся, у першыя гады свайго дзявоцтва я не ведала, чаго хачу. Але часта, і ўсё часцей, думала пра незабыўных дзеў-хрысціянак. Больш за ўсё пра дзвюх, мне найдаражэйшых — Нядзелю і Яўгенію. З ранняй маладосці яны абручыліся з Хрыстом і з-за любові да Яго прынялі пакуты. У змрочныя часы язычніцтва на іх, як хрысціянак, данеслі адвергнутыя жаніхі, якія не пасаромеліся і сваю помсту называць любоўю. Дзеў жорстка мучылі, а Той, Каму яны свае жыцці аддавалі, наведваў іх у цямніцах і раны ім залечваў. Яго міласць ратавала ад вады і агню, у якія іх заганялі, і ад дзікіх звяроў, якім іх кідалі. Спасіцель пры пакутах веру іх умацоўваў і на прыкладзе іх, цуды творачы, многіх да Сябе набліжаў. У выніку абедзве яны былі асуджаны на смерць ад мяча і пакараны: Яўгенія — у Рыме, Нядзеля — у Нікамідзіі.

Я думала пра іх, пра іх мучаніцтва і любоў да Нябеснага Жаніха, Якога не зракліся яны. І адчувала, што яны мне бліжэй за тых дзяўчат, сярод якіх я жыла і якіх бачыла штодзённа. Я пра падзвіжніцтва думала так, як мае сяброўкі думалі пра каханне.

І далей я з пэўнасцю не ведала, якога жыцця хачу, але пачынала разумець, чаго не хачу. А такое разуменне можа быць як арыенцірам, так і пасткаю.

Я не хацела выходзіць замуж. І не хацела заставацца ў Эпіваце. Таму на матчыны пытанні адказвала маўчаннем. Гаварыла толькі адно: «Пачакаем яшчэ крыху...» Я ж не магла наносіць яшчэ адну рану на яе зраненае сэрца.

Гадоў сем ужо мінула пасля таго, як мой брат адышоў сваім шляхам. І вось неяк пад раніцу я прачнулася ад сну, у якім сказала брату:

«Кожная душа мае свае памкненні. Мая душа імкнецца да Бога».

У наступную ноч мы зноў сустрэліся. І брат мне адказаў:

«Кожная душа імкнецца да Бога. Але не ўсведамляе гэтага. І таму блукае, шукае, хвалюецца. Яна гэтае памкненне азначае рознымі назвамі, але ніводная не з’яўляецца сапраўднай».

«Дык я адорана міласцю Божай распазнаць памкненні сваёй душы своечасова!» — узрадавалася я ў сне. І гэтую радасць спазнання перанесла ў яву. Раптам стала ўпэўненай, што пакінуць Эпіват — значыць накіравацца да Яўфімія.

Праўда, я ўсё ж такі не ведала, накіравацца да Яўфімія — значыць пайсці ў манастыр, а ці толькі ў Царград. Але гэта мяне ўжо не так хвалявала. «Калі надыдзе час, мне будзе падказана», — лічыла я. І пакорна заставалася ў сваім

доме, там, дзе мяне трымала дзіцячая любоў, а таксама абавязак. Бо сказана ж: Госпаду часта больш даспадобы тыя рукі, якія дапамагаюць, чым тыя, якія моляцца, а мой абавязак быў — дапамагаць сваёй маці. І я маліла другую Маці, Маці маёй Душы, Маці Спасіцеля, каб дала мне сілы, мудрасці і цярплівасці — быць як мага лепшай дачкою для сваёй зямной маці. Каб ёй у старасці, у немачах забяспечыць калі ўжо не ўнукаў, то дагляд, суцяшэнне і любоў.

## Яўфімій, епіскап Мадзіцкі, брат Петканы

Дзівоснай была мая сястра Петкана! Галубка Гасподня! З самага маленства жыла яна паводле закона Божага, як быццам такую навучанасць прынесла з сабою на гэты свет. Яна адорвала бедных і тады, калі тыя не прасілі, заўжды знаходзіла добрае слова для гаротных — да кожнага выказвала спагаду, калі не чым іншым, то хоць слязою.

Сваю хваробу яна зносіла ціхамірна, як быццам ведала пра яе больш за слаўных лекараў Усходняга царства. «Пройдзе», — казала. І гэта ж яна, сама не могучы рухацца з-за слепаты, суцяшала і падбадзёрвала нашу спакутаваную маці.

Ужо ў раннім дзявоцтве яна адчула, як слёзы малітвы становяцца слязьмі любові — у тыя цудоўныя моманты, калі душа цалкам аддаецца Госпаду. Хоць доўга-доўга яна гэтага не ўсведамляла. І я таксама.

Дзівоснай была мая сястра Петкана! Часам здавалася мне зусім звычайнай дзяўчынкай, а часам нагадвала істоту з іншага свету, хіба што ў тленнае цела змешчаную. Цяпер я ведаю, што яна заўжды была аднолькавай. Толькі я не здольны быў бачыць, якая яна ў сапраўднасці. Бо глядзеў часцей за ўсё не тымі вачыма. Проста як старэйшы брат.

А бацька з маці гэтага тым больш не бачылі! Бог сапраўды міласцівы, і таму што не даў ім зразумець, якую дачку яны атрымалі і дзеля чаго. Не даў ім Гасподзь гэтага разумення, і такім чынам ахіліў.

Яны, бадай, памяталі пра Іаакіма і Анну, пра тое, як з’явілася позняе дзіця ў Сары, пра тое, што ў старасці ўжо радаваліся Елізавета і Захарыя. Аднак у сціпласці сваёй ды богабаязнасці і не думалі нават параўноўваць сябе з імі. А тым больш — прызначанае ім і іх дзецям шукаць у тым, што было прызначана гэтым абраннікам Божым. Сціпласць і пакорлівасць ахавала іх ад пакут.

«Думаеце, выпадкова нарадзілася яна ў пятніцу і атрымала імя па дні крыжовых пакут Ісуса?» — мог я задаць ім пытанне. Але не задаваў. Каб іх не напалохаць.

Справа ў тым, што нават самыя набожныя бацькі сваім дзецям не хочуць долі поснікаў і пустэльнікаў, якія гараць жаданнем жыць толькі ў Госпадзе і дзеля Госпада.

Я ведаў, куды вядзе шлях Петканы. Гэтаксама, як ведаў і сваю мэту. Я здагадваўся, наколькі цяжка ёй жыць сярод сваіх як чужая. А яна была такой далікатнай і цярплівай! Падобна да тых, хто значна больш ведае і разумее. Нібыта дзесьці ў глыбіні душы сваёй адчувала: усё, што прыносіць нам боль і пакуты — гэта толькі чарговае выпрабаванне, якое мы павінны прайсці, набліжаючыся да Бога.

Як яна даглядала нашу маці! Чуткі пра яе самаахвярнасць у гэтым і пра любоў дайшлі нават да нас — тых, якія прысвяцілі сваё жыццё малітвам і падзвіжніцтву ў Студыцкім манастыры.

Сваім адыходам у лепшы свет маці пакінула ёй расчыненыя дзверы: ідзі туды, куды павінна. І яна пайшла. «Ідзі, усё, што маеш, прадай і раздай бедным; і будзеш мець скарбы на небе; і прыходзь, следуй за Мною, узяўшы свой

крыж», — сказаў Ісус юнаку з краёў іудзейскіх, па той бок Іардана. Якраз так зрабіла мая сястра, якая голас Усявышняга ў сабе насіла. І яна прыйшла ў Царград, прагнучы падзвіжніцкага жыцця дзеля Хрыста.

Чаму яна не пайшла адразу ў манастыр, не ведаю. Мы ніколі пра гэта не гаварылі. А я часта задаваў сабе пытанне, што ёй Богам наканавана. Вагаўся, што ёй раіць, куды яе скіраваць, калі папросіць парады. Я адчуваў, што манастыр — не месца для яе, галубкі Гасподняй. У манастырах, асабліва жаночых, разам з адданымі і шчырымі шукальніцамі Бога жылі таксама і прымусам зняволеныя, пакараныя, і выгнанніцы, пакінутыя жонкі, звергнутыя царыцы, адвергнутыя царэўны. Тыя, у каго браты падманам адабралі бацькоўскую маёмасць, і тыя, што ў дзявоцтве спатыкнуліся, — чые таямніцы маглі заплямiць гонар сям’і. Пасля пострыгу жылі яны ў келлях і пастоў прытрымліваліся, аднак бывала, што і зневажалі Бога, калі не пазбаўляліся прагі свецкага жыцця і помсты. З-за гэтага манастыры маглі быць і цэнтрамі змоў, і асяродкамі плётак, і ачагамі ліха. Яны былі дамамі плачу, але не абавязкова плачу, звернутага да Бога. Ну а такія манастыры былі не для маёй чыстай і да Бога памкнёнай сястры. Таму я і турбаваўся: што сказаць ёй, калі папросіць парады? І калі не ў манастыр, то куды яе скіраваць?

Але яна парад не прасіла ў мяне. Бог паклапаціўся пра ўсё. Вёў яе крок за крокам, павольна і асцярожна, каб не напалохаць, — і вывеў на шлях, прайсці па якім ёй было наканавана.

## Петкана

Царград! Ён, пабудаваны як Новы Рым, стаў Новым Іерусалімам. Так, прынамсі, казалі нашы цары і патрыярхі.

«І другі Рым, як першы, — святы горад, багаты дзівосамі, але населены людзьмі, якія не варты яго», — пераймаючы Хрысціцеля, папярэджвалі пустэльнікі і падзвіжнікі, якія сваёй хрысталюбнасцю набліжалі адзін Рым да другога і абодва — да Святой Зямлі.

Апынуўшыся ў Царградзе, першыя дні і нават месяцы я лічыла, што ён сапраўды можа называцца новым Горадам Апосталаў на Басфоры. Бо, як мне здавалася, ён існуе і жыве дзеля славы Хрыста.

Богаслужэнні тут здзяйсняліся не толькі ў слынных храмах, цудоўныя купалы якіх, бачныя здалёку на падыходах і па сушы і па моры, аздаблялі карціну горада, але таксама ў безлічы цэркваў і часовен між гарадскімі сценамі і па прадмесцях. Пры многіх існавалі школы, прытулкі для асірацелых дзяцей і старых людзей, бальніцы і спецыяльныя лякарні — так званыя лузмы, дзе дапамагалі бліжнім тыя, хто хацеў дагадзіць Богу.

«Здавалася, што горад кішыць манахамі», — пакінуў сведчанне адзін вандроўнік, які занатоўваў уражанні ад розных краін і народаў. І сапраўды так было! У Царградзе, калі я там апынулася, існавала некалькі дзясяткаў манастыроў з вялікай колькасцю насельнікаў. Там манахаў можна было сустрэць усюды — у арыстакратычным квартале Аркадзія, каля форума Канстанціна, у гандлёвых радах на ўзбярэжжы Залатога Рога, у бальніцах для пракажоных на другім баку яго, у Юліянавай гавані на Мармуровым моры, у ціхамірнай па-вясковаму Влахерне і ў лесе за ёю, а таксама і ў Вялікім Палацы, і ў дамах вакол яго — асяродку царскай магутнасці і багацця.

Свяшчэннаслужыцелі вялікага храма ў гонар святой Сафіі, Прамудрасці Божай, часта здзяйснялі хрэсныя хады да аддаленых святынь і заўсёды спыняліся на адных і тых жа, строга вызначаных, месцах. Народ іх чакаў, радасна вітаў і, уздымаючы рукі да неба, прасіў міласці.

У Царградзе захоўваліся найкаштоўнейшыя рэліквіі Хрысціянства: Святы Крыж, убрус Веранікі, Плашчаніца — рэчы, на якіх засталіся сляды дотыку, поту, слёз і крыві Спасіцеля. Кожны мог іх убачыць, нават дакрануцца, і меў магчымасць задумацца пра ўсе пакуты і прыніжэнні Госпада, пасуперажываць і многаму навучыцца ў Яго. Вось я і суперажывала, і вучылася.

«Людзі, якім даравана такая магчымасць, трэба каб былі па-сапраўднаму набожнымі, жылі па Божых законах! Яны сябе павінны мераць і ўзвышаць паводле Божых мерак», — лічыла я.

Ведала, што ў гэтым горадзе сустрэну многа да сябе падобных — тых, якія шукаюць Бога, якія хацелі б жыць толькі з Ім і ў Ім. Але таксама і тых, якія на духоўным шляху ўжо намнога апярэдзілі мяне і могуць для мяне быць арыенцірамі. Яны быццам свечачкі, якія будуць азначаць, дакуль я дайшла, альбо папярэджваць мяне, каб я са шляху не збілася. З захапленнем і вялікім спадзяваннем я імкнулася такіх знайсці і дагнаць, каб да іх далучыцца. І сэрца маё напаўнялася радасцю.

* * *

У замілаванні ад хрысціянскага Царграда, у захапленні ад яго славы і сапраўднага хараства, а пры гэтым шчыра аддаючыся богашукальніцтву, посту і малітве, я не заўважала, што гэты мой Іерусалім на Басфоры — усяго толькі частка горада, у цэлым іншага ды інакшага. Ён хаваў свае заганы як таямніцы. І святыя мошчы, і цэрквы, і манастыры, і розныя рэліквіі, і хрэсныя хады ў гэтым горадзе — не больш чым кулісы. Мала хто ў ім клікаў Бога, а Божаю воляю ілжыва называлася чалавечая воля і чалавечая зламыснасць.

Якраз такі Царград, якога я не хацела ведаць, аднойчы паказаў мне сваё пачварнае аблічча як выяву гора людскога.

Напрадвесні дзевяцьсот шэсцьдзясят трэцяга лета Гасподняга нечакана, ды і надта рана, памёр наш цар Раман Другі, пасля якога засталася ўдавою Феафана з чатырма дзецьмі. І народ пачаў гадаць, хто ж возьме ў свае рукі ўладу — ці то магутны міністр Іосіф Урынга, а ці ўвянчаны славаю ратнік і аскет, улюбёнец войска і свяшчэнства, Нікіфар Фока.

«Колькі ж ліха прынясе нам змаганне паміж імі?» — паўставала пытанне перад людзьмі. Бо даўно вядома, што калі наверсе ідзе барацьба за ўладу, то народ ад яе рэдка мае карысць. А часта нясе страты, церпіць многія пакуты.

Неспакой пранікаў у кожны дом, у кожную душу і ў кожную размову.

З часам неспакой абярнуўся страхам. А з гэтага страху, як з атрутнага насення, прарастала нянавісць. Людзі пачалі дзяліцца паводле прыхільнасці да таго ці іншага прэтэндэнта, адны для другіх становячыся праціўнікамі, гатовымі на любое зло, якое дапаможа перамагчы таму, за кім яны пайшлі. І ўсе былі ўпэўнены, што толькі перамога пацвярджае правільнасць выбару. А многім людзям падабаецца перамагаць іншых. І яны не дбаюць пра тое, што самая вялікая перамога — над самім сабою.

Так надышло пятнаццатае жніўня. Горад закіпеў ад летняй спякоты, а таксама ад напалу жарсцяў, якія ніхто не мог супакоіць.

Хто гэта выбраў так, каб днём канчатковага разрахунку стала свята Успення Прасвятой Багародзіцы? Можа, сам Фока, які — пра гэта ў хуткім часе будзе ведаць уся Візантыя, — у такой разні здабываў тое, што яму было даражэй за царскую карону? Магчыма, яго воіны, якія ў лагеры яшчэ, у далёкай Цэзарыі, перад паходам на Царград абулі чырвоныя боты — пазнаку царскай годнасці?

А ці наш патрыярх Полівект, які ў горадзе адкрыта кіраваў народным рухам на карысць Фокі? Не ведаю. Але наступ адбыўся з гэтага боку.

Раніцою таго дня спакой маіх малітваў у Багародзічнай царкве быў парушаны тупатам ног, стукам конскіх капытоў, звонам мячоў. Данесліся пагрозлівыя выгукі людзей раз'юшаных і енкі спалоханых.

Я выбегла на вуліцу, у мяцежны гармідар. Воіны Фокі і гараджане, узброеныя сякерамі ды калкамі, нібыта ашалелыя, ішлі ў атаку на воінаў міністра. А тыя з такім самым шаленствам адбіваліся. Ды яны былі ў меншасці. Таму неўзабаве кінуліся ўцякаць. І пачаліся ловы — жорсткія ловы на людзей. Аднак і ганіцелі, і гнаныя мне нагадвалі звяроў.

Я таксама пабегла па вуліцы — спатыкаючыся, падаючы, не ведаючы, куды бягу і чаго. Спыніць гэткую арду людзей, вядома ж, не магла; яе спыніць не мог ужо ніхто. Каб нават сам Фока з'явіўся і перагарадзіў дарогу, то і яго б затапталі. Настолькі ўсеахопным было асляпленне і памутненне розуму ў людзей, і настолькі моцным. Але нешта мяне штурхала ўслед за імі. Нейкі абавязак.

У натоўпе былі і жанчыны — жанчыны з каменнем. Падобныя да тых, якія калісьці беглі караць пралюбадзейніцу. Але Таго, Хто тысячу гадоў назад сказаў: «Хто з вас без граху, першым кінь у яе камень», — цяпер тут не было. Ці Ён проста не азваўся. І жанчыны кідалі каменне. Ва ўсіх, каго лічылі сваімі праціўнікамі.

«Спыні іх, Госпадзі!» — прасіла я. І плакала, задыхалася, дрыжала. Але Гасподзь чакаў, папусціўшы, каб кожны з людзей паказаў сваё аблічча і каб сэрца адкрыў перад вокам усёвідушчым.

Калі дабраліся да міністравага палаца, гэта былі ўжо не людзі, а зграя хіжых звяроў, якія вынюхалі здабычу. І кроў. Я ніколі не бачыла нічога страшнейшага! І воіны, і простыя людзі з жахлівым шаленствам рабавалі і драталі дом свайго праціўніка! І неймаверную жорсткасць праяўлялі ў адносінах да тых, каго засталі ў доме!

«Няўжо гэта тыя ж самыя людзі, якія ахвяруюць на цэрквы?.. Тыя, якія сустракаюць хрэсныя хады і скрушна моляцца? Тыя, што прыклікаюць ласку Божую і прамаўляюць: «... Даруй нам даўгі нашы, як і мы даруем даўжнікам нашым...»?«Няўжо ў людзях гэтулькі зла?» — задавала я сабе пытанні ў страху і адчаі.

Раптам я ўбачыла дзяўчыну, падобную да перапуджанай сарны. Яна выбралася з руін і, азіраючыся, хацела бегчы да павароту, каб адшукаць сховішча на другой вуліцы. Але яе ўбачыла не толькі я.

«Глядзіце вось на тую! Зараз уцячэ!» — гукнула з натоўпу жанчына, якая трымала ў руках сярэбраны падсвечнік і некалькі раскошных сукенак — здабычу.

А дзяўчына-сарна была дачкою міністравай сястры. Яна прыгожая, знатная, багатая. Але не ганарлівая. І за гэта яе асабліва ўзненавідзелі.

Напоўп рынуўся да дзяўчыны, з пагрозамі:

«Не ўцячэш!.. Трымайце яе!..»

Дзяўчына пабегла. А не было куды: з аднаго боку — сцяна суседняга палаца, з другога — сцяна потных, пыльных і ашалелых пачвар, якая ўсё шчыльнее і перакрывае праход.

«Багародзіца, не аддавай яе! Пяможы ёй!» — узмалілася я, падаючы голымі каленямі на бітае шкло. Аскепкі ўпіліся ў цела, і боль, як маланка, працяў мозг. Але я засталася на каленях і паўтарала: «Багародзіца, памажы ёй! Багародзіца, уратуй яе!»

А сцяна рухалася да дзяўчыны, была ўсё бліжэй.

«Канец табе! Уцячы няма куды!» — верашчала жанчына з падсвечнікам, а таксама іншыя вакол яе.

«Ты мая! Мая!» — брэіў мужчына, які апынуўся паперадзе і ўжо працягваў рукі, падобныя да лап драпежніка.

«На спіну яе, сучку! На спіну!» — падбадзёрвалі яго.

«Спыні іх, Багародзіца! Не аддай яе! — заклінала я, заломваючы сабе рукі і прыціскаючы каленямі аскепкі шкла. — Спыні іх, Маці! Толькі ты гэта можаш!» — Я лямантавала так, нібыта ад лёсу гэтай дзяўчыны залежала маё жыццё ды і ўся мая вера.

«Вера твая ўратавала цябе», — сказаў Іісус жанчыне, з якой цякла кроў ад сямі хвароб.

Я таксама верыла. І адбылося па веры.

У той час, калі ўжо кіпцюры пярэдняга мужчыны пачалі драпаць грудзі перапалоханай да страты розуму дзяўчыны, раптам азваліся — нібыта выконваючы нейкі звыш пасланы загад, — званы ўсіх царградскіх цэркваў. І як яны зазванілі! Аглушальна гучны і перарывісты, як рыданне, звон абрынуўся на нас, быццам свінец, быццам лёд. Ён скамяніў рухі, абарваў словы — прыпыніў усё.

Напэўна, хтосьці з раптоўна спыненых людзей азірнуўся вакол сябе і зазірнуў у сябе. І задаў сабе пытанне, якім жа такое відовішча прадстала ў вачах Божых. Таму што калі змоўклі званы, людзі пачалі расступацца і разыходзіцца — павольна, бязвольна. Нібыта моцна стомленыя, зусім ужо без сіл. Як падраныя анучныя лялькі, з якіх выпала набіўка.

І дзяўчына-гаротніца зрушылася з месца. Я пайшла за ёю. Мы спасцярожліва прайшлі міма разрабаванага і разбуранага палаца. Яна там шукала пацвярджэння сваіх апошніх надзей. Я таксама думала, што ў руінах, можа, ёсць яшчэ людзі, якія выжылі і якім патрэбна дапамога. Але такіх не было. Толькі трупы. Трупы. Трупы.

«Гэта мая сястра... За яе ніхто не маліўся... — прамовіла дзяўчына і паказала мне на адно з целаў. — Я бачыла іх... І вельмі ж баялася... Нехта з іх згадаў пра старажытнае рымскае павер'е, быццам Бог абавязкова карае таго, хто засячэ мячом нявінніцу. Таму яе спачатку зганьбілі... А ёй было толькі дзесяць гадкоў...»

Дзяўчынка ляжала на падлозе. Разадраная ад шыі да пупка. З раскінутымі паламанымі нагамі. З рукамі паколатымі, як быццам іх нажамі прыбівалі да падлогі, каб не супраціўлялася. Некранутай пакінулі хіба што галаву. Таму я назаўжды запамятала яе тварык і вочы, поўныя жаху перад аскаленымі пысамі гвалтаўнікоў.

«За яе ніхто не маліўся... Ні я... Заўтра падамся ў Палесціну... Каб у якім-небудзь манастыры служыць Богу, молячыся за тых Яго дзяцей, якія ўсімі забыты. Буду маліцца так, як ты сёння малілася за мяне... Ведаю. Гэта твая малітва мяне ўратавала...»

Тую ноч я правяла ў трыванні. На акрываўленых каленях. Здзервянелая ад болю ў целе і ў душы. Не ведаю, які боль быў мацнейшы.

«Гэта жыхары аднаго горада, адной краіны. Гэта дзеці Твае, Госпадзі! А яны між сабою — зацятыя ворагі! Забівалі адзін аднаго за ўладу і славу смяротнага чалавека — гэткага ж, як і самі. Забівалі таксама тых, што сталіся выпадковымі, ні ў чым не вінаватымі, сведкамі іхніх жорсткіх гульняў... Чаму, Госпадзі?» — пыталася я. Але Гасподзь маўчаў. А ці, можа, я не чула Яго. Таму пыталася зноў. І малілася за ўсіх тых, якія і самі за сябе не моляцца альбо просяць у Бога не таго. І плакала па тых, у якіх няма нікога, каб з-за іх плакаў.

Назаўтра, у дзень свята Нерукатворнага Вобраза Госпада нашага, Фока ўступіў у горад. «Урачыста, — запісаў адзін сучаснік. — На кані, у зіхоткім царскім убранні, ён праехаў праз Залатую браму, сустрэты ўсім горадам. Народ гучна вітаў яго як выратавальніка царства і хрысціянства. «Дзяржава жадае Нікіфара за васіліуса! — з захапленнем выгукваў натоўп. — Двор чакае Нікіфара! Войска патрабуе Нікіфара! Народ чакае Нікіфара! Так хочуць войска, двор, сенат, народ! Госпадзі, пачуй нас! Няхай жыве Нікіфар!»

Ён праз Мезею ўвайшоў у форум Канстанціна, дзе засяроджана памаліўся ў Багародзічнай царкве, а затым пешшу, у хрэсным ходзе, за Святым Крыжам, пайшоў у Святую Сафію, дзе яго сустрэў Патрыярх Палівект. Нікіфар паў ніцма са свечкаю ў руцэ перад святым алтаром. І Палівект урачыста каранаваў яго за васіліуса. Пасля гэтага цар адправіўся ў Святы палац».

А там, у жаночых пакоях, якія называліся гінекея, чакала яго тая, з-за якой ён і ваяваў — прыгажуня царыца Феафана.

Я таксама бачыла, як Фока ўязджаў у горад. Але не крычала, перапалоханая тым, што ўбачыла гэтулькі зла. А яшчэ больш тым, што яно так хутка забыта. «Святкуюць тыя, хто забіваў. Гэта іх славяць як герояў. А тыя, у каго забілі родных, баючыся, хаваюць не толькі сваё гора, але і свае повязі з пагінулымі, — разважала я і задавала пытанні: — Хіба за гэта Бог ахвяраваў Свайго Адзінароднага Сына? Хіба за гэткі свет? І як жа мне жыць у гэткім свеце?»

Ізноў Гасподзь даваў мне суцяшэнне. Я прыгадала, як Ён плакаў і журыўся ў Гефсіманскім садзе з-за таго, што людзі падпарадкаваліся грэху, д'яблу і смерці. Згадала, як ён прабачыў тым, якія за Яго жыццё выкупілі жыцці разбойнікаў і зладзеяў іерусалімскіх. Бо Ён ведаў, што народ — як чарада без пастуха. Ведаў, што людзі жывуць у горы і цемры. А як жа тады я, грэшная і слабая, магу людзей дакараць?

«Пакайцеся!» — заклікаў Хрысціцель.

«Пакайся за ўсё, што ты зрабіла. І асабліва за тое, чаго не зрабіла дзеля іншых. І дзеля славы імені Госпада», — сказала я сама сабе. І да ўсіх сваіх малітваў, якімі пачынала і завяршала, а часам і запаўняла, дзень, я дадала яшчэ малітву за тых, якія не ведаюць, што чыняць. За тых, хто гора ад сваіх шкодных дзеянняў успрымае як шчасце.

* * *

«Абмый свае грахі, а не толькі твар», — напісана было на мармуровай дошцы ў храме Святой Сафіі.

О, як мяне ўзрушылі гэтыя словы ісціны! Яны праніклі да самага дна маёй істоты, крануўшы ўва мне ўсё. Бо нагадвалі, што вера хрысціянская патрабуе чысціні душы, сэрца і розуму, а таксама, што да ўратавання трэба ісці шляхам працяглага і нялёгкага навучання. Гэта шлях, на якім усялякі бруд з душы змываецца слязьмі пакаяння.

«Нядобры помысел — гэта грэх. Ён — насенне і корань грэху. Бо не бывае грэшных слоў і грэшных спраў без грэшных помыслаў», — разважала я.

І маліла Госпада, каб ачысціў мне розум і сэрца, каб усё, што я раблю, і ўсё, чаго не раблю, было чыстым. Каб я ўратавала сваю душу.

Я ведала: грэх — не толькі забойства, крадзёж, пралюбадзейства, хула на Бога. Зайздрасць, зласлівасць, брыдкія словы пра іншых — таксама грахоўныя. «І што ты глядзіш на парушыну ў воку брата свайго, бервяна ў воку сваім не адчуваеш», — дакараў Спасіцель. Ён вучыў нас не асуджаць чужыя

грахі, а быць жорсткімі суддзямі грахоў сваіх. Між тым, людзі лёгка і ахвотна асуджаюць усіх, акрамя сябе саміх. І гэта не лічаць за грэх.

Колькі разоў я чула, як мужчыны і жанчыны нядобрае гавораць пра іншых. Асуджаюць іх і прысуд выносяць, не даючы магчымасці абараніцца, нават адказаць на абвінавачванні. Прычым робяць гэта адразу пасля богаслужэння, перад храмам Божым. А падчас і ў самім храме. Кепска адзываюцца пра суседзяў і сваякоў, пра тых, чыімі сябрамі лічацца і каго самі называюць сваімі сябрамі. А часта і пра царыцу Феафану. О, як толькі яе не ганьбілі! Толькі злымі вачыма глядзелі на яе, і не маглі бачыць таго добрага, што было ў ёй.

«Ты сваё сэрца ачысціла малітвай. Дык нашто забруджваеш яго, асуджаючы бліжніх?» — намерылася была я сказаць адной жанчыне. Але тут жа схамянулася, што, асудзіўшы яе, сама такі ж грэх учыню. І памалілася Богу, каб мне прабачыў і мяне ачысціў.

«Праўду казалі нашы апосталы. Праўдзіва перасцерагалі: «Хто думае, што ён стаіць, няхай асцерагаецца, каб не ўпасці», — шаптала я. — Святыя ведалі няўстойлівую і крохкую душу чалавека і ўсю слабасць яго прыроды. Не паспее выпрастацца ён, выбраўшыся з бруду грахоўнага, як зноў хістаецца і па́дае. Спутваюць яго новыя спакушэнні — похаць, зайздрасць, ганарлівасць».

Я разумела, што кожны міг, калі мы стаім выпрастаўшыся — гэта дар міласці Госпада, а не наша заслуга. І малілася: «Госпадзі, будзь заўжды каля мяне! Падбадзёрвай мяне, калі палохацца буду цяжкасцей барацьбы за ўратаванне сваёй душы. Падтрымлівай мяне, калі буду старацца не ўпасці! І накіроўвай, каб я сэрцам, розумам і душою заўсёды была бліз Цябе!»

Штовечара, збіраючыся адпачыць, я задавала сабе пытанні, ці правяла дзень так, як Ён наказваў: што добрага зрабіла? У чым саграшыла?

Я прывучала сваё сэрца адрозніваць дабро ад зла, так, як белы лебедзь умее з сумесі аддзяліць малако ад вады. Вышуквала ў сабе атрутныя парасткі заган, грэшных думак і жаданняў, каб іх павырываць.

Перажывала, са страхам задаючы сабе пытанні: ці дагаджаю Богу так, як трэба, як Яму заўгодна? Ці добра бачу Яго ў малітвах сваіх? Ці заўсёды малюся так аддана, каб дамагчыся Яго жывой прысутнасці, і так адкрыта, каб гэтую прысутнасць адчуць?

Часта малілася я і на прыродзе — адшуквала на беразе мора ціхія куткі, утвораныя скаламі, альбо ішла ў лес за Влахерну. І думала пра Бога, прытуліўшы лоб да каменя ці твар да зямлі, а рукі, паклаўшы на карані дрэў. Глядзела на неба, на мора, на ракавінак, на птушак, на кузюлек і мурашоў, на кветкі, на сляды зайцоў і касуль. Бачыла ў іх праяўленне Божай сілы, мудрасці і любові. Дзякавала Творцу, што ўсімі гэтымі цудамі Сваімі акружыў мяне, як бы асыпаў дарамі. Я вучылася ад іх. Бо мы былі падобныя і з’яднаныя — часткі прамыслення Божага.

Думкі пра Госпада былі для мяне ўжо не толькі абаронаю, як у час маёй хваробы, а пазней — хваробы матчынай. І не былі нагодамі хавацца ад страху перад будучыняй. Я адчувала, што люблю Бога, Сына Яго, і Тую, Якая нарадзіла Сына, а таксама хрысціянскіх мучанікаў і апосталаў. Прычым любіла іх не як выявы на сценах цэркваў, не як добрых чараўнікоў з дзіцячых казак — тых, што любыя жаданні выконваюць. Не. Я любіла іх так, як любіла некалі бацьку і маці, як люблю Яўфімія. І гэтая любоў напаўняла мяне радасцю.

Пяць гадоў я прабыла ў Царградзе. Жыла ў гэтым шматмяцежным свеце як манахіня. Часта думала пра тое, каб пайсці ў манастыр. Але не атрымлівалася. Я ведала, што трэба дачакацца таго цудоўнага моманту, калі буду ўпэўнена, што добра чую і разумею голас, які мне вызначае шлях. І чакала.

У гэтыя гады я сустракала богашукальнікаў самых розных кшталтаў: манахаў, пілігрымаў, багасловаў, вучоных, пісьменнікаў, тэафілосафаў — муд-

рых ці толькі захопленых, якія збіраліся каля манастыроў і храмаў. Размовы з імі і мяне наводзілі на пытанні, якія спрадвеку хвалююць сэрцы і розумы небяздумных людзей. Звычайна такія пытанні з'яўляюцца ў ранняй маладосці. Адказы ж на іх нярэдка вызначаюць лад і змест усяго жыцця: хто мы такія? Адкуль з'явіліся? Куды ідзём? Уласна, гэта пытанні, на якіх трымаюцца рэлігія, філасофія і літаратура.

Я да Бога сэрцам імкнулася. Ведала, што мэта майго жыцця — зліцца з Ім. Але ў такіх мудрагелістых размовах я гублялася. На тыя пытанні вышэйшай мудрасці мне цяжка было знайсці належныя адказы — простыя, і каб у іх змяшчалася ўся праўда. Ды неяк, адной ночы ў сне, адказ такі прыйшоў сам. Нечакана, як адкрыццё. І як дотык Духа Святога.

Хто мы такія? — Дзеці Божыя.

Адкуль з'явіліся? — З сэрца Божага.

Куды ідзём? — Да Бога.

Я разумела, што ў тую ноч такім досведам Усявышні адкрыў яшчэ адну браму на маім духоўным шляху. А таксама паведаміў, што набліжаецца час новага выбару. І я стала чакаць, калі Ён скажа, штó мне наканаваў.

## Царградскі арыстакрат

Я пакахаў яе. Моцна пакахаў. І з-за гэтага кахання стаў дзіўным, незразумелым не толькі для тых, хто мяне ведаў, але і для сябе самога.

Мы, візантыйскія арыстакраты, складалі асаблівую касту. Заўзятыя і пераможныя пакарыцелі, мы бралі ўсё, што пажадаем — што на вочы трапіць і вартым здасца. А я быў першы ў сваім асяроддзі. Вылучаўся радавітасцю, аблiччам, здольнасцямі і мужчынскай сілай. Першынстваваў у коннай яздзе і ў змаганні на мячах, у п'янках і любоўных авантурах. Стаў безаглядным шукальнікам прыгод і каханак. Такім мяне ўсе лічылі. Мужчыны прызнавалі за мною першынство. А мая слава палюбоўніка, які лёгка заваёўвае і пакідае, прываблівала жанчын гэтаксама, як агеньчык свечкі прываблівае матылькоў.

Я атрымліваў асалоду ад таго, што лічыў каханнем. Чакаць любоўнай сустрэчы, зліваццa ў гарачых абдымках рук і цел — гэта мяне прыводзіла ў захапленне. О, як гэта цешыла! А Бог паказаў мне іншае. Што такое захапленне, я зразумеў толькі тады, калі закахаўся ў яе.

Першы раз я ўбачыў яе ў царкве. Яна стаяла за калонаю, быццам бы неяк збоку, адасоблена. Бледнатварая, склаўшы рукі, нерухома. Толькі вусны яе варушыліся ў бязгучнай малітве. На той момант яна здалася мне прывідам. Нібыта Бог адну з роўнаангельных дзеў хрысціянскіх спусціў да людзей, каб яе прысутнасцю нас благаславіць. А потым убачыў, што гэта жывая дзяўчына, у звычайнай плоці, як і ўсе іншыя. Як і ўсе іншыя? Не, гэта я паспяшаўся адзначыць. Яна была не такая, як іншыя. Ва ўсім ад іншых адрознівалася. Ды яшчэ многа дзён і начэй будуць накочвацца сінія хвалі Басфора, пакуль я гэта як след зразумею.

У Царградзе арыстакраткі і куртызанкі выглядалі аднолькава. Яны і стараліся быць падобнымі адны да адных. Насілі ўборы з шоўку ды аксаміту і бліскучыя ўпрыгожванні, фарбаваліся, пырскаліся духмянасцямі, якія ўводзяць у зман і зваблiваюць. Гэтыя жанчыны глядзелі наўкола так, нібыта абяцалі. І хадзілі так, нібыта сябе прапаноўвалі.

А яна пахла базілікам. У яе тонкі стан і бледны твар, погляд дзіцяці і пальцы святой — далікатныя, ажно празрыстыя. У простым цёмным уборы, яна

выглядала адначасова і элегантна, і міла. Трымалася вельмі сур'ёзна, але без ганарлівасці. Часта была задуменнай, быццам бы глядзела ў якісьці толькі ёй адной бачны свет. І, на ім засяроджаная, сваю адметнасць і прыгажосць несла так, нібыта іх не ўсведамляла і не звяртала ўвагі, як іншыя на іх глядзяць. А гэта яе рабіла яшчэ прыгажэйшай.

Часта здавалася, што яна не з гэтага свету. Таму такая выключная, цудоўная ва ўсім.

І я страціў галаву ад яе! Ужо з першай сустрэчы, якая сустрэчай была толькі для мяне, бо яна, занятая малітвай, мяне і не заўважыла.

Да гэтага я ніколі не вагаўся, калі трэба было пакарыць жанчыну. Любую! Я ж толькі забаўляўся з дзёрзкімі дзяўчатамі! Там дастаткова было погляду, які вабіць і патрабуе, поціску ручкі мімаходзь, нечаканага пацалунку — і дзяўчына падала ў мае абдымкі, як сарваная кветачка.

А з гэтай я і загаварыць не смеў!

Заваёўваў я сэрцы і замужніх жанчын. Мужы іх страчвалі маладосць і сілу сваю ў ваенных паходах і любоўных адносінах як прыгодах самой вайны, мімаходзь і без разбору. Пожудзі гэтых жанчын не задавольваліся, і яны з удзячнасцю прымалі ўцехі ад спрытнага і вартага даверу палюбоўніка.

Часам пад вокны сваёй абранніцы я прыходзіў з музыкамі, каб не толькі мае ўздыханні, але і кранальныя спевы заманьвалі яе ў сад. А як спяваць той, што жыве пры царкве?! Той, што цэлымі днямі, а нярэдка і цэлымі начамі, як расказваюць, усё моліцца, пралівае слёзы перад іконамі, замест таго, каб праліваць іх на грудзях каханага? Ды і адпачынак яна сабе знаходзіць на падлозе, а не ў пасцелі...

Колькі дзён я хадзіў у Іраклійскае прадмесце, дзе, як мне сказалі, яна жыла! Колькі начэй прастаяў, як згублены сабака, пазіраючы на вузкае акенца яе ўбогага пакойчыка! І ні разу не адважыўся пада́ць нейкі знак аб сваёй трапяткой прысутнасці.

Я страціў спакой, сон — усё з былога жыцця.

Ранейшыя спаборніцтвы сталі для мяне бязглуздзіцай. Усе былыя размовы з пахвальбамі — пустаслоўем. А жанчыны, якіх мы лічылі за прыгажунь — брыдкімі.

Тое, што раней мяне ўзбуджала, нават увагу перастала прыцягваць. Тое, што радавала, цяпер пакідала абыякавым. Усё, што вызначала жыццё да сустрэчы з ёю, цяпер здавалася пазбаўленым жыццёвасці і сэнсу.

Я блукаў па горадзе, як закляты. Шукаў яе. Плаціў грошы вулічным хлапчукам, каб сачылі за ёй і паведамлялі мне, дзе яна знаходзіцца. І тады ляцеў да названага месца, каб хоць зірнуць на яе.

Неяк адважыўся дачакацца яе пасля богаслужэння. Доўга мне давялося чакаць. Павыходзілі ўсе вернікі, потым і свяшчэннікі. Мы ў храме засталіся ўдваіх, а яна працягвала маліцца. Можна было падумаць, што я малюся таксама. Ды не. Я стаяў, склаўшы малітоўна рукі, глядзеў на распяцце, але думаў пра яе: як падысці, што сказаць, каб яе не спалохаць і не пакрыўдзіць, а наблізіць да сябе. Думаў я і пра тую ружу, якую раніцой набыў для яе. Выбіраў так уважліва, як быццам гэта пярсцёнак. А ружа, баяўся, можа завянуць у гарачыні пад маім плашчом.

Нарэшце яна пайшла да выхаду. І я рушыў за ёй. Дагнаў праз пару крокаў, стаў перад ёю, лёгка пакланіўся і працягнуў кветку. Сэрца маё на той момант было ці то ў горле, ці то на далоні. Я ўвесь дрыжаў — вой, як дрыжаў! І гэта я, перад якім жанчыны падалі так, як гэтая перад Госпадам! Гэта я, з-за якога пасварыліся між сабою сёстры цара Рамана, і з рэўнасці адна адну труціць збіраліся, пакуль іх нявестка Феафана ў манастыр не адправіла. Гэта я, па кім

тая самая Феафана тайком уздыхала. Я дрыжаў, а гэтая дзяўчына заставалася абсалютна спакойнай! І знак маёй увагі прыняла без ніякага какецтва. Яна была надзіва натуральная і нясцерпна мілая. Падзяку выказала лёгкай усмешкай. І пакуль я намагаўся прыпомніць хоць нейкія словы з тых лёгкіх і дасціпных прамоў, што папярэдне складаў, каб выкарыстаць у гэты лёсавызначальны момант, яна аглядалася навокал, быццам бы нешта шукала. Затым адступіла на пару крокаў, перахрысцілася і паклала ружу пад ікону. Пасля гэтага выйшла, на мяне больш і не паглядзеўшы.

«З Богам немагчыма супернічаць!» — адзначыла неяк мая маці. Яна была жанчына высакародная, сумленная. І ўсё яшчэ прыгожая. Я горача любіў яе. Яна мяне таксама. «Каб Бог мяне стварыў не жанчынай, я была б такой, як ты», — казала яна мне, заўжды цалкам прымаючы тое, што я раблю. У яе хапала разумення сутнаснага — увогуле, надзвычай рэдкага.

А тут, упершыню, маці пачала пярэчыць.

«Я непакоюся! — сказала яна, быццам бы прачытаўшы мае думкі. — Баюся, каб ты не паўтарыў мой лёс», — дадала потым, спыняючы свой журботны погляд на маліто ўніку, апраўленым слановай косцю.

Я зразумеў гэты погляд. Пачаў здагадвацца пра таямніцу яе маладосці, пра тое, чаму яна ніколі не прапускала ніводнага богаслужэння патрыярха Полівекта. Аднак і гэтае запозненае, а разам з тым і крыху недарэчнае, матчына прызнанне ўва мне нічога не змяніла. Бо чалавек схільны чуць толькі тое, што яго душы спрыяе.

«А паглядзі на патрыярха Нікіфара! — спрабаваў я абгрунтаваць сваю надзею. — Ты ж памятаеш, бадай, што калі памерлі яго жонка і сын-адзінак, ён даў слова жыць у чысціні. І жыў так. Не шукаў жанчын, не еў мяса, спаў на цвёрдым ложку, апранаючы ўласяніцу манаха Малеінаса, дзядзькі свайго, які спачыў у святасці. Манахі, пустэльнікі былі для яго найдаражэйшымі субяседнікамі. Ён рыхтаваўся разам з Афанасіем адправіцца на Святую Гару і прыняць пострыг, як толькі будзе пабудаваны першы манастыр. А цяпер Нікіфар носіць пурпуровы ўбор і п'е віно. Афанасія аднаго паслаў ён упрыгожваць Вялікую лаўру, а сам стаіць на каленях перад дзвярыма гінекей і просіць міласці ў Феафаны, каб прыняла ў свае абдымкі».

«Не ўсе аднолькавыя! — удакладніла маці. — І вера ў людзей не аднаго паходжання. Адзін моліцца ад страху, другі імкнецца вярнуць веру, аднак ёсць і тыя, нешматлікія, хто моліцца з-за любові да Бога. Ты, здаецца, якраз такую напаткаў. І таму я турбуюся».

Матчыны словы розуму не кранулі мяне. Для закаханага сэрца розум — вораг. А я Параскеву кахаў. Кахаў, кахаў!

Аднойчы на нейкай пропаведзі — здаецца, гаворка ішла пра грэх і пакаянне, — я ўхапіў нагоду шапнуць ёй: «Кахаю вас!» Прамовіў гэта на адным выдыху, сам здзіўлены сваёй смеласці і ўдзячны лёсу за магчымасць апынуцца так блізка да яе. Сэрца ў мяне білася як ашалелае.

«Я вас таксама люблю. І буду маліцца за вас», — усміхнулася яна.

Гэта былі словы, якія разбураюць надзеі.

«Я вас таксама люблю», — дзяўчына прамовіла такім тонам, з такой лагоднасцю і так спакойна, як гэта прамаўляе духаўнік яе, старац Сімяон са Студыцкага манастыра.

Вось так: яна будзе маліцца за мяне! Дык гэта ж усяму Царграду на смех, каб такое нехта пачуў! Пра маю шалёную закаханасць і без таго ўсім ужо вядома. Гэтай дзяўчынаю, што праўда, іншыя таксама захапляліся. Аднак не да такой ступені і не так доўга. А я сваё жыццё звязваў з яе асобай. І быў гатовы на ўсялякія безразважнасці.

Ведаеце, што я зрабіў? Адшукаў яе брата — ага! Так вырашыў — і зрабіў! Можаце думаць пра мяне што заўгодна, але я намерыўся расказаць усю праўду, так што і гэтага не буду хаваць.

Мінаў ужо другі год маёй апантанасці, калі я адправіўся ў Студыцкі манастыр. Вырашыў сказаць брату, каб ратаваў яе. Наважыўся папрасіць, каб ён уразуміў сястру — няхай бы не марнавала сваёй маладосці, не праводзіла дні скрозь у посце і малітвах.

«Я ж таксама не бязбожнік, — як на споведзі, выклаў я. — Хаджу на богаслужэнні. Рэгулярна ахвярую на цэрквы і манастыры. Дапамагаю бедным. Каюся ў здзейсненых грахах. Ды гэта ўсяго толькі частка майго жыцця. І для ўсіх гэта толькі частка жыцця. А не ўсё жыццё...»

А што ж брат? Ён амаль мой равеснік, але і поглядам і гаворкаю — нібыта старац, які ўжо ўсё ведае. Жыве пустэльнікам, гледзячы на старца Сімяона, якога завуць Богабаязным і выказваюць яму асаблівую пашану, быццам бы гэта нейкі тытул. Дык і яе брат імкнецца быць падобным да гэтага старца. Ён таксама апантаны Богам, як і сястра яго. Ведаеце, што ён мне сказаў? «Я разумею прагу Петканы жыць па праўдзе. Разумею імкненне яе да Бога. І таму не магу, ды і не хачу, зварочваць сястру са шляху, якім яе Гасподзь павёў!» — вось што ён мне сказаў!

«Каб у яе быў інакшы брат, то і яна б іншым шляхам пайшла», — разважаў я потым. У нас браты адпраўляюць сясцёр у манастыры хіба што тады, калі хочуць у іх адабраць і сабе прысвоіць бацькоўскую маёмасць. А так браты выводзяць сясцёр да людзей, у кампаніі з хлопцамі. Купляюць для іх уборы і ўпрыгожванні. Збліжаюць іх са сваімі жонкамі — дзеля прыкладу і пабуджэння да шлюбу. А гэтай гаротніцы, маёй каханай, Бог даў брата-манаха!

«Па жыцці Бог нам дае тое, што дапаможа выканаць прызначанае», — сказаў мне Яўфімій пры развітанні. Як быццам наперад ведаў, якія думкі складуцца ў маёй галаве.

«А што, калі яго словы — праўда? Можа, сапраўды, прамысленнем Божым ёй дадзены брат, які будзе падтрымкаю і прыкладам на шляху пустэльніцтва?» — задаваў я сабе пытанні. Але хутка і адагнаў іх як непрыемныя. Не хацелася мне згаджацца ні з чым, што магло супярэчыць майму сэрцу.

Я па-ранейшаму імкнуўся да яе. Шукаў, лавіў пах базіліка як яе след: і ў цяжкую летнюю спёку, і ў зімнія халады; і калі вецер дзьмуў да мора, і калі ён з мора прыносіў пахі солі і даляў; і тады, калі дарагія духмянасці, разлітыя на целах іншых жанчын, змешваліся між сабою, і тады, калі спалучаліся водары ладану і запаленых свечак — калі б гэта ні было, і дзе б я ні апынуўся, калі яна там была, то я адчуваў пах базіліка. І заставаўся там, каб толькі яе ўбачыць. А любое іншае месца мне здавалася пустым і сумным.

Ды яна праходзіла і побач, не заўважаючы мяне. Калі ж я асмельваўся перагарадзіць ёй дарогу і ветліва пакланіцца, яна сціпла ўзводзіла вочы і ўсміхалася. Спакойная і аддаленая. А ласкавая — так што ажно балюча! Здавалася часам, што гэта нават нейкая добразычлівасць зверху, ад перавагі. Але тады мне як быццам нехта шаптаў, што так глядзіць яе старац, калі неразумны хтосьці без абачлівасці перарве яго размову з Богам.

Я пачаў пісаць ёй лісты, каб выказаць памкненні свайго сэрца і сваю скруху. Яна прачытала толькі першае пісьмо. Астатнія ж, а было іх каля сотні, вяртала нераспячатанымі. «Гэта, напэўна, прызначаецца нейкай іншай дзяўчыне. Яна, бадай, чакае», — казала Петкана хлапчуку, праз якога я пісьмы перадаваў. А гаварыла, па сутнасці, мне. Ды я не слухаў. Не мог слухаць.

Я круціўся ў зачараваным коле бездапаможнасці. Што ні зраблю, яна заставалася аднолькава спакойнай і недаступнай. А я станавіўся ўсё больш

безразважным. Маё каханне даймала мяне як закляты вораг. Раздзірала мне цела і душу, муціла розум. Часам мне здавалася, што аддаў бы жыццё, каб да яе дакрануцца — толькі дакрануцца.

Пажадзь мая рабіла мяне здольным на ўсё. Прызнаюся, вось, і раскажу вам пра свой найбольшы грэх і ганьбу. Бог пра гэта ведае, дык чаго ж я буду хаваць ад вас! Я, хрысціянін, гонар роду, які на працягу стагоддзяў падтрымліваў царкву і веру як ахвяраваннямі, так і сваім аўтарытэтам, у пэўны момант ачмурэння, з якога адпраўляюцца альбо ў вар'яцтва, альбо ў смерць, прапанаваў сваю змучаную душу д'яблу... Абы толькі ён зрабіў так, каб Параскева стала маёй! Але і д'ябал не здолеў мне дапамагчы. Гэтая дзяўчына з-за чысціні свайго сэрца заставалася недасяжнай для гаспадара чалавечых слабасцей.

Так праходзілі гады. Я іх траціў безаглядна і марна. Думаў толькі пра адно, забыўшыся на ўсе свае абавязкі. Губіў самога сябе. Губляў сяброў, каханак, справы. З часам і багацце маё памяншалася, як ўсё, што растрачваецца, не папаўняючыся.

І сам я мяняўся. Перастаў быць ганарлівым верхаглядам. Ужо не быў падобны да толькі што каранаванага імператара. «Ты нагадваеш манаха-пустэльніка», — гаварылі мне былыя прыяцелі, з якімі я выпадкова сустракаўся. І яны не кпілі з мяне, гэтак спачувалі. А мне здавалася, што я трапіў на самае дно бяды, што нічога горшага ўжо не можа са мною здарыцца.

Ды магло, яшчэ горшае. І здарылася! Не, яна не выйшла замуж за іншага. Яна знікла. Адправілася ў Палесціну, каб наведаць святыя мясціны, дзе прыняў пакуты Хрыстос, і больш не вярталася. Ох, каб я ведаў, што яна рыхтуецца ў такую дарогу, я б пайшоў следам за ёю. Пэўна ж, пайшоў бы. І суправаджаў бы яе на край свету. А так мне заставалася толькі чакаць. І пацягнуліся пустыя дні ў апусцелым Царградзе.

Я не перастаў яе чакаць і тады, калі паломнікі, з якімі яна адыходзіла, вярнуліся, а яна не. І тады, калі ажаніўся — каб захаваць імя і суцешыць сваю маці. І тады, калі даў сваёй дачцэ імя Петкана, маючы на ўвазе не крыжовыя пакуты Ісуса Хрыста, а думаючы пра яе, маю Параскеву. І гэтае чаканне надавала неспадзяваную прыгажосць, глыбейшы і паўнейшы сэнс майму жыццю. Памякчэла маё сэрца. І розум павярнуўся да лепшых думак, а таксама да веры. Бо і вера ў немагчымае — гэта ўсё ж такі вера. Аднак, шчыра кажу, не было ні аднаго дня майго жыцця, каб я не аздобіў яго думкамі пра Параскеву.

Я любіў яе. Так, як умеў. Што праўда, з-за гэтай любові не быў здольны пайсці ў манастыр, каб там сваю пажадзь уціхамірваць, прагнае нутро і бунтоўную плоць утаймоўваць постам і малітваю, каб пісаць ёй лісты пра веліч і славу Божых спраў, а да сваіх грудзей прыціскаць яе лісты пра тое самае. Ды хто ведае? А, магло быць, што і згадзіўся б, каб яна гэтага ад мяне запатрабавала. Магло быць.

Я моцна яе любіў. Гэтая любоў да яе — самая лепшая і самая ўзнёслая частка мяне. І каб мне Бог гэтай любові і гэтых пакут не даў, я б мала што мог прыгадаць са свайго марнага жыцця. І не меў бы пра што думаць цяпер, у сталыя гады, калі радасці магу ўжо чакаць хіба што ад унукаў.

## Сімяон Богабаязны,<br>старац Студыцкага манастыра

Слава Богу, Які праяўляе вялікую міласць да тых, хто любіць Яго!

Як гэта мне, грэшнаму рабу Божаму, расказваць пра Параскеву? Хоць я і быў яе духаўнікам, цяпер лічу сябе недастойным штосьці пра яе гаварыць.

Аднак нешта скажу, каб людзі, якія Бога шукаюць і да Бога імкнуцца, з аповеда пра гэтую роўнаангельную дзеву маглі настаўленне атрымаць. А мне Бог няхай дапаможа знайсці патрэбныя словы і выкласці праўду, якой яна была. І не дай Гасподзь, каб нешта засланяла святло гэтай праўды.

У той час, калі імкненне жыць толькі ў Хрысце і дзеля Хрыста прывяло яе ў Царград, наш Студыцкі манастыр быў адным з многіх. Але стаў шырока вядомы, і да нас пачало сцякацца многа хрысціян. Брацтва склалася шматлікае, а ў ім нямала падзвіжнікаў, якія адракліся ад розных спакус мірскога жыцця. З любоўю да Хрыста яны праходзілі ўсе манастырскія паслушанні, удасканальваючыся. Трымаліся правілаў, якія да іх выпрацавалі дасканалыя манахі, і не забываліся на вучэнне Хрыстова. Незалежна ад таго, ці стаялі, ці ляжалі, ці рабілі нешта рукамі, ці елі — ніколі не пераставалі згадваць словы Божыя і славіць Бога. «Праца ў руках, а імя Божае на вуснах» — такі быў наш закон.

Быў сярод нас іераманах Яўфімій, брат Параскевы. Адораны і вельмі здольны малады чалавек, які ў кароткі час засвоіў прамудрасць Свяшчэннага Пісання, спазнаў нікчэмнасць і мінучасць зямных рэчаў, а вечнасць нябесных. Ён паўтараў словы Усявышняга: «Будзьце і вы дасканалымі, як дасканалы Айцец ваш Нябесны!» І жыў ён так, каб дасягнуць таго, што лічыў галоўнай мэтаю свайго існавання.

Яўфімій прывёў да мяне Параскеву. Калі яны зайшлі ўдваіх пасля богаслужэння, сэрца маё затрымцела ад удзячнасці Богу, што так хораша, як толькі Ён можа, спалучыў іх, даўшы адно другому на радасць.

Я пазнаў яе, як толькі ўбачыў. Гасподзь, па міласці Сваёй, у відзенні аб'явіў яе прыход.

Маё жыццё прайшло ў веры і сярод веруючых. Многія прыходзілі да мяне шукаць духоўнай падтрымкі і рабілі ўсё, што дапамагала наблізіць душу да Бога. Але такую, як яна, істоту я ведаў яшчэ адну толькі. Гэта юнак, які таксама аздобіў маё жыццё, обожваючыся бліз мяне. Ён будзе праслаўлены як Сімяон Новы Багаслоў — самы значны паэт, багаслоў і містык візантыйскага свету. Таму і кажу: Слава Богу, Які праяўляе вялікую міласць да тых, хто любіць Яго!

Але вярнуся да Параскевы.

Яна пасялілася ў Іраклійскім прадмесці, пры царкве Пакрову Прасвятой Багародзіцы, і там прабыла пяць гадоў. Служка Божая, яна працавала ў лячэбніцы для беднякоў і дапамагала ім, як толькі магла. Была адданай служэнню Богу і людзям. Сціплая і пакорлівая, яна размаўляла ціха, любасна. У адносінах з людзьмі была маўклівая, але душа яе безупынна з Госпадам размаўляла. Штодня і шточасу яна знаходзіла новую нагоду Яго велічаць. Бачыла Госпада ва ўсім і ва ўсіх, што рэдка каму дадзена.

Рэгулярна прыходзіла да мяне пагаварыць і павучыцца. Яна прагла Бога і ўсіх ведаў пра Яго. Радавала мяне мудрасцю сваіх пытанняў і разваг, шчырым жаданнем ісціны. І часам здавалася, што мне яе няма чаму вучыць, што яна ўжо ведае ўсё. Прычым гэта веды жывыя.

Яна ведала, што шлях да Бога — праз пакаянную споведзь, пост, малітву, міласэрднасць. Яна па-сапраўднаму пасцілася. Malілася за спасенне душы сваёй, а таксама іншых. На споведзі мне казала: «Чалавек павінен сам сабе не прабачаць грахі, калі хоча, каб яму Бог прабачыў. І павінен сам сябе асуджаць, калі хоча, каб яго Бог не асудзіў. Хто сам сабе прабачае, таму Бог не прабачыць!» І плакала, просячы накіраваць яе, каб яшчэ больш дабрадзецелямі ўпрыгожвацца. Бо і грахі, і дабрадзецелі множацца. Грэх з грахом спалучаецца. А дабрадзецель з дабрадзецеллю. Гардыня і ленасць суправа-

джаюцца гневам. Срэбралюбнасць выклікае зайздрасць. Крадзеж спалучаны з падманам. Самахвальству спадарожнічае паклёп. А вось дабрадзецель працягваецца дабрадзецеллю. Як у лесвіцы святога Іаанна — паступова да Царства Нябеснага.

Усё гэта яна ведала, прычым не з кніг, як многія. Не. Яна гэтыя веды насіла ў сабе як пачуццё. Ёй было вядома і найважнейшае: «Калі я слабы, тады дужы!» — як пісаў карынфянам апостал Павел. Калі чалавек усведамляе нікчэмнасць сваю і ўсемагутнасць Божую і калі аддае сябе на міласць Богу, тады ён дужы. Бо яго міласць Божая вядзе.

Я ведаў многія дзівосныя душы, якія шматлікім пакутам падвяргаліся і ўсё жыццё праводзілі, навучаючыся, як адолець тую ці іншую загану, каб можна было з чыстым сэрцам сказаць: «У мяне, Госпадзі, няма іншых жаданняў, акрамя як выконваць Твае жаданні!» І Параскева гэта ведала.

Між тым, яна з жалем прызнавалася, што не ўпэўнена, ці па-сапраўднаму дагаджае Богу. І ўвесь час пыталася ў мяне, што яшчэ павінна зрабіць, каб Яму дагадзіць. Але нібыта і здагадвалася, што я адкажу. А мой адказ быў такі: «Даведаешся, калі прыйдзе час». Я ведаў, калі той час надыдзе і які ён будзе. Але не смеў ёй казаць пра гэта раней, чым азавецца Той, Каго яна даўно прыняла як Адзінага ў сваёй веры, любові і надзеі.

З часам мянялася яе аблічча. Твары, якія часта абліваюцца слязьмі гневу і жалю, хутка старэюць. А яе слёзы былі слязьмі пакаяння, слязьмі любові да Госпада, Маці Яго і ўсіх святых. Такія слёзы — чыстыя не толькі ўнутрана, але і вонкава. Таму твар яе ззяў, станавіўся яшчэ далікатнейшым. І яна прыгажэла. Гэта нават я, старац, заўважаў.

Мабыць, з-за гэтай асаблівай прыгажосці многія нашы жанчыны ставіліся да яе непрыхільна: агаворвалі, адзываліся варожа, з насмешлівай зларадна-сцю. Марна я іх пераконваў, што яна — роўнаангельная душа. Гэта, як быццам, яшчэ больш іх злавала.

Хто не жадае верыць у дабро, таму ніякія словы не дапамагаюць. Сэрца, напоўненае зайздрасцю, падобна да каменя. Розум, захмураны самалюбствам і зласлівасцю, не можа асвятліць нават усё нябеснае святло. Таму намаганні мае заставаліся марнымі.

Калі ж Параскева сабралася на Святую Зямлю, я ведаў, што назад яна ўжо не вернецца. Ведаў, куды яна адправіцца, дзе будзе падвізацца, якія пакуты прыме, каб да Бога наблізіцца і годна стаць перад Ім.

Калі яна папрасіла майго благаславення, я засаромеўся, што гэтага не варты. Як саромеюся і цяпер, пра яе расказваючы. Няхай Гасподзь дасць, каб я расказаў усё так, як Ён жадае. І няхай прабачыць, калі я ў нечым памыліўся.

А яна, прападобная Параскева, няхай памоліцца за мяне грэшнага.

## Пастух з-пад Царграда

Пастухом быў мой бацька. Ён перадаў мне ўсё, што ведаў пра авечак. А калі прыйшоў час, то перадаў і статак.

Дні я праводзіў на пашы. А ночы ў хаце на ўскрайку лесу. Меў я жонку і дзяцей. Жонка клапацілася пра дзяцей, а я пра авечак.

Мае авечкі былі задаволены сваім жыццём. Яны заўжды мелі корм, ваду і соль. Я іх своечасова стрыг, ахоўваў ад дзікіх звяроў, сачыў, каб усё было ў парадку пры акотах.

Я быў прывязаны да сваіх авечак. А яны да мяне. Ведаючы натуру кожнай, я даў ім адпаведныя мянушкі: Белка, Ляніўка, Кульга, Красуня, Ружа... І так іх клікаў.

Звычайна я размаўляў з імі, як з людзьмі. Жывому чалавеку патрэбна размова, каб час прабаўляць. А што яшчэ я мог рабіць па цэлых днях? Лежачы ў траве, глядзець на неба, назіраць за палётам птушак, граць на дудцы, рваць зёлкі. Гэта добра, але бывае і сумна.

Таму я расказваў авечкам пра дзяўчыну, якая сваім паглядам у мяне адабрала спакой, сваёй усмешкаю працяла маё сэрца. А калі тая дзяўчына стала маёй жонкаю, я авечкам расказваў пра нашу хату і пра шчаслівыя ночы ў ёй. Каб расказаў гэта іншым пастухам, яны б маглі пакепліваць з мяне. А вось авечкі маўчалі, спакойна пасучыся. Потым я пачаў расказваць ім пра сваіх дзетак. Разважаў, якім добрым пастухом будзе мой сын. Расказваў і пра іншых пастухоў, пра гандляроў мясам і воўнаю. Расказваў таксама пра цара Нікіфара Фоку, якога мы сустракалі як збавіцеля, а прагналі як злачынца. А таксама пра царыцу, якая яго на ліха навяла. І пра ваўкоў, і пра сцюдзёныя вятры, якія прыносяць снег і з пашы нас праганяюць. Гаварыў я пра ўсё, што прыходзіла ў галаву.

Авечкі мяне слухалі. І, відаць, верылі. Ім, бадай, перш за ўсё патрэбны былі корм і вада, але і размовы мае не шкодзілі.

Так што я быў задаволены жыццём. Ды і крыху падобны да сваіх авечак у той час, калі сустрэў гэтую дзіўную дзяўчыну.

Было гэта на самым досвітку. Авечкі мае надта рана пабудзіліся, не даўшы і мне паспаць. Мы рушылі на сонны яшчэ луг. А там я ўбачыў нейкую мізэрную постаць — быццам бы жанчына ў сінім уборы ўкленчыла на роснай траве, падняўшы рукі да неба. «Здань!» — падумаў я. І нутро сціснулася ад страху. Між тым, авечкі былі спакойныя, хоць яны звычайна адчуваюць небяспеку. І я вырашыў падысці бліжэй да гэтай істоты, пагледзець, хто гэта.

Аказалася, што дзяўчына. Прыгожая дзяўчына, якая малілася Богу.

Тады я адышоў назад, каб не перашкаджаць ёй маліцца. І авечкі таксама прыцішыліся.

Потым, як сонца ўзышло, яна ўстала і накіравалася да горада. Калі праходзіла міма бліз мяне, я папярэдзіў яе:

«Нядобра дзяўчыне ноччу адной хадзіць па палетках. Тут усялякае можа здарыцца. Ёсць людзі ліхія і звяры дзікія. Сцеражыся!»

А яна? Паглядзела на мяне ласкава, нібыта дзякуючы за тое, што ёй жадаю дабра.

«Як ты ахоўваеш сваіх авечак, так мяне ахоўвае мой Пастыр. Я іду туды, куды Ён мяне вядзе. І таму нічога не баюся», — адказала гэтая дзяўчына. Прычым так далікатна, быццам бы даверваючы мне сваю таямніцу і асцерагаючыся, каб не пакрыўдзіць мяне, паколькі прызнала маю заклапочанасць непатрэбнай.

А потым расказала пра нейкага іншага пастуха — з далёкіх мясцін іудзейскіх. Той пастух згубіў адну сваю авечку. Перажываў за яе і ўсюды яе шукаў. Калі ж тая авечка вярнулася, то радасці яго не было межаў. Ён аддаў знойдзенай авечцы ўсю любоў і ўвагу, каб яна больш не гублялася. «Так і з чалавекам, — патлумачыла мне гэтая дзяўчына. — Калі ён саграшыў і пакаяўся, яго Пастыр прыме ў Свае абдымкі і будзе яшчэ больш любіць».

Я зразумеў, што яна гаворыць пра Ісуса. І здагадаўся, што гэта, напэўна, тая дзяўчына, чуткі пра якую з-за сцен горада ўжо дайшлі і сюды да нас, пастухоў. А яна была вельмі прыгожая і добрая, і Богу адданая. Пра што б ні гаварыла, заўжды імя Госпада згадвала і славіла.

Пасля гэтага я часта бачыў яе на палетках. Яна звычайна стаяла на каленях, узвёўшы вочы і рукі да неба, ці нерухома ляжала на мокрай траве — засяроджаная і заплаканая. Каб не перашкаджаць ёй, авечак я заварочваў. Іншых пастухоў таксама спыняў, каб не перарывалі яе размоў з ангеламі нябеснымі. Вы спытаецеся, адкуль я ведаю, што яна размаўляла з ангеламі? А з кім жа яшчэ магла размаўляць яна, сама падобная да іх?

Я часта думаў пра яе і тады, калі яна перастала прыходзіць. Згадваліся яе словы. І я іх пераказваў дома, жонцы і дзецям. А яшчэ часцей на пашы, у доўгіх размовах з авечкамі.

Потым дайшлі чуткі, што яе ўжо тут няма. Куды яна падзелася, не ведаў ніхто. Я таксама. Але здагадваўся, што сышла, пэўна, туды, дзе так прасторна, як на вялікіх пашах. Дзе ніштó не замінае ні пагляду, ні думкам.

Я добра разумеў, чаму яна прыходзіла да нас сюды. Яе вабіла прастора нашых палеткаў, сіла ветру, які ніхто не можа спыніць, бязмежнасць даляглядаў і зводу нябеснага. Горад не для яе. У горадзе яна была як у вязніцы — заціснутая, абмежаваная. Прычым не толькі сценамі.

Мае авечкі ніколі не змаглі б жыць у горадзе. А мы ўсе ў нечым падобныя да іх. Мы статак аднаго Пастыра. Таго, пра Якога яна мне расказвала.

***Працяг будзе.***

***Пераклад з сербскай Івана Чароты.***

Маргарыта ПРОХАР

# ЭСХАТАЛАГІЧНЫЯ МАТЫВЫ ЧАРНОБЫЛЯ Ў ТВОРЧАСЦІ ІВАНА ШАМЯКІНА

Іван Шамякін — класік айчыннай літаратуры, народны пісьменнік Беларусі, і ён заслужыў гэтыя азначэнні сваёй творчасці не толькі за майстэрскае валоданне мастацкім словам, але і колькасцю ахопленых ім тэм грамадскага жыцця Беларусі: вайна і пасляваенныя рэаліі (трылогія «Трывожнае шчасце», раманы «Глыбокая плынь», «Снежныя зімы» і іншыя), далёкая гісторыя (раман «Вялікая княгіня»), «перабудова» і станаўленне незалежнай Беларусі (аповесці і апавяданні апошніх гадоў жыцця). Як слушна адзначыла даследчыца В. Локун, пошукі новых магчымасцей прозы Івана Шамякіна «ідуць галоўным чынам не па шляху эпічнага ўзбуйнення, а хутчэй у накірунку набліжэння да рэальнай плыні жыцця, у імкненні да больш глыбокага спасціжэння ўсіх нюансаў маральнага развіцця асобы» [1, с. 607].

І, безумоўна, не магла застацца па-за ўвагай пісьменніка чарнобыльская тэма. Так з'явіліся два творы Івана Шамякіна пра Чарнобыль — раман «Злая зорка» (1991) і аповесць «Зона павышанай радыяцыі» (1996—1997).

У рамане «Злая зорка» пісьменнік даследуе падзеі, якія адбываюцца непасрэдна ў час катастрофы, што вельмі важна для сучаснага разумення трагедыі — яе прычыны і вынікаў. І гэта натуральна, паколькі «Іван Шамякін заўсёды быў цесна далучаны да асэнсавання сучаснасці, грамадскага жыцця. Невыпадкова яго называюць пісьменнікам сучаснай тэмы» [2, с. 9].

У творы асаблівыя нават назвы раздзелаў: у іх прасочваецца параўнанне да- і паслячарнобыльскай рэальнасці, шлях да эсхаталагізацыі часу: «Чаканне радасці», «Туман», «Аўрал», «Нуклідная зона», «Гракі не прыляцелі».

У аснове рамана — звычайнае мірнае да- і паслячарнобыльскае жыццё дзвюх сем'яў — Пустахода і Пыльчанкі — клопаты, звязаныя з дзецьмі, успаміны, чаканне радасці (жаніцьбы сыноў) і разбурэнне ўсіх мараў, выкліканае з аднаго боку, Афганістанам (смерць Барыса) і, з другога, — Чарнобылем (небяспечная праца Глеба на станцыі, цяжарнасць яго жонкі Ірыны і боязь нараджэння паслячарнобальскага дзіцяці; смерць ад радыяцыі Вольгі Андрэеўны, маці Глеба і Барыса). На першы погляд, Афганістан і Чарнобыль — дзве трагедыі — не ўзаемазвязаныя, аднак, калі прасачыць адносіны аўтара да гэтых падзей і сродкі іх адлюстравання, то становіцца зразумелым, чаму пісьменнік нездарма менавіта так арганізаваў сюжэтныя лініі — параўнаў Чарнобыль з вайной і новую бяду назваў горшай за вайну: «А мы ж… Мы не ўцякаем… мы ідзём на яе… на вайну» [3, с. 158] (на чарнобыльскую станцыю. — **М. П.**); «А сяло… Такое і ў кіно не бачылі. Бачылі спаленыя вёскі, пустыя, адкуль людзі адыходзілі ў лясы ці іх выганялі на смерць, на здзек, на доўгае падарожжа ў Германію. Але на ўсіх тых вёсках… ляжаў след вайны, разбурэння. А тут усё дагледжанае і… ўсё нікому не патрэбнае» [3, с. 156].

Трэба адзначыць, што Іван Шамякін для найбольш яркага выражэння трагедыі па-мастацку ўдала скарыстоўвае кантрасты — сюжэтныя і апісальныя: вайна і Чарнобыль, пажар на атамнай станцыі і вяселле Глеба і Ірыны. І гэта сур'ёзны пісьменніцкі ход, які максімальна абвастрае разуменне трагедыі, выразны кантрасны эсхаталагічны матыў.

Першы сігнал-папярэджанне — унутраны страх на ўзроўні падсвядомасці, інтуіцыі герояў: «Глеба разбудзіў равун буксіра: «Чаму разроўся, як на пажар? У такую рань» [3, с. 61]; «Штосьці незвычайнае творыцца ў прыродзе. Што аднак?» [3, с. 63]; «Туман рассеяўся, але сонца ўсё яшчэ не прабівалася да зямлі. Сонца яны ўбачылі, калі выехалі з лесу ў поле. У небе над густой азімінай звінелі жаўранкі» [3, с. 65].

Пачатак катастрофы, такім чынам, — развітанне з мірным адчуваннем прыроды. Напрыклад, вобраз туману набывае асацыятыўнае значэнне сігналу-папярэджання («я думаю пра ранішні туман… ён дзёр табе горла») [3, с. 70].

Асацыятыўнае адчуванне катастрофы падтрымліваецца рэальнымі сігналамі, жорсткай праўдай: «Навіну паведаміў старэйшы зяць Пустахода Віктар Ёрш, між іншым:

— Хлопцы ўкраінскія прыплылі, расказвалі: на станцыі пажар быў. Усе кіеўскія пажарныя там. І міліцыя з усёй вобласці.

Словы ўдарылі Глебу ў сэрца. Чамусьці спалохалі. Ні на міг не сумняваўся, што размова ідзе аб іх станцыі, але чамусьці спытаў:

— На якой станцыі?

— На якой? На тваёй. Якая не дыміць» [3, с. 66].

Дым — асноўны сігнал пажару. І словы герояў аб тым, што станцыя, якая спаліла столькі жыццяў, не дыміць, — гучаць, нібы горкая іронія, і гэты мастацкі прыём яшчэ мацней падкрэслівае папрок у бездапаможнасці перад няяснаю небяспекаю.

У раздзеле «Туман» сустракаюцца апошнія мастацкія апісанні квітнеючай дачарнобыльскай прыроды: «Усё цудоўна!.. Рака — на радасць ім. І сонца. Вясна. Сады цвітуць у прыбярэжных вёсках, беларускіх, украінскіх» [3, с. 71], «…яны выйшлі ў поле. На захадзе яно замыкалася сасняком, на ўсходзе белымі садамі і зялёнымі вербамі вёскі. Але поле шырокае — з зялёным клінам азіміны побач, з шэрым ворывам ярыны ўдалечыні… Плылі па небе белыя воблачкі, што мяккія аўчынкі, лілося сонечнае цяпло і адначасова прахалода… Бадзёры дзень — на іх шчасце. Але асаблівае адчуванне жыцця дарыла неба спевам жаўранкаў. Хіба можа быць там, у небе, смерць, калі вісяць у ім жывыя, цёплыя, галасістыя камячкі!» [3, с. 155]. І — зноў пaслячарнобыльскі кантраст: «Поле шырокае, ды не відаць на ім ніводнай жывой адмеціны — ні чалавека, ні жывёліны, ні трактара, ні сеялкі» [3, с. 155].

І — перадчарнобыльскі горад Прыпяць: «Горад новенькі, чысценькі, белачырвоны, шэрасці мала, добра спланаваны, хораша азелянёны, за чвэрць стагоддзя пры добрым доглядзе ліпы і каштаны разрасліся, як у Кіеве. Горад расце сюды, на паўночны захад, у бок станцыі ходу яму няма. І дамы, якія яны ўбачылі з ракі, самыя новыя, некаторыя недабудаваныя з буслам-кранамі. І ўсё ззяла на сонцы — вокны, незакрытая арматура, стрэлы кранаў» [3, с. 72]. Тут апошні раз вобраз сонца скарыстаны з мастацкім сэнсам «жыццё, святло, радасць». У далейшым сонца, як і ўсё жывое, будзе пададзена аўтарам з эсхаталагічным падтэкстам, які найбольш выразна перадае смерць прыроды і людзей, разбурэнне шчасця і мараў: «не здолелі, напэўна, уявіць, што ж гэта такое — населены пункт без насельніцтва, без адзінай жывой душы. У той міг і поле, якое яны перайшлі, раптам здалося страшным, небяспечным сваёй таямнічай невядомасцю, сваёй спустошанасцю, дзе будуць расці, спець жыта, ячмень і дзе ніхто не ступіць, каб скасіць іх» [3, с. 155]. Адзіная жывая істота, якая сустрэлася Вользе Андрэеўне і Ірыне, калі яны ішлі да Глеба на станцыю, — маленькі сабака, які таксама ўзрадаваўся ім, пачаў лашчыцца, «поўз да іх, лісліва і радасна скуголячы і матляючы куцым хвастом» [3, с. 156], але якога нельга было гладзіць — ён быў чарнобыльскі, і яго поўсць хапіла радыяцыі. Зрэшты, як і калодзеж, з якога нельга было піць ваду і які зусім, здавалася б, па-мірнаму, апісвае пісьменнік: «на вочапе старога калодзежнага жураўля разгойдвалася новенькае дубовае вядро, не пачарнелае яшчэ, клёпка ажно свяцілася, мабыць, добрая душа старога палескага бондара

зрабіла да свята людзям падарунак» [3, с. 157]. Падарунак, якім зараз нельга карыстацца. Усё страчвала сваё прызначэнне, і ў гэтых мастацкіх напамінах аўтара прасочваецца выразны эсхаталагічны матыў.

Паслячарнобыльская кантрасная мастацкая падача змен у прыродзе — усё гэта матывы страху, трывогі, нядобрых прадчуванняў: «Нязвыклы выгляд берага. Не было на ім рыбакоў, якіх у суботу там поўна. Ды ў такі спякотны дзень і раннія купальшчыкі маглі знайсціся, ёсць тут маржы, што ад лёду да лёду купаюцца. Зусім прыціхлі, калі адчынілася станцыя». Апісанне станцыі як месца трагедыі перадаецца кароткімі, але выразнымі сказамі-характарыстыкамі з выкарыстаннем знакавага вобразу трагедыі — дыму: «Будынак станцыі. Дым над ёй не чорны, не жоўты, як над ТЭЦ, а нейкі як бы празрыста-блакітны» [3, с. 73]. І яшчэ прыклад: «Я глянуў у яго жэрала. Відовішча, я табе скажу! Ніхто не бачыў такога агню. Блакітнага. Сіняга… Чорт знае — якога» [3, с. 105].

Адчуванне трагедыі выклікае паніку, уцёкі ад смерці, спробы пазбегнуць найгоршага: «Вы ўяўляеце, што адбылося! Назад! Назад! Уцякайма, хлопцы! Калі жыццё не абрыдла» [3, с. 74]. Тут прасочваецца пачатак адлюстравання яшчэ аднаго выніку эсхаталагічнага характару — паслячарнобыльскай эвакуацыі, і зноў апісанні кароткія, але па-мастацку трапныя: «Сотні аўтобусаў з людзьмі… Эвакуіруецца горад Прыпяць, увесь, падчыстую» [3, с. 106]. І — новая, яшчэ большая, трывога: «А што, калі заўтра вось так прыйдзецца падняць Кіеў?» [3, с. 106]; «Пустаход не мог паверыць, што горада не стала… учора не мог паверыць. Вялікага горада, бадай такога ж, як Мазыр» [3, с. 117].

І — горкая іронія: «Гумарыст Дунец, начальнік міліцыі, нават пажартаваў:

— Раней мы спявалі «Павій, вітрэ, на Украіну». А цяпер трэба: «Не вей, вецер, з Украіны» [3, с. 118]. І — страшная паслячарнобыльская рэальнасць, эсхаталагічны матыў бежанства і страты малой радзімы, словы, якія рэфрэнам-паўтарэннем гучаць з вуснаў герояў: «Эвакуацыя навечна» [3, с. 179].

Кульмінацыя мастацкіх апісанняў выразнага эсхаталагічнага характару прыпадае на раздзел трэці «Аўрал». Іван Шамякін закранае балючую тэму выратавання дзяцей ад вынікаў чарнобыльскай катастрофы — нашага будучага пакалення, беларускага генафонду. Дзіця і анёл — дзве чыстыя, бязгрэшныя душы, і таму найбольш страшна, калі яны бязвінна пакутуюць. Іван Шамякін трапна выкарыстоўвае такое параўнанне для абвастрэння ўспрыняцця трагедыі — цяпер ужо праз свядомасць дзяцей: «Пасярод стаялі дзве шахтныя стойкі — падпіралі столь, — абвешаныя, як і калідоры, адзеннем, пераважна дзіцячым.

Але не гэта ўразіла наведвальнікаў. Паміж стойкамі на вузлах сядзела мадонна з дзіцём на руках, паўтарагадовым хлопчыкам — анёлам, толькі што без крылаў. З бакоў да мамы туліліся яшчэ трое малых, дзве дзяўчынкі і хлопчык» [3, с. 145]. А на пахаванне маці, каб пазбегнуць радыяцыі, дзяцей акрылі камуфляжнымі накідкамі, і балюча гучыць параўнанне з мірным часам: «пад зялёнымі камуфляжнымі накідкамі дзеці стаялі што грыбкі пад лісточкамі» [3, с. 236].

І — новая рэальнасць у адпаведных мастацкіх апісаннях і новых вобразах: рэгуліроўшчыкі ў чорных камбінезонах, палівальная машына, што мыла шашу зялёным растворам, падзел на «чыстыя» і «забруджаныя» вёскі; палын, дрот і пыл як асноўныя дамінуючыя вобразы новага, паслячарнобыльскага жыцця: «І ўсе яны ведалі, наколькі ён небяспечны, пыл гэты» [3, с. 164].

Важную ролю пры перадачы эсхаталагічнага настрою адыгрываюць кантрасты, прычым спалучаныя ў адным сказе, пераплеценыя і па-мастацку ўдала скампанаваныя, што павялічвае сілу іх уздзеяння на чытача: «Бедства ў такую цудоўную раніцу, калі празрыстае неба і паветра ажно звініць ад начной свежасці. Азонам пахне. Страх з начной сілай ударыў у сэрца» [3, с. 92] ; «Іншае Пятра Міхайлавіча не клапаціла ў тую чароўную раніцу» [3, с. 95]; «выбраліся з вішнёвай засені чарнобыльскіх вуліц» [3, с. 105], «кіпела над галавой квеценню груша» [3, с. 188].

Многія вобразы, як і выяўленчыя сродкі для іх апісання, набываюць іншыя акцэнты, нібы муціруюць, як уся паслячарнобыльская рэальнасць. Напрыклад,

вобраз сонца, што спрадвеку, згодна фальклорным і міфалагічным уяўленням, увасабляла святло і жыццё, набывае іншы паслячарнобыльскі сэнс: «Сорамна яму было, што пакідае людзей, таму чырванее… Але не ласкава-сарамлівым, як некалі, здалося яно, а злавесным, што вялікі пажар. А яшчэ чамусьці здалося, што сонца адарвалася ад неба, а зямля не прымае яго, і яно павісла. І гэтак будзе вісець. І не здолее ўзысці, страціўшы сілу» [3, с. 188]. «Садзілася сонца. Завалаквалася нейкай імжой і ад гэтага рабілася жоўтым» [3, с. 185].

Эсхаталагічныя настроі не толькі ў апісанні прыроды — але і ў настроі герояў рамана. Аўтар перадае гэта праз асацыятыўнае ўяўленне: «На стале гарэў кароткі агарак свечкі, пастаўлены ў чарку. Свечка з натуральнага воску. І пах яго нагадваў нешта вельмі даўняе, а што — успомніць і зразумець не магла. Знаёмае, многа разоў чутае — пах смерці, пахавання, жалобы. Такая асацыяцыя ў такі дзень, у такі вечар, у такім становішчы пры трапяткім святле свечкі наганяла жахлівыя ўяўленні — апакаліпсічныя» [3, с. 192]. І — кантраст з былым, дачарнобыльскім уяўленнем, што дапамагае правесці не проста параўнанне, а рэзкае, страшнае параўнанне з тым, што больш не вернецца: «А воск пахне і жыццём, радасцю, полем, кветкамі, звонам пчол, сонцам, ветрыкам» [3, с. 193].

Адкрыты эсхаталагічны матыў разумення Чарнобыля прыходзіць да герояў і праз прамое напамінанне з Бібліі: «Трэці Анёл пратрубіў, і ўпала з неба вялікая зорка, якая гарэла падобна свяцільніку, і пала на трэцюю частку рэк і на крыніцы вод. Імя той зорцы — палын…» «І трэцяя частка вод зрабілася палыном, і многія з людзей памерлі ад вод, таму што яны сталі горкія» [3, с. 193].

Для паказу страшнай сілы трагедыі і яе асэнсавання героямі твора Іван Шамякін карыстаецца і адметнымі колеравымі эпітэтамі эсхаталагічнага характару: «І ніхто не будзе знаць, што ў празрыстым паветры, у светлым небе плыве нябачнае воблака са смяртэльнай дозай у паўсотні Хірасім.

Божа! Які жах! Як могуць маўчаць людзі, якія ўжо ведаюць пра катастрофу? Як ён, фізік, камуніст, можа маўчаць? Сядзець вось так, глядзець на чырвоны апарат (чырвоны — як сігнал трывогі!), чакаць званка з Мінска» [3, с. 87].

І яшчэ прыклад: «Заходзіла сонца. Кабінет напаўняўся злавеснай чырванню, якая гусцела, цямнела, здавалася, што вось-вось чырвань стане чарнатой, згасне святло і наступіць… Што наступіць?.. Нічога не наступіць! Няхай будзе святло. Падняўся, уключыў люстру» [3, с. 83]. Колер крыві (чырвоны) і смерці (чорны) — выразныя атрыбуты эсхаталагічнай матываванасці, аднак пісьменнік скарыстоўвае іх не для канчатковага мастацкага рэзюмэ пра безвыходнасць. Сэнс літаратуры пра Чарнобыль — паказаць трагічнасць сітуацыі і адначасова мабілізаваць на яе вырашэнне і папярэдзіць будучыя пакаленні. Першая частка гэтай шматузроўневай задачы — па-мастацку праўдзівы паказ трагедыі — выконваецца пісьменнікам праз вобразна-паэтычныя сродкі: асацыятыўныя вобразы (туман, дым, «новае» сонца), эсхаталагічны накірунак эпітэтаў і параўнанняў, колеравы кантраст, назвы-сінонімы Чарнобыля: нуклідная зона, вайна («А цяпер — як перад Айчыннай» [3, с. 94]), Хірасіма («Гэта — Хірасіма» [3, с. 86]). Адсюль — і матыў адчаю і папярэджання, паколькі «Іван Шамякін як пісьменнік і гуманіст пратэстуе супраць сляпога тэхнічнага прагрэсу ў атамны век» [4, с. 30]: «Сцямнела. Ні горада, ні станцыі не было відаць. Але на саркафагу і на дзеючых блоках гарэлі яркія чырвоныя сігналы. Як сігналы трывогі. Стоп-сігналы: спыніся, чалавецтва!

Уладзімір Паўлавіч узняў над сабою сціснутыя кулакі.

— Стаіш? Свеціш? Паліш людзей? Спалі мяне! Не можаш? Не па зубах я табе? Скура ў мяне задубянелая! Свінцовая! Чуеш? У мяне свінцовая скура стала! — і павольна апусціўся на калені, ударыў кулакамі ў зямлю, крыкнуў:

— А ты чаму анямела, сціхла? Уздрыгніся!

Чалавек крычаў — зямля маўчала» [3, с. 305].

Аднак заўсёды, пры любых трагедыях і катаклізмах, перамагае спрадвечны матыў выратавання, супрацьлеглы эсхаталагічнаму. Гэта разумее пісьменнік. І выражае:

— у вяскоўцаў — праз зварот да Бога, рэлігіі: «жанчыны пачалі здымаць са сцяны ікону Багародзіцы, цалавалі яе і абгортвалі ручнікамі — паедуць з родных хат толькі з ёй, заступніцай выгнаных» [3, с. 180].

— у Вольгі Андрэеўны — праз любоў да дзяцей: «Гэта яе ратавала праз усё жыццё — што ў душы яе жыла паэзія, і ёй, нярэдка з пакутамі, з трудом, удавалася змрочныя думкі, уяўленні адціснуць светлымі, радаснымі, прадчуванне бяды — прадчуваннем шчасця. І тут яна зрабіла намаганні і — з магільнай ямы ўзнялася на светлую зямлю» [3, с. 193].

— праз веру ў сваю зямлю і мірную працу чалавека на ёй — ва Уладзіміра Паўлавіча: «Пах збажыны … данесла праз акно, быццам дыхнула ветрам. І стала Уладзіміру Паўлавічу амаль радасна» [3, с. 249].

У 1998 годзе выходзіць новы твор Івана Шамякіна пра Чарнобыль «Зона павышанай радыяцыі».

Трагічныя абставіны сям'і Паўла Вятрэнкі (гібель сына) і чарнобыльская аварыя, што яшчэ больш павялічыла душэўную рану, выклікалі ў пісьменніка жаданне напісаць дзённік і адлюстраваць свае адносіны і адчуванні да «апусцелага, пакінутага людзьмі кутка роднай зямлі» [5, с. 365], зоны павышанай радыяцыі — яшчэ аднаго мастацкага азначэння Чарнобыля. Там усё, здавалася, тое ж: лес «той жа — магутныя сосны, дубы, густы арэшнік» [5, с. 366], сады, дзе «яблыні свяціліся пераспелымі ранетамі, антонаўкамі, штрыфелямі, малінаўкамі», але там няма людзей, і толькі — адзінокая хата, дзе жывуць, абыякавыя да радыяцыі, засяроджаныя ў сваім бацькоўскім горы, якое страшней за радыяцыю, Павел Вятрэнка і яго жонка. Жывуць тут, бо тут магіла іх сына. Іх не палохае шчыт «са страшнымі словамі «Зона павышанай радыяцыі» [5, с. 366], яны звыкліся з усім, у адрозненне ад аўтара, пісьменніка, які выводзіць гэтаму суровае мастацкае азначэнне, знаходзіць сваё выражэнне эсхаталагічнаму матыву: «О Божа! Што гэта? Я менш скалануўся б, каб убачыў чалавечы шкілет, які глядзеў бы на мяне чорнымі ямамі вачніц. Мноствам такіх пустых вачніц — вокан, дзвярэй — глядзела на нас школа, якая некалі звінела дзіцячымі галасамі, а ў зімнія прыцемкі ззяла яркімі агнямі» [5, с. 366].

І яшчэ большае ўражанне выклікае жылы дом, які аўтар параўноўвае з міражом у пустыні: «думаю, каб касманаўт, які ехаў бы па бязводным Марсе і сустрэў марсіяніна, здзівіўся б менш, чым я, убачыўшы ў лясной пустэчы жывы дом» [5, с. 367]. Ён шукае прычыну гэтай абыякавасці да радыяцыі, амаль самазабойства. І знаходзіць у простых, але ёмкіх словах Паўла Вятрэнкі: «— Пратэст? — Павел Паўлавіч задумаўся. — Пратэстантам я ніколі не быў. Што гэта? Пратэст? Не, не згаджаюся. Я вам скажу, што мяне прымусіла. Лінія.

— Якая лінія?

— Па якой я ішоў усё жыццё. Не толькі я. І бацькі мае. Скажу гучныя словы: і народ мой» [5, с. 369]. І яшчэ: «біяграфія ў кожнага індывідуальная. А трагедыя агульная — адна на ўсіх» [5, с. 375].

Герой аповесці — Павел Вятрэнка — ваенны інжынер, ён першы з часці, што стаяла ў гэтых лясах, зразумеў сапраўдную смяртэльную небяспеку Чарнобыля. Таму разуменне смерці ў яго — асэнсаванае: «Мы тыя, хто лагічна працягвае сваё жыццё пад тым жа напружаннем, пад якім яно было бадай усё жыццё, у той жа «зоне». Я напісаў у «мёртвай зоне» [5, с. 396]. І дадае з горкай іроніяй: «Я ў зоне, але я вольны» [5, с. 396].

Нездарма адзін з раздзелаў аповесці мае назву «Агульная бяда» — яшчэ адзін сінонім назве «Чарнобыль». Раздзел — кантрасны па апісаннях і вобразна-выяўленчых да- і паслячарнобыльскіх сродках. Ён адкрываецца карцінай у мірных, дачарнобыльскіх мастацкіх колерах: «Вясновы дзень быў незвычайны — па-летняму спякотны. За нейкія тры дні распусціліся дрэвы. У цяпліцы, якую я змайстраваў, успыхнулі полымем цюльпаны» [5, с. 441]. Аднак тут адразу ж узнікае кантраст — суровы кантраст паміж жыццём і смерцю: «Галя ўсю цяпліцу заняла пад цюльпаны, каб насіць раннія кветкі на Жэневу магілу» [5, с. 441]. Аднак паку-

ты для герояў твора не закончыліся смерцю сына: прыйшла чарнобыльская бяда і эвакуацыя: «здавалася, што ўся краіна жыве ў зоне павышанай радыяцыі. Палітычнай. Маральнай, Матэрыяльнай» [5, с. 449—450]. І гэта яшчэ адзін аспект новай рэальнасці: асацыятыўна Чарнобыль як эсхаталагічны сімвал бяды пераносіўся свядомасцю героя на Чарнобыль духоўны. Таму эсхаталагічным матывам безнадзейнасці, страху і смерці напоўнены перададзеныя вобразна-выяўленчымі сродкамі апісанні мясцовасці пасля эвакуацыі: «А селішча спусташалася. І страшнымі былі не сядзібы, з якіх дамы вывезлі і на якіх журботна-сіратліва выглядалі яблыні, вішні, рабіны і ліпы пад белымі вокнамі. Страшнымі былі дамы, якія заставаліся пасля перасялення гаспадароў… Халадзеў ад думкі, што ў такі страшны шкілет ператворыцца і мой дом… Гэта — родны кут, які я меў хіба што ў маленстве. Асаблівы сэнс набывалі радкі паэта, якога вучыў у школе: «Мой родны кут, як ты мне мілы» [5, с. 354]. І ў гэтым — горкая іронія, выкліканая матывам разбурэння ўсяго святога і дарагога кожнаму чалавеку.

Эсхаталагічны матыў добраахвотнай асуджанасці на смерць ад радыяцыі гучыць у такім мастацкім апісанні, выражаным праз параўнанні і эпітэты: «Жанчына, ураженая, відаць, нашым добраахвотным жаданнем ісці на самагубства, змоўкла, як звяла. Такой ваяўнічай гаварунняй пачала, а тут глядзела на нас сумнымі вачамі, як на асуджаных на смерць» [5, с. 356].

У пустых чарнобыльскіх мясцінах замест людзей пасяляюцца ваўкі — асаблівыя, чарнобыльскія. І гэта яшчэ адзін прыклад эсхаталагічнага светаадчування і яго выражэння ў аповесці: «Мяне працяў холад. Чуў я воўчае выццё. У маленстве. У тайзе. Але тут яно здалося асабліва страшнае. Не думаю, што галодныя. Не маглі яны ў нашым лесе быць галодныя: дзікі, ласі ходзяць, небяспекі не адчуваюць. Дык што ж ім трэба каля адзінокай жылой хаты? Вырашылі напалохаць і выжыць нас?» [5, с. 462]. Гэтае апісанне — прыклад эсхаталагічнай муціраванай рэальнасці, калі ваўкі не баяцца людзей, адчуваюць, што зараз, у зоне павышанай радыяцыі, гаспадары не людзі, а яны — звяры.

Аднак галоўная думка аповесці Івана Шамякіна усё ж, відаць, у тым, што чалавек здольны пераадольваць пакуты, яго нельга запалохаць, хоць калі-нікалі ён робіць памылкі, вырашае заставацца ў зоне павышанай радыяцыі. Праўда, трэба ўлічыць, што гэта яго, хоць і эсхаталагічны, але выбар. Выбар свядомы. І — парадокс: такі смяротны выбар дапамагае жыць героям твора, жыць ля магілы іх сына, у родных мясцінах: «Пасля гібелі Жэні я песімістычна думаў: якая розніца, калі памерці? А цяпер раблюся аптымістам, цяпер загадваю сабе: трэба жыць!» [5, с. 468].

І герой не можа не разумець падтэксту самаіроніі, але і, канешне, таго, што гэтая самаіронія і аптымізм на мяжы зоны павышанай радыяцыі для яго — ратавальныя: «Жывём. І на радыяцыю забываемся. Пакуль што яна літасцівая да нас. Між іншым, яна паменшала — у паветры, а з зямлі мы спажываем адны кветкі. Усё іншае — з зямлі калгаса і горада. Чыстае, нячыстае? Бог яго ведае. Маю дазіметр, але не правяраю…

Што ж, будзем жыць па выслоўю: «Бог не выдасць — радыяцыя не з’есць» [5, с. 466].

Сапраўды, спасцігнуць катастрофу, яе вынікі ў часава-пасторавым вымярэнні, гэтую экалагічную драму сучаснасці нельга без вяртання да культуры з яе найважнейшымі паняццямі і мадэлямі. «Мова традыцыі — сімвалічная па сваёй сутнасці: яна не зводзіцца да аднамернасці фармальнай логікі і заўсёды ўказвае на нешта — невядомае, але нешта адчувальнае», — адзначае Т. Шамякіна [6]. Па сутнасці, адбылася нейкая непарыўная катастрофа ў лёсе чалавека, катастрофа падрыву яго чалавечага самаадчування, катастрофа пераходу яго чалавечага самасцвярджэння ў чалавечае самаадмаўленне, катастрофа адыходу і адчужэння ад прыроднага жыцця. І толькі калі кожны чалавек, як героі твораў Івана Шамякіна, будзе мець надзею на выратаванне і стварыць умовы для яе здзяйснення, Чарнобыль матэрыяльны не пяройдзе мяжу Чарнобыля духоўнага.

**Літаратура:**

1. Локун, В. Іван Шамякін // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 4 т. Т. 3 — Мінск: Беларуская навука, 2001. — 952 с.

2. Бельскі, А. Прапаведнік духоўнасці і чалавечнасці. — Роднае слова. 1996. № 1.

3. Шамякін, І. Злая зорка // І. Шамякін. Збор твораў. У 6 т. Т. 6 Мінск: Маст. літаратура, 2005. — 446 с.

4. Жардзецкая, А. Зямля, параненая Чарнобылем. — Роднае слова. 2003. № 10.

5. Шамякін, І. Зона павышанай радыяцыі // І. Шамякін. Палеская мадонна. — Мінск: Юнацтва. — 1998. 590 с.

6. Шамякіна, Т. Элементы беларускай геасофіі як аснова нацыянальнай літаратурнай класічнай традцыі // Беларуская філалогія: Зб. навуковых прац вучоных філалаг. ф-та БДУ // Пад агульн. рэд. І. Роўды. Вып. 1. — Мінск: ВТАА «Права і эканоміка», 2003.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 17 студзеня 2011 года.

**Маргарыта Прохар**
**«Эсхаталагічныя матывы Чарнобыля ў творчасці Івана Шамякіна»**

**Рэзюмэ**

У артыкуле даследуецца тэма Чарнобыля ў творчасці народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна на аснове рамана «Злая зорка» і аповесці «Зона павышанай радыяцыі». Асаблівая ўвага надаецца параўнанню да- і паслячарнобыльскай рэальнасці. Аўтар выяўляе эсхаталагічныя сімвалы трагедыі.

**Margaryta Prokhar**
**«Eschatalogic motives of Chernobyl in Ivan Shamyakin's writings»**

**The Summary**

The topic of Chernobyl in the writings of Ivan Shamyakin is analyzed by the author of the article on the base of the novel «The Wicked Day-Down» and the story «The District of Increased Radiation». The important aspect of this exploring is the comparison of the situation over Chernobyl before and after the tragedy. Its eschatologic symbols is enucleated by the author.

Валерый МАКСІМОВІЧ

# ТРАДЫЦЫЯ Ў ЖЫЦЦІ АСОБЫ І ГРАМАДСТВА

Ва ўмовах фарміравання новай цывілізацыйнай парадыгмы асаблівую значнасць і важнасць набывае праблема захавання ментальнага, духоўнага свету сучаснага чалавека, яго каштоўнасных арыенціраў, маральных якасцей, актыўнай светапогляднай пазіцыі, што ў вялікай ступені ўплывае на дынаміку сацыяльных і міжасобасных адносін у грамадстве. Надзённай і актуальнай у кантэксце выклікаў сучаснасці выступае задача распрацоўкі комплексу мер, скіраваных на ўмацаванне нацыянальнай бяспекі, на захаванне і развіццё традыцыйных духоўных каштоўнасцей, нацыянальнай ідэнтычнасці. Абсалютна зразумела, што фарміраванне ўнутраных духоўна-творчых інтэнцый і якасцей не адбываецца спантанна, хаатычна. Духоўна-маральны складнік мае на мэце наяўнасць пэўных генетычна (псіхалагічна) зададзеных параметраў, якія атрымліваюць сваё развіццё, самаўдасканальваюцца, крышталізуюцца ў працэсе індывідуальнага і гістарычнага станаўлення, духоўнага росту, сацыяльнай камунікацыі. Іншымі словамі, алгарытм грамадскага развіцця неабходна разглядаць у цеснай сувязі з перадумовамі і фактарамі сацыяльнай эвалюцыі ва ўсёй яе складанасці і варыятыўнасці, гістарычнай і грамадска-сітуацыйнай абумоўленасці.

Надзвычай дзейсным сродкам у сістэме нацыянальнай бяспекі з'яўляюцца нацыянальныя каштоўнасці, захавальнікам і рэнтраслятарам якіх па праве лічыцца нацыянальная культура і, у прыватнасці, літаратура. Не патрабуецца доказаў таго, што перадусім у культуры і мастацтве па-свойму кандэнсуецца гістарычны і духоўны вопыт многіх пакаленняў, замацоўваюцца і транслююцца гістарычныя (сакральныя) архетыпы, міфалагемы, сімвалы, вобразы ці, па-іншаму, семантыка-аксіялагічныя структуры культурнай рэальнасці, у якіх утрымліваюцца сталыя, замацаваныя традыцыяй коды жыцця- і культурадзейнасці, дзякуючы чаму захоўваецца і ўзнаўляецца нацыянальная стратэгія жыццядзейнасці ўвогуле. Больш за тое, кожная асобна ўзятая традыцыя выступае ў ролі носьбіта канкрэтнага нацыяўтваральнага кода, так бы мовіць, канстытуяванага рэгістра агульнапрынятых сістэмаўтваральных каштоўнасцей, у адпаведнасці з якімі ажыццяўляецца духоўная сувязь паміж многімі пакаленнямі людзей. Пэўная канфігурацыя каштоўнасцей культуры складае яе базіснае ядро, генатып, якім абумоўлены ўнутрысацыяльныя сувязі і міжасабовыя кантакты. У дачыненні да сфер мастацтва мае сэнс гаворка пра нацыянальны акцэнт, што «ўяўляе сабою гістарычна абумоўленую характэрнасць, <…> адметныя рысы мастацкага генія пэўнага народа, якія ўдзельнічаюць у фарміраванні стылю і працягваюць істотна ўплываць на яго далейшае развіццё… Нацыянальны акцэнт можа быць арыенцірам і для эвалюцыі літаратуры, і для фарміравання нацыянальнага характару, і ў палітычна-ідэалагічнай сферы»[1].

Ва ўмовах непазбежных цывілізацыйных трансфармацый існуе рэальная небяспека паслаблення, а то і відавочнай мутацыі камунікатыўных сувязей, разбалансавання механізмаў, якія забяспечваюць устойлівасць самой сацыяльнай

[1] Никитин В. А. Национальная традиция в поэтическом стиле // Многообразие стилей советской литературы: Вопросы типологии. — М., 1978. — С. 257.

сістэмы. Разам з гэтым назіраецца працэс дэвальвацыі актуальных нацыянальных і агульначалавечых каштоўнасцей, што ніякім чынам не спрыяе захаванню грамадствам сваёй ідэнтычнасці, стабілізацыі сацыяльных працэсаў. Вось чаму ўзнікае пільная патрэба звароту да гісторыка-культурнага вопыту традыцыйных грамадстваў, у якім скандэнсаваныя сэнсава-духоўныя, базісныя нормы, правілы, каштоўнасна-светапоглядныя ўніверсаліі. Прафесар Леанід Землякоў у гэтай сувязі адзначае, што «пошук духоўных арыенціраў, якімі будзе кіравацца наша краіна ў XXI стагоддзі, мае на мэце яснае разуменне кожным індывідам у межах працэсу грамадскага быцця асобага месца і ролі духоўна-маральных традыцый як сістэмаўтваральных каштоўнасцей, дзякуючы якім развівалася Беларусь на працягу шматвекавой гісторыі»[1]. Іншымі словамі, роля і значэнне традыцыі ў шырокім значэнні слова павінны разглядацца ў культурна-гістарычнай перспектыве з улікам здольнасці апошняй да трансляцыі духоўна-практычнага вопыту, які напрамую звязаны з развіццём псіхікі, свядомасці, светаўспрымання чалавека як прадстаўніка пэўнага этнасу. І ў гэтым сэнсе ад традыцыі, ад духоўнага вопыту папярэднікаў залежыць працэс выпрацоўкі сэнсавай і жыццёвай каштоўнасці грамадска-культурнага жыцця, фарміраванне ўнутранага свету чалавека.

Незаменнасць, архіважная запатрабаванасць мастацкай традыцыі ў станаўленні чалавека як асобы, як суб’екта сацыякультурнага працэсу заключаецца ў забяспечанасці яго рэальнай прысутнасці ў шматлікіх культурных формах сучаснасці. Дзякуючы сваёй трансляцыйнай прыродзе (здольнасці перадаваць духоўны аспект жыццёвага вопыту) традыцыя набывае якасць аднаго з найважнейшых інструментаў сэнсава-жыццёвага спасціжэння свету, становіцца перадумовай паспяховай сацыялізацыі суб’екта ў межах канкрэтнай нацыянальнай культуры. Варта нагадаць, што працэс сацыялізацыі непарыўна звязаны з засваеннем духоўных атрыбутаў папярэдніх пакаленняў і актуальнай сучаснасці. У працэсе сацыялізацыі чалавек авалодвае светам культуры, пры гэтым сацыяльнае атачэнне выступае толькі неабходнай умовай і прадпасылкай структуравання пэўнага культурнага кантынууму. У складаным і стракатым працэсе ўзаемаабумоўленых унутраных пераўтварэнняў традыцыю варта прызнаць ахоўнай уласцівасцю культуры і адным з найважнейшых складнікаў жыццядзейнасці грамадства. Не выклікае ніякага сумнення, што «ў падмурку любога сацыяльнага працэсу ляжыць каштоўнасная структура культурнай свядомасці» і што з улікам выклікаў тэхнагеннай цывілізацыі існаванне прасторы сацыяльнага ўзаемадзеяння магчыма толькі «дзякуючы духоўным і інтэлектуальным намаганням людзей»[2]. Размова ідзе пра нязменную, звышзапатрабаваную важнасць псіхалагічных умоў (нават на ўзроўні пабытавай свядомасці), якія дзейсна ўплываюць на пазітыўную працэсуальнасць жывога судакранання з акаляючым асяроддзем, актыўнае суразмоўе суб’екта з прамацярынскім светам культуры, што дазваляе, у сваю чаргу, дасягнуць арганічнага яднання носьбіта нацыянальнай ментальнасці з усёй нацыянальна-этнічнай прасторай. Гэта лішні раз пацвярджае той факт, што чалавеку, каб стаць і лічыць сябе паўнапраўным і паўнацэнным носьбітам нацыянальнай ідэнтычнасці, патрэбна жыць у роднай стыхіі, адчуваць асалоду ад жывога з ім судакранання, быць дзейсна, а не фармальна далучаным да жывых праяў рэчаіснасці, традыцый, грамадскіх сувязей і адносін. Прычым гэтыя сувязі і адносіны павінны мець перманентны характар, што дазволіць ім назапашвацца, архівіравацца ў сацыякультурнай памяці носьбітаў нацыянальнага, актуалізавацца, узнаўляцца ў розных формах, відах, стратэгіях жыццядзейнасці. Толькі пры ўмове паўнавартаснага задзейнічання

[1] Земляков Л. Е. Традиционные духовно-нравственные ценности — важнейшая составляющая идеологии белорусского государства // Духовно-нравственное воспитание на основе отечественных культурно-исторических и религиозных традиций и ценностей: материалы Междунар. науч.-практ. конф., Жировичи, 27 мая 2010 г. — Минск, 2010. — С.19.

[2] Порус В. Н. Интеллект как культурная ценность // Вестник Российского философского общества. — 2009. № 1(49). — С. 84.

ўсіх наяўных механізмаў этнакультурнага кантэксту магчыма дасягненне паўнаты жыцця, спалучанага з гармоніяй побытава-паўсядзённага і ўзвышана-сакральнага, прыватнага і агульназначнага, нацыянальнага і ўніверсальнага.

У дадзеным выпадку размова ідзе пра магчымасць у працэсе нацыярэцэпцыі падключыцца ў агульную сістэму трансляцыі аксіялагічнага плана сацыялізацыі, якая задае кірунак і матываванасць засваення разнастайных форм чалавечай культуры. Менавіта цеснае судакрананне з традыцыяй, з духоўна-творчым вопытам папярэднікаў дазваляе скарэкціраваць пэўны светапоглядны баланс у сістэме «чалавек — свет», выпрацаваць аптымальную канстытуяваную форму светаўспрымання і светаадносін. Іншымі словамі, пераемнасць усяго сацыяльна-псіхалагічнага комплексу як адкрытай сістэмы, якая развіваецца ў сілу сваіх унутраных аб’ектыўных законаў, забяспечваецца моцнай духоўна-крэўнай сувяззю, што існуе паміж пакаленнямі. Усведамляючы сваю арганічную спрычыненасць да непарушных, унутрана засвоеных артэфактаў нацыянальнай гісторыі і культуры, чалавек, аб’ектыўна, лягчэй арыентуецца ў навакольным свеце і адчувае сваю духаментальную абароненасць, сваю непарыўную сувязь з часам мінулым і сённяшнім, з культурнымі набыткамі ўсяго чалавецтва. Да таго ж адкрываецца магчымасць быць рэальна далучаным да агульнай справы, стаць паўнапраўным суб’ектам жыцця. Вось чаму традыцыя ў яе ўніверсальным значэнні дазваляе ўнікнуць крызісных праяў у сферы духоўна-маральнага і грамадска-сацыяльнага, выступае гарантам устойлівасці, стабільнасці функцыянавання ўсяго сацыякультурнага арганізму як неабходнай передумовы для яго далейшага паўнацэнага развіцця, спрыяе спасціжэнню ўніверсальна-сутнаснага разумення існасці быцця, гісторыі, чалавека, яго месца і прызначэння ў свеце, фарміраванню паважлівага стаўлення да іншых людзей і да самога сябе. Без перабольшвання можна сцвярджаць, што традыцыя ў самым шырокім значэнні слова ўплывае на ўсю жыццядзейнасць чалавека, яго ментальнасць, псіха-эмацыянальны стан, жыццёва важныя прыярытэты і перакананні, вызначае алгарытм жыццёвых паводзін, дабратворна ўплывае на эвалюцыйнае развіццё соцыума ўвогуле. Менавіта стала замацаваныя ў культуры і літаратуры «кодэксы» з’яўляюцца стабілізуючымі фактарамі захавання і збераджэння этычных і эстэтычных каштоўнасных матрыц грамадскай свядомасці, спрыяюць выпрацоўцы, фарміраванню духоўных запытаў. Усё гэта складае кансерватыўна-ахоўную дамінанту калектыўнай свядомасці.

Добра вядома, якім багатым і каштоўным духоўна-маральным і эстэтычным патэнцыялам валодае беларуская літаратура, што сваімі каранямі глыбока і цесна паяднана з вусна-паэтычнай творчасцю народа, з усім комплексам яго этычных і эстэтычных установак і ўяўленняў. Фальклорна-міфалагічны субстрат аб’ектыўна спрыяў фарміраванню нацыянальнай культурнай мета- або субструктуры — той ідэальнай формы мастацкага мадэлявання канцэпцыі нацыянальнага быцця, на што была скіравана ўся культурна-духоўная чыннасць айчынных будзіцеляў і прарокаў. Дзякуючы гістарычнай пераемнасці, трансляцыі традыцыі перад літаратурай адкрываліся неабмежаваныя магчымасці для ідэйна-канцэптуальнага выражэння нацыянальнага светабыцця, распазнавання «генетычнай матрыцы мыслення». Менавіта традыцыя ў яе анталагічнай сутнасці склала аснову нацыянальнага архетыпу — спецыфічнага сродку праяўлення нацыянальнай рэцэпцыі, тых нацыянальных адносін, норм, прынцыпаў маралі, якія служылі ўмовай і сродкам канкрэтызацыі маральна-этычнага імператыву, спасціжэння законаў чалавечай супольнасці, а разам з тым універсальных законаў быцця. Гэта той самы выпадак, калі літаратура, кіруемая высакароднай патрыятычнай ідэяй, бярэ на сябе задачу фарміравання нацыянальнага тыпу светабачання і светаразумення (нацыянальнага тыпу экзістэнцыявання), грунтуючыся пры гэтым на пэўнай сістэме светапоглядных уяўленняў, уключаных у рэестр унутры- і пазакантэкставых сувязей.

Відаць, з гэтай прычыны нароўні з пазнаваўчай, стваральнай і камунікатыўнай вялікую вагу зараз набывае рэгулятыўная функцыя мастацтва, непасрэдна звязаная з выяўленнем этычнага кампанента. Па словах даследчыкаў, «менавіта

гэты бок жыццепрыняцця складае асаблівую ў сваёй псіхалагічнай ёмістасці плоскасць разумення этыкі як умовы духоўнага засваення акумуляваных у чалавечым вопыце сэнсазначных утварэнняў, якія складаюць каштоўнасны рад, што пранізвае «вертыкаль» развіцця канкрэтнага сацыяльнага ў формах чалавечай культуры»[1]. Да месца будзе зрабіць удакладненне наконт таго, што сам лацінскі тэрмін *культура*, па словах даследчыкаў, у часы Антычнасці «ўжываецца практычна як сінонім грэчаскаму *paideia* (выхаванне ў адпаведнасці з традыцыямі этнаса, норава-традыцыі»[2].

Спрычыненасць да агульнапрынятых прынцыпаў і норм, перакананняў і ідэй, якія складаюць аснову грамадскай структуры, дазваляе сцэментаваць, злучыць у адзінае цэлае розныя часткі сацыяльнага арганізма, кансалідаваць грамадства, актывізаваць працэс нацыянальнай самаідэнтыфікацыі, а тым самым і дасягнуць духоўнага адзінства. Варта ў гэтай сувязі падкрэсліць, што ў сённяшняй сацыякультурнай прасторы з яе імклівым разгортваннем працэсаў глабалізацыі праблему нацыянальнай ідэнтычнасці варта аднесці ў разрад праблем асобага стратэгічнага кірунку. Пры шматвектарнасці падыходаў і трактовак (часам неадназначных, а то і палярных) варта пагадзіцца з тым, што чалавек у XXI стагоддзі не павінен стаць «закладнікам», а тым больш «ахвярай» глабальных працэсаў, наўпрост звязаных з небяспечнымі праявамі нівеліравання, стандартызацыі асобы як носьбіта індывідуальнага пачатку. Выказаная перасцярога набывае асаблівае значэнне і першаступенную важнасць ва ўмовах духоўна-культурнага крызісу, глыбокай сацыяльнай дыферэнцыяцыі і палярызацыі, дэвальвацыі і размывання гістарычна ўсталяваных (канстытуяваных), выпрацаваных у працэсе культурагенеза сацыяльных каштоўнасцей і грамадскіх практык. Іх вольнае або міжвольнае ігнараванне або адмаўленне непапраўна ўплывае на ўнутрана-псіхалагічны стан чалавека, які, пазбаўлены надзейнага духоўнага апірышча, паступова мімікрыруе, звыкаецца з адсутнасцю цвёрдага жыццёвага стрыжня, незаўважна для сябе адаптуецца, прыстасоўваецца да інертнага ладу жыцця, успрымаючы свой стан як аб'ектыўную дадзенасць, і, у выніку, дэградуе, страчваючы сваю самаідэнтычнасць. У гэтай сувязі нельга пагадзіцца з навязлівай ідэяй новага сусветнага беспарадку, узрастання хаосу як праяў «свабоднага», альтэрнатыўнага развіцця грамадства і асобы. Падобныя заявы пярэчаць сутнаснай прыродзе чалавека, у якім жыве адвечнае невыкараняльнае імкненне да ўгрунтаванасці, стабільнасці, устойлівасці светабудовы і ўласнай самасці. Успрыманне свету як упарадкаванай і структурна арганізаванай цэласнасці, якая развіваецца па сваіх аб'ектыўных законах і заканамернасцях, дабратворна ўплывае на біяпсіхалагічны статус індывідуума, дапамагае яму ўсвядоміць сваё месца ў сістэме грамадскіх і сацыякультурных адносін. Менавіта прытрымліванне родава-генетычных «культурных праграм» як базавых механізмаў самазахавання і самаўзнаўлення гістарычнага вопыту дазваляе пэўным чынам структурыраваць, алгарытмізаваць свядомасць, актывізаваць яе стваральную дамінанту, надаўшы ёй каштоўнасны змест і сэнс.

Арганічнае ўспрыманне факта пераемнасці (родавай, гістарычнай, культурнай і г. д.) пры адпаведных умовах актывізуе творчы пачатак чалавека, яго імкненне ўсвядоміць сваё месца, сваё прызначэнне ў жыцці, сэнс чалавечага існавання ўвогуле. Сёння становіцца відавочным фактам, што «грамадства як асаблівая, гранічна складаная, космапланетарная сістэма здольная выжыць і нармальна функцыяніраваць як цэласны арганізм толькі ў форме культуры, сцвярджаючы духоўны тып светаадносін»[3]. Сімптаматычна, што грамадскія дзеячы, дзеячы навукі і культуры ўсё часцей пачынаюць гаварыць пра неабходнасць складвання

---

[1] Иванов С. П. Субъект художественного действия в построении и развитии культурных сфер // Человек как субъект культуры. — М, 2002. — С.356.

[2] Философия культуры. Становление и развитие. — СПб., 1998. — С.17.

[3] Большой энциклопедический словарь: философия, социология, религия, эзотеризм, политэкономия. — Минск, 2002. — С. 7.

гарманічнага грамадства, у аснове якога павінен ляжаць духоўны пачатак як яго найважнейшы структураўтваральны складнік. Духоўнасць жа ў самым шырокім значэнні слова павінна ахопліваць усе сферы дзейнасці грамадства — ад міжасабовых, сямейна-бытавых адносін да палітычных і дзяржаўных структур, ад гаспадарча-эканамічных да нацыянальна-этнічных і канфесійных узаемастасункаў.

Менавіта пошук духоўнай сутнасці вызначаў галоўную, дамінантную лінію развіцця беларускай літаратуры на працягу яе гістарычнага развіцця. Гэта натуральна стасавалася як з эстэтычнымі прынцыпамі літаратуры, так і агульнымі тэндэнцыямі гісторыка-культурнага развіцця, імкненнем да спасціжэння аб'ектыўных заканамернасцей жыцця, схільнасцю да разамкнёнасці, інтэгравання матэрыялу ў арганічным мастацкім цэлым, разнастайнасцю падыходаў да пераасэнсавання і трансфармацыі жыццёвага матэрыялу.

Калі ўжо і гаварыць пра неабходнасць знаходжання новых сродкаў удасканалення адносін «чалавек — свет», то яны, на нашу думку, павінны ляжаць у плоскасці гарманізацыі грамадства з Сусветам, цывілізаваных прынцыпаў узаемаадносін у самім грамадстве. А для гэтага неабходна пераадолець камунікацыйны хаос, кансалідаваць грамадства, канцэнтруючы яго духоўную энергію з мэтай захавання касмічнага парадку на якасна новым узроўні, у тым ліку і праз гарманізацыю сацыяльнага і асабістага быцця, праз сцвярджэнне духоўнага тыпу светаадносін. І ў гэтым вялікую ролю можа адыграць як літаратура — класічная і сучасная, так і мастацтва ўвогуле.

У кантэксце разваг пра ролю традыцый у сацыякультурнай дынаміцы сучаснасці нашай класічнай літаратуры належыць аддаць першынство. Менавіта творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, Цёткі (А. Пашкевіч) даюць прыклад глыбокага спасціжэння і мастацка-філасофскага асэнсавання гістарычнага шляху народа ў сцвярджэнні сваёй нацыянальнай ідэнтыфікацыі. З імёнамі нашых класікаў звязана лёсавызначальная сутнасць літаратуры, яе знакавыя вехі, імклівы эстэтычны рост, росквіт і яе сусветнае значэнне. Класікі беларускай літаратуры, закліканыя гісторыяй здзейсніць архіважную адраджэнскую місію, будучы выразнікамі імкненняў, надзей і чаканняў свайго народа, не маглі не клапаціцца і пра яго нацыянальнае і грамадзянскае ўзмужненне, пра раскрыццё ўсёй глыбіні духоўнага, унутранага свету свайго сучасніка. Літаратура станавілася трыбунай для абуджэння нацыянальнай свядомасці беларускага народа, своеасаблівым канцэнтратам яго духоўнасці і пасіянарнасці. Надзвычай інтэнсіўныя сацыякультурныя працэсы, якія пазначалі этапы станаўлення і развіцця грамадства, адкрывалі шлях для культывавання пачуцця нацыянальнай годнасці, нацыянальнага самапазнання, спрыялі генерацыі новых ідэй, фарміраванню новага светаразумення і светаўспрымання.

Менавіта беларускія пісьменнікі-адраджэнцы ўзялі на сябе адказную місію быць генератарамі і праваднікамі нацыянальнай ідэі. Палымяным мастацкім словам яны выклікалі ў людзях пачуццё роднасці, духоўнай, чалавечай і нацыянальнай салідарнасці, узаемадапамогі і ўзаемападтрымкі, заклікалі з павагай, беражліва ставіцца да нацыянальных і гістарычных святынь. Класікі нашай літаратуры жылі і тварылі з вераю ў заўтрашні дзень, у шчаслівую долю народа, маючы на мэце агульнанародны інтарэс, сыходзячы з пазіцыі стваральнага і пазітыўнага дыялогу з жыццём.

Традыцыі класікаў плённа працягваюць і ўзбагачаюць нашы сучасныя пісьменнікі. Сёння пры ўсёй шматмернасці і неадназначнасці працэсаў нівеліравання, стандартызацыі жыцця назіраецца дыялектычнае ўзаемадзеянне традыцый і творчасці, традыцый і інавацый. Пры ўсёй відазмененасці падыходаў да рэалізацыі эстэтычнага ідэалу незаменным застаецца гуманістычны пафас нашай нацыянальнай літаратуры, адстойваецца права на самастойны творчы пошук. У высокамастацкіх творах сучаснай літаратуры арганічна прысутнічае жаданне прытрымлівацца сталых духоўных канстант, выпрацаваных шматвяковай гісторыяй народа, замацаваных традыцыяй жыццёвых прынцыпаў і сацыяльных нормаў.

Разам з тым варта ў гэтай сувязі падкрэсліць, што менавіта творчасць з'яўляецца і фактам назапашвання, і фактам эстэтычна дзейснай трансфармацыі і ўзбагачэння раней назапашанага вопыту. У дадзеным выпадку размова ідзе не толькі пра ступень і ўзровень сацыяльна засвоеных (і прысвоеных) грамадскіх норм, канонаў, стандартаў, традыцый, якія аднесены ў разрад сістэмацэнтруючых, а пра неабходнасць абнаўлення іх якасных характарыстык, больш за тое, пра фарміраванне прынцыпова новых з'яў, структур, асобных артэфактаў са змястоўна і якасна новымі характарыстыкамі. А мастацтва, як вядома, самым непасрэдным чынам звязана з тварэннем, з творчасцю, з магчымасцю выхаду ў новае сацыякультурнае, каштоўнасна-духоўнае вымярэнне. Прычым творчасць у гэтым сэнсе разумеецца як асобага складу дзейсная актыўнасць, абумоўленая ўнутраным інтэлектуальным патэнцыялам пасіянарнага тыпу асобы, крэатыўнасць якой перадусім абумоўлена ўласнай прыродай і субстанцыйнай сутнасцю, закладзенай у яе генезісе ў якасці феномена асаблівай — культуратворчай — дзейнасці. Адметнай рысай творчай эліты з'яўляецца яе «іншадумнае памежжа», імкненне стварыць поле варыятыўных магчымасцей. Узніклыя ў зоне пазначанага памежжа «інавацыі здольныя больш або менш радыкальна змяніць воблік актуальнай культуры, а ўслед за тым і актуальнасць соцыуму, садзейнічаць іх прагрэсіўнаму развіццю (стварэнню новых каштоўнасцей і адносін, узбагачэнню сацыякультурных форм і напаўненню іх новымі сэнсамі і значэннямі»[1].

Сённяшні час пераконвае ў тым, што літаратура ва ўмовах пераходнага перыяду, трасфармацыі і ўзнаўлення ранейшых форм сацыяльнай камунікацыі заклікана супрацьстаяць каштоўнаснаму рэлятывізму, распаўсюджванню бездухоўнасці, навязванню дэструктыўных стэрэатыпаў паводзін і абясцэньванню сапраўднай сутнасці быцця. У гэтым сэнсе прадстаўнікі творчых прафесій павінны заставацца партнёрамі і аднадумцамі ў светапоглядным дыялогу і супрацоўніцтве паміж рознымі галінамі міжкультурнага дыскурсу, у выпрацоўцы ўзважаных падыходаў і рашэнняў па забеспячэнні стабільнага і ўстойлівага развіцця сацыякультурных сфер грамадства, актыўна ўдзельнічаць ў фарміраванні грамадскай свядомасці. Творчая інтэлігенцыя як ніхто іншы павінна аб'яднаць свае намаганні па дзейсным уплыве на айчынную сістэму адукацыі, маральнага і грамадзянска-патрыятычнага выхавання, а таксама на сучасныя сродкі масавай інфармацыі як важнейшы інструмент фарміравання грамадскай свядомасці з мэтай распаўсюджвання высокіх узораў культуры, сацыяльных паводзін, агульначалавечых маральна-этычных норм, якія пакладаюцца на гістарычныя традыцыі і хрысціянскія каштоўнасці. Не выклікае сумнення, што літаратарам належыць першынство ў місіі выхаваўчага ўздзеяння на масавую свядомасць: арыентаваць увагу грамадскасці не толькі на паўсядзённыя пытанні сацыяльна-эканамічнага жыцця краіны, але і на глабальныя праблемы гуманітарнага развіцця, а таксама на тое, што дазваляе чалавеку ў сучасным зменлівым свеце заставацца чалавекам, а культуры — захоўваць і актуалізаваць узоры сапраўднай духоўнасці, высокай маральнай чысціні.

Дзяржаўнае і нацыянальнае ўмацаванне нашай суверэннай краіны ў многім залежыць ад таго, наколькі мы, яе грамадзяне, усвядомілі і ўсведамляем неацэнную ролю нацыянальнай традыцыі ў фарміраванні пазітыўнага іміджу краіны, ва ўмацаванні духоўных асноў дзяржавы і нацыі. Спаконвечныя, выпрацаваныя на працягу стагоддзяў гуманістычныя прынцыпы і ідэалы пераканаўча засведчылі сваю непераходнасць, жыццястойкасць і запатрабаванасць у адвечным пошуку шляхоў да спазнання існасці. І ў сённяшні пераходны перыяд традыцыя застаецца незаменным фактарам выпрацоўкі стратэгій і механізмаў умацавання светапоглядных і духоўна-маральных асноў грамадства і асобы, усіх сфер грамадскай жыццядзейнасці.

---

[1] Кондаков И. В. Интерсубъективность культуры // Человек как субъект культуры. — М., 2002. — С.164.

Андрэй ЦЯЎЛОЎСКІ

# У ПОШУКАХ СЛОВА

***Штрыхі да творчага партрэта Міхася Башлакова***



*Міхась Башлакоў.*

Як вядома, лягчэй за ўсё пісаць пра тое, што ведаеш сам. Ці лёгка мне пісаць пра Міхася Башлакова? У нечым так — бо я ўжо колькі гадоў асабіста і цесна знаёмы з ім. А ў нечым складана — па той жа самай прычыне.

Наша знаёмства нельга назваць выпадковым. Раней ці пазней гэта павінна было адбыцца — сустрэча паэта і перакладчыка. Для мяне гэта адбылося «раней» — амаль на пачатку маёй літаратурнай кар’еры. А пачалося ўсё з тэлефанавання восенню 2003 года:

— Андрэй Канстанцінавіч? Дзень добры. Гэта паэт Міхась Башлакоў. Хацеў бы пагаварыць з вамі наконт перакладаў…

На той момант ягонае прозвішча мне амаль было не знаёма. Да свайго сораму, я наогул дрэнна ведаў сучасную беларускую паэзію.

Перад тым, як ісці на сустрэчу, запытаўся ў аднаго добрага знаёмага, вельмі паважанага мною чалавека: а хто ён — Міхась Башлакоў? І атрымаў адказ:

— Башлакоў — чалавек цяжкі. Яму няпроста дагадзіць!

Так, пачутае настроіла мяне на чаканне вельмі прыдзірлівага падыходу да маіх перакладаў. І, аглядаючыся назад, нельга сказаць, каб я памыліўся. Былі потым і шматразовыя выкрэсліванні, бясконцыя выпраўленні ў пошуках адзіна правільнага слова, спрэчкі і перапісванні перакладзенага… Але ўсё-такі слова «цяжкі» — не зусім дакладнае. Яно не адпавядае як характару, так і натуры Міхася Башлакова. Строгі, часам нават суровы. Бескампрамісны ва ўсім, што тычыцца творчасці. Але толькі не цяжкі. Далікатны і нават мяккі. А ягоныя вершы лёгкія, чыстыя і празрыстыя, і ў той жа час вельмі натуральныя, як само жыццё. Яны гучаць настолькі арганічна і звыкла, што не патрэбна іх нават паўтараць. Запамінаюцца самі.

Паэты ведаюць, як няпроста даецца такая лёгкасць.

Не дзіўна, што першы прыём быў даволі халаднаватым. Аддаць свае вершы на пераклад азначае даверыць самае запаветнае старонняму чалавеку. Дазволіць *перарабляць* на свой манер тое, што гэты чалавек не *выпакутаваў*, дазволіць памяняць свае, з такой цяжкасцю знойдзеныя радкі на… што? Ліра — вельмі далікатны інструмент, які надта лёгка могуць зламаць чужыя рукі. Зразумела, што да перакладчыка, тым больш незнаёмага, паэт будзе ставіцца насцярожана. Ды для мяне гэта не мела сур’ёзнага значэння. Галоўнае — вершы ў мяне, і мне дазволена сама менш адна спроба — каб яны загучалі па-руску.

І першымі радкамі, якія я прачытаў, былі:

Што звініць над ціхім снегам,
Над тужлівасцю палёў?
Замарожанае рэха
Адляцелых жуаравоў…

Цяжка выказаць словамі, што я адчуў пры гэтым. Усё так проста і… так чароўна. Некалькі лёгкіх, празрыстых мазкоў — і вось яна, карціна, перад вачыма, у сэрцы! Гэта мае вобразы, мае пачуцці! Гэткае дзіўнае і дзівоснае адчуванне роднасці паэтычных радкоў. Я павінен захаваць гэтую мелодыю, бо яна — *мая*:

Крик печальный наплывает
На остывшие холмы.
Только разве так бывает —
Журавли среди зимы?

Тыя, хто чытаў «Нетры» (а там паралельна пададзены абодва тэксты — і беларускі, і рускі), лёгка пераканаюцца, што гэта не даслоўны пераклад другой страфы. З гэтага пункта гледжання ён недакладны. Але паэзія не з'яўляецца дакладнай навукай. Вершам Міхася Башлакова не патрэбны падрадкоўнік. Усе словы, метафары, моўныя канструкцыі ў іх простыя, асноўны сэнс іх (і гэта праверана практыкай!) і без перакладу зразумее і рускі, і ўкраінец, і паляк. Аднак жа верш — не проста набор слоў. Ёсць яшчэ нешта, амаль няўлоўнае, што называецца душой верша. І душа гэтая жыве ў першую чаргу ў дзівоснай мелодыцы лірычных твораў, у народнай прастаце вобразаў, у іх выключнай *гарманічнасці*. Паспрабуйце перакласці душу!

Вось гэтая *душэўнасць* (а разам з ёй і *духоўнасць*) і ёсць сэрца паэзіі Міхася Башлакова. Аўтар і сам кажа пра гэта ў вершы «Паэзія»:

Ты трымайся, радок, за душу.
Без яе ты не варты нічога.
Ёсць душа — значыць верш напішу.
А няма — дык не дадзена Богам…

Пераклад верша не павінен быць даслоўны, ды я і не імкнуўся да гэтага. Тут, як мне здаецца, трэба падыходзіць так, як імпрэсіяністы падыходзілі да жывапісу. Карціны Манэ не адлюстроўваюць Парыж — яны перадаюць уражанне майстра ад Парыжа. Я ж імкнуўся перадаць уражанне ад верша, данесці яго, хай і з дапамогай іншых слоў, да рускамоўнага чытача — а ўражанне гэта было настолькі яскравым і дзівосным, што радкі пісаліся лёгка, на адным дыханні да апошняй страфы:

И звенит над сонным снегом,
Над бессонницей моей
Замороженное эхо
Отлетевших журавлей.

Ужо потым, у размовах з Міхасём Башлаковым, я зразумеў, адкуль узнікла пагалоска аб яго нелюбові да перакладчыкаў. Так, перакладчыкі з Расіі перакладалі яго даволі многа, дакладна і… няўдала. Пэўна, менавіта таму, што яны былі выдатнымі, але *рускімі* перакладчыкамі. А Міхась Башлакоў — вельмі *беларускі*, нацыянальны паэт. За простымі словамі яго вершаў хаваюцца сімвалы, якія шмат чаго гавораць беларусу, пэўным чынам настройваюць чытача ці слухача, але ж гэтая сімволіка можа нічога не азначаць для чытача расійскага (маю на ўвазе пераклад на рускую мову), таму даслоўны «адбітак» паэтычнага радка не кране сэрца ў перакладзе. Я кажу не толькі пра такія адмысловыя

паняцці, як «купальскія вянкі», «Каляды», «ростань» і гэтак далей, разуменне якіх патрабуе пэўнага ведання народных традыцый і гісторыі, але і пра словы, якія перакладаюцца нібыта адназначна. Узяць, напрыклад, тое ж слова «радок»: *Божа светлы, / Як мала прапета… / А душа / Паплыла, як лісток… / Ірванецца, / Падхоплены ветрам, / Мой апошні / Палескі радок…* («На апошняй зямлі»). Якія асацыяцыі дае слова «радок»? «Рад» — адзіны рад з лісцём, што сплывае ўдалеч, «рэдкі» — радок *апошні*, пры тым, што *мала прапета*, аднак і «радасць», што толькі надае трагізму ў спалучэнні з вызначэннем «апошні». Вось колькі планаў у «звычайным» слове! А што ў рускім слове «строка»? «Стрекотание», «строгость», «срок»… «Строка» як слова нічым не горшая за «радок», але ў яго зусім іншыя эмацыянальныя адценні. І дакладны пераклад выкліча зусім іншыя пачуцці, чым арыгінал. І, значыцца, трэба адысці ад дакладнасці, узяць іншыя словы, каб вярнуць перакладзенаму вершу яго першапачатковы сэнс і эмацыянальнае ўздзеянне. Верш трэба *перастварыць* нанова, паставіўшы сябе на месца аўтара. Але каб зразумець гэта, каб *адчуць* тое, што заклаў у словы аўтар, мала ведаць беларускую мову — трэба быць беларусам. Якім ёсць сам аўтар. Бо я не думаю, што, складаючы верш, Башлакоў аналізуе ўсе гэтыя планы і асацыяцыі, якія выкліча пэўнае слова. Ён проста адчувае мову, дыхае ёй, гэтыя словы жывуць у яго ў крыві — так, «вершы пішуцца крывёй».

У адносінах да Міхася Башлакова гэта мае амаль літаральнае значэнне. Адзін з яго наймацнейшых твораў — паэма «Лілея на цёмнай вадзе» — распавядае пра Чарнобыльскую трагедыю, як яе ўбачылі вочы паэта. Прычым убачылі не ў пераносным сэнсе. Паэт пасля той жудаснай аварыі шмат ездзіў па зоне, сустракаўся з людзьмі, чытаў ім свае вершы… Асэнсоўваў… Вынікам стала падарванае здароўе — і «Лілея…» Як ён і сам часцяком кажа, за паэму гэтую ён заплаціў немалую цану. Мо таму так моцна гучаць, б'юць у сэрца «чарнобыльскія» радкі. Падабраць традыцыйнае вызначэнне для «Лілеі...» няпроста. Гэта не эпічны твор, бо ў ёй няма адзінай сюжэтнай лініі, хаця і нямала герояў — жывых і нябожчыкаў, сапраўдных і казачных. «Энцыклапедыяй жыцця ў зоне» я б яе таксама не назваў, хаця яна і ахоплівае розныя бакі таго самага жыцця. Можа падацца, што паэма распадаецца на шэраг асобных вершаў, бо кожную з яе частак і часцінак можна чытаць як асобны твор. Усе яны розныя і па тэме, і па пабудове, і ўсё ж такі разам яны складаюць адзіны аповед пра вандраванне паэта па зямной і духоўнай прасторы, пад чорным крылом Чарнобыля… Башлакоў мо адзіны, хто здолеў у сваім творы на нялёгкую чарнобыльскую тэму спалучыць такія супярэчлівыя пачуцці, як смутак і надзею, адчай (нездарма ў паэме так часта паўтараецца слова «апошні» — «апошняя зямля», «апошняе маленне») і веру, праз зварот да язычніцкіх каранёў («язычнік я», — кажа лірычны герой Башлакова ў адным з вершаў) сцвердзіць высокія хрысціянскія каштоўнасці.

Сцвердзіць не толькі ў паэзіі, але і ў сваім жыцці. Самаадданая праца па захаванні і аднаўленні нашай агульнай гісторыі праз гісторыю кожнага раёна, ледзьве не кожнай вёскі, што запісана ў шматтомным выданні кніг «Памяць» — гэта таксама Міхась Башлакоў, бо ён быў галоўным метадыстам гэтага выдання. Але ж і па заканчэнні гэтай працы ён не пайшоў у адпачынак. Работа з пачынаючымі аўтарамі не заўсёды прыкметная і ўдзячная. Некалькі літаратурных студый, якімі кіруе Міхась Башлакоў, дзейнічаюць у розных раёнах Мінска. Колькі разоў, бывала, тэлефануючы Міхасю Захаравічу, даводзілася чуць у адказ: «Выбачай, бягу — сёння ў мяне «Маладзік» (ці «Агмень», ці «Малінавыя галасы»). Можна прапусціць што заўгодна, але не сустрэчу са сваімі выхаванцамі ў літаратурнай гасцёўні.

Дарэчы, звярніце ўвагу, якое мілагучнае, выдатнае слова абраў паэт для назвы літаратурнай студыі — «Маладзік» (гэта наогул адно з яго любімых слоў). Наколькі ж багатая беларуская мова! Мы можам сказаць пра месяц: «маладзік», «паўмесяц», «поўня», «ветах». А яшчэ памяншальнае — «месячык», «маладзі-

чок»… А вось як гэта перакласці на рускую? «Молодой полумесяц», «полная луна», «месяц в последней четверти»?.. Бедна, а калі рабіць дакладна — дык атрымліваецца непаэтычна… Мы валодаем найцудоўнейшай у свеце мовай, якую трэба берагчы як найвялікшы скарб. Дзякуй богу, што ёсць паэты, якія нагадваюць нам аб гэтым…

Гаворачы пра паэзію Міхася Башлакова, нельга не адзначыць яшчэ адной яе якасці — *маляўнічасці*. У гэтым няма неабходнасці пераконваць — прачытайце ўсяго некалькі радкоў з «Ліплянаў» альбо «Сустрэч» — і маляўнічая карціна яскрава паўстане ў вас перад вачыма. На той момант, калі я перакладаў «Нетры», мне (на жаль!) яшчэ ні разу не даводзілася пабываць на Нарачы. І вось улетку 2008 года я апынуўся ў тых месцах. Гэта было як цуд: мы ішлі з жонкай Насцяй па лясной дарозе, за соснамі плёскаўся прыбой, а наперадзе, на касе, паказалася вёсачка. І я раптам зразумеў, што ведаю гэтую вёсачку, што я ўжо *бачыў* яе… І нікольк не здзівіўся, прачытаўшы на ўказальніку назву «Наносы». І я чытаў Насці па памяці пераклад «Сустрэч», а яна зноў і зноў прасіла прачытаць першы верш цыкла. І, даслухаўшы да радкоў:

…А за спиной, в дали озерной,
Кораблик месяца плывет,

прасіла паўтарыць зноўку…

Ці магчыма лепшая адзнака праўдзівасці, *шчырасці* паэзіі?

А тады, праз два дні пасля першага перакладу, я чытаў падораную мне кнігу Міхася Башлакова «Пяро зязюлі падніму» і дзівіўся, чаму ж я раней не ведаў гэтага паэта… Вершы Башлакова робяць уражанне чагосьці лёгкага і светлага, простага і пранікнёнага. Не пакідаюць абыякавым і выступленні Міхася Захаравіча. Іх трэба не проста чуць — гэта трэба бачыць. Пачынаючы чытаць з паперкі альбо з кніжкі, роўным, задуменным голасам, на носе амаль заўсёды — акуляры, праз якую хвіліну паэт пачынае «разыходзіцца», актыўна жэстыкуляваць, прытопваць у такт мелодыі, акуляры ўжо не на носе — у руцэ, ды й паперка не патрэбна, паэт чытае па памяці, захапляючы сваёй энергіяй усю залу… І напрыканцы, нібыта выдыхнуўшыся, раптам суцішваецца і апошнія радкі прамаўляе амаль шэптам, у поўнай цішыні. Вершы, якія так уплываюць на слухачоў, не могуць не рабіць уплыву і на самога аўтара, на яго чуйную душу.

Адкуль, як гэта з'явілася? Наўрад ці хто дасць на гэта адказ. Гэтая таямніца не зямная — нябесная, ні ў біяграфіі, ні ў радаводзе паэта яе не адшукаць. Ды й сам паэт адказу на гэтае пытанне не дае:

Не знаю я, адкуль прыйшло,
Не знаю я нічога...
Паэзія — не рамяство...
Паэзія — ад Бога...

Можна было б расказаць пра сяброўства Міхася Башлакова з мастакамі — нездарма я згадваў пра маляўнічасць ягонае лірыкі, яе роднаснасць з жывапісам! На асобны аповед цягне гісторыя «Нетраў» і «Палыну» — кніг, якія атрымалі шмат міжнародных узнагарод і, можна сказаць, сталі падмуркам для атрымання Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. І ўсё ж, напрыканцы, — якая галоўная тэма лірыкі Міхася Башлакова? Здаецца мне, гэтую тэму можна выказаць адным словам. І слова гэтае — Радзіма. У радасці і смутку, у любові і скрусе, у язычніцкіх і евангельскіх матывах — яна праходзіць праз усе старонкі башлакоўскіх кніг. І заўжды з вялікай літары:

Радзіма…
Калі ёсць, то назаўжды:

Не знікне,
Не растане шызым дымам.
Яна для нас —
Нібы глыток вады
Для зморанага смагай
Пілігрыма…

І, падхопліваючы, як перакладчык:

Отчизна…
Это светлая любовь
К неяркой красоте
Родного края,
Что криком журавлиным
Вновь и вновь
До слез до самых
Сердце
Пробирает…

Яна — і ў тонкай пейзажнай лірыцы, і ў кароценькіх «Восеньскіх эцюдах», і ў вясёла-пачварных язычніцкіх персанажах «Прыцудэр», і ў малітоўных чарнобыльскіх сюжэтах. І — гэткая ўжо асаблівасць паэзіі Міхася Башлакова — практычна заўжды, ва ўсіх яго сюжэтах, адчуваецца сум, калі затоены, калі адкрыты, часцяком гэты сум робіцца болем за лёс Айчыны. Часам ён надрыўны, але ніколі гэтая надрыўнасць не пераходзіць у хрыпату, у паказное раздзіранне кашулі на грудзях. Сум яго заўсёды светлы, нават у самых горкіх чарнобыльскіх радках, такіх, як «Хроніка аднаго перасялення» ці «Шукаю Радзіму». У ягоных вершах заўсёды жыве надзея:

*Наша песня яшчэ не прапетая…*
*Мы, Айчына, яшчэ пажывём…*
*І з надзеяй гарыць над сусветам*
*Зорка дальняя за акном…*

І за маім акном зараз поўнач. І дальняя зорка ў сцюдзёным небе. І незавершаныя пераклады на стале. І вершы Міхася Башлакова, у якіх — надзея.

# МУЗЕЙ «ТРАГЕДЫЯ ЧАРНОБЫЛЯ»

Музей «Трагедыя Чарнобыля» заснаваны ў будынку аграгарадка «Судкова» на аснове рашэння Хойніцкага раённага выканаўчага камітэта і пачаў сваю дзейнасць у красавіку 2007 года.

Асноўнымі мэтамі і задачамі музея з'яўляюцца: патрыятычнае выхаванне моладзі; увекавечванне памяці герояў Чарнобыля; прылучэнне моладзі да гістарычнага мінулага свайго раёна.

У музеі вядзецца пастаянная праца па доўгатэрміновых праграмах: «Гісторыя і этнаграфія выселеных вёсак», «Насуперак Чарнобылю жыве і працуе Беларусь», «Сувязь з блізкім і далёкім замежжам». Найбольш буйной праграмай з'яўляецца «Чарнобыль — вечная памяць і трагедыя Беларусі». У яе рамках праводзіцца даследаванне і вывучэнне матэрыялаў па чарнобыльскай тэматыцы, вядзецца пастаянная пошукавая праца. Сабраны багаты матэрыял аб мужнасці і гераізме людзей, якія прымалі ўдзел у тушэнні пажара на рэактары ў першыя дні аварыі, а таксама ў работах па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС.

Раздзел «Тут працаваў штаб Савета Міністраў БССР» глыбока інфармуе наведвальнікаў аб рабоце штаба, размешчанага ў 1986 годзе ў будынку Хойніцкага раённага выканаўчага камітэта. Штаб каардынаваў усю работу па ліквідацыі наступстваў аварыі на ЧАЭС, тут прымаліся неабходныя рашэнні.

У музеі сабраныя дакументы, загады, распараджэнні штаба, успаміны ліквідатараў, асабістыя рэчы, фота-відэаматэрыялы і інш.

Разнастайны матэрыял сабраны пра былога старшыню Гомельскага аблвыканкама Аляксандра Адамавіча Грахоўскага, кіраўніка штаба Савета Міністраў БССР. У гэтым раздзеле маецца таксама матэрыял аб рабоце штаба УУС і аператыўнай групы МУС, які знаходзіўся ў 1986 годзе ў будынку Хойніцкага РАУС. Пры адкрыцці мемарыяльнай дошкі на будынку РАУС намеснік міністра ўнутраных спраў М. В. Крачко адзначыў: «11 тысяч супрацоўнікаў міліцыі, ад радавых да генералаў, прайшлі праз гэты будынак. Многае давялося перажыць, але ніводзін не адступіў».

У музеі працягваецца збор матэрыялаў аб пажарных шарэнгі № 1. Устаноўлена перапіска з братамі І. М. Шаўрэя, якія цяпер жывуць у Кіеве. Пра іх будуць арганізаваны выстаўкі: «Яны былі першымі», «У лёсу літасці не прасілі», «Імя гэтай зорцы — Палын» і іншыя.

Адлюстраваныя медыцынскія аспекты па забеспячэнні радыяцыйнай жыццядзейнасці насельніцтва. Накоплены навукова-даследчы матэрыял па дадзенай тэматыцы.

Паказана праца Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка. Праведзена выстаўка літаратуры, афармлена экспазіцыя «Жыццё ў зоне».

Праграма «Этнаграфія і гісторыя выселеных вёсак» прысвячаецца жыццю, быту, дзейнасці, культуры і традыцыям апусцелых населеных пунктаў.

У музеі часта праводзяцца сустрэчы з перасяленцамі, сумесна з настаўнікамі школ адбываюцца адкрытыя заняткі, урокі мужнасці, вусныя часопісы, выстаўкі, лекцыі, аглядныя экскурсіі, рэквіем. Сабраны матэрыял сістэматызаваны, вядзецца праца па выданні кнігі «Памяць Чарнобыля».

***Валянціна Гацко,***
***дырэктар музея «Трагедыя Чарнобыля».***

# БАЛІЦЬ ЧАРНОБЫЛЬ У МАЁЙ ДУШЫ…

* * *

Чарнобыль. Шмат гадоў мінула з той пары, але ў душы шчыміць, калі чую гэтае слова.

На той момант, калі здарылася гэтая бяда, мне было 13 гадоў. Вучылася ў шостым класе Тульгавіцкай сярэдняй школы. Як цяпер помню: людзі пачалі трывожна гаварыць аб нейкай аварыі. Быццам бы штосьці ўзарвалася. Нам, дзецям, было не вельмі зразумела гэта. Мы вучыліся, хадзілі гуляць у лес, на раку Прыпяць. Затым быццам заслона ўпала. Гэты бясконцы гул вайсковых машын, шмат салдат. І вельмі шмат жывёлы, якую прыгналі з весак, што знаходзіліся ў 30 кіламетрах ад Чарнобыля. Каровы бясконца раўлі. Гэта быў нейкі страшны, як у вайну якую, гвалт. Ніколі не забуду, як забаранілі піць малако ад сваіх кароў і есці мяса. Узамен гэтага давалі шмат тушонкі і згушчанага малака. Затым людзі пачалі гаварыць, што, мабыць, будуць высяляць. Каго і куды — ніхто не знаходзіў адказу. Толькі потым ужо аб'явілі, што будуць на некаторы час, месяц ці на два, высяляць цяжарных жанчын, у каго маленькія дзеці, і школьнікаў. Старыя людзі ды і многія дарослыя не маглі зразумець, што гэта за вораг такі — радыяцыя? Хіба хто чуў калі пра яе? Хтосьці, можа, і ведаў з якіх кніжак. Радыяцыя не бачна, не мае паху. Было вельмі цяжка развітвацца з людзьмі, вёскай. Дарослыя плакалі, старыя нават галасілі. Пасадзілі ў аўтобусы і ўсё. Павезлі нас, а людзі махалі нам услед. Па дарозе прымыкала ўсе больш аўтобусаў. З аднаго канца і з другога знаходзіліся міліцэйскія машыны. Куды толькі я не трапляла! І ў санаторыях розных, і ў піянерскіх лагерах была. Нават у Крым, у «Артэк» трапіла. Але не хацела б я нічога, ніякіх санаторыяў, абы толькі быць у сваёй вёсцы. Якая была вёска! А школа! Не забудзецца гэта ніколі. І хоць мае бацькі трошкі раней выехалі з Тульгавіч, дакладней, раней адсялення ўсіх людзей, усё роўна было вельмі балюча пакідаць сваіх аднагодкаў, сваю школу. Хоць і не далёка мы пасяліліся — у Хойніках, але назад ужо дарогі не было. Хутка, праз года паўтара, выселілі і ўсё насельніцтва. Праўда, сям'і тры засталося, ды і то старыя. Апусцела вёска. На ўсе ўспаміны і сшытка не хопіць. Я хоць і нарадзілася не ў Тульгавічах, але за тыя гады, што там жыла, яны сталі для мяне роднымі. Вельмі шкада, што цяпер, успамінаючы вёску, адразу думаеш і пра Чарнобыль. Так здарылася, што і тую вёску, дзе я нарадзілася, таксама адсялілі разам з людзьмі. Гэта Сабалі Брагінскага раёна. Цяпер я езджу туды толькі на Радуніцу. Так што дзве дарагія мне вёскі назаўсёды застануцца ў маёй памяці такімі, якімі былі да гэтай чорнай бяды. І колькі буду жыць, не забуду тую шарэнгу аўтобусаў, плач матак, дзяцей, старых, што махалі нам услед, працяжныя міліцэйскія сірэны, якія назаўседы засталіся ў маіх ўспамінах.

***Г. Чыркова, в. Тульгавічы***

* * *

На ўзлессі тым глынулі ветры
Асенне-жоўтае лісцё.
Завеш душу ў лясныя нетры
Юнацтва водгуллем, жыццё!

*Мікола Мятліцкі*

…Я нарадзілася на Хойнікшчыне. У Бабчыне прайшло маё дзяцінства, пачалося юнацтва — вясёлае і бесклапотнае. Толькі б жыць ды радавацца. І раптам…

Помню, быў цёплы красавіцкі вечар. Многія з суседзяў у той дзень пасадзілі бульбу. Мама рабіла ў агародзе градкі, а мы, малыя, гулялі каля яе. З хаты вый-

шаў бацька і расказаў пра паведамленне праграмы «Час». Перадавалі, што недзе на Украіне, у горадзе Чарнобылі, адбылася аварыя на атамнай станцыі. «Дзе тая Украіна, — супакоіла мама, — далёка ад нас, да нас не дойдзе». Падышла суседка, настаўніца хіміі ў нашай школе, нешта расказвала бацькам. А мы, нічога не разумеючы, «панеслі» навіну па вёсцы. Але многія людзі ўжо ведалі яе. І суцяшалі адно аднаго тым, што гэта далёка, нас міне бяда.

А дні праз тры па нашай вуліцы ўжо ішлі калоны машын, пажарных і грузавых, знаёмых і нейкіх чужых, здаравенных, падобных на танкі. Усе яны накіроўваліся ў тыя вёскі, што бліжэй да Прыпяці, каб ратаваць людзей ад бяды. Адтуль везлі калгасную і дамашнюю жывёлу на тых вялікіх машынах. Потым у аўтобусах везлі людзей. Каля нашай хаты спыніўся адзін такі аўтобус. З яго выйшлі жанчыны, дзеці. Папрасілі вады. Людзі гаварылі і плакалі. Колькі болю і адчаю было ў іх вачах! Помню, як выціралі хусцінкамі вочы мае маці і бабуля, нават не ведаючы, што і нам давядзецца перажыць такое. Мы, дзеці, моўчкі глядзелі на ўсё, што адбывалася і амаль нічога не разумелі…

***красавік, 1991 г.***

Штоноч бяссонне кліча: У дарогу!
Ляці, душа! Гарчысты гэты лёт,
Прайдзі пастоў вартоўных засцярогу,
Мінуўшы зоны заржавелы дрот…

*Мікола Мятліцкі*

…Прайшлі гады. Я даўно ўжо дарослая. Шмат чаго адбылося ў жыцці. А самае галоўнае — бацькі, бабуля так і не змаглі жыць на чужыне. Не сталі, як іншыя, шукаць магчымасці, каб атрымаць кватэру дзе-небудзь у сталіцы, выехаць «з зоны». Вярнуліся назад у Хойнікі, тут купілі жыллё. Я зараз часта думаю: навошта? Жылі б сабе недзе далёка ад Чарнобыля, працавалі, гадавалі ўнукаў. Няўжо, лепш, чым тут, не бывае? І разумею: не змаглі. Не адпусціла іх сэрцы радзіма, навек прывязала да сябе такімі ланцугамі, што іншым гэтага не зразумець. «Тут карані, — казала бабуля, — тут голле, тут лісточкі. Тут і паміраць застануся»…

…Мабыць, праўду кажуць: гены, іх не зменіш. І мая душа прагла сустрэчы з роднай вёскай. Адчуванне таго, што яна зусім побач — толькі сядзь у машыну, — не давала спакою ні днём, ні ноччу. Паехаць, пабачыць сваімі вачамі, нагаласіцца ўволю, да адчаю на родным двары! Жаданне аказалася мацней за магчымасці…

За гэты час мне некалькі разоў давялося пабываць у роднай вёсцы. Здзічэлыя двары і агароды зараслі густым быльнягом ды горкім палыном, калодзежы зацягнуліся гнілым імхом, каля платоў у рост чалавека вырасла крапіва. Падыходжу да нашага двара: шыбы ў вокнах павыбіваны, нікім недагледжаны сад разросся аж да самых сцен хаты. У хаце брудна, вільгаць на сценах і стале. Усё амярцвелае. Няма жыцця. Яно спынілася ў маёй вёсцы ў восемдзесят шостым. Як шкада, як балюча бачыць тое, што было такім родным і дарагім, а стала знявечаным і дзікім. І крыўдна да болю, што нічым не можаш дапамагчы, не ў тваіх сілах вярнуць страту. Адно назаўсёды ў людзей — памяць. Праз гады яна зноў і зноў будзе вяртаць маіх землякоў у родную вёску. І будзе так да таго часу, пакуль апошні з іх не сыдзе ў іншы свет…

Кожная сустрэча з маёй вёскай пакінула ў душу балючыя ўспаміны, якія самі прасіліся ў радкі вершаў…

***май, 1995 г.***

***Н. Алейнік, в. Бабчын***

* * *

Мой родны кут, як ты мне мілы!
Забыць цябе не маю сілы.

*Якуб Колас*

Такая ўжо прырода чалавека: ён па-сапраўднаму пачынае разумець і цаніць хараство і прыгажосць сваёй малой Радзімы толькі тады, калі пакідае яе. І гэта вялікае шчасце, калі маеш магчымасць хоць зрэдку наведаць мясціны свайго дзяцінства і юнацтва, пабачыцца з дарагімі сэрцу людзьмі, схадзіць на могілкі.

У мяне, як і ў многіх маіх землякоў, з гэтых магчымасцей засталася толькі апошняя.

Чарнобыль сваім чорным крылом прайшоўся па дарагой сэрцу зямлі, па малых і вялікіх вёсках, па запаведных лясах і крыніцах, лугах і нівах, дзе спакон веку жылі і працавалі людзі.

Мая родная вёска, мой родны Вязок, што на Брагіншчыне… Адна з многіх, загубленых Чарнобылем.

У першыя гады пасля высялення адтуль людзей яшчэ можна было і пазнаць любое селішча, любую мясціну, памятную з дзяцінства. Праўда, хаты, што пустымі аканіцамі пазіралі на прыехаўшых наведаць сваю Радзіму людзей, уяўлялі жудаснае відовішча.

Зараз ужо не пазнаць нічога.

…Вясковая школка і школьны двор. Любімае месца гульняў мясцовай дзетвары… Няма школы, няма двара. Яны памерлі…

…Вясковая сажалка, дзе любілі вудзіць рыбу і старыя, і малыя… няма сажалкі. Яна памерла.

…Луг на ўскраіне вёскі, дзе пасвілася хатнія жывёлы і птушкі, заўсёды быў напоўнены іх вясёлым гоманам. Няма луга. Ён памёр…

…Саўгасны сад, дзе мы, малыя, кожнае лета ласаваліся яблыкамі і грушамі, салодкім зялёным гарохам, хаваючыся ад вартаўніка або брыгадзіра… Няма саду. Памёр сад…

Няма зараз і хат. Адны папялішчы пасля пажараў, ды і тыя зараслі хмызняком і быльнягом. Не пазнаць нічога… Памерлі любыя мясціны, памерлі родныя хаты, памерла родная вёска…

Не зарасла і не памёрла толькі адна дарога — на могілкі, — адзінае і апошняе месца сустрэчы жывых з жывымі і мёртвымі.

А яшчэ засталася памяць, вечны ўспамін аб тым, чаго ўжо ніколі не ўбачыш і што так дорага сэрцу…

Адыдзе не адно пакаленне, вырастуць нашчадкі, і, можа, калі-небудзь на гэтай зараз мёртвай зямлі зноў загучаць людскія галасы, вырастуць новыя вёскі і нават гарады, уваскрэсне Зямля і пачне выконваць сваё спрадвечнае прызначэнне — радзіць хлеб і карміць усіх, хто на ёй жыве і шануе, як маці.

***К. Казмярчук, г. Хойнікі***

Наталля МІЦКЕВІЧ

# ДОЎГАЯ ДАРОГА[1]

***(ад дома Янкі Маўра да дома Якуба Коласа)***

## У Алма-Аце

Пасля доўгай і цяжкай дарогі ў канцы верасня мы дабраліся да Алма-Аты. Горад уразіў сваёй прыгажосцю — з поўдня яго абступалі горы, вуліцы, абсаджаныя дрэвамі, а ўздоўж тратуараў — арыкі, напоўненыя чыстай вадою. Кругом многа-многа кветак. У горадзе працуюць кафэ, тэатры, у парках шмат моладзі. Уражанне такое, што сюды не дакацілася рэха вайны, жыццё ішло, як і раней, размерана, спакойна і нікольні не адчувалася, што ў краіне бурліць страшная вайна, гарадь гарады, вёскі, гінуць ні ў чым не павінныя людзі. І з поўнай абыякавасцю адносяцца да бежанцаў гарадскія ўлады. Знайсці жытло і атрымаць прапіску ў горадзе было вельмі цяжка. У Алма-Ату былі ўжо эвакуіраваны многія прадпрыемствы і ўстановы разам з іх працаўнікамі і сем'ямі. Гэтыя эвакуіраваныя мелі магчымасць прывезці з сабой неабходныя рэчы, маёмасць — адзежу, бялізну, посуд. Яны працягвалі працаваць на сваіх прадпрыемствах, атрымоўвалі зарплату. У нас нічога гэтага не было. Бацька перажываў, што мы страцілі шмат часу на паездку ў Свярдлоўск. Калі б мы прыехалі сюды раней, то лягчэй было б вырашыць пытанне наконт жытла і работы.

У рэшце рэшт бацька знайшоў на ўскрайку горада ў прыватным сектары пакойчык у новым і яшчэ недабудаваным доме. Гаспадара хаты прызвалі ў армію, а тут заставалася яго жонка і дванаццацігадовы сын. Акрамя пустога пакоя гаспадыня нічога не магла прапанаваць. Не было электрычнасці, не было газавай лямпы, так што спаць кладзіся з наступленнем цемнаты. Спалі на падлозе і накрываліся сваімі паліто. Прапісацца тут бацька змог з вялікімі цяжкасцямі. Атрымаўшы прапіску, можна было заняцца ўладкаваннем мяне ў школу, а бацькі — на работу. Але знайсці яе так і не ўдалося, а грошай ужо не было, мы галадалі. Горш за ўсіх пераносіў голад бацька. Ён «палягчэў» кілаграмаў на 15, ногі кепска трымалі яго, галава кружылася і, канечне, перажыванні за галодную жонку і дачку не давалі яму спакою. Тым часам Фёдар уладкаваўся ў адной са школ Кісялёўска настаўнікам фізікі. Ён пісаў бацьку, што падтрымае нас грашыма, будзе высылаць нам іх кожны месяц, але толькі адзін раз прыйшла дапамога — 90 рублёў. Многіх з дзесяцікласнікаў яго школы прызвалі ў армію, і гэтыя класы расфарміравалі. Нагрузка знізілася больш чым напалову, і сам ён ледзь зводзіў канцы з канцамі. Абяцала дапамагчы маміна пляменніца, і адзін раз яна прыслала нам 500 рублёў. Гэта дазволіла крыху пратрымацца, але яе муж Мікола Шумейкін, афіцэр НКУС, прапаў без вестак з усім сваім атрадам пры адступленні з Кіева. Яе пазбавілі атэстата на атрыманне яго зарплаты. Цяпер і яна з дачкою аказаліся ў бядотным становішчы. Усё ж ёй удалося ўладкавацца тэлефаністкаю ў воінскай часці. У выніку нашых магчымасцей сняданак складаўся з кавалка чорнага хлеба і шклянкі гарачай вады. На абед зрэдку да кавалка хлеба дабаўляўся гарбуз — калі ў бацькі знаходзіўся лішні рубель. А на рынку было поўна садавіны і гародніны. За адзін рубель можна было купіць вялікі спелы гарбуз. Хапала на рынку мукі,

[1] Працяг. Пачатак у № 3, 2011 г.

рысу, мяса, але нам гэта было не па кішэні. Бацьку ў яго 58 гадоў на работу нідзе не бралі. Нічым не дапамог мясцовы Саюз пісьменнікаў. Іншым разам бацька прыносіў нам слоік маннай кашы, якую за капейкі можна было купіць у буфеце. Канечне, яна была не такая, як некалі варыла мама — на малацэ, ды з цукрам, і я не хацела яе есці. А гэтая каша была зварана на падсоленай вадзіцы і мела сіняваты колер. Маці часта адмаўлялася ад сваёй порцыі на маю карысць, казала, што ёй не хочацца есці, а маладому арганізму патрэбна падтрымка.

Урэшце бацька накіраваўся са мною ў бліжэйшую школу № 33. Яна знаходзілася на вуліцы Гогаля, недалёка ад увахода ў парк. Заняткі як заўсёды пачыналіся з першага верасня, а цяпер ужо быў пачатак кастрычніка. Афіцыйных пацвярджэнняў аб заканчэнні дзявятага класа не было, быў толькі лісток з дзённіка з адзнакамі, але без подпісу настаўніка і без пячаткі. І ўсё ж дырэктар школы распарадзіўся прыняць у дзясяты клас з умовай, што да заканчэння першай чвэрткі я змагу дагнаць вучняў і буду станоўча атэставана. Калі ж не — то мяне перавядуць у дзявяты клас. Дырэктар выклікаў класную і даручыў ёй адвесці мяне ў аўдыторыю 10 «А». І так я стала паўнапраўнай дзесяцікласніцай, прытым адной з лепшых. За гэта бязмерна ўдзячна настаўнікам школы № 4 г. Мінска, а таксама свайму бацьку. Гэта яны заклалі трывалы падмурак ведаў, абапіраючыся на якія мне было лёгка вучыцца далей. Аднак добрых узаемаадносін з аднакласнікамі не склалася. Жывучы ў горадзе, далёкім ад ваенных дзеянняў, ад бамбардзіровак, да іх не даходзіў той бядотны стан бежанцаў, якія апынуліся ў чужым горадзе і страцілі ўвесь свой набытак: рэчы, грошы, работу. Мае аднакласнікі нават не пацікавіліся, не распыталі, што мы перажылі, у якім пераплёце пабывалі. Яны жылі, як і раней, у добраўпарадкаваных кватэрах, забяспечаныя ўсім неабходным. Яны не адчувалі недахопу ў падручніках, сшытках, былі някепска адзетыя і накормленыя. І ніхто з іх за ўвесь навучальны год не запрасіў да сябе дахаты, не пачаставаў абедам, не прапанаваў хоць што-небудзь з адзежыны. У мяне ж падручнікаў не было, не было і святла і ўсе хатнія заданні я выконвала ў бібліятэцы-чытальні парку імя М. Горкага, праз які кожны дзень хадзіла ў школу, а грошай не хапала на сшыткі і ручкі. Часцяком хатнія заданні даводзілася выконваць на лісточках ад сшыткаў, якія мне даваў сын гаспадыні нашага дома. Не разумелі майго бядотнага стану і настаўнікі. Так аднойчы ніхто з вучняў нашага класа не змог рашыць задачкі па трыганаметрыі. Толькі адна я здолела выканаць заданне, але за тое, што яно было зроблена на лісточку і напісана алоўкам, настаўніца ўляпіла мне дваяк, а астатнім вучням невыкананне задання сышло з рук. Яна нават не спыталася, чаму я хатнюю работу выканала на лісточку, а не ў сшытку. Ёй, напэўна, і ў галаву не прыходзіла, што ў маіх бацькоў няма грошай не толькі на сшыткі, але і на ежу. Але самае галоўнае было тое, што з-за гэтай двойкі, нягледзячы на астатнія пяцёркі, яна мне выставіла ў чацвёртай чвэрці чатыры, а затым і гадавая адзнака была зменшана да чатырох. А гэта пазбаўляла мяне атэстата выдатніка і права паступлення без экзаменаў у любы інстытут. Было вельмі крыўдна, пагадзіцца з гэтым я не магла і пайшла да настаўніцы з просьбаю прызначыць мне экзамен па трыганаметрыі. Па праграме яго не было. Відаць, настаўніца ўсвядоміла сваю памылку і вывела гадавую пяцёрку без усякага экзамену.

У тыя гады за вучобу ў старэйшых класах трэба было ўнесці 200 рублёў, інакш — адлічэнне са школы. А дзе ўзяць грошы? Бацька вёў перапіску з многімі пісьменнікамі, цікавіўся іх справамі, што з іх роднымі, блізкімі. Перапісваўся ён і са сваім даўнішнім сябрам Якубам Коласам, які знаходзіўся з сям'ёй у Ташкенце. І, канечне ж, дзяліўся з ім аб сваім бядотным стане і аб тым, што дачку, дзесяцікласніцу, пагражаюць адлічыць са школы за няплату за навучанне. І Колас прыслаў 150 рублёў, выкраіўшы іх са свайго сямейнага бюджэту. Але іх не хапала. І бацька пайшоў у Саюз пісьменнікаў Казахстана па дапамогу. Яму прапанавалі напісаць рэцэнзію на нейкі твор. А такая работа для сталага пісьменніка, што Божы дар. І ён атрымаў за яе роўна 200 рублёў! Я была выратавана. Вучоба ў школе працягвалася. Але каб дабрацца да школы, асабліва ў асенне-зімовы перыяд, трэба

было пераадолець неверагодна цяжкую пуцявіну. Тратуараў не было, асвятленне дарожкі таксама не было, а ногі патаналі ў глiністай глебе, і выцягнуць іх без рызыкі пакінуць абутак там было немагчыма. Даводзілася падвязваць туфлі вяроўкамі да ног, а на ногі напластоўвалася гліна многімі кілаграмамі. І мае адзіныя пантофлі развалiліся. Купіць новыя не было за што. У тыя часы многія дэфіцытныя тавары размяркоўваліся па прадпрыемствах і ўстановах. Калі ў Саюзе пісьменнікаў размяркоўвалі абутак, бацьку ўдалося «вырваць» апошнюю пару жаночых пантофель для мяне. Але мая радасць з гэтай нагоды была нядоўгай. Пантофлі аказаліся рознага фасону і яшчэ і на адну нагу.

Аднойчы каля дома Саюза пісьменнікаў бацька сустрэў знакамітага казахскага акына — Джамбула. Аб гэтай сустрэчы не без гумару бацька запісаў наступнае: «Знаёмства» адбылося такім чынам: Джамбул пад'ехаў на машыне да самага ганка будынка Саюза пісьменнікаў, выйшаў насустрач старшыня саюза, стаў размаўляць. Група нашай брацii абступіла машыну. Затым старшыня пайшоў, а мы засталіся з Джамбулам сам-насам. Мы глядзім на яго, а ён, вачыма, якія нічога не бачаць, пазірае на нас. Так прастаялі хвілін 10—15. Пасля зноў выйшаў Тажыбаеў і загаварыў з ім. А мы прыйшлі да вываду, што гэта жывы труп».

Зіма 1941—1942 года і ў Алма-Аце выдалася надзвычай суровай. Старажылы не помнілі, каб тут былі маразы да 20 градусаў. А ў нас не было зімовага адзення. Вось так жылі мы ў Алма-Аце: раздзетыя і галодныя, і нікому не было да нас справы. Перажываючы за сваё бядотнае становішча, бацька моцна турбаваўся за лёс сваіх сяброў, пісьменнікаў. Ці паспелі яны выйсці з палаючага горада, ці засталіся ў акупіраванай зоне? Хто дзе ўладкаваўся, дзе іх сем'і? Стала вядома, што нашы суседзі па доме — Міхась Лынькоў, Ільля Гурскі, а таксама Пятрусь Броўка і Пятро Глебка — працуюць у рэдакцыях франтавых газет. Жонка Броўкі Алена Міхайлаўна са сваім маленькім сынам Юркам апынулася ў Алма-Аце і некалькі разоў наведавала нас. Жонкі Лынькова і Гурскага са сваімі малымі пайшлі з дому раней за нас, але дзе яны — невядома. Магчыма, жанчыны вырашылі перачакаць дзе-небудзь у вёсачцы гэтае ліхалецце і апынуліся ў акупіраванай зоне. Жонцы Лынькова гэта было роўна самагубству: яўрэяў немцы бязлітасна вынішчалі. Нічога не было чуваць і пра жонку Глебкі. Наш сусед па доме Аксельрод са сваёй кульгавай дачкой паспеў уцячы ад немцаў. Турбаваў бацьку і лёс Ільінскага, які вярнуўся назад у Мінск і паспеў сказаць Фёдару, што лепш памерці на сваім ложку, чым у канаве. Узрушыла бацьку вестка пра смерць Змітрака Бядулі дзесьці на чыгуначнай станцыі пад Уралам. У пісьме да Якуба Коласа бацька пісаў, што ад голаду і безвыходнасці ён проста можа ўпасці на вуліцы і памерці.

Па-рознаму склалася жыццё жонак бацькавых сяброў і паплечнікаў. Пятрусь Броўка знайшоў адрас жонкі і высылаў ёй дастаткова грошай, каб яна з сынам не галадала. Цяжкія гады перажыла ў акупіраванай Беларусі жонка Гурскага. Яе сын Лёня закончыў школу, паступіў у політэхнічны інстытут, быў маім студэнтам. Помніцца, як ён уважліва слухаў мае лекцыі, седзячы за першым сталом, добра разбіраўся па курсе тэорыі механізмаў і машын і выдатна здаў экзамен. Пасля ён быў накіраваны ў Фізіка-тэхнічны інстытут Акадэміі навук, абараніў кандыдацкую, а пасля і доктарскую дысертацыі.

Лёс жа жонкі Лынькова і яго сына Марка склаўся трагічна. Нейкі гад выдаў жанчыну немцам, і, калі яе забіралі, хлопчык, бялявы, як і бацька, кінуўся за сваёй маці. Забралі і яго і адправілі ў Трасцянец, у лагер смерці. Міхась Лынькоў страшэнна перажываў за сына і жонку, быў блізкі да вар'яцтва. А ў хуткім часе пасля заканчэння вайны яго ўключылі ў склад Камісіі па расследаванні злачынстваў немцаў, у тым ліку ў Трасцянцы. Калі Коласу стала пра гэта вядома, ён страшэнна абурыўся і зараз жа зрабіў захады, каб Лынькова вызвалілі ад работы ў складзе гэтай камісіі. Ён палічыў здзекам з чалавека прымушаць назіраць за астанкамі людзей, сярод якіх знаходзяцца астанкі сына і жонкі. Да Коласа прыслухаліся. Аб трагедыі Лыньковай і яе сына бацька напісаў аповесць «Завошта?», дзе прозвішчы і імёны зменены.

Лынькову пашчасціла знайсці жанчыну, якая палюбіла яго і стала другам і жонкаю. Яны часта наведвалі Якуба Коласа.

Нялёгкі лёс напаткаў жонку Глебкі — Ніну Бялькевіч. Яна засталася ў Мінску, уладкавалася на работу ў нейкую ўправу, за што пасля было шмат непрыемнасцей, але яна выратавала ад смерці сямігадовую дзяўчынку. Маці яе, як яўрэйку, немцы расстралялі. Пасля вызвалення Мінска Ніна вярнулася да Глебкі і настаяла, каб ён удачарыў дзяўчынку. Сваіх дзяцей у яе не было, ды і з Глебкам яна не была зарэгістравана. Тым не менш у іх склалася шчаслівае сямейнае жыццё. Праз некаторы час бацька прыёмнай дачкі расшукаў яе і прыехаў забраць да сябе. Але яна адмовілася, сказаўшы, што палюбіла сваіх бацькоў і застанецца з імі. Як змянілася сітуацыя са смерцю Глебкі! Прыёмная дачка стала адзінай яго спадкаемніцай. З вялікай цяжкасцю Ніна здолела праз суд даказаць, што на працягу дзесяцігоддзяў яна была жонкай Глебкі. Незадоўга да яе канчыны я выпадкова сустрэла яе на вуліцы, і яна расказала мне аб сваім нешчаслівым жыцці са сваёй выхаванкай, са здзекамі і знявагаю з яе боку. А Ніна ж выратавала яе ад смерці, стварыла ёй добрыя ўмовы для жыцця, угаварыла Глебку ўдачарыць яе, і вось атрымала якую падзяку! Мне была добра зразумела яе крыўда, бо і я адчувала знявагу, зайздрасць ад сваіх блізкіх — сястры Шуры і брата Арсенія. Так, Шуру вайна застала ў Ленінградзе, дзе яна вучылася ўжо на пятым курсе інстытута. Яна перажыла жахлівыя дні блакады, а калі наладзілі «Дарогу жыцця», яе разам з іншымі блакаднікамі вывезлі з Ленінграда. І яна прыехала да нас у Алма-Ату. Нават праз месяц пасля таго, як яна выратавалася з блакады, мне было боязна заставацца з ёй сам-насам, такім яна была страхоццем. Гэта быў шкілет, абцягнуты скураю. Паступова яна папраўлялася і станавілася падобнай да чалавека. Як блакадніцы ёй далі магчымасць уладкавацца на работу, атрымоўваць зарплату, хай сабе і невялікую, але гэта аблягчала наша жыццё. З Ленінграда яна змагла забраць з сабою такую-сякую адзежыну, але са мною яна нічым не падзялілася. Я ж ёй аддала тыя два адрэзы, што вынесла з Мінска, бо лічыла, што гэта для яе набыў бацька. А ў мяне была адна вынашаная сукенка. На вучобу давялося хадзіць далей — нашу школу ператварылі ў шпіталь для параненых, якіх усё больш і больш прыбывала з франтоў. У новай школе заняткі нашых дзясятых класаў праводзіліся ў трэцюю змену. Урокі заканчваліся ў дзесяць вечара, калі ўжо навокал была поўная цемра. Дахаты трэба было ісці праз парк. Хадзілі чуткі, што там міліцыянты знайшлі павешанага на дрэве юнака, а пасля знайшлі задушаную і згвалтаваную дзяўчыну. Страшна было хадзіць праз цёмны і пустынны парк, але што зробіш?



*Янка Маўр.*

Аднойчы, калі мне да выхаду з парку заставалася прайсці толькі па дамбе, я ўбачыла, як з яру на дамбу наперарэз мне вылазіць постаць нейкага чалавека. Але я не разгубілася і, ацэньваючы сітуацыю, убачыла, што паспею прабегчы праз дамбу, пакуль той уздымецца на яе верх. І я кінулася бегчы з усіх сіл да выхада з парку. Мужчына выбраўся з яру і кінуўся ўдагонку. Ён крычаў: «Дзяўчына, спыніся, я ўсё роўна дaганю і табе будзе горш!» Але я ўцякала так, што толькі вецер шумеў у

вушах, а калі прыбегла дахаты, звалілася на падлогу без сіл. Пасля гэтага бацька і Шура чакалі мяне ў бібліятэцы парку, і праз парк мы вярталіся ўтраіх.

Нарэшце ў мяне з’явілася сяброўка з паралельнага класа Роза Ліберман. Яе бацька працаваў бухгалтарам на адным з маскоўскіх прадпрыемстваў, эвакуіраваных у Алма-Ату. Дом, у якім яны кватаравалі, знаходзіўся каля самага ўвахода ў парк. І іншым разам, калі даводзілася дапазна затрымлівацца, я, папярэдзіўшы бацькоў, начавала ў яе. Спалі мы з ёю на адным ложку, дзе нас заядалі клапы. Іншы раз мы з ёю хадзілі па абеды, на якія яе бацька атрымліваў талоны. Каб атрымаць абед (звычайна з рэдзенькага супу на першае і лыжкі кашы з падлівай на другое), патрабавалася 2—3 гадзіны выстаяць у чарзе. Калі мы разам з Розай прыносілі абеды, маці яе падзяляла абед не на тры, а на чатыры часткі і карміла гэтым абедам і мяне. Ліберманы былі простымі, сардэчнымі людзьмі, яны перажывалі за маё становішча, бо ведалі, што мой бацька беспрацоўны.



*Наталля Фёдарава.*

Наша сяброўства закончылася сумна. Магчыма, на Розу ўздзейнічаў мой аповед аб выпадку ў парку. Яна стала неспакойнай, загаворвалася, што ёй нехта пагражае, пераследуе. Я падзялілася сваёй занепакоенасцю за стан дзяўчыны з яе маці. Высветлілася, што Роза пачала вар’яцець. Яе адвезлі лячыцца ў Маскву, адраса мне не далі. Ці паправілася яна, ці не, я так ніколі не даведалася.

Атрымаўшы атэстат з адзнакай аб заканчэнні школы, я стала раіцца з бацькам, куды пайсці вучыцца. Больш за іншыя дысцыпліны мяне гарнула матэматыка. Але паступаць у Казахскі ўніверсітэт бацька не раіў, матывуючы тым, што 5 год вучобы і 3 гады працы дзе-небудзь у горным ауле — гэта восем год жыцця адной, за тысячы кіламетраў ад роднай Беларусі. Гэта не падыходзіць. Лепш паступіць у Маскоўскі авіяцыйны інстытут, які знаходзіўся тут, у Алма-Аце, са сваім слынным прафесарска-выкладчыцкім калектывам. Па заканчэнні вайны інстытут вернецца ў Маскву, а з ім і я. А ад Масквы да Мінска зусім недалёка. Мы ўсе верылі ў перамогу нашай арміі над немцамі. Мы верылі, што Беларусь будзе вызвалена ад нямецкай акупацыі, і мы вернемся ў свой родны Мінск. І я вырашыла паступіць у МАІ. Мне хацелася прыйсці ў прыёмную камісію добра апранутай і прыгожай. Я апранула сваю адзіную прыгожую сукенку, пашытую да выпускнога вечара з таго адрэзу, што я вынесла з Мінска, накруціла на паперкі вільготныя валасы і высушыла іх на сонцы. Атрымалася пышная прычоска. Вейкі пафарбавала самаробнай тушшу з сажы і мыла. З адпаведнымі дакументамі я накіравалася ў прыёмную камісію МАІ. Старшынёй яе ў той час быў выкладчык інстытута Міхаіл Дзмітрыевіч Мільёншчыкаў. Пасля ён стаў вядомым вучоным у галіне механікі і прыкладной фізікі, акадэмікам, віцэ-прэзідэнтам АН СССР, Героем Сацыялістычнай Працы. Калі я з’явілася на парозе прыёмнай камісіі, яе старшыня, шакіраваны маім выглядам, далікатна сказаў, што я, напэўна, памылілася, тут прыёмная камісія не тэатральнага інстытута і нават не медыцынскага, а Маскоўскага авіяцыйнага. У гэтым інстытуце цяжка вучыцца, трэба добра ведаць матэматыку, фізіку, хімію. І вельмі цяжка паступіць з-за высокага конкурсу. А я з усмешкаю адказала, што конкурсу я не баюся, паколькі

ў мяне атэстат з адзнакаю, прытым з выпускнікоў двух класаў 33-й школы толькі я адна атрымала атэстат з адзнакаю, і памахала сваім атэстатам. Маімі любімымі дысцыплінамі з'яўляюцца матэматыка і фізіка і цяжкасцей я не баюся. І дадала, што маці казала, маўляў, я ўдалася ў свайго дзеда, таленавітага механіка. Твар Мільёншчыкава расплыўся ва ўсмешцы і ён сказаў: «Ну, што ж, падавайце свае паперы, будучы таленавіты механік». І я адчула, што заваявала сімпатыю старшыні камісіі. Залічылі мяне на факультэт авіяцыйнага прыборабудаўніцтва. Заняткі адкладваліся ў сувязі з неабходнасцю збору ўраджаю. Усіх залічаных на першы курс адразу ж накіравалі на сельскагаспадарчыя работы ў Саркандскую вобласць, і наша група цягніком даехала да маленькай станцыі Мулалы, якая знаходзілася на паўдарозе да Новасібірска. На гэтай станцыі было некалькі хатак, а кругом пясок і толькі пясок. Вецер сыпаў яго ў вочы, у нос, вушы, скрыпеў на зубах. Было вельмі непрыемна. Але ў хуткім часе прыбылі грузавікі, і нас павезлі ў Сарканд кіламетраў за 40 ад станцыі. А там нас размяркоўвалі па калгасах і яшчэ кіламетраў 40 мы пешшу два дні дабіраліся да нашага калгаса. Добра, што рэчы везлі на возе, запрэжаным валамі, якія марудна цягнуліся па дарозе. Але калі яны адчулі паблізу рэчку, то рванулі бегчы да яе, адзін рукзак з воза зваліўся і трапіў пад кола. Я не сумнявалася, што гэта мой рукзак. Так яно і было. Больш усяго дасталося місачцы, яна была выгнута колам, так што давялося карыстацца дэфармаваным посудам.

Размясцілі нас сярод поля пад навесам. Спалі дзяўчаты і хлопцы на зямлі, засцеленай саломай. А вакол навеса разляглося шырачэзнае поле пшаніцы, якую трэба было прыбраць. У наш абавязак уваходзіла вязаць снапы ўслед за касілкаю, а пасля складаць іх у копы. Адзін раз у дзень нам прывозілі з калгаса ежу. Гэта былі стравы з локшыны і вялікі кавалак белага хлеба.

Бліжэйшая вёска знаходзілася ў кіламетрах двух ад нас. Там можна было купіць малочныя прадукты, яйкі, гародніну і садавіну альбо абмяняць іх на адзенне. У мяне не было ні таго, ні другога. Мая адзіная сукенка была ў дзірках, і адна са студэнтак дала мне панасіць сукенку сваю. Праўда, у хуткім часе яе прыйшлося аддаць. Люся, так дзяўчыну звалі, абмяняла сукенку на прадукты. Мы падружыліся, як кажуць, на ўсё жыццё. Пазней, калі мы пераехалі ў Маскву, пазнаёмілася з яе бацькамі — дактарамі. Аказалася, што маці Люсі Левітан — стрыечная сястра прафесара Карпілава, які жыў і працаваў у Мінску. Левітаны аднесліся да мяне надзвычай сардэчна, часта запрашалі на абед, пакідалі пераначаваць, калі нас перавялі з пятага корпуса інстытута ў інтэрнат, што на станцыі Даўгапрудная. Туды і назад дабірацца было цяжка — цягнікі рэдка хадзілі. Адзін рэйс закончыўся трагічна. Хлопцы віселі на падножках перапоўненых вагонаў, а ў сустрэчнага таварняка звалілася дошка і ёю збіла шасцярых юнакоў. Усё гэта было пазней. А тут раптоўна задзьмуў халодны вецер, схавацца не было дзе, і ў мяне разбаleліся вушы, распухлі шыйныя залозы. Другая дзяўчына звіхнула нагу і не магла хадзіць. Пасля цяжка захварэў адзін юнак, у яго паднялася высокая тэмпература, патрабавалася тэрмінова адвезці яго ў бальніцу. З калгаса прыслалі воз, і мы ўтраіх накіраваліся ў Сарканд. Хлопца паклалі ў бальніцу, а нас пасля агляду адправілі ў Алма-Ату. На станцыю Мулалы можна было даехаць толькі грузавой машынай. Грузы туды вазілі, але «пасажырскае» месца ў кабіне было адно. Паколькі мая спадарожніца Марына ледзьве хадзіла, давялося мне ісці да начальніка аўтабазы. Ім аказаўся малады сімпатычны казах. Ён ветліва прыняў мяне, распытаў, што здарылася са мною і маёй спадарожніцай, чаму нас адных адпраўляюць у Алма-Ату. Выслухаўшы тлумачэнне, ён адказаў, што зараз дапамагчы не можа, бо атрымаў загад адвезці на станцыю прызыўнікоў. Нам давядзецца пачакаць, а пакуль прапанаваў пасяліцца ў прыбудове пры яго канторы, дзе знаходзілася старая мэбля. Ён параіў, каб Марына сядзела там ціха і не высоўвалася, пакуль тут знаходзіцца гурт маладых хлопцаў-прызыўнікоў, а мне, як рухомай, трэба кожны дзень з раніцы прыходзіць у кантору і знаходзіцца там у межах бяспекі. Калі ў яго была свабодная часіна, то ён з зацікаўленасцю выклікаў мяне на размову — на самыя розныя

тэмы. Аднойчы ён мне сказаў: «А навошта табе адсюль выязджаць? Выходзь за мяне замуж, будзеш маёй другой любімай жонкай. Я багаты і забяспечу цябе ўсім неабходным, ты ні ў чым не будзеш мець патрэбы». Мне стала не па сабе, я спалохалася і паспела толькі сказаць, што не ведаю тутэйшых звычаяў, хачу жыць толькі ў Беларусі і быць адзінай жонкай, як гэта прынята ў нас — расплакалася і збегла з канторы. Ці гэта было жартам, ці ўсур'ёз — не ведаю. Але ён адносіўся да мяне з павагаю і больш на гэту тэму не гаварыў. Ён прапаноўваў мне грошы, але я адмовілася, сказала, што яны ў мяне ёсць.

Нарэшце ўсе прызыўнікі былі адпраўлены, настала наша чарга. Марына паехала першай, а я трапіла на апошнюю машыну гэтай калоны. Шафёрам была маладая дзяўчына і, відаць, належнай практыкі ў яе не было. Пераязджаючы брод, машына зачыхала і спынілася пасярэдзіне ракі. І шафёр нічога не змагла зрабіць. Давялося доўга чакаць наступнай калоны. Мужчыны хутка ліквідавалі непаладкі, і мы з гэтай калонай дапаўзлі да станцыі позна ўвечары, калі сцямнела. Шукаць Марыну не было сэнсу, прыйшлося дачакацца ранку. А Марына ўладкавалася ў доміку для шафёраў, якім прыходзілася заначоўваць, але з-за вялікай колькасці клапоў яны аддавалі перавагу хатам жыхароў станцыі. Ранкам я расшукала сяброўку і далучылася да яе. А пасля — на вакзал, даведацца, калі мы зможам выехаць у Алма-Ату. Начальнік вакзала нават не стаў размаўляць са мною. Білетаў хутчэй за ўсё не было, цягнік стаяў адну хвіліну, а яму трэба было адправіць прызыўнікоў, затым жанчын з дзецьмі, якімі поўніўся дворык вакзала, ды яшчэ групу мужчын. На нашу бяду аказалася, што грошай у нас толькі на адзін білет. Хлеб па рэйсавых картках мы выбралі яшчэ ў Саркандзе, і цяпер даводзілася галадаць. Уначы на вакзале я пазнаёмілася з пажылым мужчынам, які прыехаў сюды той жа калонай, што і я. Мы разгаварыліся і дасядзелі да ранку. А днём, сустрэўшыся на вакзале, мы пазддароўкаліся, як старыя знаёмыя. Я пажалілася, што скора выехаць нам не ўдасца, ды і грошай засталося на адзін білет. Мой новы знаёмы прапанаваў пазычыць мне грошай на білет. Ён быў упэўнены, што па прыездзе ў Алма-Ату я іх вярну. І ён пакінуў мне свой адрас і грошы. А мы з Марынаю адседжваліся ў шафёрскім доміку. Ад галадухі і болю ў назе яна зусім раскісла, і, каб трохі яе развесяліць, я запытала, што б яна папрасіла, калі б з'явіўся добры чараўнік. Рассмяяўшыся, Марына адказала, што, як і я, яна папрасіла б даць нам білеты на цягнік, а паесці — буханку белага хлеба, жбан малака і вялікі кавун. Мары аб такой смачнай ежы толькі распальвалі апетыт, але ж гэта былі такія светлыя, такія жаданыя мары! Раптоўна расчыняюцца дзверы, і ў пакой уваходзіць сам начальнік аўтабазы! Ён сказаў, што прыехаў наведаць нас, даведаўшыся ад сваіх кіроўцаў машын аб тым, што мы «завіслі» на станцыі. Ён спытаў, ці трэба чым-небудзь дапамагчы. І мы адказалі, што прынялі яго за добрага чараўніка, якога паслаў нам сам Бог, каб дапамог нам дастаць білеты на цягнік, а таксама прынёс крыху ежы. І тут Марына выпаліла адным духам: «Булку белага хлеба, жбан малака і вялікі кавун!» Наш госць рассмяяўся, выйшаў на некалькі хвілін, нешта сказаў па-казахску, а затым вярнуўся да нас. Праз кароткі час у нас на стале з'явіліся хлеб, малако і кавун! Калі мы паелі, ён павёў нас да начальніка вакзала. Як жа той змяніўся! Увесь увага і павага! Відаць, ён залежаў ад начальніка аўтабазы. І канечне паабяцаў яму пры першай магчымасці адправіць дзвюх яго знаёмых дзяўчат у Алма-Ату. Я сардэчна падзякавала і за сябе, і за Марыну нашаму добраму «чараўніку» за яго клопаты і развіталася з ім назаўсёды. Але кожны раз, калі на экране тэлевізара ўзнікае Нурсултан Назарбаеў, я ўспамінаю таго добрага казаха, які выручыў нас у цяжкія часы. Не так даўно ў мае рукі трапіла кніжыца — інтэрв'ю Назарбаева. З якой цікавасцю прачытала аб нялёгкім лёсе гэтага мудрага чалавека! Сапраўды, казахі могуць ганарыцца такімі кіраўнікамі, як іх прэзідэнт і невядомы начальнік аўтабазы, за іх чалавечнасць.

Каб адправіць прызыўнікоў і людзей, якія назбіраліся на маленькай станцыі, давялося сфарміраваць дадаткова цягнік, на якім мы даехалі да Алма-Аты. Пер-

шым чынам я аднесла грошы майму спадарожніку за білет, а затым накіравалася ў інстытут, у дэканат, атрымаць новую картку на хлеб. Дэкан нашага факультэта аказаўся баязлівым і нядобрым чалавекам. Ён адмовіў мне ў выдачы карткі, пакуль я не прынясу даведкі аб захворванні. Хіба можна было здагадацца, што спатрэбіцца такая даведка? А ў бальніцы ніхто не папярэдзіў. Я ж не магла з'явіцца дахаты без карткі, бо не магла дапусціць, каб маці ці бацька аддалі мне сваю пайку на абед. Я сказала дэкану, што галодная і без карткі з дэканата не выйду, і ўселася на крэсла ў куце кабінета. На патрабаванні дэкана пакінуць кабінет я адказала, што без карткі не зраблю гэтага. Так я праседзела гадзіны дзве ці крыху больш. Дэкан некалькі разоў выходзіў і вяртаўся, а я моўчкі сядзела ў куце. Гэта стала дзейнічаць яму на нервы, і, раззлаваўшыся, ён выклікаў сакратарку і загадаў выдаць мне картку на хлеб, каб я хутчэй выбралася з яго кабінета. Я зразумела, што разам з карткай я атрымала ворага. І не памылілася, але гэта здарылася пазней.

У канцы лета Шуру накіравалі на работу кінамеханікам у шпіталь для параненых, які знаходзіўся ў 27 кіламетрах ад горада ў высакагорным мястэчку Алма-Арасан. Там ёй выдзелілі пакойчык, і яна забрала да сябе бацькоў. Я засталася ў горадзе адна. Летам мне споўнілася 18 год, і цяпер пачалося самастойнае жыццё без усякай надзеі на дапамогу бацькоў.

Пры залічэнні ў інстытут мне прызначылі стыпендыю дзесьці рублёў 130, з якіх 80 я аддавала за маленькі пакойчык, які зняла ў прыватным доме. Там змяшчаўся ложак, стул і скрынка, якая служыла мне сталом і шафаю. Ножкі ложка стаялі ў бляшанках з-пад кансерваў, напоўненых вадою для абароны ад клапоў. Але гэта мала дапамагала. Пражорлівыя паразіты па сцяне забіраліся на столь і адтуль пікіравалі на ложак. Заснуць было вельмі цяжка ад іх укусаў.

Ад стыпендыі заставалася рублёў 40—50. Іх хапала на хлеб і трохразовае харчаванне ў студэнцкай сталоўцы. Але ж хацелася схадзіць у тэатр, дзе выступалі лепшыя артысты Савецкага Саюза. Так мне пашчасціла пабачыць «Жызель» з Галінай Уланавай, паслухаць «Рыгалета» з Аляксеем Івановым і Ірынай Масленікавай. Але каб набыць білеты, трэба было эканоміць хлеб і прадаваць яго на рынку.

***Працяг будзе.***

# СУЧАСНАСЦЬ У КАНТЭКСЦЕ ВЕЧНАСЦІ



*Міхась Рудкоўскі.*

Гэтымі цёплымі вясновымі днямі літаратурная Берасцейшчына, а тым болей — Ганцаўшчына, святкуюць юбілей свайго слыннага паэта Міхася Рудкоўскага, які нарадзіўся 17 красавіка 1936 года ў вёсцы Востраў. Яго маці Марыя Юльянаўна і бацька Міхась Іванавіч былі простымі сялянамі. Хата, у якой гадаваўся будучы паэт, знаходзіцца не ў самой вёсцы, а, як гавораць тутэйшыя жыхары — у «мястэчку». Прыгожы кут над рэчкай Начай засялялі калісьці самыя ўмелыя вяскоўцы. Адным з такіх майстроў і быў дзед Міхася — Ясь.

У 1944 годзе, адразу пасля вызвалення раёна ад немцаў, Міхась Рудкоўскі пайшоў у першы клас Востраўскай пачатковай школы. Пазней яна была пераўтворана ў сямігадовую, якую ён і скончыў у 1951 годзе. Вучыўся Міхась надзвычай добра, быў старанным і ва ўсіх адносінах прыкладным вучнем. Пасля школы паступае ў Ганцавіцкае педвучылішча, заканчвае вучобу ў Пінску, куды праз год былі пераведзены навучэнцы з Ганцавіч.

На працу прыехаў у свой раён. Быў выхавальнікам Ганцавіцкай дапаможнай школы, з лістапада 1955 года — выкладчык беларускай і нямецкай моў, адначасова даваў урокі малявання ў Кукаўскай васьмігадовай школе — непадалёку ад родных мясцін. Неўзабаве паступіў на завочнае аддзяленне філалагічнага факультэта Брэсцкага педагагічнага інстытута.

Яшчэ ў школьныя гады Міхась Рудкоўскі спрабуе пісаць. Гэта былі разнастайныя допісы ў рэспубліканскія дзіцячыя газеты і часопісы. Падчас вучобы ў педвучылішчы з'явіліся і першыя вершы. Не пісаць ён ужо не мог. Жаданне больш цесна звязаць свой лёс з літаратурнай творчасцю прыводзіць паэта ў рэдакцыю ганцавіцкай раённай газеты «Сялянская праўда». Праца ў раёнцы стала пераломным момантам у яго жыцці. Тут яму пашчасціла сустрэцца з таленавітымі журналістамі, а затым і пісьменнікамі В. Праскуравым, І. Кірэйчыкам, М. Дубянецкім. У юнацкія гады Міхась Рудкоўскі ўжо шырока друкаваўся ў часопісе «Маладосць», газетах «Чырвоная змена», «Заря».

У 1962 годзе пераехаў у Брэст, дзе працаваў старшым рэдактарам, а потым рэдактарам літаратурна-драматычных і музычных перадач Брэсцкай студыі тэлебачання. Тады ж узнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР. Вялікі поспех у чытачоў меў першы зборнік паэзіі Міхася Рудкоўскага «Першыя вёрсты», які выйшаў у 1963 годзе. З-пад пяра паэта выходзілі ўсё новыя і новыя кніжкі, якія займалі дастойнае месца ў беларускай паэзіі, станавіліся вядомымі за межамі рэспублікі: «Сінія Брады» (1967), «Позвы» (1971), «У краі тым» (1975), «Векавечная Бацькаўшчына» (1976), «Трыгор'е» (1981), «Засцярога» (1984), кніга выбраных твораў «Залатазвон» (1986). Зборнік «Гарынь» пабачыў свет пасля смерці паэта ў 1992 годзе.

Як паэт-лірык Міхась Рудкоўскі быў улюбёны ў край «запаветна-светлы — Беларусь», у яе добрых і мужных людзей, ганарыўся яе гісторыяй, жыў трывогамі сучас-

насці, задумваўся над нашай будучыняй. Яго вершам уласцівы глыбокі псіхалагізм, непасрэднасць, шчырасць пачуцця, яркая вобразнасць, тонкі лірызм. Спрабаваў свае сілы ў жанрах балады, элегіі, санета, трыялета і іншых. Рэцэнзаваў кнігі пісьменнікаў, пісаў артыкулы па пытаннях сучаснай беларускай паэзіі. Выступаў як перакладчык з украінскай мовы. Вершы М. Рудкоўскага перакладзены на англійскую, грузінскую, рускую, украінскую мовы, многія яго вершы пакладзены на музыку.

Міхась Рудкоўскі належыць да першага пасляваеннага прызыву беларускіх паэтаў. Ягоную творчасць крытык Уладзімір Калеснік характарызуе наступнымі ёмкімі і дакладнымі словамі: «Іронія, сарказм, гратэск, фарс — усё гэта вымушаныя абставінамі рэагаванні паэта, яго душы, якая прагне жыць сумленна і разумна ў сумленным і разумным чалавечым свеце. Так, душа паэта ведае, што не спасцігла ўсёй сутнасці быцця, але не здасца яна на ласку моды, не клюне на прынаду таннага поспеху, бо знаёмы ёй спрадвечны вопыт народа, мудрасць вякоў, каштоўнасці сапраўдныя і хуткаплынныя. Сучаснасць тады набывае цану, калі вытрымлівае выпрабаванне кантэкстам вечнасці».

Рашэннем Савета Міністраў БССР у 1992 годзе сярэдняй школе ў вёсцы Востраў было прысвоена імя паэта, тут быў створаны літаратурны музей паэта-земляка.

***Ала ХВАЛЬ,***
*метадыст аддзела маркетынгу*
*Цэнтральнай раённай бібліятэкі*
*імя В. Ф. Праскурава.*

**Ірына РУДКОЎСКАЯ**

# І ПАМЯЦЬ, І РАДАСЦЬ, І БОЛЬ...

З братам Міхасём я заўсёды адчувала роднасць душ. Казалі, што мы з ім падобныя і знешне і абое ўдаліся ў бацьку. Можа, у асобных рысах і так. Але ж бацька наш быў мажнага целаскладу, вельмі дужы, а яго рукі, вялікія з шырокімі далонямі, выдавалі чалавека-працаўніка. Міша ж меў знешнасць інтэлігента: высокі, танклявы, рукі з вузкаю далонькай і доўгімі пальцамі. Правільныя рысы твару, вельмі прыгожыя карыя вочы. Пагляд яго разумных і ўважлівых вачэй адлюстроўваў натуру адкрытага, добрага, праўдзівага чалавека. Я ж мела буйнаватую постаць, лічыла сябе непрыгожай, таму не любіла фатаграфавацца. Мець такія вочы, як у брата, палічыла б шчасцем. Як бы там ні было, але ў нашай сям'і казалі: Міша і Іра падобныя на бацьку, Ліда — на маму. І, хутчэй за ўсё, пры знешнім нашым падабенстве ў нас з братам была і ўнутраная еднасць. Міхась вельмі любіў мяне, але ж, здаецца, гэта звычайна так і бывае, што ў сям'і больш любяць меншых. Міхась звычайна браў мяне з сабою, калі ішоў у грыбы і на рыбалку. Выконваў мае, як сёння разумею, дзіцячыя капрызы, заўсёды купляў гасцінцы. А калі я ўжо мела сям'ёю, у час водпускаў, а потым, будучы на пенсіі па інваліднасці, брат часта і падоўгу любіў жыць у нас, у Хатынічах, адчуваючы сябе, па-мойму, тут вельмі ўтульна.

Калі я вучылася ў педінстытуце, то жыла ў Міхасёвай сям'і. Бацькі нашы, хоць тады яшчэ і не старыя, але ўжо хварэлі: мама даўно, а тата ў год майго заканчэння школы занямог і праз колькі гадоў памёр. Таму, каб не брат, мне тугавата прыйшлося б жыць у горадзе на адну толькі стыпендыю.

Тады з сям'ёй ён толькі пераехаў у Брэст, куды яго забралі з Ганцавіцкай раённай газеты на студыю тэлебачання. Там атрымалі двухпакаёвую кватэру. Жылі сціпла. Бацькі нашы не маглі дапамагаць, а жонка брата Аня мела пры-

ёмных бацькоў, і адносіны паміж імі былі, як мне здавалася, не вельмі цёплыя. Сям'я толькі абжывалася. А тут яшчэ я. Але ж у інтэрнат яны мяне не адпусцілі.

Потым, як я ўжо казала, Міхась у мяне жыў падоўгу. Я нават прасіла яго, каб заставаўся ў нас, у вёсцы, калі ён атрымаў інваліднасць. Довады, якія звычайна прыводзяць вяскоўцы: свежае паветра, гародніна, садавіна… Міхась згаджаўся, жыў па некалькі месяцаў, потым, відаць, не вытрымліваючы маёй залішняй апекі, «уцякаў» у Брэст.

Бывалі часам паміж намі і «войны»: Міша з маім мужам Васілём на адным фронце, я — на другім. Няцяжка ўявіць прычыну. Сілы былі няроўныя: перавага часцей бывала на мужчынскім баку. Аднак да канца жыцця брата паміж намі захоўваліся вельмі цёплыя адносіны. Ды інакш і не магло быць: паміж намі была «двайная крэўнасць». А справа ў наступным.

Міхась напачатку 70-х гадоў трапіў у бальніцу з перытанітам. Стан яго быў вельмі цяжкі. Мама, хоць і хворая сама, некаторы час знаходзілася пры ім неадлучна. Потым прыехала я. Доктар сказаў, што хвораму патрэбна кроў. Я паехала на станцыю пералівання і здала колькі трэба, і мне было прыемна ўсведамляць, што і я дапамагла брату хутчэй паправіцца.

* * *

Прыходзіць мне на памяць адна восень, калі Міхась якраз жыў у нас у Хатынічах. Было гэта дзесьці ці не ў 1984 годзе. І запомнілася яна галоўным чынам сваімі незвычайнымі вячэрамі. Так-так, вячэрамі.

Наварыла я аднойчы бульбы ў лупінах, натаўкла часнаку з соллю, прынесла з кубла халоднага «слаўненькага» сала. Гэтыя стравы і сталі галоўнымі ў маім вячэрнім меню. І нам усім так спадабалася гэтая сціплая ежа, што я ў тую восень не раз гатавала такую смакату на вячэру. Не верыце, што гэта смаката? Паспрабуйце. І вы пагодзіцеся са мною.

А яшчэ таму мы ўпадабалі экзатычную вячэру, што яна напомніла нам дзяцінства. У вёсцы так вячэралі часцей менавіта восенню. І добра, калі з салам, а то і без яго, бо ў гэтую пару ў многіх сем'ях была нішчымніца — сала не было. Я ўжо не гавару пра мяса ці каўбасу. Аднаго кабана ўжо з'елі, а другога біць яшчэ рана, чакалі маразоў — халадзільнікаў ды маразільнікаў у людзей тады не было.

* * *

А гэтая частачка маіх успамінаў адносіцца да 1976 года. Здаецца, дробязь, а вось на табе, помніцца. Хоць часам на такую, як здаецца, дробязь з вышыні гадоў глядзіш па-іншаму.

Майму меншаму сыну Віталіку не было яшчэ і года. А гаспадарка! А яшчэ ж летам шмат часу патрабуе агарод! Я з цяжкасцю спраўлялася з усімі клопатамі. А калі пайшлі зацяжныя, бы восенню, дажджы, калі пустазелле пагнала ў рост, я і зусім «запарылася» з градамі.

Аднойчы завіхаюся ў агародзе, а мой паэт, які ў тое лета жыў у нас, вырашыўшы, што сапраўды «адзін у полі не воін», прыходзіць да мяне ў агарод і давай шчыраваць са мною над буракамі. І пайшла ў нас работа. Праўду кажуць, што не толькі кашу ўдваіх весялей есці.

* * *

Яшчэ помны эпізод з 1976 года. Зноў лета. Сыну Віталіку каля года. Я, робячы што па гаспадарцы, часам пакідала яго на Міхася.

Вось і той раз я пакінула Віталіка на брата. Міхась чытаў, седзячы на канапе, а дзіця поўзала па падлозе. Раптам з хаты выскоквае Міша і радасна крычыць:

— Юра! Іра! Віталік пайшоў!

Малы, аказваецца, поўзаў-поўзаў, потым падняўся ля супрацьлеглай ад канапы сцяны, пастаяў і рушыў цераз усю вялікую залу да дзядзькі.

Я вельмі радавалася. Рады быў і Міхась. І было чаго: ён аказаўся сведкаю першых самастойных крокаў Чалавека па Зямлі!

* * *

Міхась вельмі любіў маму. І яна яго, па-мойму, любіла больш, чым нас, дачок. Можа, таму, што адзіны сын, можа, яшчэ і таму, што яе першае дзіця — дачушка Генька — памерла ў паўтарагадовым узросце. А потым нарадзіўся Міша, быў пакуль адзіным дзіцем у сям'і ды пры тым вельмі цяжка хварэў у дзяцінстве. Мама, вядома ж, вельмі перажывала за яго жыццё і здароўе, і гэтая трывога так і засталася назаўсёды. Яе мацярынскае сэрца прадчувала цяжкі лёс сына. Да таго ж ён рана пакінуў бацькоўскую хату, калі паступіў пасля сямігодкі ў педвучылішча.

І Міхась неяк па-асабліваму адносіўся да мамы, вельмі цёпла, пяшчотна. Незвычайным для «вясковага этыкету» было тое, што Міша пры сустрэчы цалаваў маці руку: спачатку яна неяк бянтэжылася, як бы саромелася, а потым прывыкла. Такое тады можна было ўбачыць хіба што толькі ў кіно, у вакольным для нас жыцці нічога падобнага не назіралася.

Міхась не саромеўся выказваць свае сыноўнія пачуцці да самага дарагога яму чалавека ў жыцці. Выказваў ён гэтыя пачуцці і ў сваіх вершах. Шмат шчымлівых, кранальных да слёз слоў знайшлося ў яго для маці, роднага дома. У адным з вершаў ён пісаў:

Перад тым, як упасці,
Навекі прапасці,
Песні чатыры хацеў бы я скласці.
Найпершая песня —
Маці…

Або яшчэ:

Калі адыходзіў
з бацькоўскае хаты па-над ракою,
Хлеба акраец узяў я з сабою,
Лісцік світальнае зары,
Голас зязюлькі,
Памяць крэўных магілаў
І смутак нязгойны матулі…

Маці для Міхася — усё, што ёсць самае святое ў чалавека. Сіла яе любові — неадольная, перад ёю нават смерць адступае:

Калі безнадзейна хворы
ляжаў я, а над калыскай
суседка са свечкай стаяла,
ты памалілася сонцу,
травам, дрэвам і птушкам, —
я вочы расплюшчыў.

Малітва маці як абярэг ад усіх жыццёвых нягод:

І сёння перад дарогай
маўкліва прашу цябе я:
— Травам, дрэвам і сонцу
за мяне памаліся,
мама!

Мама жыла ў роднай хаце з сям'ёй старэйшай дачкі Ліды. Хварэла яна даўно. Апошнія гады ў бальніцу класціся не хацела ні за што. Я тады брала машыну, прывозіла яе да сябе ў Хатынічы, калі ёй станавілася горш. А хварэла яна на сэрца. У нас участковая бальніца якраз насупраць нашага дома. А з дактарамі мы межаваліся, а медсёстры рабілі прыпісаныя доктарам назначэнні. Ёй палягчэе, пабудзе ў нас, пабудзе ды і «каб як вы мяне дадому адвезлі». Адвязём. І так да наступнага разу. Але восенню 1977 года як стала ёй кепска, так і не папраўлялася. Яна слабела. Я адчула кепскае. Патэлефанавала брату, і ён адправіўся ў сумную дарогу.

Брэсцкі аўтобус прыходзіў да нас вечарам. Я выйшла сустрэць Міхася, каб хоць тыя метраў 150 ад прыпынку да нашай кватэры не здаліся яму аднаму такімі пякельнымі.

Ганцавіцкая зямля сустрэла брата непагодай. Ішоў нудны асенні дождж, парываў вецер. Неба, здаецца, плакала разам з ім.

Міхась зайшоў у хату, падышоў да ложка, на якім ляжала аслабелая маці, апусціўся на калені і, як заўсёды, пацалаваў ёй руку. Сэрца быццам абарвалася ў яго грудзях. Ён зразумеў: са смерцю маці рвецца нешта тое, што наймацней за ўсё звязвала яго з родным кутком, які даваў жыццёвыя сілы, які служыў яму паэтычным натхненнем.

З часу пахавання маці (бацька памёр сямю гадамі раней, у 1970 годзе) вандраванні Міхася ў ваколіцах роднага Вострава, калі ён бываў там, часцей за ўсё заканчваліся цішаю бацькоўскіх кладоў. Потым у адным са сваіх вершаў Міхась напіша:

Прыедзеш дадому, у кут запаветны —
Як брата цябе сустракаюць,
Хапае ўсяго у застоллі прыветным,
І толькі яе не хапае.

І добра табе, і гасцінна у хаце,
Ды толькі (ці гэта здаецца?)
Чамусьці бацькоўская хата без маці —
Што грудзі жывыя без сэрца.

Светлы і мілы вобраз маці дапамагаў Міхасю ў найбольш цяжкія часіны жыцця да самага яго скону.

* * *

Міша пасля аперацыі на лёгкіх восенню некаторы час жыў у Хатынічах.

Выкапалі мы бульбу камбайнам, прывезлі машынаю і высыпалі на двары. Яна брудная, з зямлёю, дзе пабітая, дзе гнілая. Да таго ж яе трэба было і сарціраваць. І я над бульбай шчыравала, прыйшоўшы са школы. Работа ішла марудна. Міхась, бачачы гэта, стаў дапамагаць мне. Сядзім мы з ім, перабіраем і гаворым, гаворым… Я ўжо і не помню, аб чым мы гаварылі. Як кажуць, аб усім і не аб чым. Помню толькі, як хораша нам было, якімі блізкімі мы былі за гэтымі цёплымі размовамі.

Неяк аднойчы Міхась быў увесь дзень вельмі самотны. Ці то фізічнае недамаганне, ці то, хутчэй за ўсё, яго адольвалі невясёлыя думкі. Муж Васіль у той дзень прыйшоў з работы са старшынёй сельсавета Мікалаем Мікалаевічам. Яны прынеслі з сабою дзве бутэлькі гарэлкі, купілі яе ў магазіне «па блату», бо гэта быў час продажу тавараў па талонах. Міхась да іх:

— Добра, што вы прыйшлі. Пасядзім, пагамонім.

Я, хоць звычайна «ваявала» са спіртным, у той дзень была ўдзячная мужу, што ён адчуў настрой Міхася і хоць крыху адцягнуў яго ад невясёлых роздумаў.

А яшчэ стаіць перад вачыма такі малюнак з тае восені. Міхась сядзіць на лаўцы пад грушаю і так задумліва-самотна глядзіць, глядзіць на кусты кветак ля веранды. Потым удакладняе:

— Гэта хрызантэмы?

— Хрызантэмы, — адказваю я.

Ён цытуе:

Отцвели уж в саду
Хризантемы давно…

Я папраўляю:

Отцвели уж давно
Хризантемы в саду…

— Мабыць, так, — пагаджаецца ён.

Гэтая восень была апошняй у яго зямным жыцці.

Не ўсё канчаецца са смерцю…
Я веру словам мудраца.
Я адыду, але, паверце,
Не прападу я да канца.
Я ледзь прыкметную сцяжынку
Вяду праз пушчу, праз лясы.
Сцяжынай тою пойдзе сын мой,
За ім — унук і ўнукаў сын.

Міхась Рудкоўскі ляжыць у той зямлі, па якой басаног бегаў маленькім хлапчуком, пад тымі роднымі яму бярозкамі, якія помнілі гэтага хлапчука, якія люлялі яго ў дзяцінстве і раслі разам з ім, пад тымі самымі хвойкамі, пад якімі ляжаць яго бацькі, пад якімі ён сядзеў не раз і пад пошум якіх вёў маўклівыя дыялогі з роднымі яму людзьмі; ляжыць на тых кладах, з якіх добра відаць яго Сінія Брады і Высокі Бераг — да скону дзён любімыя і так хораша і цёпла апетыя ім куточкі яго векавечнай Бацькаўшчыны.

Тамара КРУЧЭНКА

# «ХОЙНІКШЧЫНЫ СПЕЎНАЯ ДУША»

**Хойнікшчыны спеўная душа.** *Мн.: Выдавецкі цэнтр БДУ, 2010.*

У сэрцы кожнага з нас жыве куток маленства, зямля продкаў, па якой зроблены першыя крокі, дзе табой самім засведчана адметная прыгажосць, якой няма нідзе больш, нават у самай экзатычнай старонцы. Колькі, аказваецца, было яшчэ мне не вядома пра гэты ўнікальны куток Палесся, адкуль карані знакамітых пісьменнікаў, журналістаў, навукоўцаў, прадстаўнікоў улады.

Чытаючы фальклорна-этнаграфічны зборнік пра народную духоўную культуру хойніцкага краю «Хойнікшчыны спеўная душа» (пад агульнай рэдакцыяй прафесара Валянціны Новак), які выйшаў у выдавецкім цэнтры БДУ, адкрыла наноў Хойнікшчыну — радзіму многіх сваіх сяброў. Салідны аўтарскі калектыў з 26 чалавек працаваў над кнігай. І кожны ўпісаў свае старонкі ў гэты летапіс краю, яго духоўнай культуры.

Неаднойчы бывала і я ў Хойніцкім раёне ў камандзіроўках, але вось у вёску Вялікі Бор усё не даводзілася завітаць. Ды, прачытаўшы артыкул прарэктара па навуковай рабоце ГДУ імя Ф. Скарыны, доктара тэхнічных навук, прафесара Алега Дземідзенкі, увачавідкі ўявіла прыгажосць тутэйшых бароў:

«Сама назва вёскі Вялікі Бор, відаць, паходзіць ад таго, што на ўскраі яе, крыху за лесам (месца гэтае называецца Барацін), знаходзіліся два вельмі прыгожыя бары. Першы — сасновы, з вельмі высокімі, стройнымі дрэвамі). Гэта былі сосны з залацістай карой і тоўстым ствалом. Бор быў вельмі чысты, праглядваўся вельмі далёка. А за ім пачынаўся прыгожы дубовы лес, з дрэвамі ўзростам не ў адну сотню гадоў».

Якім жа багатым на такія дрэвы быў край, калі далёкія продкі хайнічан маглі дазволіць сабе раскошу быць пахаванымі ў труне з дуба!? Алег Дземідзенка зазначае: «Гісторыя вёскі Вялікі Бор адыходзіць сваімі каранямі ў даўнюю мінуўшчыну. Калі ў адным з двароў, дзесьці на яе ўскрайку, капалі пад пабудову яму, была знойдзена труна. У ёй стаяў берасцяны туясок з мёдам, і калі адкрылі гэты туясок, па аповедах сведкаў, мёд пах так, быццам яго толькі ўчора сабралі пчолы…» Што яшчэ з артыкула вучонага кранула, дык гэта яшчэ адзін самабытны рэлікт Палесся — уюны, пра якія кожны тутэйшы рыбак раскажа, бы песню спяе. «Уюн — рыба доўгая, чымсьці падобная на невялікую змяю, дасягала 20—30 сантыметраў у даўжыню, таўшчынёй з вялікі палец, паласатая па спінцы, бы бурундук, і вельмі смачная. У вёсцы яе ўжывалі як у вараным, так і ў сушаным выглядзе, зімою клалі ў борш».

А колькі перажылі жыхары Вялікага Бора ў Вялікую Айчынную! Пра гэта напісаў у сваім аднайменным рамане ўраджэнец гэтай палескай вёскі, вядомы пісьменнік Барыс Сачанка, які, на вялікі жаль, заўчасна пайшоў з жыцця. Свае штрыхі робіць Алег Дземідзенка. Ён узнаўляе жудасныя старонкі гісторыі на прыкладах лёсаў сваіх родных, землякоў. «Тых людзей, якія засталіся ў вёсцы, фашысты сагналі разам. Паліцаі сарціравалі іх: каго павязуць на машыне, а хто пойдзе пешшу, аб’явілі, што яны будуць адпраўлены ў Германію. Гэта была няпраўда… Як высветлілася потым, калону павезлі на станцыю,

а ўсіх астатніх сагналі ў свіран, падперлі бярвеннямі і падпалілі. Вялікая частка працаздольнага насельніцтва, у тым ліку і дзеці, апынулася на прымусовых работах у Германіі…» З дакументальнай дакладнасцю згадвае аўтар і пачатак вайны: пра гэта ў свой час расказваў Алегу Міхайлавічу яго бацька, кавалер ордэна Чырвонай Зоркі, медаля «Партызану Вялікай Айчыннай вайны 2-й ступені».

«У пачатку вайны бацька быў у радах дзеючай Чырвонай Арміі непадалёку ад Брэста, — піша А. Дземідзенка. — Ён расказваў, як адбылося першае сутыкненне з немцамі нашых салдат. Яны знаходзіліся на ўзлеску, калі ўбачылі калону, што рухалася на аўтамабілях і матацыклах у іх бок. Былі бачныя чырвоныя сцягі, якія везлі матацыклісты, і байцы падумалі, што гэта салдаты Чырвонай Арміі. Калі калона наблізілася, аказалася, што на сцягах у цэнтры на белым фоне чорная свастыка. Завязаўся жорсткі рукапашны бой. Калі ён скончыўся, у бацькавых руках аказаўся нямецкі аўтамат. Гэта было яго першым баявым хрышчэннем».

Шчымлівая, настальгічная канцоўка аповеда Алега Дземідзенкі пра родную вёску — найлепшае пацвярджэнне таму, што ў кожным «фізіку» жыве лірык: «Не так даўно я зноўку з’ездзіў у сваю вёску і наведаў памятныя для мяне мясціны. На жаль, пры планавай нарыхтоўцы лесу поўнасцю зрэзаны і знішчаны сасновы і дубовы бары. Толькі на самым ускраі Бараціна ў акружэнні кустоў маладога арэшніку адзінока стаяў цудам ацалелы з усяго бору дуб. Ён вартаваў маё дзяцінства…»

Несумненна, упрыгожыла зборнік і публікацыя ўрыўкаў з дарожнага дзённіка Барыса Сачанкі «Вечны кругазварот». Гэта абразкі жыцця палешукоў, таленавітае дапаўненне да мележаўскай «Палескай хронікі». Колькі мудрасці, дальнабачнасці, назіральнасці праяўляецца ў гэтым прысвячэнні продкам, роднай зямлі. «Мудрасць жыцця якраз не ў тым, каб думаць пра тое, пра што не варта думаць, а дбаць пра надзённае, пра тое, без чаго жыць нельга, што зрабіць трэба сёння, заўтра, і не толькі дзеля сябе аднаго, а дзеля сям’і, дзяцей. Каб не галодныя былі, не голыя — не мерзлі. Не пасееш — не пажнеш. Рана не ўстанеш — многа не зробіш. Кінеш спераду — знойдзеш ззаду... Глыбей узарэш — болей збярэш... Дома — і салома ядома... Свая хатка — як родная матка... Куды людзі, туды і ты... Улез у дугу — не кажы «не магу»... Рад не рад, ды мусіш... Гнуткае дрэва і вецер не ломіць... Дзе быць, там і трэба рабіць... Хто дбае, той і мае... Свет не без добрых людзей... Словам і жыць будзем, і гуляць будзем, а прыйдзе смерць — паміраць будзем...» Сачанкаўскія дзённікі — гэта своеасаблівыя метадычныя падказкі для сучасных этнографаў і фалькларыстаў: дзе, у якіх пластах Хойнікшчыны можна адшукаць адметнасці адзення, абрадаў, прыкмет, павер’яў, варожбаў. «Сапраўдным слоўным помнікам Радзіме» называе «Зямлю маіх продкаў» доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускай літаратуры філфака ГДУ імя Ф. Скарыны Вольга Шынкарэнка ў артыкуле «З любоўю да роднай зямлі». Вольга Карпаўна пачынае яго, вядома ж, з разгляду творчасці Івана Мележа, з канстатацыі: «Лепш за Івана Мележа пра Палессе і палешукоў ніхто не здолеў сказаць: «Ёсць у кожнага свой мілы сэрцу куток, які з бегам гадоў не толькі не цьмее ў памяці, а становіцца як бы яснейшы, даражэйшы. Багата можа быць у чалавека за жыццё і іншых куткоў, і больш слаўных, і больш выдатных. Але гэты куток, і не слаўны, і не выдатны, можа, нічым, не забываецца, не адступае ўдалеч; сярод іншых дарагіх, хвалюючых успамінаў — ён самы дарагі, самы шчымлівы! Куток гэты — тая хата, дзе мы вучыліся хадзіць, дзе чулі цеплыню матчыных рук і матчынага сэрца, куток нашага маленства».

Душэўныя шчырыя згадкі пра Івана Паўлавіча падрыхтавала яго пляменніца, былы супрацоўнік кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны Вера Генаш. Неаднаразова даводзілася ёй сустракацца з класікам. «Усплывае ў памяці, як каля нашай хаты спынілася машына, здаецца, бела-шэрая «Волга», і адтуль выйшаў проста апрануты, спакойны, высокі і вельмі прыемны з выгляду чалавек. Гэта быў Іван

Паўлавіч. Шчыра павітаўся з бацькам і маці, суседзямі, якія са здзіўленнем, цікавасцю і павагай глядзелі на жывога пісьменніка. А ён працягнуў руку і мне, дзяўчынцы-сямікласніцы».

Паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Мятліцкі стварыў таленавіты паэтычны помнік радзіме, аднайменную з назвай роднай вёскі кнігу «Бабчын». У зборніку «Хойнікшчыны спеўная душа» прадстаўлены яго празаічныя нататкі «Сонца над Бабчынам» і «Сэрцу майму ты да скону радзіма». Ды і ў іх столькі паэзіі: «Радзіма не пакідала мяне. Глядзеў на вокны гарадскіх гмахаў, аслепленых ранішнім сонцам, а бачыў, як пабліскваюць яго чырвоныя промні на шыбах бацькавай хаты. Пачуў, як рыпнулі яе дзверы, і ўбачыў маму: вунь яна, падалася да студні. Слізгае ў яе руках вочап, ледзь чутна парыпвае замшэлы ад веку журавель, і вядро захлынаецца — булькае ў сцюдзёнай глыбіні...» Паэт прызнаецца, што «дзед быў цікавы субяседнік, пісаў вершы, да вайны друкаваў іх у «Гомельскай праўдзе».

Сімвалічна, што і сама абласная газета прадстаўлена ў кнізе інтэрв'ю з галоўным яе рэдактарам, старшынёй абласной журналісцкай арганізацыі Сяргеем Бяспалым. Ён таксама ўраджэнец хойніцкага краю, ужо дзевяць гадоў узначальвае калектыў. У інтэрв'ю намесніку галоўнага рэдактара Ніне Злыдзенка Сяргей Міхайлавіч распавядае пра газету, якой больш як 90 год, якая сёння мае самы вялікі тыраж сярод абласных газет рэспублікі. «Узначальваць «Гомельскую праўду» для мяне вялікі гонар і вялікая адказнасць. Напэўна, не ўсе ведаюць, што ў нашай газеце пачынаў працоўную біяграфію Паўлюк Трус, дэбютаваў малады Іван Шамякін, друкаваўся Ілья Эрэнбург, у перадваенны год яе рэдагаваў будучы камандзір партызанскага злучэння Герой Савецкага Саюза Ілья Кожар... На старонках газеты друкуюцца сталыя і пачынаючыя паэты і празаікі Гомельшчыны — рубрыка «Літаратурная гасцёўня» вось ужо колькі дзесяцігоддзяў збірае пад сваё крыло таленавітых людзей нашага краю».

У шэрагу публікацый Тамары Кручэнкі пра мележаўскіх людзей-чалавекаў распавядаецца пра сустрэчы аўтаркі з паэтам Міколам Мятліцкім, пра Героя Сацыялістычнай Працы Алену Вяргейчык, якая 40 год адпрацавала ў саўгасе Судкова, а таксама пра ацалелую ў ваенным полымі вёскі Алексіч Марыю Фёдараўну Бондар.

Але ж найбольш значны аб'ём кнігі — пра народную духоўную культуру хойніцкага краю. Доктар філалагічных навук, прафесар, загадчыца кафедры беларускай культуры і фальклbackарыстыкі ГДУ імя Ф. Скарыны Валянціна Новак распавядае пра мясцовыя асаблівасці каляндарна-абрадавага фальклору, ілюструючы кожную з'яву адметнымі прыкладамі, запісанымі ў час экспедыцый па Хойнікшчыне.

Аказваецца, у вёсцы Глінішча, на радзіме Івана Мележа ў калядныя святкаванні не абыходзіліся без абраду ваджэння каня. У вёсцы Слабажанка ў Піліпаўку калядавалі са «звяздой»: «Куплялі каляровую паперу, свечкі, рабілі корпус. «Звязда» была на 8 і больш рагоў, у сярэдзіне змяшчалася выява Божай Маці, вакол яе свечкі. «Звязда» круціцца, а прысвечнік і абраз застаюцца нерухомыя. Гэту «звязду» на Каляды насілі ад хаты да хаты, спяваючы песні рэлігійнага зместу.

Цікава, што ў вёсцы Вялікі Бор у час калядавання «есці куццю клікалі ўсіх — мароз (каб не марозіў гародніны і садавіны), вецер (каб не зрываў стрэх, не круціў, не слаў упокат на зямлю жыта, ячмень, проса), дзядоў (каб не злавалі, спрыялі гаспадарцы, гаспадыні і гаспадару)».

Каб быў добры ўраджай, у вёсцы Веляцін кідалі на агарод шкарлупінне ад яек. А ў вёсцы Судкова ў першую баразну клалі асвенчанае на Вялікдзень яйка. Каб быць здаровымі і прыгожымі, у вёсцы Слабажанка ўмываліся вадой, у якой пэўны час ляжала велікоднае яйка.

Гэтыя і шматлікія іншыя абрады і звычаі ілюструюць, наколькі адметнае яно, хойніцкае Палессе. Кніга багата ілюстравана каляровымі фотаздымкамі, на якіх зафіксаваны маляўнічыя пейзажы, а таксама паляшучкі, якія

захоўваюць і сёння паданні, замовы, песні, прыказкі, прымаўкі.

Зборнік, несумненна, падорыць хайнічанам, раскіданым чарнобыльскай трагедыяй па розных кутках Беларусі, шчырыя згадкі пра жыццё ў родных вёсках. Калі, напрыклад, у Піліпаўку ў Алексічах збіраліся на попрадкі. А ў вёсцы Веляцін у ноч пад Новы год варажылі: ішлі да каморы, глядзелі ў шчыліну замка і казалі: «Чэрці, чэрці, не ўтаіце, мне мілага пакажыце». А незабыўныя песні калядоўшчыкаў Тунеўшчыны:

Добры вечар таму,
Хто ў гэтым даму,
Святы вечар!
Ці ты спіш,
Ці ляжыш,
Ці на Бога глядзіш,
Святы вечар?
А калі не спіш,
Гавары са мною,
Святы вечар!
Уставай з пасцелі,
Адкрывай дзверы,
Святы вечар!..

Кніга «Хойнікшчыны спеўная душа», безумоўна, выдатны дапаможнік тым, хто займаецца адраджэннем традыцый. Прафесар Валянціна Новак нібы па палічках расклала зімовыя, веснавыя, летнія і восеньскія святы, звычаі і песні. Таму, каб арганізаваць па-належнаму Гуканне вясны, Купалле, Зажынкі ці іншыя святы земляробчага календара, аматары мастацкай самадзейнасці могуць зазірнуць, бы ў энцыклапедыю, у гэтыя народныя тэксты, выкарыстаць іх у сваіх сцэнарыях.

І не толькі гэта. Традыцыі сямейнай абраднасці краю таксама грунтоўна даследаваны В. Новак разам з кандыдатам філалагічных навук, дацэнтам кафедры беларускай культуры і фальклярыстыкі ГДУ імя Ф. Скарыны Аленай Кастрыцай. Аўтаркі праводзяць нас ад нараджэння чалавека да хаўтур. Пачынаюць з радзінна-хрэсьбіннай абраднасці, з засцярог і прадпісанняў цяжарным жанчынам. Напрыклад, у Стралічаве жанчынам, якія выношвалі дзяцей, забаранялася станавіцца на вяроўку (каб малое не задушылася пупавінай). Нельга было і глядзець на нябожчыкаў і памерлую скаціну. А ў час пажару не дай бог цяжарнай жанчыне дакрануцца рукой да твару — у немаўляці можа з'явіцца чырвоная пляма на твары. І люляць калыску, калі ў ёй няма дзіцяці, лічылася дрэнным знакам. Як зазначаюць даследчыкі, у гэтыя прыкметы мясцовыя жыхары шчыра верылі і іх прытрымліваліся.

А якія арыгінальныя пажаданні маладой гучалі на вяселлях у вёсцы Дворышча: «Дару маладой карзіну буракоў, каб не любіла чужых мужыкоў. Дару збанок медзі, каб дзеці былі як мядзведзі. Дару калыску і кручок, каб было сем сыноў і пяць дачок. Дару зялёную рошчу, каб зяць пацалаваў цёшчу. Дарую куру-квахтуху, каб нявестка пацалавала свякруху».

Архаічныя элементы вяселля на Хойнікшчыне прадстаўляе нам доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры рускага, агульнага і славянскага мовазнаўства Уладзімір Коваль. «Асаблівую цікавасць уяўляе захаванне ў вёсцы Кажушкі звычаю ў знак адмовы сватам даваць ім гарбуз: «Пыталі ў маладой, ці згодная. Калі згодная, то накрывалі на стол, а калі не, то давалі гарбуз». Галоўнае вясельнае печыва — каравай — пяклі ў вёсках Судкова, Валокі, Забалацце толькі жанчыны, якія былі ў пары, прычым, добразычлівыя, не схільныя да праклёнаў.

Уладзімір Коваль адкрывае чытачам яшчэ адну асаблівасць паслявясельнай абраднасці. «Дастаткова вядомае ў гэтым рэгіёне, як і на Палессі ў цэлым, так званае парадыйнае вяселле, для якога існуюць назвы: «разгрэбіны», «куры», «цыганы» і іншыя, — зазначае ён. — На трэці дзень вяселля ўдзельнікі абраду (без удзелу маладых), пераапрануўшыся ў «цыган», ловяць па вёсцы курэй, смажаць іх або вараць з іх суп…»

Замовы хойніцкага краю, іх тэкставае багацце прыводзіць кандыдат філалагічных навук, асістэнт кафедры беларускай культуры і фальклярыстыкі Святлана Вяргеенка. Як і ў іншых рэгіёнах Беларусі найбольш іх ад хвароб, ад спуду. Ды ёсць, лічыце, на кожную жыццёвую праблему — ад ікаўкі, ад

бародавак, ад п'янства, ад шалёнага сабакі... Працытую замову на забеспячэнне здароўя: «Іду я к мору з вялікага гора, а ты, рыбка, страпяніся, ад гора адбіся. За тваю дабрату хлеб-соль кладу. Хлеб-соль прынімайце і здароўе (імя) надзяляйце».

Калі зімой сабакі качаюцца на снезе — быць завірусе, а калі вераб'і чырыкаюць — цяпло прыйдзе. Гэтыя і шматлікія іншыя прыкметы і павер'і нагадвае нам Алена Кастрыца. Напрыклад, у Стралічаве перад першым выганам скаціны ў поле (а адбывалася гэта на Юр'я), яе абыходзілі кругом, абсявалі макам, раскідвалі яго па хлеве. Лічылася, што такім чынам можна адгарадзіць жывёлу ад злых духаў. «Хрысціць дзіця на Хойнікшчыне было прынята адразу пасля нараджэння», — зазначае малодшы навуковы супрацоўнік Алеся Кучарава. Аказваецца, тут існуюць уяўленні, звязаныя з русалкай, якія датычаць менавіта дзяцей. «Хойнікшчына — гэта адзін з тых рэгіёнаў Гомельшчыны, дзе і сёння яшчэ захоўваецца архаічны абрад ваджэння русалкі, вытокамі якога з'яўляюцца міфалагічныя ўяўленні, звязаныя з гэтым персанажам, — сцвярджаюць Валянціна Новак і Кацярына Паборцава ў артыкуле «Народная міфалогія Хойнікшчыны». — Паходжанне русалак звязваюць з прыгожымі дзяўчатамі, якія «мучыліся з-за кахання і памерлі ці ўтапіліся, так і не зведаўшы самі шчасця» (Хойнікі), з малымі дзецьмі, якіх «прыспала» маці (Хойнікі), з тымі жанчынамі, якія «ўтапіліся самі і сваіх дзяцей утапілі» (Вялікі Бор).

Багата міфалагічных вераванняў мясцовых жыхароў звязана з прадметамі побыту — парогам, венікам, люстэркам, акном, сталом.

Напрыклад, у вёсцы Пагоннае на свята «Галавасек» стараліся не займацца гаспадарчымі справамі, якія вымушаюць карыстацца сякерай, нажом, рыдлёўкай. Інача можаш быць пакараны. Цяжарныя не павінны былі рэзаць нажом: лічылася, што такім чынам скарачаеш жыццё дзіцяці. А калі кудысьці збіраўся з'язджаць мясцовы жыхар, неабходна было закрыць печ засланкаю, каб забяспечыць шчаслівую дарогу. Народныя міфы пра вадзяніка, дамавіка, лесуна і іншых істот таксама прадстаўлены ў зборніку.

Нельга не пагадзіцца з меркаваннем доктара філалагічных навук, прафесара, загадчыка кафедры беларускай мовы Аляксандры Станкевіч, што «важнейшым элементам духоўнай культуры народа з'яўляецца яго мова». Аляксандра Аляксандраўна прыводзіць назвы народнага жылля і будаўніцтва на Хойнікшчыне.

Напрыклад, у вёсцы Малішаў падлогу называюць «мост». Прастора пад падлогай у «Паселішчах гучыць як «падмост», у Віці — «падпол», у Стралічаве — «падполле» і «пограм». А памяшканне паміж столлю і дахам у Стралічаве, Малішаве, Паселішчах называюць «гара», у Віці — «вышкі», у Вялікім Бары — «пясошнік». У гэтых назвах мы таксама бачым адметнасць рэгіёна, яго этнічныя асаблівасці.

А якія ж прозвішчы найбольш распаўсюджаныя? Адказ на гэтае пытанне дае кандыдат філалагічных навук, дацэнт, дэкан філалагічнага факультэта ГДУ імя Ф. Скарыны Уладзімір Бобрык. Ён сцвярджае, што ў Хойніцкім раёне шырока бытуюць прозвішчы, утвораныя ад асабовых імёнаў: Аляксандр, Андрэй, Іанікій, Багдан, Васіль, Гаўрыла, Давыд, Дыяніс, Дораш, Ігнат, Кароль, Лук'ян, Маісей, Пётр, Навум... Распаўсюджаныя і прозвішчы, утвораныя па родзе заняткаў людзей: Бондар, Ганчароў, Калеснік, Кушнер, Шапавалаў, Мельнік, Цырульнік, Кавалёў... Шмат на Хойнікшчыне і прозвішчаў, у аснове якіх назвы прадметаў побыту: (Каліта, Кашэльнікаў), адзення (Брыль, Казмярчук), ежы (Кулеш, Юшчанка), прылады працы (Кульба, Хамутоўскі), жывёл, птушак, рыб, насякомых: Гусак, Карась, Мурашка, Мароз.

«Зямля на таленты багатая» — назвала артыкул кандыдат філалагічных навук, дацэнт, намеснік дэкана філалагічнага факультэта Алена Палуян. Гэта нататкі пра жыццёвы і працоўны шлях члена-карэспандэнта НАН Беларусі, акадэміка Расійскай акадэміі прыродазнаўчых навук, доктара сельскагаспадарчых навук прафесара Уладзіміра Багінскага, а таксама док-

тара тэхнічных навук, прафесара, прарэктара па навуковай рабоце ГДУ імя Ф. Скарыны Алега Дземідзенку, якога я ўзгадвала ў пачатку артыкула.

На хойніцкай зямлі «адбывалася станаўленне таленту драматурга В. Палескага-Станкевіча, спявачкі Г. Аўдзеенкі, празаіка І. Мележа, графіка У. Васюка, мастака У. Гардзеенкі, кінарэжысёра В. Дашука, настаўніка У. Піляка, актрысы Р. Кашэльнікавай, пісьменніка З. Бяспалага, паэта М. Мятліцкага, празаіка Б. Сачанкі», — падкрэслівае Валянцін Барысенка, намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама. Валянцін Васільевіч — з тых сыноў, што не забываюць сваю малую радзіму: «Хойнікшчына... Згадваючы дарагое сэрцу найменне, пераношуся ў тыя, на жаль, ужо не вельмі блізкія, але самыя шчаслівыя часы дзяцінства і юнацтва, калі ўвесь свет абмяжоўваўся бацькоўскім домам на цэнтральнай вуліцы невялікай палескай вёсачкі Мокіш, якую з усіх бакоў, нібы старэйшы брат, абараняў лес...» Выхад кнігі «Хойнікшчыны спеўная душа» — гэтай сапраўднай энцыклапедыі народнага жыцця — быў прымеркаваны да Дня беларускага пісьменства, які ў верасні мінулага года адзначаўся ў Хойніках. Выданне фінансава падтрымана абласным і раённым выканаўчымі камітэтамі. Зборнік атрымаўся грунтоўным, ён нібы сатканы з вуснай народнай творчасці.

«З вялікім задавальненнем прапаную вам, чытачы, гэту кнігу, прысвечаную Хойнікшчыне. Безумоўна, яна абудзіць пачуццё гонару ў жыхароў раёна… Падаецца, што ў кожнага, хто пазнаёміцца з гэтым выданнем, узнікне жаданне пабываць тут, пранікнуцца разам з намі светлай любоўю да маляўнічых краявідаў хойніцкай зямлі, адчуць павагу да таленавітых, працавітых, гасцінных, сціплых людзей нашага краю», — напісаў ва ўступным слове старшыня Хойніцкага райвыканкама Аляксандр Бічан. Днямі я завітала ў госці да знаёмай гамяльчанкі Лідзіі Мельнікавай (Дрончанка). І заспела ўсю яе сям’ю за кнігай «Хойнікшчыны спеўная душа». Лідзія Іванаўна, адна з яе гераінь, расказвала навукоўцам універсітэта пра вясельныя традыцыі сваёй роднай вёсачкі Чэхаў, якую паглынула чарнобыльская навала. Гартаючы зборнік, Лідзія Мельнікава з усёй шчырасцю выдыхнула: «Быццам дома пабывала!» Лічу гэта галоўнай ацэнкай кнігі.

Міхась КЕНЬКА

# МАЙСТЭРСТВА, ШТО ЗВЯЗВАЕ НАРОДЫ

**Давід ФАКТАРОВІЧ. Основы теории художественного перевода.** *Мн.: Кнігазбор, 2009.*

Кніга Давіда Яўсеевіча Фактаровіча «Основы теории художественного перевода» — не проста навуковая праца. Гэта — кніга памяці, кніга-ўспамін пра аднаго з выдатных беларускіх вучоных. Ён рана пайшоў з жыцця, не паспеў здзейсніць свае задумы, абараніць доктарскую дысертацыю, выдаць кнігу. Паводле доктарскай манаграфіі ў 1993 годзе ім быў падрыхтаваны рукапіс асобнага выдання, але кніга таксама своечасова не была выдадзена. Стараннямі дзяцей і ўнукаў рукапіс быў нанава вычытаны, перадрукаваны, прыведзены ў належны выгляд і прапанаваны выдавецтву «Беларускі кнігазбор», дзе, нарэшце, стаў кнігай. І кніга гэта, нягледзячы на такі доўгі шлях да чытача, не састарэла, не страціла навуковай каштоўнасці. Прычына гэтага крыецца ў асобе яе аўтара.

Чытачу гэтай нанава адроджанай кнігі дадзена магчымасць першнаперш пазнаёміцца з неардынарнай асобай яе аўтара. У змястоўнай прадмове «Слова пра настаўніка» надзвычай цёпла і сардэчна ўспамінае пра Давіда Фактаровіча Адам Мальдзіс. Ён называе сябе вучнем Давіда Яўсеевіча, лічыць сябе абавязаным настаўніку тым, што накіраваў яго на той жыццёвы шлях, якім і ідзе ён, цяперашні доктар філалагічных навук, даследчык беларускай літаратуры. Адам Іосіфавіч распавёў у прадмове аб працы Давіда Яўсеевіча на філфаку, згадаў некалькі эпізодаў з яго жыцця, і ў заключэнне выказаў надзею, што «кніжка будзе зразумелая і належным чынам ацэненая як этап у развіцці беларускага літаратуразнаўства ў той яго галіне, якая датычыць замежнай літаратуры». Тут будзе дарэчы сказаць, што менавіта А. Мальдзіс падтрымаў жаданне родных Д. Фактаровіча выдаць яго кнігу, аказаў неабходную дапамогу.

Давід Фактаровіч быў надзвычай эрудзіраваным чалавекам, ведаў некалькі моў, чытаў на іх патрэбныя для сферы сваіх інтарэсаў матэрыялы. Ён дасканала валодаў нямецкай, французскай, італьянскай іспанскай мовамі, пастаянна сачыў за новымі навуковымі публікацыямі і навінкамі мастацкай літаратуры на гэтых мовах. Як тут не згадаць, што нарадзіўся ён у Саратаве, вучыўся ў Маскве, кандыдацкую дысертацыю абараняў па-руску. Калі ж пасля вайны ён атрымаў у Мінску кафедру замежнай літаратуры, то вывучыў беларускую мову, чытаў беларускія кнігі і па-беларуску пісаў артыкулы, падаючы тым самым зайздросны прыклад тым, хто не хацеў вывучаць беларускую мову.

Давід Яўсеевіч чытаў у БДУ курс замежнай літаратуры — ад Сярэднявечча да сучаснасці, першым стаў весці семінар па праблемах мастацкага перакладу, а яшчэ яго цікавілі ўзаемасувязі літаратур, гісторыя і тэорыя сусветнай літаратуры і культуры. Давід Яўсеевіч часта друкаваўся, выступаў з рэцэнзіямі, аглядамі, праблемнымі артыкуламі. У яго быў назапашаны багацейшы матэрыял па гісторыі і тэорыі мастацкага перакладу, які і быў абагулены ў доктарскай дысертацыі. Каб пераканацца ў тым, што напісанае ім мае навуковую каштоўнасць, Давід Яўсеевіч даваў чытаць рукапіс работы калегам па рабоце, спецыялістам у сферы

перакладу і супастаўляльнага літаратуразнаўства, у тым ліку А. М. Адмовічу, Д. А. Палітыку, П. М. Топеру, Л. Р. Барагу, і яны напісалі станоўчыя водгукі на яго працу. Вось як ацаніў рукапіс кнігі П. М. Топер, вядомы перакладчык-практык і аўтар кніг аб мастацкім перакладзе, член бюро Савета па мастацкім перакладзе пры праўленні Саюза пісьменнікаў СССР: «Работа Д. Я. Фактаровіча грунтуецца на вялікім даследчыцкім матэрыяле, змястоўная, метадалагічна знаходзіцца на ўзроўні апошніх дасягненняў навуковай думкі. У ёй ёсць многа цікавых назіраннняў і плённых новых фармуліровак, (напрыклад, у той частцы, дзе гаворка вядзецца пра спецыфіку перакладу розных літаратурных жанраў). У той жа час, у ёй шырока разглядаюцца шматлікія працы па пытаннях перакладу як у нашай краіне, так і за яе межамі, дзякуючы чаму ствараецца шырокі гісторыка-літаратурны фон, і студэнты ўводзяцца ў курс сучасных дыскусій вакол перакладчыцкіх праблем».

У кнізе «Основы теории художественного перевода» ў скандэнсаваным выглядзе прадстаўлены некалькі накірункаў даследавання мастацкага перакладу, шэраг важных праблем, звязаных з ім. Гэта ў першую чаргу праблема перакладаемасці, адэкватнасці арыгіналу і яго новай іпастасі ў іншай мове. Яна разглядаецца ў главе «Проблематика перевода». Давід Яўсеевіч пачаў яе са своеасаблівага агляду таго, як у розных мовах тлумачыцца само паняцце «пераклад», і паказаў, што яно мае шэраг сінонімаў, набыло некалькі новых значэнняў па меры развіцця практыкі пераносу тэкстаў у іншыя моўныя рамкі. Апераджаючы час, аўтар досыць крытычна ацэньваў першыя вопыты ў машынным перакладзе, адзначаў, што ён абыякавы да кантэксту, патрабуе грунтоўнай праўкі. Ён высока ацэньваў работу тэарэтыкаў перакладу, якія працуюць у розных краінах, прыўносяць штосьці сваё ў агульную скарбонку творчага вопыту.

«Адной з асаблівасцей мастацкага перакладу, — лічыў ён, — з'яўляецца ўзбагачэнне яго вопытам усёй сусветнай літаратуры ў працэсе яе развіцця, які ўключае распаўсюджанне твораў арыгінальных і перакладных. Пераклад у новы час — фактар узаемадзеяння нацыянальных культур, істотная рыса іх развіцця». Гэтая думка актуальная і сёння. Толькі цяпер дзякуючы новым умовам развіцця дзяржаў, павелічэнню сродкаў і магчымасцей для іх узаемадачыненняў, уключаючы Інтэрнэт, у вучоных з'явіліся магчымасці без перашкод знаёміцца як з мастацкай літаратурай свету, так і з сусветным вопытам даследавання міжлітаратурных кантактаў, набыла пашырэнне кампаратывістыка. А Давіду Яўсеевічу даводзілася атрымліваць веды аб навінках у замежным перакладазнаўстве па крупінках, грунтуючыся на даступных яму ў часы «жалезнай заслоны» ў адносінах да культуры капіталістычных краін замежных публікацыях ды перакладах некаторых артыкулаў у штогодніку «Мастерство перевода». Тым не менш, ён здолеў прадставіць у сваёй манаграфіі і погляды на пераклад шэрагу аўтарытэтных замежных вучоных. Яму ўдалося пазнаёміцца таксама з некалькімі манаграфіямі па перакладазнаўстве, выдадзенымі за межамі СССР, аб чым сведчыць як цытаванне іх, так і досыць салідная бібліяграфія гэтых публікацый.

У главах «Из истории литературно-художественного перевода» і «Развитие переводов в эпоху становления интернациональной культуры» Д. Фактаровіч ці не першым у Беларусі зрабіў экскурс у гісторыю мастацкага перакладу ад самай старажытнасці да найноўшай пары. Гэта хутчэй экскурс у гісторыю станаўлення перакладазнаўства, гісторыю пошуку крытэрыяў для вызначэння ацэнкі якасці перакладнога твора. Зразумела, што ён аказаўся фрагментарным, але ўсё ж больш падрабязна ў ім сказана пра погляды на пераклад І. В. Гётэ, А. С. Пушкіна, В. Р. Бялінскага, І. А. Тургенева, што, бясспрэчна, цікава. Прыводзіцца нямала рэдкіх, малавядомых фактаў, як, напрыклад, пра развіццё эсперантысцкага руху на Беларусі. Д. Фактаровіч выказвае свае думкі аб тым,

што эсперанта не ў стане забяспечыць якасць перадачы мастацкага зместу твора. На жаль, з гісторыі развіцця беларускага мастацкага перакладу і перакладазнаўства звестак надзвычай мала, згадваюцца Ф. Скарына, В. Дунін-Марцінкевіч, Я. Купала.

У самай значнай па велічыні главе «Эстетика художественного перевода во взаимодействии литератур» Д. Фактаровіч з літаратуразнаўчых пазіцый выказваў свае думкі адносна асаблівасцей перакладу ўсіх трох літаратурных родаў: лірыкі, эпасу і драмы, а таксама народнага эпасу і сатырычных жанраў. Раздзел аб перакладзе летапісных помнікаў грунтуецца на аналізе толькі «Слова аб палку Ігаравым», пра пераклад фальклорных твораў толькі згадваецца, але думка аб небяспецы мадэрнізацыі, архаізацыі і ўяўнай стылізацыі падчас перакладу, створанага калектыўнай народнай мудрасцю, актуальная і сёння.

Найбольш цікавым у кнізе ўяўляецца разгляд асаблівасцей перакладу мастацкай прозы. Д. Фактаровіч у цэнтр увагі тут ставіў праблему перадачы асаблівасцей аўтарскага стылю. «Мы падкрэсліваем, — адзначаў ён, — што не багацці той або іншай мовы самі па сабе паўстаюць перашкодай на шляху перакладчыка, а багацці мастацкіх стыляў, якім ён або не ў сілах адшукаць адпаведнікаў, або сам не ў сілах зрабіць іх арыгінальнае творчае ўзнаўленне ў сябе ў літаратуры, якая засвойвае пераклад «па чарцяжы» іншаземнага аўтара». Д. Фактаровіч заўважыў тэндэнцыю зніжэння якасці ў камерцыйных перакладах прозы, якая раней, чым у нас, выявілася ў перакладчыцкай практыцы заходніх краін. Цяпер мы бачым падобнае і ў досыць халтурных, зробленых похапкам перакладах замежнай масавай літаратуры на рускую мову.

З разважанняў пра асаблівасці перакладу паэзіі найбольш цікавымі, напэўна, застаюцца думкі даследчыка пра важнасць захавання «сістэмы вобразаў і настрояў, якія зададзены аўтарам». Д. Фактаровіч лічыў, што паэзія павінна перакладацца паэтамі, але перасцерагаў ад пагрозы ўласнай інтэрпрэтацыі арыгінала, прыпадабнення, падстройвання яго пад сваю творчую індывідуальнасць.

Пераклады драматургіі, на думку Д. Фактаровіча, павінны грунтавацца не толькі на перакладчыцкай, але і на сцэнічнай практыцы, арыентавацца на гледачоў, асабліва на іх успрыняцце п’ес, створаных у больш аддаленым часе. Свае разважанні ён будаваў на разглядзе перакладаў «Гамлета» У. Шэкспіра, паказваў, што новае спасціжэнне, пошукі эстэтычных адпаведнікаў вымушаюць перакладчыкаў глыбей спасцігаць тэкст, бачыць у ім тое, што не страціла актуальнасці. Д. Фактаровіч звяртаў увагу на неабходнасць перадачы ў п’есе сцэнічнай абаяльнасці і лічыў, што добры пераклад яе павінен быць «лабараторна правераны сцэнай». Ён высока ацаніў пераклад «Гамлета», зроблены выдатным беларускім перакладчыкам Юркам Гаўруком, адзначыў яго «паліфанічнасць і шматгалоссе».

Асобная глава прысвечана ў кнізе перакладу сатыры, асаблівасцям якога нададзена не так ужо многа ўвагі ў перакладазнаўстве. Д. Фактаровіч разгледзеў асаблівасці перакладу парадыйных твораў, асабліва цяжкіх у пераўвасабленні з прычыны таго, што яны заснаваны на падтэксце, асацыяцыях, якія ў чытачоў перакладу не могуць узнікнуць, бо яны не знаёмыя з творам, які парадыруецца. «Перакладу тут аказвае супраціўленне дыстанцыя часу і сам жанр арыгінала», — зазначае ён.

Пра пераклад ідыём многа пісалі і пішуць спецыялісты па сінхронным перакладзе, мовазнаўцы. Д. Фактаровіч звярнуў увагу на літаратурны, эстэтычны аспект праблемы перакладу ўстойлівых моўных форм, якім часта нельга знайсці адпаведнікаў. Ён адзначаў іх метафарычную цэльнасць, зрошчанасць у адзіны цэльны вобраз, а таму лічыў, што іх перастварэнне павінна грунтавацца на раскрыцці іх вобразнага, метафарычнага характару. У главе, прысвечанай перакладу ідыём, гаворыцца і пра пераклічку ідыёматычных выразаў у розных народаў, і пра ўсё больш частае засваенне

іншамоўных ідыём дзякуючы пашырэнню ўзаемных кантактаў народаў, іх культур.

Для беларускіх перакладчыкаў важным з'яўляецца пытанне аб асаблівасцях перакладу на блізкароднасныя і няроднасныя мовы. Д. Фактаровіч у асобнай главе сцісла сфармуляваў сутнасць праблем, якія пры гэтым паўстаюць. Пераклад узораў творчасці аддаленых ад нас народаў цяжкі тым, што многае з асаблівасцей побыту, дзяржаўнага ладу, спецыфікі адносін паміж персанажамі, светапогляду значна адрозніваюцца. Небяспечныя для перакладчыка як спробы «адамашніць» іншакраіннага аўтара, так і зрабіць яго твор занадта экзатычным. Давід Яўсеевіч ускладаў вялікія надзеі на тэхнічны прагрэс, які спрыяе ўзаемным кантактам народаў, іх культур. Многае ж аказваецца паступова засвоеным менавіта дзякуючы пашырэнню перакладаў. Пераклад з роднасных моў ён лічыў таксама цяжкім, таму што сродкі вобразнасці, асобныя словы могуць быць блізкімі па гучанні, але не тоеснымі.

У заключнай главе «Эстетика художественного перевода и современность» утрымліваецца грунтоўны агляд набыткаў тагачаснага перакладазнаўства, але чытаць яго і цяпер цікава, бо шэраг работ замежных тэарэтыкаў мастацкага перакладу стаў нам даступны толькі нядаўна, а некаторыя і дагэтуль не перакладзены.

Давід Фактаровіч назваў мастацкі пераклад майстэрствам, што звязвае народы. Ён як ніхто адчуваў у сваёй навуковай накіраванасці гэтую лучнасць. Працуючы над сваёй галоўнай кнігай, ён увабраў у сябе, асэнсаваў вялікую колькасць матэрыялаў па перакладазнаўстве, у тым ліку і напісаных на замежных мовах. Ён дасканала разбіраўся ў праблемах, якія паўстаюць перад тымі, хто бярэцца за цяжкую, але ў той жа час і цікавую, захапляльную справу — мастацкі пераклад. Шкада, што вынік яго шматгадовых даследаванняў не прыйшоў да чытача своечасова, але і сёння яны бачацца не толькі як своеасаблівы этап у вывучэнні праблем мастацкага перакладу, але і як сведчанне таго, як многа стаіць за самой гэтай з'явай.

**Ніна РЫБІК**

# ЧАРНОБЫЛЬСКІ ВЕЦЕР

***Чарнобыль, невялікі старажытны гарадок на поўначы Украіны, які вядзе сваё летазлічэнне ажно з XII стагоддзя, са сваім адметным тварам, гісторыяй, традыцыямі, амаль чвэрць стагоддзя таму, у 1986 годзе, стаў ужо не столькі горадам, колькі паняццем, сімвалам, які азначае для каго — найвялікшую ў гісторыі чалавецтва тэхнагенную аварыю, для каго — злачынства тагачаснага кіраўніцтва краіны супраць свайго народа, для каго — геразм людзей, што практычна голымі рукамі абаранілі планету ад ядзернай катастрофы, для каго — асабістую трагедыю ці паламаны лёс.***

***Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, як і тысячы маіх землякоў, жыхароў паўднёвых раёнаў Гомельшчыны, я засталася чалавекам без радзімы, які ў сваю вёску, да родных магіл і пакінутай бацькамі хаты, можа наведацца толькі раз у год, на Радаўніцу…***

## Спатканне з радзімай

***Не верце таму, хто сцвярджае, што машыны часу няма і яе не можа быць у прынцыпе. Яна ёсць — я сама нядаўна на ёй падарожнічала…***

Вёска Уласы Хойніцкага раёна, дзе я нарадзілася, у якой прайшло дзяцінства, дзе я вучылася сябраваць і даведалася, што на свеце ёсць не толькі дабрыня і спагада, але і зайздрасць, злосць і здрада, дзе спазнала ўсю слодыч і горыч першага кахання, дзе ў невялічкай драўлянай хаце ў лазовых хадунках зрабілі першыя крокі не толькі я і старэйшыя браты з сястрой, але і мае сын і дачка, дзе вялікая руская печ яшчэ памятае ўвішныя, нястомныя маміны рукі, а пакінутыя гаспадаром і сваімі крылатымі насельнікамі пчаліныя вуллі пакрыўджана чакаюць іх вяртання — вёска Уласы памерла ў першыя дні мая 1986 года. Раптам, у адзін момант, калі ў чырвоную суботу, напярэдадні Вялікадня, адсюль вывезлі ўсіх жыхароў, у тым ліку і маіх бацькоў — як тады казалі, на тры дні. Якія цягнуцца вось ужо амаль чвэрць стагоддзя…

Пасля таго я прыязджала сюды двойчы. Першы раз — у лістападзе 1987 года. Самае моцнае ўражанне ад таго спаткання з радзімай — цішыня. Так сталася, што тады на нейкі час я засталася ў вёсцы адна — зусім адна! І ў нейкі момант, калі сціх гул ад’ехаўшай у другую вёску машыны, зразумела, што такое мёртвая, абсалютная цішыня, якая не парушаецца ні словам чалавека, ні плачам дзіцяці, ні шчэбетам птушкі, ні стукам малатка, ні рыпеннем нязмазаных дзвярэй… Гэты гуканепранікальны маналіт цісну з такой сілай, што, здавалася: яшчэ імгненне — і мяне не стане, і я таксама стану цішынёй, маленькай малекулай у гэтым маналіце… Тады мяне выратавала варона, якая каркнула недзе ўдалечыні — і вярнула да рэчаіснасці, паведаміла, што свет жыве — нават у мёртвай вёсцы. Тое «кар-р!» было як гімн жыццю!

У другі раз мы прыехалі сюды з сястрой адзінаццаць гадоў таму, у 2000 годзе, на Радаўніцу. Тады для мяне адкрыццём стала разуменне, што прастора здольная сціскацца. Фізічна, у літаральным сэнсе гэтага слова. Высокая горка, з якой мы,

дзятва, каталіся на санках, знікла, зраўнялася… Доўгая вуліца да магазіна і могілак стала — вокам кінуць, крок ступіць… Перашыек алешніку за гародамі, куды мы летам штодня бегалі збіраць духмяную маліну і адкуль, стомленыя, брылі дахаты, здаецца, цэлую вечнасць — цяпер на адлегласці выцягнутай рукі…

А яшчэ тады я зразумела, што няма мяжы як у чалавечай дабрыні, так і ў людской хціваcці і сквапнасці. Тое, што з адселеных дамоў вывезлі-выцягнулі ўсё, што мела хоць якую-небудзь каштоўнасць: бытавую тэхніку, мэблю, лепшы посуд і іншае — я адзначыла яшчэ ў першы свой прыезд. І не проста вывезлі — яшчэ і пабілі-патрушчылі ўсё тое, што забраць не змаглі ці не захацелі. На маё шчасце, у нашай хаце тады засталася самая галоўная для мяне каштоўнасць — сямейныя фотаздымкі: яны валяліся россыпам на падлозе, патаптаныя бруднымі ботамі, некаторыя — пакамечаныя. Я тады забрала іх з сабой. А пазней чарга дайшла да хат. Цяжка сказаць, каму і навошта спатрэбілася дрэва з нашых не самых дыхтоўных дамоў: лясы ў нашых мясцінах — не астравецкія гонкія сосны, а большай часткай лістоўныя пералескі. Але мая сяброўка і яе сям'я былі ў неапісальным шоку, калі, прыехаўшы на спатканне з родным домам, убачылі на яго месцы толькі рэшткі разваленай печы… Даруй, Госпадзі, усім тым, хто гэта рабіў — бо не ведаюць яны, што твораць… А калі ведаюць і робяць, то якой жа страшнай павінна быць кара за гэты грэх — зруйнаваную памяць, рабаўніцтва мёртвага цела бязвінна забітай вёскі…

У той свой прыезд мы сустрэліся з аднавяскоўцамі — іх у той год прыехала ва Уласы шмат, цэлы аўтобус — амаль усе, хто меў сілы і хоць самую найменшую магчымасць дабрацца на спатканне з радзімай. І перабачыліся, з цяжкасцю пазнаючы пасля столькіх гадоў расстання колішніх аднакласнікаў і іх бацькоў, і нагаварыліся-наўспаміналіся-нафатаграфаваліся… Гляджу сёння на тыя фотаздымкі: многіх у той прыезд я бачыла ў апошні раз…

І вось — чарговае спатканне. Не магу растлумачыць нават самой сабе, чаму я так хвалююся. Некалькі начэй запар мне сніцца, што я еду ва Уласы — і не магу праехаць па зарослай вербалозам дарозе, увогуле не знаходжу гэтую дарогу, не пазнаю сваю вёску, не магу знайсці магілы дзядоў і бабуль на вясковых могілках, што ніхто не прыехаў на гэты раз у вёску, і я там зноў, як шмат гадоў таму, адна…

На самай справе ўсё не так. Паездка зноў прымеркавана да Радаўніцы — гэта адзіны дзень у годзе, калі ў зону адсялення пускаюць без спецыяльных дакументаў, толькі па рэгістрацыі на пункце пропуску, і вядома, многія, не толькі мы, імкнуцца скарыстаць гэтую магчымасць: месца і час сустрэчы са сваёй радзімай застаюцца нязменнымі на працягу ўсіх паслячарнобыльскіх гадоў. Таму дарога зусім не пустынная, хутчэй наадварот: машыны едуць і ў адселеныя вёскі і ўжо — што асабліва здзіўляе: ранак жа яшчэ! — назад! У нас з сястрой — неадольнае жаданне спыніць іх і спытаць: «А вы не з Уласоў вяртаецеся? А вы хто, чые?» Нам страшна не сустрэцца з кімсьці з землякоў — ізноў на гады, а можа — і назаўсёды.

Вясковыя могілкі на пясчаным грудку ў атачэнні калматых хвояў і каржакаватых дубоў — самае жывое месца ва ўсёй вёсцы. І самае дагледжанае. Увогуле, не пакідае адчуванне, што ты трапіў не проста ў мёртвую вёску, а ў паселішча, дзе, як бы парадаксальна гэта ні гучала, жывуць толькі мёртвыя. Зарослая травой вуліца, якую пачынае ўжо браць у палон непралазны хмызняк, адзіныя сцежкі на якой пратапталі дзікі і ласі — іх сляды мы сустракаем на кожным кроку. Дамы — закінутыя, некаторыя — зруйнаваныя, платы — паваленыя.

І сярод гэтага запусцення — яркія фарбы: пабелены і свежапафарбаваны помнік загінуўшым землякам. У амаль ідэальным парадку — брацкая магіла, дзе падчас вайны былі забітыя 160 маіх аднавяскоўцаў, імёны якіх я ведаю толькі па кнізе «Памяць» ды па ўспамінах матулі, якія — ах, гэтае наша адвечнае, недаравальнае, непапраўнае «няма часу» — я так і не паспела запісаць. На могільніку — свежыя ручнікі, фарбы на свежапафарбаваных крыжах і агароджах родных магіл і яркае разнаквецце жалобных вянкоў і штучных букетаў… На магілках па спрадвечнай

вясковай традыцыі — фарбаваныя яйкі, велікодныя булкі, рознакаляровыя фанцікі з-пад цукерак… І — аднавяскоўцы! Нашы людзі! Уласоўцы! Родненькія, мілыя, дарагія! Мы з цяжкасцю пазнаём адзін аднаго — столькі часу не бачыліся. Але ад таго сустрэча не менш дарагая…

І толькі пасля таго, як мы павітаемся і пагаворым са сваімі землякамі — жывымі і мёртвымі — на могілках, разыходзімся па сваіх хатах — павітацца і з імі. Сказаць «дзякуй» беленай вялікай печы, якая некалі грэла нас і на якой было выслухана столькі казак, цікавых, смешных, страшных гісторый, у «шыйку» якой мы, малеча, падглядвалі за дарослымі гасцямі, у пячурках якой сушылі зімой прамоклыя ўшчэнт рукавіцы… Патрымацца за стол, на якім мамінымі стараннямі заўсёды стаялі рассыпістая прасяная каша, наварысты боршч, пульхныя бліны, а па святах — неперазўзыдзеныя па смаку варэнікі з макам, духмяны сальцісон, які ў нас называлі коўбікам, і ніколі больш не каштаваныя, нікім і ніколі не зробленыя лепш крывянкі. Пагладзіць бацькаву зашмальцаваную спяцоўку, якая так і вісіць у куце на цвічку побач з маленькай куртачкай майго сына — яе Косця апранаў, калі прыязджаў у госці да бабы з дзедам. Калыхнуць ложачак, у якім некалі спалі мае малыя дзеці — а цяпер ён стаіць, выкінуты, на вуліцы… Зазірнуць у калодзеж з некалі цыбатым, а цяпер скалечаным, аднаногім «жураўлём» — не напоіць ён ужо мяне сваёй найсмачнейшай у свеце гаючай вадой…

…Цяжка падабраць словы, каб расказаць усё тое, што творыцца ў знямелай душы. Такое адчуванне, што мяне на машыне часу перакінулі больш як на два дзесяцігоддзі назад. У нейкае іншае вымярэнне, дзе ўсё да болю, да замірання сэрца блізкае і дарагое — і адначасова нерэальна, немагчыма чужое. Туды, дзе перастала існаваць прастора, спыніўся час, маюць уласцівасць знікаць гукі. Дзе жывуць па сваіх уласных законах толькі дрэвы, дамы, крыжы… А жывыя раз у год прыязджаюць, каб спаткацца з імі. Не для таго, каб развярэдзіць душу — а каб, нягледзячы на ўвесь невыносны цяжар гэтага спаткання, які будзе ціснуць на сэрца яшчэ не адзін дзень, адчуць, узгадаць, пераканацца, што ты — не чалавек без радзімы, не Іван бязродны, што і ў цябе на гэтым свеце ёсць мясцінка, дзе чакаюць твайго прабачальнага дотыку дзедаўскія магілы, дзе закапана твая пупавіна, дзе жоўты сыпучы пясок памятае, як грузлі ў ім спякотным летнім днём твае босыя ногі, а бэз, што захапіў у палон увесь кветнік — гук твайго першага пацалунка…

Дзеля гэтага раз у год, на Радаўніцу, імчаць у зону адсялення зблізку і здалёк машыны, вязуць на спатканне з радзімай яе раскіданых па ўсім свеце дзяцей…

## Дарога ў Чарнобыль

***А неўзабаве пасля гэтага спаткання з радзімай каталіцкі манах брат Карнэлій Консэк, з якім нас выпадкова звёў лёс — хоць даўно вядома, што нічога выпадковага ў жыцці не бывае — спытаў-прапанаваў: «Вам не хацелася б пабываць у Чарнобылі?»***

***У самім Чарнобылі? Пабачыць на свае вочы, зблізку, монстра, які забраў столькі жыццяў і паламаў столькі лёсаў? Ну канешне ж, хачу!!! Мне сабрацца — толькі падперазацца. Едзем!***

Першае моцнае ўражанне, якое чакала нас на ўкраінскай тэрыторыі, — дарога, што пачалася за пунктам пагранічнага пераходу Выступовічы.

У незвычайна прыстойным для ўкраінскіх дарог стане, пакрытая ружаватым асфальтам (нават разумеючы, што гэта — ад колеру шчэбеню, асацыяцыі ўзнікаюць — не для слабанервовых). І — абсалютна пустынная! Такое ўражанне, што мы трапілі ў нейкае іншае, нерэальнае вымярэнне. Самі сабой усплываюць у памяці сюжэты фантастычных фільмаў — і на душы становіцца неяк халаднавата і няўтульна… І таму першую сустрэчную машыну мы вітаем радаснымі воклічамі і ўздыхам аблягчэння: мы не адныя на гэтай дарозе!

Але чым бліжэй пад’язджаем да Чарнобыля, тым больш ажыўленай становіцца траса. За акном мільгаюць малюнкі звычайнага вясковага жыцця: дзед вязе на возе сена, жанчына аполвае агарод, бусел клякоча ў гняздзе, дзеці некуды едуць на веласіпедзе. Вось толькі чамусьці нідзе не відаць кветак…

…Праязджаючы па гэтай дарозе ў першы раз, мы яшчэ не ведалі, што ў нас будзе магчымасць вывучыць яе больш падрабязна. Справа ў тым, што першая наша з баратам Карнэліем спроба трапіць у Чарнобыль аказалася няўдалай. Атрыманая з пасольства Украіны ў Беларусі і ўзгодненая з Міністэрствам замежных спраў суседняй краіны афіцыйная папера з просьбай садзейнічаць беларускім журналістам у выкананні нашых прафесійных абавязкаў ні на міліцыянераў на пункце пропуску «Дзіцяткі» — на сённяшні дзень гэта галоўныя вароты Чарнобыля, ні на супрацоўнікаў фірмы «Чарнобыль-інфа» (ёсць такая ў Чарнобылі — займаецца прыёмам і суправаджэннем гасцей), з якімі мы размаўлялі па тэлефоне, уздзеяння не мела. Аказваецца, узгадняць нашы планы трэба было зусім з іншым міністэрствам Украіны — па надзвычайных сітуацыях.

— Ну што ж, — праехаўшы каля 700 кіламетраў і разварочваючы машыну, па-філасофску заўважыў брат Карнэлій, не паддаючыся майму блізкаму да роспачы настрою, — узгоднім, калі трэба. Яшчэ раз прыедзем!

Хоць, як высветлілася пазней, на самай справе трапіць у Чарнобыль не так і складана. Турыстычныя фірмы Кіева актыўна прадаюць туры для цікаўных экстрэмалаў, якіх хапае і сярод украінцаў, і асабліва сярод замежных грамадзян: плаціце грошыкі — і глядзіце колькі хочаце на той самы ракавы чацвёрты блок станцыі, гуляйце — у суправаджэнні гіда, зразумела, — па мёртвым горадзе Прыпяць… А за асобную плату: усяго (!) тысяча долараў за гадзіну — можна нават заказаць верталёт і агледзець станцыю з вышыні птушынага палёту. Туры карыстаюцца попытам, асабліва ў замежных турыстаў: сюды едуць і шведы, і французы, і амерыканцы, і бельгійцы, і аўстрыйцы… Не дзіва, што нашы спробы ў першы свой прыезд «разжаліць» на пункце пропуску міліцыянераў тым, што мы прыехалі «ажно з самой Беларусі», выклікалі ўсмешку: тут кожны дзень прыязджаюць па дзве-тры экскурсіі з розных краін свету.

## Горад-міф

**Збіраючыся ў Чарнобыль, я самаўпэўнена лічыла, што «знаходжуся ў тэме» і ведаю калі не ўсё, то многае і пра сам горад, і пра атамную станцыю, і пра аварыю на АЭС. Але, як аказалася, да гэтай паездкі я знаходзілася ў палоне распаўсюджаных міфаў пра жыццё чарнобыльскай зоны — ва ўсякім выпадку, украінскай яе часткі, у беларускай даводзілася бываць неаднойчы. І гэты дзень у Чарнобылі стаў для мяне днём адкрыццяў і пераасэнсавання некаторых добра вядомых — ці я толькі лічыла, што яны вядомыя? — рэчаў.**

…У другі раз мы падрыхтаваліся да паездкі больш грунтоўна і мінулі пункт пропуску «Дзіцяткі» (назва якая, ацаніце!) без усялякіх праблем. У тэлефоннай размове з кіраўніком «Чарнобыль-інфа» даведаліся, што суправаджаючы нас гід Дзяніс Забарын будзе чакаць на ўездзе ў Чарнобыль.

Скажыце, якія асацыяцыі ўзнікаюць у вас пры слове «Чарнобыль»? Прысыпаная радыеактыўным попелам мёртвая зямля, дзе людзі, калі і ёсць, то ходзяць выключна ў спецыяльным ахоўным адзенні з дазіметрамі наперавес — нешта падобнае ўяўлялася нам, і думаю, што мы не адзінокія ў гэтых сваіх асацыяцыях. І якім жа было наша здзіўленне, калі пра ўездзе мы ўбачылі, што ў горадзе віруе жыццё: над установамі развяваюцца дзяржаўныя сцягі, рабочыя ў аранжавых робах рамантуюць дарогі, адчынены магазіны, туды-сюды снуюць машыны і ходзяць людзі…

— Чарнобыль — звычайны жывы горад. Толькі закрыты — у яго можна трапіць па спецыяльным пропуску, — тлумачыць нам па дарозе Дзяніс. — Тут

дзейнічае адміністрацыя зоны і яшчэ каля 20 арганізацый, якія займаюцца абслугоўваннем людзей. Працуюць пяць магазінаў і тры кафэ. Штодня выходзяць на працу каля чатырох тысяч чалавек. Дзе жывуць? У гасцініцы, інтэрнаце. Працуюць хто вахтавым метадам, як я: два тыдні тут, два — адпачываю ў Кіеве: там у мяне кватэра. А хто — з панядзелка па чацвер, а потым на выхадныя едзе дамоў.

Са здзіўленнем мы даведаліся, што трапіць на работу ў Чарнобыль у маладых людзей Кіева лічыцца даволі прэстыжна — нашаму гіду таксама ўсяго 25 гадоў. Ну, па-першае, таму, што знайсці добрааплатную пастаянную працу ва Украіне, як мы зразумелі, увогуле даволі праблематычна. А тут за працу ва ўмовах павышанай небяспекі даплачваюць да асноўнай зарплаты прыкладна 100 еўра ў месяц. Ды і водпуск на два тыдні большы, чым у звычайных працаўнікоў.

А Дзяніса, па яго словах, найбольш прываблівае тое, што тут — цікава.

— Кожны дзень сустракаешся з новымі людзьмі, — расказвае наш гід і перакладчык — праўда, у стасунках з намі яму веданне англійскай мовы не спатрэбілася. — Учора былі французы, заўтра прыязджаюць шведы. Сёння вось вы, браты-беларусы. З беларусамі, дарэчы, я працаваць люблю: культурныя, выхаваныя людзі. А некаторыя іншаземцы толькі прыедуць — і вывальваюцца з аўтобуса п’яныя, разам з бутэлькамі. Чамусьці ўсе перакананы, што для прафілактыкі радыяцыйнага забруджвання трэба як мага больш ужываць алкаголю. А гэта такі ж міф, як і многае іншае, што тычыцца Чарнобыля. Алкаголь аказвае пэўнае станоўчае ўздзеянне, але толькі ў невялікіх дозах. У значных — эфект прама супрацьлеглы: шкодныя элементы хутчэй усмоктваюцца ў кроў і звязваюцца ў арганізме, потым цяжка выводзяцца.

Дзяніс і пераважная большасць насельнікаў Чарнобыля прыязджаюць сюды толькі на працу. А прыкладна 250 чалавек жыве тут пастаянна. Мы звярнулі ўвагу, што на вуліцах з прыватнай забудовай ёсць дамы закінутыя, узятыя ў неадольны палон быльнягом і пустазеллем — а ёсць вельмі дагледжаныя, я б нават сказала — дыхтоўныя: свежа пафарбаваныя, чысценькія, з вясёлымі фіраначкамі на вокнах. І вельмі дзіўнымі шыльдамі: «Тут жыве гаспадар дома». «Гэта каб бамжы не займалі, — патлумачыў Дзяніс. — А то тут, на жаль, шмат ахвочых да чужога дабра…»

— У Чарнобылі жыве нават дзяўчынка гадоў трынаццаці, — працягвае знаёміць нас з горадам і яго жыхарамі наш гід. — Хоць закон Украіны забараняе ўезд у 30-кіламетровую зону Чарнобыльскай АЭС дзецям да 18 гадоў. Але гэтая дзяўчынка нарадзілася тут, і жыве ў Чарнобылі са сваімі бацькамі — такім чынам, яна сюды не ўязджала, і на яе закон як бы і не распаўсюджваецца. Школа? Вядома ж, вучыцца — дабіраецца ў бліжэйшы да пункта пропуску населены пункт, Васількаў. Далекавата, канешне, кіламетраў 20 будзе, але ў Кіеў штодня ходзяць аўтобусы і маршруткі, і дзяўчынку падвозяць бясплатна. Я б пазнаёміў вас, але гэтае дзіця ўжо так замучылі журналісты, што мне яе проста па-чалавечы шкада…

…У 1986 годзе ўсіх жыхароў 30-кіламетровай зоны вакол Чарноыбльскай АЭС адсялілі. Праз нейкі час многія з іх, як бацькі той дзяўчынкі, вярнуліся ў свае дамы. Такія ёсць у Чарнобылі, нямала іх у навакольных вёсках. Увогуле да так званых самасёлаў тут адносяцца з разуменнем і спрабуюць па магчымасці аблегчыць жыццё гэтым добраахвотным экстрэмалам. У вёскі, дзе яны жывуць, раз на тыдзень прыязджае з Чарнобыля аўталаўка і прывозіць людзям неабходныя тавары.

— Аўталаўка не ездзіць толькі ў Новыя Шапелічы, — расказвае Дзяніс, — Гэта ўжо дзесяцікіламетровая зона, усяго за пару кіламетраў ад станцыі. Там дзядок адзін жыве са сваёй бабуляй. Яму ўжо недзе пад дзевяноста. Здароўе? Ну калі меркаваць па тым, што за ўсім неабходным ён у Чарнобыль на веласіпедзе ездзіць — а гэта кіламетраў з пятнаццаць, то дай бог усім мець такое ў дзевяноста гадоў.

Увогуле, як я адзначыла для сябе, «абарыгены» Чарнобыля да радыеактыўнага забруджання і яго наступстваў, а таксама да турыстаў, у якіх вялізная цікаўнасць да жыцця ў «зоне» змагаюцца з яшчэ большым страхам, адносяцца крыху, я б сказала, насмешліва-пагардліва. І не таму, што яны такія, гаворачы маладзёжным слэнгам, «пафігісты» ці патэнцыяльныя самазабойцы. Проста нельга ўвесь час, 24 гадзіны ў суткі, жыць са страхам — хаця б з пачуцця таго ж самазахавання, бо невядома, што прынясе арганізму большую шкоду: радыяцыя ці такі вось пастаянны стрэс. Мне, пражыўшай да 1989 года ў Хойніках, гэта добра знаёма: немагчыма ўвесь час баяцца з'есці яблык, пусціць дзяцей на вуліцу, зайсці ў лес…

Дзяніс, нібы чытаючы мае думкі, вядзе далей экскурсію па прыгожым і самабытным Чарнобылі, які раскінуўся на высокім беразе Прыпяці.

— Вось тут мы з сябрамі купаемся ў рэчцы. А тут я лаўлю рыбу — на быстрыні, у асноўным цячэнні, яна чыстая, гэта ў затоках брудная. Ці правяраю потым? Ды дзе там… Нас правяраюць… Работнікаў станцыі — чатыры разы ў год, а абслугоўваючы персанал — раз. Вось і на наступным тыдні трэба будзе праходзіць медыцынскую камісію. Увогуле мы з сабой павінны насіць дазіметры-накапляльнікі. Паказаў бы вам, ды забыўся сёння ўзяць…

І, убачыўшы наша здзіўленне, дастае дазіметр. Той, крыху пашчоўкаўшы, спыняецца на лічбе 15 мікрарэнтген у гадзіну.

— Паверце мне: у Кіеве больш. А ўвогуле фон да 45 мікрарэнтген у гадзіну лічыцца ва Украіне нармальным. Узровень радыяцыі, пачынаючы з 1986 года, знізіўся больш чым у сто разоў. Гэта натуральны працэс: ідзе распад радыеактыўных элементаў, яны паступова пераходзяць у больш глыбокія слаі глебы — па дадзеных вучоных, апускаюцца прыкладна на сантыметр у год. Але, — папярэджвае ён нас ад залішняй самазаспакоенасці, — такі фон далёка не ўсюды. У некаторых пунктах заяўленага вамі маршруту ён будзе нашмат большы.

— Так што вы, — Дзяніс скептычна паглядзеў на маю блузку з кароткім рукавом і басаножкі, — апрануліся і, галоўнае, абуліся не зусім правільна. Абутак тут — галоўнае: пажадана, каб ён быў высокі і закрыты. Па-першае, з-за радыяцыі, а, па-другое, з-за змей…

Ну што сказаць — своечасовае папярэджанне! Але ж і сама магла б падумаць, што не ў парк культуры і адпачынку сабралася… Ды што ўжо тут наракаць на сябе і іншых — будзем спадзявацца, што ўсё абыдзецца.

## Атамная электрастанцыя

**Мы набліжаемся да Чарнобыльскай АЭС — і я не магу пазбавіцца хвалявання: яшчэ некалькі хвілін — і я ўбачу станцыю, якая падзяліла жыццё — маё і, па сутнасці, усяго свету — на «да» і «пасля». І паставіла пад вялікае сумненне пытанне перспектыўнасці развіцця ядзернай энергетыкі ўвогуле…**

— Дзяніс, а як вы адносіцеся да таго, што Чарнобыль нічому не навучыў, і ў свеце працягваюць будаваць атамныя станцыі? — задаю я нашаму гіду правакацыйнае, як мне здаецца, пытанне. — Вось і ў нас у Беларусі прынята рашэнне аб будаўніцтве першых двух энергаблокаў…

— Ну і што? Ва Украіне цяпер працуе чатыры атамныя электрастанцыі, дзейнічае пятнаццаць энергаблокаў, — паціскае плячыма Дзяніс. — І яшчэ будуецца чатыры новыя энергаблокі. Тое, што здарылася ў Чарнобылі, не сведчыць, што на атамнай энергетыцы трэба ставіць крыж. Да таго ж на сучасных АЭС выкарыстоўваюцца рэактары новага пакалення, больш сучасныя і надзейныя. Але і тыя, што дзейнічалі на Чарнобыльскай АЭС, РБМК, як сцвярджаюць спецыялісты, зусім нядрэнныя. Але ж вы павінны ведаць: у тым, што адбылася аварыя, асноўную ролю адыграў так званы чалавечы фактар.

…Першае, што мы бачым, пад'язджаючы да станцыі, — стрэлы вежавых кранаў над нейкім грандыёзным збудаваннем. Што, тут яшчэ нешта будуецца?!

— Гэта ўзводзіліся пяты і шосты энергаблокі станцыі, — заўважыўшы наша здзіўленне, тлумачыць Дзяніс. — Тады, у 86-м. Краны так і стаяць тут з таго чорнага красавіка…

— Хоць будаўніцтва на станцыі і сапраўды вядзецца, — расказвае ён далей. — Сёння асноўная задача — пабудаваць аб’ект «Укрыццё-2», які ў народзе называць саркафагам. Бо першы, які ўзводзіўся адразу паля аварыі, знаходзіцца ў ненадзейным стане. Летась яго стабілізавалі: умацавалі дах, заходнюю сцяну — яны выклікалі асаблівую занепакоенасць. Але патрэбна новае, больш надзейнае «Укрыццё». А яшчэ адна з асноўных задач — пабудаваць сховішча для ядзернага паліва. Раней за гэтую справу ўзяліся французы, але памыліліся ў разліках, і спынілі работу. Цяпер вось заняліся амерыканцы… Апошні рэактар Чарнобыльскай АЭС быў патушаны ў снежні мінулага года. Поўнасцю закрыць станцыю плануецца да 2016 года. Сёння тут працуе каля 3,5 тысячы чалавек — яны займаюцца падтрыманнем АЭС у бяспечным стане.

Тое, што тут, на станцыі, працуюць людзі, відаць і няўзброеным вокам: чысціня і парадак усюды ідэальныя — з Кіевам, які я наведвала перад тым, не параўнаць: кусты акуратна падстрыжаны, газоны падкошаны, на клумбах цвітуць кветкі… Хоць падмесці тэрыторыю тут не азначае разагнаць пясок па кутах: усё трэба прыбраць у спецыяльныя мяшкі і захаваць на могільніку радыеактыўных адходаў…

Бясстрасны дазіметр паказвае ўзровень фону: больш за дзвесце мікрарэнтген у гадзіну. І прайсціся па траўцы да абваднога канала Дзяніс нам не дазваляе, папярэджваючы, што ля вады яшчэ больш брудна (паняцце «брудна» ў чарнобыльскай зоне не мае ніякага дачынення да пылу на падаконні ці непадмеценай падлогі — маецца на ўвазе высокі ўзровень радыеактыўнага забруджвання).

Затое ён весела прапануе нам:

— Самоў хочаце паглядзець? Хлеб ці пячэнне маеце з сабой?

І мы паслухмяна ўслед за нашым гідам падымаемся на мост цераз канал — дарэчы, сажалкі-ахаладжвальнікі і абвадныя каналы — гэта адно з самых брудных месцаў на тэрыторыі станцыі. Са здзіўленнем назіраем, як каля берага, на мелкаводдзі, таўкуцца не пузатыя малькі, як у нас, а здаравенныя, кілаграмаў па два, а то і больш, язі і ліні. А пад цэнтрам моста на самай паверхні вады цэлым статкам кружаць вялізныя — я нават не ўяўляла, што такія могуць быць — самы, дзясяткі два асобін, якія яўна чакаюць пачастунку. І калі мы пачынаем кідаць у ваду хлеб, хапаюць яго, як прагныя чайкі — яшчэ і б’юцца за здабычу…

— Іх тут ніхто не ловіць — занадта забруджаныя. Наадварот, падкормліваюць работнікі станцыі, калі ідуць са сталовай — вось яны і ператварыліся з глыбакаводнай, асцярожнай рыбіны ў амаль што ручную, — проста тлумачыць нам чарговую сенсацыю Дзяніс.

…А потым мы ідзём да мемарыяла пажарным, якія тушылі пажар у тую ракавую ноч 26 красавіка 1986 года. На сцяне — лаканічны надпіс «Жыццё дзеля жыцця». І — трыццаць гранітных пліт, трыццаць прозвішчаў, трыццаць дат жыцця — хлопцы па дваццаць—трыццаць гадоў… Пасля аварыі яны пражылі лічаныя дні. Самыя трывалыя — тры тыдні. І памерлі ў страшэнных пакутах — хто мае моцныя нервы, можа пачытаць кнігу Святланы Алексіевіч «Чарнобыльская малітва». А па-над усім — помнік Праметэю, які, па легендзе, падарыў людзям агонь… Трагізм і сімвалізм — у тым, што да аварыі гэты помнік стаяў на плошчы ля дома культуры ў Прыпяці, горадзе энергетыкаў. А ўжо потым яго перанеслі сюды…

Але гэтыя трыццаць, што першымі ўсталі на ўтаймаванне мірнага атама і заплацілі за выратаванне свету ўласнымі жыццямі — іх імёны хоць бы ўвекавечаны ў гэтым мемарыяле, іх ведаюць, пра іх помняць… А хто ведае імёны тых верталётчыкаў, што пад кіраўніцтвам Мікалая Цімафеевіча Антошкіна, цяпер — генерала, Героя Расіі, тушылі рэактар, завісаючы над яго жэралам і скідваючы з вышыні ўручную мяшкі са свінцом — па 8-10 за кожны вылет? Яны рабілі па

30-35 вылетаў у дзень пры норме чатыры, набіраючы пры кожным па 6-10 рэнтген (сёння для абслугоўваючага персаналу норма — 2 рэнтгены ў год). Многіх з іх ужо няма, а хто яшчэ жывы і змагаецца з хваробамі, вымушаны даказваць чыноўнікам сваё права на ільготную пенсію ці бясплатныя лекі.... Хто ведае тых «партызанаў», салдат-рэзервістаў, што практычна голымі рукамі збіралі на тэрыторыі разбуранага чацвёртага энергаблока выкінутыя выбухам з рэактара кавалкі графіту? Тых, хто праводзіў пахаванне сумна знакамітага «рыжага лесу» — нават на дарозе ля месца, дзе ён знаходзіўся, і сёння ўзровень фону — каля 2000 мікрарэнтген у гадзіну? Тых, хто праводзіў дэзактывацыю тых самых верталётаў — беспаспяхова: яны і сёння «свецяцца» і стаяць на спецыяльным палігоне, бо з імі да гэтага часу не ведаюць што рабіць — Дзяніс не павёз нас туды, сказаў, што гэта небяспечна і таму забаронена…

— Па афіцыйных дадзеных пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС з-за яе наступстваў загінула каля 300 тысяч чалавек, — гаворыць Дзяніс Забарын. — Па некаторых неафіцыйных — больш за паўмільёна. Проста ўлічыць іх цяжка…

Мае аднавяскоўцы, многія з якіх заўчасна пайшлі з жыцця, паміралі не ад прамянёвай хваробы: хто — ад раку, хто — ад інфаркту ці інсульту… І ніхто не звязваў іх смерці з тым, што яны тыдзень пасля аварыі сядзелі ў сваёй вёсцы ў сямі кіламетрах ад чадзячага рэактара, садзілі агароды і елі хатнія прадукты…

У памяць усіх загінуўшых ліквідатараў каля чацвёртага энергаблока, у адным з самых забруджаных месцаў, дзе і сёння ўзровень фону складае больш за 500 мікрарэнтген у гадзіну, напярэдадні 20-годдзя Чарнобыльскай аварыі ўстаноўлены помнік: у чалавечых далонях — будынак ракавога энергаблока. І надпіс — «Героям-прафесіяналам. Тым, хто абараніў свет ад ядзернай бяды»…

Там, каля гэтага помніка, да мяне прыйшло разуменне: мой асабісты лёс, мая ўласная бяда, бадзянне па свеце ў пошуках чыстых мясцін, дзе можна было б без паўсядзённага, штохвіліннага страху гадаваць дзяцей, трагедыя маіх аднавяскоўцаў, якія ў адзін момант сталі выгнаннікамі са сваёй зямлі, — нішто ў параўнанні з тым, што здзейснілі гэтыя сотні тысяч герояў. Якія практычна голымі рукамі засланілі свет ад ядзернай катастрофы. І калі б яны не зрабілі гэта — Еўропа была б зусім іншай. Калі б была ўвогуле…

Нізкі паклон вам! І бязмежная ўдзячнасць за ваш подзвіг…

## Прыпяць

**На мой погляд, назва ў гарадка энергетыкаў, што працавалі на Чарнобыльскай АЭС, зусім невыразная: Прыпяць. Мае аднавяскоўцы калісь, у «даваенным» жыцці, называлі яго Янаў — як і вёску, на месцы якой ён узнік. Але горад назвалі, як і раку, што працякае побач — і з-за гэтага пастаянна адбываліся пэўныя непаразуменні: пакуль разбярэшся, пра якую Прыпяць ідзе гаворка...**

**Цяпер іх няма: рака, хоць і моцна параненая радыяцыяй, усё ж жывая. А горад — мёртвы…**

Жудасная, скажу я вам, гэта з’ява, — мёртвы горад. Нават больш, чым вёска. Малюнкі, вартыя пяра братоў Стругацкіх. Вялізныя 9-ці і 16-ціпавярховыя гмахі, да якіх не прайсці з-за зараснікаў — над лесам уздымаюцца толькі верхнія паверхі. Зарослая хмызняком плошча — я нават не адразу паверыла, што некалі гэта сапраўды быў цэнтр горада — хутчэй парк… Разбітыя вітрыны магазінаў, у якіх — сабраныя з кватэр рэчы: пліты, якія не паспелі памыць гаспадыні, пральныя машыны, піяніна «Беларусь», шафы, модныя тады серванты, кантрабас з абарванымі струнамі… Паржавелыя дзіцячыя атракцыёны ў парку адпачынку… Гасцініца з разламанымі гаршкамі з-пад кветак — а на падлозе газета «Советский спорт», датаваная 16 красавіка 1986 года.

— Прыпяць разрабоўваюць, — з болем гаворыць Дзяніс.

— Няўжо яшчэ засталося што рабаваць — пасля амаль што 25 гадоў? — здзіўляюся я.

— Ёсць такія, што заўсёды знойдуць. Цяпер вось у кватэрах чыгунныя батарэі зразаюць, ванны. Прыязджаюць калонамі грузавікоў, са спецыяльнымі дазволамі — да такіх не прычэпішся... А навошта? Хай бы стаяла — хоць бы як памяць…

— І не баяцца? — удакладняе брат Карнэлій.

— Метал нават пасля столькіх гадоў практычна чысты, — тлумачыць Дзяніс.

Але мне здаецца, што брат Карнэлій меў на ўвазе іншы страх…

…Да аварыі Прыпяць быў адным з самых маладых і прыгожых гарадоў Украіны, у якім пражывала амаль 50 тысяч чалавек. 27 красавіка іх усіх эвакуіравалі — да кожнага пад'езда быў пададзены аўтобус, іх калона расцягнулася на некалькі кіламетраў. (Да слова: маіх аднавяскоўцаў, якія жылі ў дзесяцікіламетровай зоне, але ўжо на беларускай тэрыторыі, высялялі толькі праз тыдзень). Людзі пакідалі свой горад, які, ведаю, вельмі любілі, назаўсёды…

І цяпер надпіс вялікімі літарамі на адным з балконаў шматпавярховак PRIPYT.COM — як адрас для віртуальных сустрэч і стасункаў землякоў…

## «Брудны» маршрут

**— Увогуле звычайны экскурсійны маршрут для турыстаў— Чарнобыль, Прыпяць, станцыя, — тлумачыць наш гід. — У нас ён завецца «чыстым». Сёння ж у нас не зусім звычайная вандроўка па так званым «брудным» маршруце. Мы туды не часта выязджаем. Адразу папярэджваю: дарогі — не прывядзі Гасподзь…**

Незвычайны маршрут з наведаннем адселеных вёсак, што знаходзяцца на мяжы з Беларуссю, — гэта наша просьба. У гэтым годзе на Радаўніцу мы наведвалі беларускія вёскі ў Хойніцкім раёне, што былі адселеныя пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС, у тым ліку і маю родную, Уласы, што знаходзіцца на самай мяжы з Украінай. Цяпер вось захацелася наведаць украінскія. І не дзеля цікаўнасці. А з той жа мэтай: дакранання да вытокаў, паспрабаваць разабрацца ў сабе і сваёй сутнасці. У адной з гэтых памежных вёсак, Красно, мяне некалі хрысцілі ў вясковай царкве — яна была адзінай, што захавалася ў гады ваяўнічага атэізму ва ўсёй акрузе, у нашым Хойніцкім раёне не засталося ніводнага храма.

Лаўлю сябе на думцы, што ў свядомым узросце мне не давялося тут пабываць. Але памятаю, як нябожчыца мама часта расказвала, якая прыгожая царква ў Красне, і заўсёды дадавала: «Дзе ні бывала ў храмах, а такой прыгажосці не бачыла».

Мне хацелася, хоць са спазненнем, убачыць гэты храм і аддаць свой удзячны паклон гэтай драўлянай цэркаўцы, памяці таго невядомага святара, з рук якога я атрымала тут таінства святога хрышчэння — бо ласка Божая, якую я спазнала тут немаўлём, з гадамі прарасла праз шэры маналіт савецкага піянерска-камсамольскага атэістычнага выхавання парасткамі веры ў Стваральніка і Збавіцеля — як кволае насенне бурыць у сваёй неадольнай сіле магутны асфальт…

Папярэджанне Дзяніса наконт дарог мы ўспрынялі крыху паблажліва: вясной ездзілі па такіх жа дарогах на беларускай тэрыторыі, ведаем! Аказалася, па такіх, ды не зусім. Украінскія дарогі ў зоне адсялення нашмат горшыя. Калі на беларускай тэрыторыі яны — гэта бачна па свежых латках асфальту — час ад часу рамантуюцца, а дзе-нідзе нават пакладзена новае пакрыццё, то тут — суцэльныя выбоіны і яміны. У расколінах асфальту пачынаюць прарастаць дрэўцы і кустоўе — і, напэўна, гадоў праз пяць, а то і менш, тут можна будзе праехаць толькі на ўсюдыходзе. Да таго ж указальнікі вёсак паздыманы — невядома, кім і дзеля чаго, і мы едзем, так бы мовіць, навобмацак.

Раптам дарога прыкметна палепшылася. Праз нейкі час наш гід чартыхнуўся:

— Разварочвайцеся, — скамандаваў ён Карнэлію. — Мы заблудзіліся, у Зімовішчах павярнулі не туды. Гэта ўжо беларуская тэрыторыя…

Аказваецца, новы гарадок энергетыкаў Славуціч пабудавалі хоць і на ўкраінскай тэрыторыі, але найкарацейшая дарога ад яго да Чарнобыльскай АЭС праходзіць па тэрыторыі Беларусі. У гады Савецкага Саюза гэта не мела ніякага значэння, а пасля яго развалу ледзь не стала непераадольнай перашкодай. На дзяржаўным узроўні давялося дамаўляцца, каб цягнікі, якія штодня прывозяць рабочых са Славуціча на станцыю, праходзілі па беларускім адрэзку чыгункі без пагранічнага кантролю — але не спыняючыся і з зачыненымі вокнамі і дзвярыма…

Зрэшты, не толькі дарогі розняцца ва ўкраінскай і беларускай зоне адсялення, ці дакладней сказаць — запусцення. Яшчэ — адносіны да помнікаў загінуўшым у Вялікую Айчынную вайну землякам. У маёй роднай мёртвай вёсцы і суседніх самымі жывымі і дагледжанымі з'яўляюцца менавіта магілы і помнікі — пафарбаваныя, абкошаныя. Тут яны такія ж занядбаныя — як і ўсё навокал…

…А мы тым часам зноў не едзем — ледзь паўзём па разбітай да немагчымасці дарозе, да якой ушчыльную падступае лес.

— Звяроў тут шмат? — цікавіцца брат Карнэлій.

— Вельмі! — пацвярджае нашу здагадку Дзяніс. — Прычым паўсюдна. Нават у Чарнобылі ноччу небяспечна выходзіць на вуліцу — можна спаткацца з дзіком, ласём ці нават рыссю. Іх тут развялося за гэтыя гады мноства. Да таго ж адстрэл забаронены, тут жа тэрыторыя запаведніка «Чарнобыльская пушча», і за забойства звера чакае буйны штраф ці нават пазбаўленне волі.

— А як жывёла рэагуе на ўздзеянне радыяцыі? — развівае тэму брат Карнэлій.

— Спадзяюся, вы не будзеце прасіць паказаць вам дзікоў з дзвюма галовамі, як некаторыя замежныя турысты? — смяецца наш гід. — Чамусьці ўсе шукаюць тут нейкіх сенсацыйных анамалій… На самай справе адразу пасля аварыі дзікай жывёлы загінула шмат — усюды валяліся трупы. А тыя, што засталіся, далі патомства — і, як паказваюць доследы, кожнае наступнае пакаленне больш моцнае і вынослівае ў параўнанні з папярэднім. Увогуле некаторыя вучоныя сцвярджаюць, што доследы на першапачаткова апраменeных мышах і пацуках паказваюць: восьмае—дзявятае пакаленне становіцца неўспрымальным да радыяцыі.

## Божыя храмы на хворай зямлі

**— Я нават не ведаю, ці захавалася ваша царква, — папярэджвае Дзяніс, калі мы нарэшце ўязджаем у Красно. — Быў тут даўно, гады тры таму, і ў той час яе актыўна разрабоўвалі…**

Але вось ён, зялёны купал над кронамі векавых, у некалькі абхватаў дрэў — дзіва, але фарба на ім усё такая ж яркая! І крыж, перад якім затрымалася ў паклоне рэдкая ў бяздоннай сінечы неба аблачынка… Святое, намоленае месца, дзе хрысціліся, вянчаліся мае дзяды-прадзеды, дзе некалі маліла перад алтаром Усявышняга за мяне і маіх дзяцей мама, куды неспадзяваныя шляхі Гасподнія прывялі, хоць і вельмі позна, мяне, грэшную…

…Дзверы ў царку прычыненыя, але незамкнёныя. Каля іх вісіць аркуш паперы з тэкстам: «Храм Архістратыга Божага Міхаіла ў сяле Красно пабудаваны ў 1800 годзе. У Чарнобыльскім раёне да нядаўняга часу налічвалася 18 цэркваў. Цяпер засталося толькі дзве — у Чарнобылі і ў Красне. Дарагія браты і сёстры, праваслаўныя хрысціяне, праявіце міласэрнасць, не дайце загінуць гэтаму храму… Просім кожнага, хто пераступае яго парог, помніць, што ён пераступае парог Дома Айца Нябеснага, дараваўшага нам жыццё».

Чаму з’явілася гэтае пасланне-заклік, зразумець няцяжка — варта толькі ўвайсці ў храм. Ад былой прыгажосці, пра якую так любіла расказваць мая мама, засталіся толькі вартыя слёз і малітвы — даруй ім, Госпадзі, бо не ведалі, яны, што тварылі — рэшткі: роспісы абадраны, засталіся толькі пад купалам, на самай вышыні, куды не дацягнуліся вандалы. Разрабаваны і іканастас — на яго месцы нечая клапатлівая рука павесіла папяровыя іконы-плакаты, якія не ўяўляюць цікавасці для хціўцаў. А ў кутку, пад вышываным па ўкраінскай модзе ручніком — невялікія хатнія абразы, з такіх, як некалі віселі ў нас дома — відаць, жыхары вёскі прынеслі іх сюды са сваіх пакінутых хат…

Але пры ўсім гэтым царква — жыве! І Божае Слова з вуснаў настаяцеля Чарнобыльскага храма Прарока Іліі, які, падобна, час ад часу прыязджае сюды, даходзіць да людзей. На аналоі ляжыць ікона Архістратыга Міхаіла. Побач, на століку — Маці Божай. І памінальныя запіскі. І свечкі…

Драўляны храм, пабудаваны ў 1800 годзе, перажыў усе буры і ліхалецці, амаль два стагоддзі прымаў пад сваім купалам прыхаджан і даваў ім Божую падтрымку і апеку. На ўсё твая воля, Госпадзі, але калі можна — зрабі так, каб гэтая царква, як сімвал веры і жыцця на апаленай радыяцыяй зямлі, жыла і надалей. Каб тут сустракаліся людзі, землякі — хай раз у год, на 9 мая, калі ў «зону», да пакінутых родных хат і магіл, пускаюць без спецыяльных пропускаў… Каб пакідалі ў храме свае, з пункта гледжання літаратуразнаўцы, прымітыўныя, але кранальныя да слёз вершы-прысвячэнні пакінутай радзіме, як убачылі мы, і проста прывітанні землякам. Каб і надалей жыло і гучала тут слова Божае…

…Так, як гучыць яно ў царкве Прарока Іліі ў Чарнобылі, якая вядзе сваё летазлічэнне яшчэ з XVII стагоддзя. Тыя, хто бываў тут у тое ракавое лета 1986 года, узгадваюць, што царква была адзіным чыстым ад радыяцыі месцам ва ўсім Чарнобылі — за яе тэрыторыяй дазіметр зашкальваў. Сёння царква адрэстаўравана з дапамогай добрых людзей, і цяпер гэты храм — звонкі, як струна, светлы, як лік Госпада, прымае пад сваё крыло ўсіх, хто штодня выходзіць на працу ва ўмовах павышанай небяспекі і тут, у Божым доме, шукае літасці, падтрымкі, дапамогі Усявышняга. «Прыйдзіце да мяне, усе, хто мае патрэбу і цяжар на душы, — і Аз супакою вас» — як і стагоддзі таму, заклікае да малітвы надпіс над яго ўваходам.

Супакой, Госпадзі! Зберажы, уратуй і памілуй — і гэтую зямлю, і гэтых людзей.